УДК 623.4(476)(091)
ББК 68.514(4Беи)
В67

Рэцэнзент:
загадчык кафедры эканамічнай гісторыі БДЭУ
доктар гістарычных навук Ю.М. Бохан

*На вокладцы:*
*гарматы з Нясвіжскага замка, якія захоўваюцца*
*ў Музеі Польскага войска (Варшава)*

**Волкаў, М.А.**
В67 Артылерыя Нясвіжскага замка / Мікола Волкаў. — Мінск : А.М. Янушкевіч, 2014. — 188 с. : іл.

ISBN 978-985-90346-2-6.

У кнізе на основе дэтальнага вывучэння разнастайных крыніц разгледжана гісторыя фарміравання і развіцця артылерыі Нясвіжскага замка ў XVI–XVIII стст. Ахарактарызавана роля артылерыйскай зброі ў сістэме абароны старажытнай радзівілаўскай фартэцыі, нададзена ўвага пытанням абслугоўвання гармат і забеспячэння іх боепрыпасамі, арганізацыі і функцыянавання спецыяльных вайсковых падраздзяленняў. Прасочаны лёс нясвіжскіх гармат у XIX–XX стст., на багатым ілюстрацыйным матэрыяле адлюстраваны іх сённяшні стан.

Для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй узбраення і вайсковай справы Беларусі перыяду Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

**УДК 623.4(476)(091)**
**ББК 68.514(4Беи)**

**ISBN 978-985-90346-2-6**

# ЗМЕСТ

# УСТУП

Ваеннае мастацтва — неад'емная і важная частка культуры чалавецтва. Канцэнтрацыя вялікіх сродкаў і сіл на ваеннай справе вынікала з фундаментальных патрэб і якасцей чалавека: з аднаго боку, імкнення абараніць сваё жыццё і маёмасць, з іншага — прагі за кошт іншых з дапамогай сілы рэалізаваць свае амбітныя планы. На працягу ўсёй гісторыі цывілізацыі ваенная справа была мацнейшым рухавіком тэхнічнага прагрэсу. Яе эвалюцыя штурхала наперад і сацыяльна-палітычнае развіццё грамадства. Прыкладам, адной з важнейшых тэхнічных інавацый, якая змяніла ход еўрапейскай і сусветнай гісторыі, стала вынаходжанне пораху і агняпальнай зброі. Выкарыстанне новага ўзбраення прывяло да карэннага змянення тактыкі і стратэгіі вядзення войнаў, а таксама да трансфармацыі арганізацыйнай структуры армій. Імкненне да павышэння абароназдольнасці дзяржавы шляхам рэфармавання арміі стала важнейшым стымулам для сацыяльна-палітычнай мадэрнізацыі грамадства. На хвалі “мілітарнай рэвалюцыі”, як прынята называць гэты працэс у навуковай літаратуры, Еўропа на працягу XVI–XVIII стст. стала дамінаваць у свеце. Такім чынам, вывучэнне гісторыі ваеннай справы і тэхнікі карыснае не толькі само па сабе, але і з той прычыны, што яно дае магчымасць зразумець характар і логіку больш шырокіх пераўтварэнняў.

Адным з першых і важных вынікаў вынаходжання пораху стала паяўленне агняпальнай артылерыі. Само паняцце “артылерыя”

існавала яшчэ да адкрыцця пораху і першапачаткова датычылася кідальных і сценабітных машын. З адкрыццём пораху гэтае паняцце трывала замацавалася за цяжкім агняпальным узбраеннем. Сёння пад тэрмінам "артылерыя" прынята разумець альбо сукупнасць агняпальнай зброі вялікага калібру, альбо ў больш шырокім кантэксце — род войска, на ўзбраенні якога знаходзіцца падобная зброя. Акрамя таго, артылерыяй называюць навуку, якая вывучае будову артылерыйскай зброі і спосабы яе выкарыстання[1]. Для нас найбольш актуальным з'яўляецца першае значэнне.

Гэтая кніга прысвечана артылерыі знакамітага Нясвіжскага замка, які належаў роду Радзівілаў. Адной з найбольш яркіх асаблівасцей гэтай фартэцыі, пачынаючы з канца XVI і ажно да XX ст., быў яе артылерыйскі парк. Апрача ваеннага прызначэння гарматы Нясвіжскага замка мелі высокую мастацкую і гістарычную каштоўнасць, ужо ў сучаснікаў выклікаючы велізарную цікавасць. У Нясвіжы доўгі час не было пастаяннай абслугі пры замкавай артылерыі, а пушкароў вербавалі па неабходнасці. Толькі з другой чвэрці XVIII ст. можна казаць аб існаванні пастаяннай артылерыйскай каманды, а з 1767 г., калі ў Нясвіжы быў створаны корпус артылерыі, — аб функцыянаванні ў Радзівілаў артылерыі як асобнага роду войскаў. Дарэчы, у гэты ж час яна набывае тут статус навуковай дысцыпліны, якую пачынаюць вывучаць у адмыслова ўтворанай артылерыйскай акадэміі, дзе мэтанакіравана рыхтавалі спецыялістаў для гэтага корпуса.

Комплекс інвентарных апісанняў арсенала Нясвіжскага замка, а таксама самі гарматы, многія з якіх захаваліся да нашага часу ў музеях розных краін, дазваляюць з высокай ступенню дакладнасці рэканструяваць артылерыйскі парк фартэцыі ў канцы XVI — XVIII ст. Такога кшталту рэканструкцыя неабходна для аналізу сістэмы абароны бастыённага замка ў Нясвіжы. Артылерыя і ручная агняпальная зброя з самага пачатку былі для яго асноўным узбраеннем, з дапамогай якога меркавалася весці абарону. Спецыфіка абарончай архітэктуры фартэцыі, такім чынам, наўпрост залежала ад характару зброі, якую планавалася выкарыстоўваць.

Вывучэнне артылерыйскага парка Нясвіжскага замка — надзвычай карыснае для агульнага даследавання гісторыі артылерыі на беларускіх землях. Цягам некалькіх стагоддзяў у нясвіжскі арсенал трапіла мноства гармат, якія не захаваліся да нашага часу. Іх апісанні ў інвентарах радзівілаўскага замка ствараюць унікальную магчымасць зрабіць агульныя высновы наконт развіцця артылерыі на нашых землях на працягу XVI–XVIII стст.

У арсенале Нясвіжскага замка былі і сапраўдныя "перліны", якія ўжо з XIX ст. пачалі прыцягваць пільную ўвагу даследчыкаў. На мяжы XVI–XVII стст. на замову ініцыятара будаўніцтва фартэцыі Мікалая Крыштафа Радзівіла, званага Сіроткам (1549—



*Брама Нясвіжскага замка.*

1616 гг.), запрошаны ў Нясвіж майстар Герман Мольцфельт адліў серыю гармат, якія вызначаліся не толькі высокімі тэхнічнымі якасцямі, але і надзвычай арыгінальным дэкорам. Такога кшталту высокамастацкага артылерыйскага парка, напэўна, не мела ніводная іншая фартэцыя ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. Да нашага часу захаваліся восем гармат Г. Мольцфельта. Цяпер яны захоўваюцца ў музеях Варшавы, Санкт-Пецярбурга і Стакгольма. Як правіла, навукоўцы разглядалі іх выключна як выбітнае дасягненне тагачаснага ліцейнага мастацтва, не звяртаючы ўвагі на гісторыю гэтых гармат і іх месца сярод артылерыі Нясвіжскага замка. Прыцягненне разнастайных пісьмовых крыніц дазваляе раскрыць пакручасты лёс гэтых гармат, іх значэнне для саміх Радзівілаў.

На маю думку, у рамках гэтай кнігі было б няправільна абмяжоўвацца толькі характарыстыкай ваенна-тэхнічных аспектаў функцыянавання артылерыі Нясвіжскага замка і апісаннем асобных гармат. Рэч у тым, што на склад нясвіжскага артылерыйскага парка, выгляд і лёс паасобных гармат значны ўплыў аказвала мноства суб'ектыўных фактараў, якія цяжка зразумець па-за гістарычным кантэкстам. З гэтай прычыны значная ўвага будзе нада-

дзена апісанню гістарычных падзей, якія разгортваліся вакол Нясвіжскага замка і яго ўладальнікаў. З іншага боку, самі гарматы становяцца найцікавейшай крыніцай для вывучэння гісторыі фартэцыі. Азнаямленне з няпростым, загадкавым лёсам нясвіжскай артылерыі робіць карціну гісторыі Нясвіжа, яго замка і роду Радзівілаў больш яркай і насычанай.

Даследаванне гісторыі артылерыі Нясвіжскага замка і падрыхтоўка гэтай кнігі не былі б магчымы без дапамогі шматлікіх арганізацый і асоб, якім я хацеў бы выказаць самыя шчырыя словы падзякі. Праца ў архівах і бібліятэках Польшчы і Германіі ажыццяўлялася пры падтрымцы Стыпендыяльнай праграмы польскага ўрада для маладых навукоўцаў, Інстытута інтэрдысцыплінарных даследаванняў “Artes Liberales” Варшаўскага ўніверсітэта і Нямецкай службы акадэмічных абменаў. Немалаважным для аўтара было прыхільнае стаўленне і дапамога супрацоўнікаў архіваў і музеяў, у якіх праводзіўся пошук дакументальных крыніц. Асаблівую падзяку я хацеў бы выказаць Нацыянальнаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку “Нясвіж” і асабіста яго дырэктару Сяргею Клімаву, Ваенна-гістарычнаму музею артылерыі ў Санкт-Пецярбургу і асабіста намесніку дырэктара Сяргею Яфімаву, Музею польскага войска і Галоўнаму архіву старажытных актаў у Варшаве, Нямецкаму гістарычнаму музею ў Берліне, Музею арміі ў Стакгольме і Нацыянальнаму гістарычнаму архіву Беларусі ў Мінску. Словы вялікай удзячнасці належаць майму навуковаму кіраўніку і акадэмічнаму выкладчыку Юрыю Бохану. Паспяховая праца над тэмай была б немагчымай без дапамогі і парад Ігара Госцева, Кірыла Карлюка, Уладзіміра Веліканава, Алеся Яраша, а таксама сяброў і калег з аддзела гісторыі Беларусі сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і ваенна-гістарычнага семінара пры гістарычным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам прафесара Міраслава Нагельскага. Усім ім я шчыра дзякую за ўклад у гэтую кнігу. Урэшце я бязмерна ўдзячны сваёй жонцы Волі, якая падтрымлівала мяне і натхняла на працу над рукапісам.

1. Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрона. Т. 2 (3): Араго — Аутка. СПб., 1890. С. 199–204; Ткачоў М. Артылерыя // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993. С. 157–159.

# ЗАРАДЖЭННЕ АРТЫЛЕРЫІ Ў ЕЎРОПЕ

Каб зразумець значэнне калекцыі гармат, якія захоўваліся ў Нясвіжскім замку ў XVI–XX стст., знайсці іх месца ў гісторыі артылерыйскай справы і ваеннай тэхнікі на беларускіх землях, варта пачаць ад самых вытокаў артылерыі.

Першыя згадкі пра выкарыстанне агняпальнай зброі ў Еўропе адносяцца да першай паловы XIV ст. Даволі хутка новы від узбраення прыйшоў на нашы землі. Гэтаму спрыяла разгортванне ваеннага супрацьстаяння паміж Тэўтонскім ордэнам і Вялікім княствам Літоўскім, аснову якога складалі беларускія землі. Крыжакі пачалі актыўна выкарыстоўваць артылерыю з сярэдзіны XIV ст., а ў 1362 г. яны прыцягнулі гарматы пад сцены Ковенскага замка, фарпоста ВКЛ на Нёмане. У 1380–1390-я гг. агняпальная артылерыя ўжо была на ўзбраенні абодвух бакоў.

Вялікі князь Вітаўт (каля 1350–1430 гг., вялікі князь літоўскі з 1392 г.), які на ранніх этапах сваёй палітычнай кар'еры актыўна супрацоўнічаў з крыжакамі, хутка здолеў пераняць у іх практыку выкарыстання агняпальнай зброі. Час яго праўлення стаў эпохай росквіту артылерыі на нашых землях[1]. Развіццё як аблогавай, так і палявой артылерыі стымулявала актыўная знешняя палітыка Вітаўта. Не менш важным фактарам, які спрыяў прагрэсу новага ўзбраення пры Вітаўце, было ўмацаванне аднаасобнай улады манарха ў краіне, што дазваляла накіроўваць значныя матэрыяльныя рэсурсы на развіццё новых відаў зброі.



Артылерыю эпохі позняга Сярэднявечча, якая выкарыстоўвалася ў XIV–XV стст., можна падзяліць на дзве групы: каменкідальныя бамбарды і гарматы, якія стралялі металічнымі (свінцовымі ці жалезнымі) ядрамі. У старажытнарускіх летапісах першыя называліся “пушкамі”, а другія — “пішчалямі”[2]. Ад першага азначэння пайшло слова “пушкар”. На працягу XIV–XV стст. пушкары не толькі абслугоўвалі гарматы, але і выраблялі іх. Бамбарды прынята падзяляць на лёгкія (калібрам 12–20 см), цяжкія (калібрам 25–45 см) і звышцяжкія (калібрам 50–80 см)[3]. Цяжкія і звышцяжкія бамбарды па сваім прызначэнні былі мураломамі, г.зн. прызначаліся для разбурэння абарончых умацаванняў (мал. 1.1). Лёгкія бамбарды ў крыніцах называліся “гуфніцамі” і выкарыстоўваліся ў палявых бітвах ці пры абароне ўмацаванняў. Яны стралялі з-за прыкрыцця па блізкіх цэлях па навеснай траекторыі. Прыкладна ў сярэдзіне XV ст. з гуфніц развіліся марціры, якія стралялі па навеснай траекторыі каменнымі ядрамі вялікага дыяметру. Апошнія, праўда, набылі папулярнасць толькі з XVI ст. Акрамя таго, з гуфніц развіліся гаўбіцы, папулярныя ў XVII–XVIII стст. Фізічная характарыстыка каменнага ядра абумоўлівала спецыфіку канструкцыі бамбардаў, а таксама вытворных ад іх гуфніц, гаўбіц і марцір. Парахавая камера гарматы была ў некалькі разоў вузейшая за канал, у які ўкладвалася ядро. Яе звужэнне дазваляла скіроўваць ціск газаў у сярэдзіну каменнага ядра, таму выбуховая сіла пораху выкарыстоўвалася з максімальнай эфектыўнасцю[5].

*1.1. Жалезная камнекідальная бамбарда, 1410–1420 гг.*

*1.2. Тарасніцы, пач. XVI ст.*



Сярод пішчалей, ці гармат, якія стралялі металічнымі ядрамі, найбольш распаўсюджанымі былі тарасніцы і фоглеры. Гэта былі гарматы калібрам ад 40 да 100 мм, якія мелі роўны па шырыні канал ствала, чым выразна адрозніваліся ад бамбардаў. Апошняе тлумачылася спе-

цыфікай металічных ядраў, якія з-за большай шчыльнасці матэрыялу пры аднолькавым дыяметры з каменнымі ядрамі былі значна большыя за іх па вазе. Тарасніцы былі тыповай зброяй для абароны ўмацаванняў (мал. 1.2). Яны ўсталёўваліся на сценах і вежах у спецыяльных драўляных ложах, якія маглі мець механізм змянення вугла стрэлу. Эфектыўная далёкасць стральбы тарасніц складала 250–300 м[6]. Фоглеры, у адрозненне ад гармат усіх іншых тыпаў, зараджаліся не з пераду, а з казённай, ці задняй часткі. Яны мелі некалькі спецыяльных зменных камор-парахаўніц, якія мацаваліся ззаду з дапамогай кліна і мяняліся пры перазарадцы (мал. 1.3). Гэта дазваляла павялічыць хуткастрэльнасць, аднак зніжала магутнасць стрэлу.



*1.3. Фоглеры, пач. XVI ст.*

Аблогавыя бамбарды з’яўляліся адным з найбольш папулярных тыпаў гармат позняга Сярэднявечча. Іх выкарыстанне магло значна скараціць час аблогі. Разам з тым эфектыўнасць познесярэднявечных бамбардаў з шэрагу прычын была невысокай. Многія сучаснікі меркавалі, што яны не рабілі вырашальнага ўплыву на вынік аблогі, а, напрыклад, знакаміты знаўца ваеннай тэхнікі Леанарда да Вінчы ўвогуле сумняваўся ў эфектыўнасці агняпальнай артылерыі[7]. Справа ў тым, што выраб і эксплуатацыя аблогавых бамбардаў вымагала велізарных сродкаў[8]. Пэўны час досыць дарагім па коштах быў порах. Да пачатку XV ст. манаполія на вытворчасць салетры — асноўнага складніка пораху, заставалася ў руках Венецыі[8]. Няпростай задачай была і арганізацыя транспарціроўкі цяжкіх бамбардаў у патрэбнае месца, бо вымагала вялікай колькасці абслуговага персаналу і гужавой сілы. Пасля ўстаноўкі бамбарды на пазіцыю паўставала новая праблема, якая заключалася ў нізкай хуткастрэльнасці гэтага тыпу гармат. З цяжкай бамбарды, прыкладам, можна было выстраліць 3 разы ў дзень, а са звышцяжкай — толькі адзін раз[10]. Пры гэтым зацягванне аблогі не ішло на карысць яе ініцыятарам. Істотна падрывала давер да бамбардаў і нізкая якасць іх вытворчасці — яны часта ўзрываліся, чынячы свайму войску больш шкоды, чым карысці. З іншага боку, трэба адзначыць, што нізкая эфектыўнасць бамбардаў кампенсавалася высокім псіхалагічным уздзеяннем гэтай зброі на абаронцаў: адзін выгляд бамбарды, некалькі магутных



*1.4. Выкаваная з жалеза бамбарда, перш. пал. XV ст.*

стрэлаў з яе маглі зламаць волю абаронцаў і прывесці гарнізон крэпасці да здачы. Пастаяннае паляпшэнне тэхналогіі вытворчасці і ўдасканаленне практыкі эксплуатацыі бамбардаў дазволілі гэтай зброі заставацца асновай аблогавай артылерыі ажно да пачатку XVI ст.

Прыведзеныя вышэй меркаванні наконт бамбардаў пацвярджае здарэнне, якое адбылося падчас ваеннай выправы Вітаўта на Порхаў у 1428 г. Сярод рознага кшталту гармат у войску ВКЛ мелася таксама звышцяжкая камнекідальная бамбарда. У адным з летапісаў паведамлялася: "пушка велика велми, Галка именем, везяху ея на сороце конех от утра до обеда, а от обеда до полудни на иных сороце конех, а до вечера на иных сороце конех. И пришедшу ему под град Порхов (...) и вырази пушка стрельницу изо основаниа, и у церкви святого Николы преднюю и заднюю стену во олтари прорази, и градныя каменныа зубцы срази, и тако изыде паки из града на полки Витофтовы, и уби воеводу Полотцкого Витофтова, и много воинства Витофтова изби, а коней многое множество раздрази"[11]. Іншымі словамі, бамбарда Вітаўта змагла стрэліць усяго аднойчы, выклікаўшы вялікія разбурэнні ў крэпасці. Пры гэтым ці то ў выніку першага стрэлу, ці то, найверагодней, з-за выбуху самой гарматы падчас другога стрэлу было забіта мноства людзей у войску вялікага князя, у тым ліку пушкар Мікалай. Магутная бамбарда, такім чынам, не змагла ўнесці карэннага пералому ў ход аблогі крэпасці, хаця зрабіла моцнае ўражанне на яе абаронцаў.

Цікава, што некалькі гармат познесярэднявечнага тыпу трапіла і ў арсенал узведзенага ў канцы XVI ст. бастыённага замка ў Нясвіжы. Так, у інвентарах фартэцыі 1626 г. згадваюцца дзве

"старасвецкія" жалезныя гарматы, адну з якіх да 1636 г. ужо пусцілі на жалеза для направы гарматных колаў[12]. Па ўсёй верагоднасці, гэта былі камнекідальныя бамбарды малога калібру, ці гуфніцы. Тое, што гармата "была разабрана на шыны", сведчыць пра архаічную тэхналогію яе вырабу. Першыя камнекідальныя гарматы выраблялiся шляхам скоўвання жалезных штабаў, ці брускоў, на якія нацягваліся гарачыя абручы. Яны пры астыванні моцна сціскалі штабы (мал. 1.4). Меншыя гарматы маглі выкоўвацца з аднаго жалезнага кавалка. Вялікія бамбарды пры тагачасных тэхналогіях ліцця адліваць з жалеза было немагчыма[13]. З цягам часу для вытворчасці вялікіх гармат пачалі выкарыстоўваць бронзу, тэхналогія апрацоўкі якой была ўжо адпрацавана на ліцці званоў. У пісьмовых крыніцах няма згадак аб ліцці такіх гармат на тэрыторыі ВКЛ да другой чвэрці XVI ст. Гэта азначае, што большая частка гармат на нашых землях у XV — пачатку XVI ст. выраблялася з кованага жалеза[14]. Прыклад каваных гармат Нясвіжскага замка якраз пацвярджае гэтую думку.

Пасля смерці вялікага князя Вітаўта ў 1430 г. развіццё артылерыі ў ВКЛ па шэрагу прычын запавольваецца ажно да пачатку XVI ст. З аднаго боку, адносна спакойнае знешнепалітычнае становішча і міралюбная палітыка краіны ў дачыненні да суседзяў не патрабавала накіравання рэсурсаў на далейшае развіццё ваеннай тэхнікі, а з іншага — нестабільнасць унутрыпалітычнага становішча не дазваляла засяродзіцца на гэтым.

Тым часам у Заходняй Еўропе развіццё артылерыі не спынялася. На працягу XV ст. быў зроблены шэраг вынаходніцтваў, якія прывялі да сапраўднай рэвалюцыі ў артылерыйскай справе. У выніку паўстала эфектыўная палявая і аблогавая артылерыя, якая стала вырашальным сродкам у войнах.

Лейтматывам развіцця артылерыі ў XV ст. стала выцягванне ствалоў гармат у даўжыню пры адначасовым змяншэнні калібру. Гэта было выклікана імкненнем павысіць магутнасць, трапнасць і далёкасць стрэлу. Даўжыня канала для ядра ў першых бамбардах была вельмі нязначнай — усяго каля 1–1,5 калібраў[15]. Каля 1430 г. яго даўжыня вырасла да 3 калібраў і працягвала расці далей. Аднак магчымасць далейшага выцягвання ствала цяжкіх камнекідальных гармат была абмежавана неабходнасцю павелічэння іх вагі, што надзвычай ускладняла іх эксплуатацыю[16]. Куды большыя магчымасці для развіцця мелі гарматы, якія стралялі свінцовымі і жалезнымі ядрамі, найперш тарасніцы, даўжыня ствала якіх дасягала 21–29 калібраў[17]. Менавіта яны сталі асновай даўгаствольнай артылерыі XVI ст.

Найважнейшай інавацыяй XV ст. у артылерыйскай справе быў паступовы пераход ад каменнага да металічнага ядра. Як згадвалася вышэй, жалезнае альбо свінцовае ядро было цяжэйшае, а разам



*1.5. Гармата на лафеце з двухколым перадком. Карціна "Бітва пад Оршай 1514 г." Невядомы мастак, 1530-я гг.*

з тым больш трывалае за каменнае. Гэта дазваляла паменшыць памер ствала гарматы пры павелічэнні яе разбуральнай сілы. У выніку ў першай палове XVI ст. на змену камнекідальным бамбардам прыйшоў новы тып аблогавых гармат, магутнасць і мабільнасць якіх была істотна павышана за кошт выкарыстання жалезнага ядра.

У XV ст. было вырашана і пытанне павышэння мабільнасці артылерыі. Даволі рана палявыя гуфніцы атрымалі простыя двухколыя лафеты, а доўгія тарасніцы сталі мацавацца на чатырохколых вазах. Павысіць мабільнасць і зручнасць у выкарыстанні лёгкай артылерыі дазволіла вынаходніцтва, зробленае ў сярэдзіне XV ст. у Бургундыі. Там быў сканструяваны новы тып лафета, які складаўся з двух ложаў: першае трымала ствол гарматы, другое — колы. Рухомае злучэнне абодвух ложаў, а таксама спецыяльныя дугападобныя планкі ў задняй частцы лафета значна спрасцілі працэс нацэльвання ствала гарматы. Бургундскі лафет ужываўся пераважна для лёгкіх і сярэдніх гармат, якія прымяняліся пры абароне ўмацаванняў. Апрача новага лафета бургундцы таксама пачалі шырока выкарыстоўваць чопы, ці цапфы, па баках ствала гарматы. Гэтае ўдасканаленне зрабіла магчымай балансіроўку ствала на лафеце і яшчэ больш палепшыла тэхніку нацэльвання. Цікава будзе адзначыць, што бургундцы добра разумелі прагрэсіўнасць сваіх нававвядзенняў у артылерыйскай справе і стараліся як мага даўжэй трымаць вынаходніцтва ў сакрэце[18].




*1.6. Гармата на двухсценным лафеце паводле К. Семяновіча, 1676 г.*

Забяспечыць мабільнасць аблогавых гармат было нашмат цяжэй, чым лёгкіх. Першапачаткова цяжкія бамбарды вазіліся на моцных вазах, а перад крэпасцю яны проста клаліся на зямлю ці падклады з бярвенняў. Гэта значна ўскладняла працэс навядзення гарматы на цэль. Папулярны ў лёгкай артылерыі ў другой палове XV ст. бургундскі лафет не падыходзіў для падобнага роду гармат. Таму для лёгкіх і сярэдніх бамбардаў пачалі рабіць колавыя лафеты з ложам, высечаным з адной вялікай калоды. Менавіта для такога кшталту лафетаў у канцы XV ст. быў упершыню прыстасаваны двухколы перадок, ці працваген, які дазваляў перавозіць гармату на лафеце, не перакладваючы яе на воз (мал. 1.5)[19]. У рэшце рэшт быў сканструяваны ўніверсальны для ўсіх відаў гармат двухсценны лафет, які ў першай палове XVI ст. замяніў усе вядомыя тыпы лафетаў (мал. 1.6). Ён уяўляў сабой раму з дзвюх тоўстых дошак, моцна збітых паміж сабой. Трываласць і лёгкасць сценавога лафета дазволілі зрабіць манеўранай і цяжкую артылерыю.

Важнае значэнне для развіцця артылерыі меў шэраг іншых вынаходніцтваў. У першай палове XV ст. быў вынайдзены грануляваны порах, які валодаў нашмат большай выбуховай сілай, чым ранейшы мукападобны. Сіла стрэлу з гарматы была павялічана таксама за кошт выкарыстання драўлянай калодкі, якая засаджвалася паміж парахавым зарадам і ядром. Акрамя таго, з канца XV ст.




*1.7. Партрэт Максіміліяна I Габсбурга. А. Дзюрэр, 1519 г.*

на ствалах гармат пачалі рабіць дэльфіны, ці спецыяльныя скобы, за якія прывязваліся вяроўкі для пад'ёму ствала, што спрасціла яго ўстаноўку на лафет.

Усе вышэйзгаданыя ўдасканаленні фактычна прывялі да рэвалюцыі ў артылерыйскай справе на мяжы XV–XVI стст. У выніку паўстала магутная і манеўраная артылерыя, асноўныя характэрныя рысы якой засталіся актуальнымі ажно да XIX ст. Адным з першых, хто акумуляваў усе напрацоўкі ў артылерыйскай сферы і стварыў сучасны артылерыйскі парк, быў кароль Францыі Карл VIII (1470–1498 гг., кароль з 1483 г.). У італьянскую кампанію 1494 г., дзе была прадэманстравана сіла новай зброі, ён выправіўся са 140 гарматамі новага ўзору[20]. Неўзабаве з ініцыятывы імператара Максіміліяна I Габсбурга (1459–1519 гг., імператар з 1486 г.) была рэфармавана і артылерыя Святой Рымскай імперыі (мал. 1.7). Мадэрнізаваная яшчэ раз у сярэдзіне XVI ст., артылерыя Габсбургаў стала найлепшай у Еўропе і захавала сваё першынство ажно да Трыццацігадовай вайны (1618–1648 гг.).

На працягу XVI ст. сістэму габсбургскай артылерыі перанялі ўсе еўрапейскія краіны[21]. Найбольшы ўплыў імперская артылерыя мела ва Усходняй Еўропе, у тым ліку ў Вялікім княстве Літоўскім, дзе яна вызначала напрамак развіцця артылерыйскай справы. Гэта было звязана з традыцыйна моцным культурным уплывам нямецкамоўных краін ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне на працягу ўсяго Сярэднявечча і ранняга Новага часу. З гэтай прычыны варта звярнуць асаблівую ўвагу на развіццё артылерыі Габсбургаў у XVI ст. Менавіта там трэба шукаць узоры для найлепшых гармат з арсенала Нясвіжскага замка.

У стварэнні новай артылерыі Максіміліян I абапіраўся на бургундскія і італьянскія напрацоўкі. Важнейшым крокам наперад была дакладная класіфікацыя гармат паводле вагамеру, ці вагі ядра, якая была распрацавана ў Венецыі. Такога кшталту падзел не меў аналагаў у нямецкіх землях і павінен быў значна спрасціць

практыку забеспячэння артылерыі неабходнай амуніцыяй. Раней для кожнай гарматы трэба было асобна падбіраць ці вырабляць як ядры, так і ўвесь дадатковы рыштунак. З часоў Максіміліяна I ядры пачалі вырабляцца па спецыяльных узорах-кольцах, якія адпавядалі калібру асобных тыпаў гармат. Значным дасягненнем імператара была ўстаноўка ўсёй артылерыі, за выключэннем цяжкіх бамбардаў, на лафеты, якія па венецыянскім узоры атрымалі двухколавыя перадкі. Ствалы ўсіх гармат атрымалі бакавыя чопы для балансіроўкі.

На пачатку праўлення Максіміліяна I яшчэ працягвалі выкарыстоўвацца цяжкія камнекідальныя бамбарды. Аднак пасля 1510 г. ад іх цалкам адмовіліся і пусцілі на пераплаўку. Замест іх былі створаны мабільныя і эфектыўныя аблогавыя гарматы новага кшталту: шарфмецы, картауны і базіліскі. Гэта былі гарматы, якія стралялі жалезнымі ядрамі, мелі бакавыя чопы і былі ўсталяваны на лафеты. Ядро шарфмецы важыла 50–70 фунтаў, што складала палову ад ядра бамбарды, а ядро картауны — 24–40 фунтаў (чвэрць ад масы ядра бамбарды). Гэтая класіфікацыя была перанята ў венецыянцаў, адкуль пайшлі і назвы гармат: шарфмеца — ад італ. *mezza bombarda* (паўбамбарда), картауна — ад італ. *quartana bombarda* (чвэрцьбамбарда). Базіліскі былі цалкам новым тыпам аблогавых гармат у артылерыі Максіміліяна I. Гэта былі экстрадоўгія мураломы, якія мелі надзвычайную трапнасць і сілу прабіцця. Пры гэтым базіліскі важылі ў два разы больш, чым картауны, але стралялі ў два разы лягчэйшымі ядрамі вагою 12–24 фунты (мал. 1.8)[22].

Паяўленне ў аблогавай артылерыі даўгаствольных базіліскаў, якія фактычна былі нашчадкамі тарасніц, азначала пачатак эпохі даўгаствольнай артылерыі, якая ахапіла ўсё XVI ст. У цяжкай аблогавай артылерыі, аднак, магчымасць выцягвання ствала гарматы была абмежавана ростам вагі гармат, што ўскладняла іх эксплуатацыю. Менавіта з прычыны вялікай вагі і нязручнасці ў абслугоўванні хутка давялося адмовіцца ад вытворчасці экстра-



*1.8. Калекцыя гармат Гістарычнага музея ў Базэлі: фалькон 1549 г., бамбарда 1420–1430 гг. і базіліск 1514 г.*

доўгіх базіліскаў. Разам з тым даўгаствольныя гарматы, ці “шлангі” (ад ням. *Schlange* — змяя), сталі асновай для палявой артылерыі.

Палявая артылерыя з часоў Максіміліяна I пачала актыўна выкарыстоўвацца для суправаджэння і падтрымкі пешага войска ландскнехтаў. Да цяжкіх палявых гармат адносіліся кнотшлангі вагамерам 11–16 фунтаў і фельдшлангі вагамерам 8 фунтаў, да лёгкіх — адпаведна паўшлангі, ці фальконы вагамерам 4 фунты і фальканеты вагамерам 2 фунты. Былі ўпарадкаваны па тыпах марціры, якія пачалі актыўна выкарыстоўвацца ў XVI ст. З вялікіх марцір калібрам 50–80 см і сярэдніх калібрам 20–30 см стралялі каменнымі ядрамі, у той час як у малых марцірах прымяняліся запальныя ядры, якія выклікалі пажар у лагеры праціўніка. Апошнія таксама выкарыстоўваліся для феерверкаў[23].

Далейшай уніфікацыі гармат спрыяла стварэнне Георгам Гартманам у 1530 г. у Нюрнбергу лінейкі калібраў, на якой фіксаваўся дакладны дыяметр каменных, жалезных і свінцовых ядраў вагою ад 1 да 125 фунтаў. Да сярэдзіны XVI ст. на загад імператара Карла V была стандартызавана і прыведзена ў адпаведнасць з рэальнымі ваеннымі патрэбамі ўся імперская артылерыя. У вызначэнні тыпаў гармат пушкары павінны былі зыходзіць са шкалы калібраў Г. Гартмана і даўжыні ствала гарматы. Акрамя таго, была ўнармавана і колькасць пораху для кожнага тыпу. У выніку нюрнбергская вага, а дакладней — нюрнбергскі фунт вагою 509,5 г пашырыўся па ўсёй Еўропе, у тым ліку на нашых землях, як універсальная мера вагі ў артылерыі. Праваднікам рэформы Карла V і стваральнікам новай артылерыі стаў ліцейшчык Грэгар Лёфлер, які ўдасканаліў тыпалогію гармат. Пры гэтым з часоў Г. Лёфлера для ўсіх гармат выкарыстоўваліся толькі літыя жалезныя ядры. Важным момантам гэтай рэформы было ўвядзенне двухсценных лафетаў для ўсіх тыпаў гармат.

Падчас Шмалькальдэнскай вайны 1546–1547 гг. у складзе рэфармаванай артылерыі Карла V, большасць якой вырабіў якраз Г. Лёфлер, знаходзіліся картауны (вагамер 40 фунтаў, даўжыня ствала 19 калібраў), паўкартауны (24 фунты, 19 калібраў), два віды нотшлангаў (12 фунтаў, 27 і 38 калібраў), фельдшлангі (6 фунтаў, 34 калібры), фальконы (6 фунтаў, 32 калібры) і фальканеты (3 фунты, 35 калібраў). Апрача згаданых тыпаў Г. Лёфлер лічыў мэтазгодным вырабляць падвойныя картауны вагамерам 70 фунтаў, а для палявой артылерыі —падвойныя шлангі вагамерам 20 фунтаў, а таксама серпантыны вагамерам ½ — 1 фунт.

Пасля шырокамаштабных рэформ, праведзеных у сярэдзіне XVI ст., развіццё артылерыйскай справы на тэрыторыі Святой Рымскай імперыі запаволілася. Тыпы гармат, распрацаваныя Г. Лёфлерам, не спазналі істотных змен ажно да пачатку Трыццацігадовай вайны. Падчас яе імперская артылерыя прайшла сур’ёзную пра-

верку і ў рэшце рэшт стала асновай для пераўтварэнняў у артылерыйскай справе ў XVII ст.[24]

1. Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV — канца XVI ст. Мінск, 2002. С. 184–185.
2. Там жа. С. 180.
3. Schmidtchen V. Bombarden, Befestigungen, Büchsenmeister. Düsseldorf, 1977. S. 12.
4. Egg E. Der Tiroler Geschützguß 1400–1600. Innsbruck, 1961. S. 22.
5. Schmidtchen V. Op. cit. S. 14.
6. Szymczak J. Początki broni palnej w Polsce: 1383–1533. Łódź, 2004. S. 54.
7. Ibid. S. 263.
8. Ibid. S. 166.
9. Schmidtchen V. Op. cit. S. 14.
10. Ibid. S. 42–44.
11. Полное собрание русских летописей. Т. 12. СПб., 1901. С. 8.
12. Regestr spisanie rzeczy J.M.ci skarbowych. 03.08.1626 // Bernatowicz T. Monumenta variis Radivillorum. Wyposażenie zamku Nieświeskiego w świetle źródeł archiwalnych. Część I: XVI–XVII wiek. Poznań, 1998. S. 35–37; Archiwum Główne Akt Dawnych (далей — AGAD), Archiwum Radziwiłłów (далей — AR), dz. XXVI, nr 52. Рэестр срэбра, абіцця, сёдлаў і гармат, якія знаходзяцца ў Нясвіжскім замку. 04.08.1636.
13. Schmidtchen V. Op. cit. S. 13.
14. Brensztajn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 17.
15. Вымярэнне даўжыні ствала гармат у калібрах дае магчымасць вызначыць іх тып.
16. Schmidtchen V. Op. cit. S. 16-18.
17. Бохан Ю.М. Цыт. тв. С. 184.
18. Egg E. Op. cit. S. 24–25; Schmidtchen V. Op. cit. S. 74–75.
19. Schmidtchen V. Op. cit. S. 74.
20. Szymczak J. Op. cit. S. 214.
21. Schmidtchen V. Op. cit. S. 102.
22. Egg E. Op. cit. S. 58–93; Schmidtchen V. Op. cit. S. 84–92.
23. Schmidtchen V. Op. cit. S. 91–92.
24. Egg E. Op. cit. S. 165.



# ПАЧАТКІ АРТЫЛЕРЫІ РАДЗІВІЛАЎ

Для Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага новая эпоха ў развіцці артылерыі пачалася падчас праўлення Жыгімонта І Старога (1467–1548 гг., польскі кароль і вялікі князь літоўскі з 1506 г.), які прыклаў нямала намаганняў для яе ўдасканалення. Вядома, прыкладам, што ў бітве пад Оршай 8 верасня 1514 г. саюзнае войска ВКЛ і Польшчы паспяхова выкарыстала палявую артылерыю новага тыпу. Гэта дапамагло перамагчы нашмат большую па колькасці маскоўскую армію. У 1520 г. на польска-крыжацкую вайну былі накіраваны 12 гармат, якія стралялі жалезнымі ядрамі і паказалі высокую эфектыўнасць пры аблозе крыжацкіх умацаванняў[1]. Для забеспячэння сваёй арміі і замкаў сучаснымі гарматамі Жыгімонт І Стары заснаваў у Кракаве і Львове ліцейныя майстэрні, па-іншаму — людвісарні. У апошнія гады яго панавання, хутчэй за ўсё, распачалася вытворчасць гармат і ў сталіцы ВКЛ Вільні. Аднак яна, па ўсёй верагоднасці, не дасягнула вялікіх размахаў[2].

У эпоху княжання Жыгімонта І магнаты ВКЛ, у прыватнасці Радзівілы, пачынаюць замаўляць для сябе першыя гарматы. Гэта было звязана з узвышэннем магнатэрыі на палітычнай арэне і павелічэннем яе фінансавых рэсурсаў. Працэс фарміравання прыватнаўласніцкай артылерыі ў ВКЛ ішоў поруч з разбудовай магнацкіх рэзідэнцый, абарончы патэнцыял якіх пастаянна рос. Аб гэтым сведчыць, прыкладам, Геранёнскі замак Гаштольдаў,




*2.1. Дата ліцця на гармаце Ю. Радзівіла, 1531 г. Мал. XVIII ст. Armémuseum (далей – АМ), 5378.*





*2.2–2.3. Гербы на гарматах Ю. Радзівіла, 1531–1532 гг. Мал. XVIII ст. АМ, 5378.*

вакол якога ў першай чвэрці XVI ст. былі насыпаны земляныя ўмацаванні, прыдатныя для ўстаноўкі артылерыі новага тыпу.

Першыя вядомыя гарматы Радзівілаў, на якія мне ўдалося патрапіць у крыніцах, былі адліты ў 1531–1532 гг. Яны мелі герб "Трубы" на ствалах і, па ўсёй верагоднасці, былі выраблены для Юрыя Радзівіла, званага Геркулесам (каля 1480–1541 гг.) (мал. 2.1–2.3). Падставай для вырабу гармат магла стаць намінацыя Ю. Радзівіла ў 1531 г. на пасаду вялікага гетмана. Гэта, відавочна, паўплывала на жаданне магната засведчыць свой статус у бронзе. У гэтым ён выразна прыпадабняўся да манарха, якому дасюль належала ініцыятыва ў ліцці артылерыйскай зброі. Да пачатку XVIII ст. абедзве гарматы захоўваліся ў Біржанскім замку, адкуль падчас Паўночнай вайны 1700–1721 гг. былі вывезены разам з усёй мясцовай артылерыяй у Швецыю. Філіп Якаб Тэлот, які аглядаў шведскія ваенныя трафеі, зрабіў замалёўкі гербаў і надпісаў на радзівілаўскіх гарматах. Неўзабаве яны былі расплаўлены. На жаль, іх дакладныя параметры нам засталіся невядомы, аднак з пэўнасцю можна казаць, што гэта былі даўгаствольныя шлангі.

Выгляд гармат Ю. Радзівіла можна ўявіць з дапамогай аналагічных гармат, якія захаваліся ў фондах Музея артылерыі ў Санкт-Пецярбургу і Музея Польскага войска ў Варшаве. Гэта два фальканеты 1529 г. ліцця: першы выраблены для Жыгімонта I Старога (вагамер — 3 фунты, даўжыня ствала — 47 калібраў[3]) (мал. 2.4–2.6), другі — для Львова (1½ фунта, 43 калібры) (мал. 2.7)[4]. Апошняя гармата з другой паловы XVIII да XX ст. захоўвалася ў арсенале Нясвіжскага замка. Ствалы абедзвюх гармат маюць аднолькавую двухчасткавую структуру, што ўласціва даўгаствольнай



*2.4. Гармата Жыгімонта I Старога, 1529 г.*




*2.5–2.6. Дата ліцця і гербы на гармаце Жыгімонта I Старога, 1529 г.*

артылерыі Максіміліяна I. Пры гэтым яны “ачышчаны” ад характэрнага для максіміліянаўскіх гармат складанага познегатычнага дэкору, дзякуючы чаму выразна падкрэслена іх мілітарная функцыя. Гэтая тэндэнцыя пачала дамінаваць ужо пасля смерці імператара[5]. У г.зв. “кароткім полі”, ці задняй частцы ствала змешчаны гербавыя выявы і даты вырабу. На абедзвюх гарматах ёсць дзяржаўныя гербы “Арол” і “Пагоня”. Акрамя таго, на фальканеце Жыгімонта I Старога над гербамі знаходзіцца карона, а на львоўскім фальканеце пад імі маецца герб гэтага горада, што сведчыць пра фундатараў гармат. Варта адзначыць, што шыльдачкі з годам вытворчасці на фальканетах і радзівілаўскай гармаце 1531 г. падобныя, што сведчыць на карысць аднаго варштату. З вялікай доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што менавіта так і выглядалі гарматы Ю. Радзівіла — першыя вядомыя гарматы роду Радзівілаў. Месцам іх вытворчасці маглі быць Кракаў альбо Львоў — менавіта там пры Жыгімонце I Старым квітнела людвісарская справа.

З часоў Жыгімонта I паходзіць таксама серпантына 1537 г. (1 фунт, 32 калібр) з гербам “Вуж, што паглынае дзіця”, якая належала каралеве Боне Сфорцы (мал. 2.8)[6]. У другой палове XVIII — першай палове XX ст. яна захоўвалася ў Нясвіжскім замку, а цяпер знаходзіцца ў Музеі Польскага войска ў Варшаве. Па ёй можна прасачыць далейшае развіццё формы гармат. У згаданых вышэй фальканетах пярэдняя і задняя часткі адрозніваюцца па форме




*2.7–2.8. Гармата, адлітая для горада Львова, 1529 г. Гармата каралевы Боны Сфорцы, 1537 г. Мал. 1867 г.*







*2.9–2.10. Гербы “Пагоня” і “Калюмны” на гарматах Жыгімонта II Аўгуста, 1556 г. Мал. XVIII ст. АМ, 5378.*

і не ўтвараюць адзінага аб'ёму. Ствол серпантыны, у сваю чаргу, мае форму цэльнага конуса, а ўзмацняльны пояс пасярэдзіне набыў цалкам дэкаратыўную форму.

Пры Жыгімонце II Аўгусце (1520–1572 гг., вялікі князь літоўскі з 1544 г., польскі кароль з 1548 г.) распачалася эпоха сапраўднага росквіту артылерыі ў ВКЛ. Гэта было звязана з заснаваннем у Вільні людвісарні, якая стала масава вырабляць артылерыю і ручную агняпальную зброю для войска і замкаў. У гэты час сталіца ВКЛ зрабілася адным з найбольш значных цэнтраў людвісарства ва Усходняй Еўропе. Прагрэс у развіцці артылерыйскай справы ў ВКЛ быў у значнай ступені звязаны з актыўнай знешняй палітыкай манарха, у прыватнасці на паўночна-ўсходнім напрамку. Напружанасць у адносінах з Маскоўскай дзяржавай у рэшце рэшт перарасла ў Інфлянцкую вайну 1558–1582 гг., у якой вырабленая ў Вільні артылерыя прайшла баявое хрышчэнне.

Уздым дзейнасці людвісарні ў Вільні прыпадае на 50-я — першую палову 60-х гг. XVI ст. Яе забеспячэнне матэрыяламі і спецыялістамі ішло пераважна з Кракава[7]. Большая частка майстроў з'яўлялася немцамі па паходжанні. Дзякуючы інвентару ўзбраення, якое захоўвалася ў віленскім арсенале альбо было выслана з яго ў памежныя замкі ў 1551–1565 гг., нам вядомы тыпы гармат, якія вырабляліся пры Жыгімонце II Аўгусце. Гэта былі вялікія каменныя гарматы (бамбарды), шарфмецы, нотшлангі, картауны, бэмбніцы, пішчыкі, паўкартауны, салаўі, спявачкі, цмокі, фельдшлангі, квартыршлангі, вялікія і сярэднія фальконы, серпантыны, а таксама вялікія, сярэднія і малыя марціры[8]. Назвы тыпаў гармат адназначна сведчаць пра нямецкі ўплыў у дзейнасці віленскай людвісарні.



*2.11. Гармата Мікалая Радзівіла Чорнага, 1550 г. Мал. XVIII ст. АМ, 5378.*

З мноства гармат, адлітых у Вільні пры Жыгімонце II Аўгусце, у Нясвіжскі замак у сярэдзіне XVII ст. трапіла марціра. Інвентары замка дазваляюць досыць дакладна яе апісаць. Гэта была сярэдняя марціра паводле класіфікацыі XVI ст. Яна важыла 9¾ літоўскіх цэнтнераў (439 кг) і мела калібр каля 270 мм[9]. На яе выцягнутым ствале з аднаго боку размяшчаліся выявы трох гербаў: “Вуж, што паглынае дзіця”, “Пагоня” і “Калюмны”. Зверху над гербамі змяшчалася вялікакняская шапка, а вакол усёй кампазіцыі ішоў надпіс з імем манарха і годам вырабу гарматы. Гэты варыянт размяшчэння гербавай кампазіцыі быў досыць тыповы для віленскіх гармат Жыгімонта II Аўгуста, апрача ўключэння герба яго маці Боны Сфорцы (мал. 2.9–2.10). З іншага боку ствала быў размешчаны дэвіз на лацінскай мове: “Ёсць ядро і полымя. Полымя прыносіць пажары, а за нашым ядром ідзе няўмольнае разбурэнне”.

У 1550 г. на замову Мікалая Радзівіла, званага Чорным, які стаў заснавальнікам нясвіжскай галіны Радзівілаў, была адліта даўгаствольная шланга (мал. 2.11). На пачатку XVIII ст. яна бы-

ла вывезена з Біржанскага замка ў Швецыю, дзе яе замаляваў Ф.Я. Тэлот. Фактычна гэта выява самай ранняй з вядомых гармат Радзівілаў. Яе ствол мае двухчастковую структуру і амаль цалкам пазбаўлены дэкору. У кароткім полі змяшчаюцца герб і інскрыпцыі, якія маюць істотную сімвалічную нагрузку. Гэта звязана з тым, што ў 1547 г. М. Радзівіл атрымаў з рук імператара Святой Рымскай імперыі тытул князя на Алыцы і Нясвіжы, а разам з ім герб у выглядзе арла з чатырохпалёвай тарчай на грудзях. Менавіта гэты нованабыты герб мы бачым на гармаце разам з надпісам “NICOLAVS RADSIWIL DEI GRASIA DVX ETC 1550”.




2.12–2.14. *Гарматы, адлітыя для горада Львова Л. Герлем, сяр. XVI ст.*

Далейшае развіццё формы і дэкору ствалоў прадстаўляе група гармат, якая ў другой палове XVIII — першай палове XX ст. захоўвалася ў Нясвіжскім замку, а цяпер знаходзіцца ў Музеі Польскага войска ў Варшаве і Гістарычным музеі ў Львове. Самая ранняя з іх — серпантына (1 фунт, 38 калібраў) са злучаным гербам Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў кароткім полі. Яна была адліта, верагодна, у Кракаве ў другой палове XVI ст. Чатыры астатнія гарматы змяшчаюць гербы Львова і былі адліты ў трэцяй чвэрці XVI ст. Гэта — дзве серпантыны аўтарства Леанарда Герля, адна з якіх выраблена ў 1556 г. (1 фунт, 34 калібры), а другая не датавана (1 фунт, 33 калібры). Яшчэ адна серпантына была адліта ў 1571 г. (1 фунт, 28 калібраў) і не мае подпісу людвісара, аднак, па ўсёй верагоднасці, таксама адносіцца да варштата Л. Герля[10]. Апошняя гармата з гэтай групы была адліта Мельхіёрам Герлем у 1573 г. і паводле тыпалогіі XVI ст. з’яўляецца фальканетам (2 фунты, 39 калібраў) (мал. 2.12–2.17). Абодва майстры працавалі ў Львове.

У выпадку чатырох львоўскіх гармат мы маем справу з класічнай структурай аздаблення, уведзенай каля 1530 г. Г. Лёфлерам. Канічны па форме гладкі ствол падзелены дэкаратыўнымі ўзмац-



*2.15. Дэкор на вылётнай частцы гарматы Л. Герля, 1571 г.*

няльнымі паясамі на тры часткі. Найбольшая дэкаратыўная нагрузка ўскладзена на кароткае поле, ці заднюю частку, дзе змяшчаюцца герб і надпісы. Частка аздаблення вынесена таксама на доўгае поле, ці пярэднюю частку, якая выцягваецца і робіцца больш тонкай. Вяртанне развітага дэкору можна звязваць з уплывам нюрнбергскага людвісара Освальда Бальднера, які з 1547 г. працаваў у Кракаве. Новай з'явай у аздабленні гармат у другой палове XVI ст. стала нанясенне на доўгае поле рэльефу з выявай чалавечай істоты, звера ці птушкі, якім называлі гармату. Такога "орліка" на доўгім полі атрымала серпантына 1571 г.[11] Падобную з'яву мы ўбачым у далейшым і на нясвіжскіх гарматах.

Узрастанне магутнасці магнатаў, у тым ліку Радзівілаў у XVI ст. стала перадумовай для пачатку эпохі прыватнаўласніцкай артылерыі ў ВКЛ. Яе развіццю садзейнічала дзейнасць у Вільні ў 1550–1560-х гг. людвісарні Жыгімонта II Аўгуста, дзякуючы чаму ў сталіцу дзяржавы была прыцягнута значная колькасць майстроўліцейшчыкаў. Гэтым змаглі скарыстацца магнаты для стварэння вялікіх артылерыйскіх паркаў у сваіх замках, што было выклікана не толькі клопатам аб іх абароназдольнасці, але і імкненнем прадэманстраваць сваю магутнасць на палітычнай арэне.



*2.16. Гармата Жыгімонта I Старога, др. чв. XVI ст. Мал. 1958 г.*

1. Szymczak J. Op. cit. S. 348–349, 354.
2. Brensztajn M. Op. cit. S. 17.
3. У кнізе прыводзіцца даўжыня ствалоў гармат без вінаграда ў казённай частцы.
4. Параметры гарматы Жыгімонта I падаюцца паводле ўласных вымярэнняў аўтара. Памеры львоўскага фальканета 1529 г. і гармат, якія сёння захоўваюцца ў Польшчы, пададзены паводле: Grodzicka M. Zabytkowe działa spiżowe w zbiorach

polskich // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. 1960. T. 6, cz. 2. S. 358–414.

5. 5 Egg E. Op. cit. S. 107.

6. Аднясенне гарматы 1537 г., як і іншых гармат вагамерам ½ — 1 фунт, да тыпу серпантын зроблена паводле нямецкай класіфікацыі XVI ст., якая панавала і ў ВКЛ. Напрыклад, Т. Новак мяркуе, што серпантыны ў ВКЛ у XVI ст. мелі вагамер ½ фунта: Nowak T. Sprzęt artylerii polskiej XVI wieku w świetle inwentarza z lat 1551–1565 // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. T. 9. Cz. 1. 1963. S. 297; Nowak T. Polska technika wojskowa w latach 1500–1655 // Studia z dziejów polskiej techniki wojskowej od XVI do XIX wieku. Warszawa, 2001. S. 140. Інвентар Біржанскага замка 1655 г. пацвярджае, што серпантынамі ў XVII ст., як і ў мінулым стагоддзі, працягвалі называць даўгаствольныя гарматы вагамерам ½ — 1 фунт пры даўжыні ствала ад 30 да 40 калібраў: AGAD, AR, dz. XXVI, nr 72. Інвентар цэйхгаўза ў Біржах. 29.08.1655. У працах польскіх навукоўцаў, найперш З. Стэфаньскай, такога кшталту гарматы адносяцца да тыпу малых фальканетаў, што адпавядае класіфікацыі XVII ст. Гл.: Stefańska Z. Próba ustalenia typów i nazw dział artylerii polskiej XVI i XVII wieku // Muzealnictwo Wojskowe. T. 1. Warszawa, 1959. S. 177–228.

7. Brensztajn M. Op. cit. S. 18.

8. Nowak T. Sprzęt artylerii polskiej XVI wieku... S. 94.

9. Марціра Жыгімонта II Аўгуста згадваецца і апісваецца ў розных інвентарах Нясвіжскага замка другой паловы XVII — сярэдзіны XVIII ст. Яе вага вядома паводле: Biblioteka Czartoryskich w Krakowie (далей — BCzart.), rkps 1814. Узбраенне і амуніцыя выраблены ў Вільні і адпраўлены ў памежныя замкі ў 1551–1565 гг. Вагамер вызначаны паводле: AGAD, AR, dz. VII, nr. 641. s. 12–15. Інвентары арсеналаў Нясвіжскага, Алыцкага, Жоўкаўскага і Злочаўскага замкаў. 01.01.1753. Вагамер складаў 48 фунтаў каменнай вагі, якая выкарыстоўвалася ў класіфікацыі марцір і гаўбіц.

10. Petrus J. T. Strzelba z r. 1615 w zbiorach wawelskich // Studia do Dziejów Wawelu. 1991. T. V. S. 122

11. Egg E. Op. cit. S. 107, 134–136, 161, 185.



*2.17. Злучаны герб Польшчы і ВКЛ на гармаце Жыгімонта I Старога, др. чв. XVI ст.*



# СТВАРЭННЕ АРТЫЛЕРЫЙСКАГА ПАРКА

У канцы XVI ст. сын М. Радзівіла Чорнага Мікалай Крыштаф Радзівіл, званы Сіроткам (1549–1616 гг.), заклаў у Нясвіжы новы бастыённы замак, які павінен быў стаць асновай магутнасці роду на доўгія стагоддзі (мал. 3.1). Драўляны замак існаваў у Нясвіжы і раней, але яго абарончы патэнцыял і магчымасці выкарыстання ў ім сучаснай артылерыі былі абмежаваныя. Будаўніцтва новага мураванага замка распачалося ў 1582 ці 1583 г.[1] Прынята лічыць, што на час стварэння гравюры Т. Макоўскага (каля 1600 г.) асноўныя працы па ўзвядзенні замка былі ўжо скончаны (мал. 3.2).

Сіротка не шкадаваў сродкаў на новую рэзідэнцыю. Бастыённы замак у Нясвіжы стаў адной з наймацнейшых прыватнаўласніцкіх фартэцый у Вялікім княстве Літоўскім і аб’яднанай Рэчы Паспалітай. Высока ацанілі яго ўмацаванні нават шведы, перад якімі замак капітуляваў у 1706 г.: “Фартэцыя лічылася адной з лепшых у Польшчы (Рэчы Паспалітай. — *М.В.*). Абаронена чатырма мураванымі бастыёнамі і моцным контрэскарпам[2], у ёй кожная рэч прызначана для абароны без якога-кольвек дэфекту”[3].

Акрамя магутных умацаванняў, для дасягнення высокай абараназдольнасці замка было неабходна адпаведнае ўзбраенне і рыштунак, інакш карысці ад высакаякасных фартыфікацый было мала. Аднак сапраўды непрыступным замак рабіў моцны духам і адданы гаспадару гарнізон. Менавіта пры наяўнасці апошняга




*3.1. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка. Гравюра па партрэце Л. Кіліяна, 1638 г.*

мог быць рэалізаваны ўвесь патэнцыял фартыфікацый і наяўнага ў замку ўзбраення. Забягаючы крыху наперад, адзначу, што якраз малакалькасны і слабы гарнізон быў галоўнай прычынай шматлікіх капітуляцый Нясвіжскага замка.

М.К. Радзівіл выдатна разумеў ролю ўзбраення і найперш артылерыі для абароны фартэцыі. Таму новазбудаваны Нясвіжскі замак быў своечасова забяспечаны першакласнымі відамі зброі, якая заслугоўвае не меншай увагі, чым дасканалыя ўмацаванні замка. На жаль, з часоў Сіроткі не захавалася ніводнага апісання замкавага арсенала. Рэканструяваць артылерыйскі парк фартэцыі канца XVI — пачатку XVII ст. магчыма па інвентарах Нясвіжскага замка XVII ст. Пэўную інфармацыю можна знайсці таксама ў інвентарах фартэцый у Слуцку, Біржах, Глуску, Ляхавічах і Алыцы, куды па розных абставінах траплялі нясвіжскія гарматы. Храналагічна інвентары нясвіжскага арсенала можна падзяліць на тры групы: апісанні другой чвэрці XVII ст. (1626, 1636 гг.)[4], сярэдзіны XVII ст., ці перыяду вайны 1654–1667 гг. (1656, 1657, 1658 гг.)[5], апошняй чвэрці XVII ст. (1681, 1693, 1695 гг.)[6] (мал. 3.3). Такі храналагічны падзел абумоўлены спецыфікай інвентарных апісанняў і паўнатой звестак у іх, а таксама адноснай стабільнасцю ўзбраення фартэцыі ў дадзены перыяд. Напрыклад, калі ў другой

*3.2. Нясвіжскі замак. Гравюра Т. Макоўскага, пач. XVII ст.*



чвэрці XVII ст. гарматы альбо пералічваліся па ўласных назвах, альбо абагульняліся ў тыпы, то з сярэдзіны XVII ст. абсалютная большасць гармат згадвалася па ўласных назвах, а ў іх апісанні абавязкова фігураваў год вытворчасці. Дзякуючы ўласным назвам, якія мела большасць гармат Нясвіжскага замка, магчыма супастаўленне звестак з розных апісанняў і дакладная атрыбуцыя большасці гармат (вызначэнне года вытворчасці, вагі, майстра, калібру, тыпу гарматы і інш.), якія не захаваліся да нашага часу. Для параўнання, у XVIII ст. гарматы часта проста пералічваліся па калібрах, што ўскладняе іх атрыбуцыю, а значыць, і вывучэнне змен у развіцці артылерыі Нясвіжскага замка.

Фарміраванне артылерыйскага парка ў Нясвіжы пачалося з закупкі і збору гармат з іншых фартэцый. У першым вядомым інвентары Нясвіжскага замка за 1626 г. згадваецца шэраг гармат старых тыпаў, альбо "старасвецкіх", як іх называлі ў інвентарах. Гэта былі адна спіжовая, ці бронзавая, гармата пад назвай "Месяц" і дзве жалезныя. Такога кшталту артылерыю, відавочна, не выраблялі для новага замка, а перавезлі з нейкай старой фартэцыі, магчыма, з колішняга драўлянага замка ў Нясвіжы. Найбольш архаічнымі былі дзве жалезныя каваныя гарматы, пра якія ўжо згадвалася раней. Гармата "Месяц" знаходзілася ў арсенале Нясвіжскага замка да вайны 1654–1667 гг. Падчас абароны фартэцыі ў 1655–1657 гг. яна разарвалася, а метал з яе пайшоў на выраб новых гармат. Вагамер "Месяца" паводле інвентара 1656 г. складаў 4 фунты.


AR. dz. XXVI
103. N°.
Inwentarz spisany w Ceükhawsie Zamku Nieswieskiego Roku 1681: dnia 22. ... się w sobie na ten czas ma.
Naprzod Działa na Wale będące po Quaterach
1 Działo Burzące S. ...ego, lane w Roku 1599: osadzone w drzewo dębowe à okowane robotą slosarską, z osiami y kołami okowanemi.
2 Działo Burzące Krokodyl, lane w R. 1598: w osadzie dębowey, à okowane slosarską robotą, z kołmi y osmi okowanemi.
3 Działo Burzące Solomandra w ogniu lane w R. 1599: w osadzie dębowey, à slosarską robotą okowane, z kołmi y osmi okowanemi.
4. Działo Burzące Alexander w osadzie dębowey okowane, z kołami y osiami okowanemi, à lane w Roku 1599.
w Ceükhawsie będąca Armata.
5 Działo Spizowe z Bachusem okowane z kołmi bosymi, lane w R. 1600:
6 Działko Farbiste Hydra w drobne ... lane w R. 1599. w osadzie slosarskiey. Koła bose podnim.
7 Działko Circes Farbiste na kształt rozpadłego lania, R. 1600: w osadzie prostey, z kołmi prostymi.
8 Działko Noctua na osm gran lane w R. 1600: osada mieyscami okowana z kołmi bosymi
9 Działko Cerberus ... mieyscami farbowane lane R. 1599: w osadzie bladey z kołmi bosymi, alias podłymi
10 Działko Psittacus Farbiste z wiencem laurowym na końcu, lane w R. 1600 osadzone y okowane, koła podnim podłe.
11 Działko Chymera farbiste, ponim grona winne lane w R. 1603: w osadzie dobrey dębowey okowaney, z kołmi okowanemi
12 Działko S. Matheusza lane w R. 1597. w osadzie dębowey żelazem okowane, y koła podnim okowane
13 Działko S. Marka tegoż lania, ... osady
14 Działko S. Łukasza, lane w R. 1597. w osadzie dębowey żelazem opatrzoney, z kołmi okowanemi
15. Działko S. Jana tegoż lania, ... osady
16. Działko S. Michała 6. ... w osadzie z kołmi okowanemi dobremi.
17. Działko S. Raphała 6. ... w osadzie porządney z okowanemi kołmi
18. Działko po liczbie N. 2: lane w R. 1576: w osadzie dębowey żelazem opatrzone koła podnim bose.

*3.3. Інвентар арсенала Нясвіжскага замка, 1636 г. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 52.*

З іншых фартэцый у Нясвіжскі замак трапілі таксама чатыры серпантыны і шротаўніца "Цмок". Нясвіжскія серпантыны, верагодна, трэба атаясамліваць з чатырма палкавымі "Кругераўскімі" гарматамі вагамерам 1½ фунта, якія паводле інвентароў 1657 г. належалі да артылерыі замка. Назва гэтых гармат магла паходзіць ад імя людвісара. Шротаўніцамі называлі гарматы для стральбы шротам (невялікімі свінцовымі кулямі ці кавалкамі сечанага жалеза) з блізкай адлегласці для знішчэння жывой сілы непрыяцеля. Дакладна вядома, што "Цмок" складаў у даўжыню 2 локці (1,3 м)[7] і меў вагамер 14 фунтаў. На ствале гарматы змяшчалася выява цмока[8].



*3.4. Фрагмент гарматы ліцця С. Борнікеля, др. пал. XVI ст. Мал. XVIII ст. АМ, 5377.*

Найбольш істотна арсенал Нясвіжскага замка папоўніўся за кошт серыі фальканетаў, адлітых Стэфанам Борнікелем (Бурнікелем) у 1576–1577 гг. па замове Сіроткі (мал. 3.4). Майстэрня С. Борнікеля знаходзілася ў Вільні, таму да яго паслуг часта звярталіся магнаты ВКЛ. Вядомы яшчэ тры гарматы гэтага майстра: адна вагамерам 1 фунт пад гербам Мікалая Радзівіла Чорнага[9] і дзве вагамерам 12 фунтаў, адлітыя ў 1571 г. для Яна Геранімавіча Хадкевіча[10]. Вядома таксама, што на пачатку 1577 г. у Вільні знаходзіліся яшчэ дзве новаадлітыя гарматы для Я. Хадкевіча[11]. Фальканеты, выраблены С. Борнікелем для Сіроткі, першапачаткова маглі прызначацца для Мірскага замка, які ў апошняй чвэрці XVI ст. атрымаў пояс земляных бастыённых умацаванняў. Неабходнасць узвядзення больш магутнай рэзідэнцыі ў канцы XVI ст. прымусіла Сіротку закласці Нясвіжскі замак, куды ён звёз усю сваю артылерыю, у тым ліку з Міра[12].

Паводле інвентароў 1657–1658 гг. у нясвіжскім арсенале мелася восем гармат, адлітых С. Борнікелем. Напэўна, іх варта атаясамліваць з фальканетамі, якія згадваюцца ў інвентарах другой чвэрці XVII ст. Так, паводле інвентара 1626 г. мелася шэсць фальканетаў, якія былі падзелены на два тыпы (чатыры былі аднесены да аднаго тыпу, два — да другога), а паводле інвентара 1636 г. да іх дадаўся яшчэ адзін фальканет, выдзелены ў асобны тып. З гэтых інвентароў, аднак, не зразумела, паводле якога прынцыпу яны былі класіфікаваныя.

Усе борнікелеўскія гарматы, акрамя адной, выробленай у 1576 г., мелі лічбы на ствалах. З пяці гармат 1576 г. дзве былі абазначаны лічбай "2", адна — лічбай "3" і дзве — лічбай "4", а на ствалах дзвюх гармат, адлітых у 1577 г., мелася лічба "1". Гэтыя надпісы, напэўна, абазначалі вагамер кожнай гарматы, прычым яны былі пастаўлены ўжо пасля іх вырабу, аб чым сведчыць адсутнасць лічбы на адным з фальканетаў. Дадатковую інфармацыю аб параметрах борнікелеўскіх фальканетаў дае інвентар гармат, затопленых шведамі ў Лахве ў 1706 г. Сам інвентар быў складзены ў 1717 г., калі гарматы знайшлі і выцягнулі. У ім згадваюцца чатыры фальканеты, датаваныя 1576 г., тры з якіх мелі даўжыню 3,5 локці (2,27 м), а адзін — 2,25 локці (1,46 м). На ўсіх гарматах меліся надпісы з імем замоўцы Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі і людвісара Стэфана Борнікеля[13]. Такім чынам, выробленыя ў 1576–1577 гг. два 4-фунтовыя і адзін 3-фунтовы фальканеты мелі даўжыню 3,5 локці (2,27 м), а два 2-фунтовыя і два 1-фунтовыя — каля 2,25 локці (1,46 м). Фальканет без лічбы, па ўсёй верагоднасці, з'яўляўся парай 3-фунтовага фальканета і меў адпаведныя параметры. Паводле класіфікацыі XVI ст. гэта былі серпантыны вагамерам 1 фунт і фальканеты вагамерам 2–4 фун-

ты, а паводле класіфікацыі XVII ст. — адпаведна сярэднія і вялікія бастардавыя фальканеты[14].

Збіранне гармат з іншых месцаў дазволіла ў хуткім часе пасля ўзвядзення замка прыстасаваць яго да абароны. Аднак асновай артылерыйскага парка новай фартэцыі павінна была стаць сучасная артылерыя, адлітая непасрэдна для яе. Надзвычай каштоўным дакументам, які сведчыць пра пачатак вытворчасці гармат для Нясвіжскага замка, з'яўляецца недатаваны рахунак коштаў на выраб дзесяці бронзавых гармат (мал. 3.5)[15]. У ім пазначаны вытворчыя выдаткі, вага гармат, кошт матэрыялаў і працы людвісара. На вялікі жаль, у рахунку не ўказаны ні імя майстра, ні месца вытворчасці. У дакуменце ёсць згадка пра закупку матэрыялаў для гармат і жалеза для акоўвання лафетаў у Гданьску, а таксама "прывоз жалеза з Вільні", што дазваляе выключыць гэтыя гарады як месца вырабу гармат. Аднак аб тым, што яны адліваліся ў Нясвіжы, можна казаць толькі гіпатэтычна.



*3.5. Спіс гармат, адлітых для М.К. Радзівіла, кан. XVI ст. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 126.*

Першымі ў рахунку згадваюцца 2 "вялікія" гарматы з выявамі Св. Мікалая і Св. Крыштафа, за імі — 4 гарматы "для каменных ядраў" з выявамі чатырох "элементаў" і 4 "малыя гарматкі" таксама "для каменных ядраў" з выявамі чатырох евангелістаў. Пра дзве "вялікія" гарматы інфармацыі няшмат, а вось астатнія восем добра вядомы з апісанняў нясвіжскага арсенала XVII ст. Ва ўсіх інвентарах серыя гармат з выявамі чатырох "элементаў", ці першапачаткаў прыроды, згадваецца як "Элементы" альбо па назвах кожнай асобнай гарматы: "Агонь", "Зямля", "Вада", "Паветра". Рахунак коштаў на выраб гармат, а таксама інвентары 1626 і 1636 гг. сведчаць, што ўсе экземпляры з гэтай серыі з'ўляліся аднолькавымі. Гэта дазваляе вызначыць вагу кожнай гарматы, якая складала прыкладна па 895 гданьскіх фунтаў (388 кг)[16]. У інвентары слуцкага арсенала 1669 г., дзе ў той час былі "Элементы", знаходзім інфармацыю, што гэта былі шротавыя гарматы, калібр якіх адпавядаў дыяметру 8-фунтовага каменнага ядра (каля 145–155 мм)[17]. На ствалах гармат меліся надпісы з імем Сіроткі і выява радзівілаўскага арла з гербам "Трубы" на грудзях. Са слуцкага інвентара таксама вядома дата вырабу гармат — 1596 г.[18]

Гарматы з выявамі чатырох евангелістаў — "Евангелісты" ("Св. Мацвей", "Св. Марк", "Св. Лука" і "Св. Ян") — упершы-

ню згадваюцца ў інвентары Нясвіжскага замка 1656 г. Па ўсёй верагоднасці, першапачаткова "Евангелісты" прызначаліся для гарадскіх умацаванняў Нясвіжа альбо нейкай іншай фартэцыі, дзе і знаходзіліся да вайны 1654–1667 гг. Як і "Элементы", "Евангелісты" былі аднолькавыя па масе і важылі па 775 гданьскіх фунтаў (336 кг)[19]. Пры меншай вазе "Евангелісты" адпаведна мелі і меншы вагамер, які паводле інвентара 1656 г. складаў 14 фунтаў жалезнай вагі (125–130 мм). З інвентароў другой паловы XVII ст. дакладна вядома, што "Евангелісты" былі адліты ў 1597 г.

Нязначная вага "Элементаў" і "Евангелістаў", як і тое, што яны стралялі каменнымі ядрамі, выразна сведчаць пра ідэнтычную познесярэднявечным бамбардам канструкцыю ствала, які пры невялікай даўжыні і шырокім канале для ядра меў вузкую камору для пораху. Пра істотны запас каменных ядраў для гэтых гармат згадваюць інвентары 1657, 1658 і 1681 гг. Акрамя стральбы каменнымі ядрамі, "Элементы" і "Евангелісты" з прычыны адносна вялікага калібру было зручна выкарыстоўваць для стральбы шротам, аб чым паведамляецца ў нясвіжскім інвентары 1656 г. і слуцкім інвентары 1669 г.

Ведаючы час вырабу "Элементаў" і "Евангелістаў", цяжкія гарматы "Св. Мікалай" і "Св. Крыштаф" можна датаваць 1596–1597 гг. На тое, што гарматы былі замоўлены менавіта Сіроткам, прама ўказвае іх прысвячэнне святым заступнікам князя. Паводле рахунку ствалы гармат важылі амаль аднолькава: "Св. Мікалай" — 6948 гданьскіх фунтаў (3015 кг), "Св. Крыштаф" — 6960 гданьскіх фунтаў (3021 кг). Іх калібры невядомыя, бо ў 1617 г. яны былі вывезены з Нясвіжа і з гэтай прычыны не трапілі на старонкі замкавых інвентароў, самы ранні з якіх датуецца 1626 г. Аднак той факт, што ў дакументах арсенала Нясвіжскага замка цягам усяго XVII ст. не згадваюцца гарматныя ядры вагою больш за 24 фунты, дазваляе сцвярджаць, што вагамер "Св. Мікалая" і "Св. Крыштафа" не перавышаў гэтага стандарту. Істотную вагу гармат можна патлумачыць толькі значнай даўжынёй іх ствалоў. Напрыклад, паводле вядомага тэарэтыка артылерыі пачатку XVII ст. Дыега Уфана вага ствала 24-фунтовай паўкартауны даўжынёй 19–20 калібраў складала каля 2 тон[20], а 20-фунтовай кулеўрыны даўжынёй 32 калібры — больш за 3 тоны[21]. На жаль, з-за недахопу інфармацыі немагчыма больш дакладна акрэсліць параметры "Св. Мікалая" і "Св. Крыштафа". Відавочна, аднак, што гэта былі самыя вялікія гарматы, замоўленыя Сіроткам, а ўлічваючы прысвячэнне іх святым патронам князя, можна меркаваць, што яны мелі для яго істотнае значэнне. Аб гэтым сведчыць і той факт, што ў 1600 г. злотнік Стэфан дадаткова выбіў на іх нейкія вершаваныя радкі[22].

У 1598–1599 гг. на замову Сіроткі былі адліты яшчэ чатыры цяжкія гарматы: "Кракадзіл", "Саламандра" (ці "Саламандра



*3.6. Гармата з Жаберскай фартэцыі, пашкоджаная шведамі ў 1706 г.*

ў агні”), “Аляксандр” і “Георгій” (ці “Юрый”)[23]. Амаль ва ўсіх інвентарах указвалася, што “Саламандра” і “Кракадзіл” былі паўкартаунамі[24], у той час як “Аляксандр” і “Георгій” выдзяляліся ў асобны тып, які не акрэсліваўся. Інвентар 1656 г. згадвае пра дзве гарматы вагамерам 24 фунты, якія трэба атаясамліваць з “Саламандрай” і “Кракадзілам”, і дзве гарматы вагамерам 18 фунтаў, якія, у сваю чаргу, адпавядалі “Аляксандру” і “Георгію”. Аднак, для прыкладу, паводле інвентара 1693 г. у арсенале Нясвіжскага замка меўся вялікі запас гарматных ядраў вагою 24 і 20 фунтаў. Ядры вагою 24 фунты, відавочна, прызначаліся для паўкартаунаў “Саламандра” і “Кракадзіл”, а ядры вагою 20 фунтаў — для “Аляксандра” і “Георгія”. У сваю чаргу, інвентар 1681 г. згадвае толькі ядры ў 20 фунтаў. Такая блытаніна ўказвае, што вагамер гармат і вага ядраў у розны час вызначаліся па-рознаму. Гэта залежала ад дакладнасці інструментаў, ад спосабу вымярэння, а таксама ад вызначэння неабходнай розніцы паміж калібрам ствала гарматы і дыяметрам ядра, што магло быць абумоўлена ўяўленнямі і ўзроўнем падрыхтоўкі пушкара, які займаўся падобнымі вылічэннямі. Пры гэтым на землях ВКЛ, як пісалася вышэй, для вымярэнняў у артылерыі выкарыстоўваўся нюрнбергскі фунт. Такім чынам, можна сцвярджаць, што пісьмовыя сведчанні аб вагамерах гармат захоўваюць пэўную долю суб’ектыўнасці, а вагамер “Аляксандра” і “Георгія” можна вылічыць прыблізна ў межах 18–20 фунтаў.

У выніку захопу Нясвіжскага замка шведскім войскам у 1706 г. усе цяжкія гарматы, якія меліся там на той час, былі пашкоджаны (мал. 3.6). Пасля зыходу шведаў засталося пяць кавалкаў металу: тры большыя важылі кожны па 5400–6200 фунтаў (2000–



*3.7. Гармата "Саламандра", 1599 г. Мал. XVII ст. AGAD, AR, dz. VII, nr 715.*

2300 кг), два меншыя — па 2950–3950 фунтаў (1100–1400 кг) (гл. табл. 1). Вялікія кавалкі — гэта не што іншае, як рэшткі трох цяжкіх нясвіжскіх гармат. Магчыма, чацвёртая паўкартауна была разбіта на два малыя кавалкі, аднак паводле вынікаў узважвання 1711 г. іх сумарная вага перавышала вагу найбольшага з вялікіх кавалкаў ажно на 15%, што ставіць пад сумненне гэтае дапушчэнне[26]. Таму, на маю думку, два малыя кавалкі былі рэшткамі дзвюх меншых гармат, у той час як адна з чатырох цяжкіх гармат, па ўсёй верагоднасці, была вывезена з замка яшчэ да прыходу шведаў.

У варшаўскім архіве Радзівілаў захаваўся цікавы малюнак, які дазваляе яшчэ больш паглыбіцца ў сімволіку гэтых гармат[27]. Малюнак гарматы не падпісаны, таму яе атрыбуцыя магчыма толькі на падставе аналізу выявы (мал. 3.7). Высокая дэталізацыя дэкору ствала і лафета сведчыць аб тым, што мастак намаляваў выяву рэальнай гарматы, а не зрабіў копію з нейкай кнігі па артылерыі. Малаверагодна таксама, што тут прадстаўлены праект гарматы. Падобныя выявы-праекты часам рыхтаваліся і перадаваліся



на зацвярджэнне замоўцу гарматы. Аднак у такім выпадку лафет, як правіла, не малявалі, бо перадусім было важна прадставіць аздабленне ствала гарматы. З вялікай доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што гармата на малюнку насіла назву "Саламандра", паколькі атрыбуты менавіта гэтай земнаводнай істоты размешчаны на пярэдняй частцы гарматы: адкрытая пашча пачвары, за якой цягнуцца языкі полымя, і рыбіная луска, якая пакрывае ўсю плошчу. У сярэднявеччы лічылася, што саламандра можа спараджаць агонь, таму яе лічылі духам агню. Адсюль вынікае і пашыраная практыка выкарыстання гэтага вобраза ў артылерыі. Што датычыцца памеру і калібру гарматы, дык на аснове малюнка іх вызначыць немагчыма.

Сярод шматлікіх гармат радзівілаўскіх фартэцый у Алыцы, Біржах, Нясвіжы і Слуцку, якія згадваюцца ў інвентарах XVII–XVIII стст., мне ўдалося выявіць толькі адну, якая насіла назву "Саламандра". Гэта была менавіта нясвіжская паўкартауна. У рэестры артылерыі 1695 г. згадваецца, што на гармаце мелася рэль-



*3.8. Базіліск "Цмок". Ё. фон Гунтхайм, 1514 г.*

ефная выява саламандры і лацінскі надпіс "Агонь саламандры дае жыццё гібельным знакам". У большасці апісанняў нясвіжскага арсенала гармата называецца "Саламандра ў агні", што сведчыць пра выкарыстанне ў афармленні матыву агню. Можна зрабіць абгрунтаванае дапушчэнне, што на малюнку адлюстравана менавіта нясвіжская "Саламандра".

Паводле інвентароў XVII ст. нясвіжская "Саламандра" адносілася да тыпу паўкартаунаў, даўжыня ствала якіх у адпаведнасці з класіфікацыяй вядомай даследчыцы гісторыі польскай артылерыі XVI–XVII стст. З. Стэфаньскай складала 19–23 калібры[28]. На малюнку з архіва Радзівілаў прадстаўлена гармата са значна больш доўгім ствалом, чым мелі звычайна тагачасныя паўкартауны. Каб патлумачыць гэтую супярэчнасць, варта звярнуцца да артылерыі Ляхавіцкага замка. Дзякуючы падрабязнаму інвентару мясцовага арсенала 1658 г., нам вядомы параметры ўсіх гармат (калібр і даўжыня), а таксама час іх вырабу і замоўца. Гэта дазваляе прасачыць асноўныя этапы развіцця артылерыі ВКЛ у XVI–XVII стст. Сярод іншых на ўзбраенні фартэцыі меліся тры гарматы вагамерам 24–25 фунтаў (г.зн. калібрам 151–154 мм), даўжыня ствалоў якіх складала 26–27 калібраў (3,9–4,2 м). Гэтыя гарматы былі выраблены паміж 1606 і 1614 гг. на замову ўладальніка замка Яна Караля Хадкевіча (1560–1621 гг.). Той факт, што ляхавіцкія паўкартауны былі выраблены не нашмат пазней за нясвіжскія, дае магчымасць іх параўнаць. Цікава, што адна з 24-фунтовых гармат Ляхавіцкага замка, нягледзячы на значную даўжыню яе ствала, названа ў інвентары паўкартаунай[29]. Гэта дазваляе аднесці тры мясцовыя цяжкія гарматы да г.зв. "спявачак" (ням. *Singerin*), альбо спецыфічнага тыпу доўгіх паўкартаунаў, папулярных у XVI — пачатку XVII ст.[30] Па ўсёй верагоднасці, такімі ж былі "Саламандра" і іншыя цяжкія гарматы Нясвіжскага замка. Калі ўзяць шырэйшы кантэкст, варта адзначыць, што канчатковы пераход да сярэднествольнай артылерыі ў Рэчы Паспалітай прыпаў на час праўлення Уладзіслава IV Вазы (1595–1648 гг., кароль Рэчы Паспалітай з 1632 г.) і быў выкліканы моцнай хваляй галандскіх уплываў у ваеннай справе.

Гіпотэза аб прыналежнасці гарматы з малюнка радзівілаўскага архіва да артылерыі Нясвіжскага замка дае магчымасць прасунуцца далей у пошуках узораў, на аснове якіх Сіротка стварыў артылерыйскі парк для сваёй новай рэзідэнцыі. Амаль ідэнтычная

па аздабленні гармата захавалася ў Базэлі. Яна носіць назву “Цмок” і была адліта Ёргам фон Гунтхаймам у 1514 г. (мал. 3.8–3.9). Падабенства гармат відаць і па структуры дэкору, і па асобных яго элементах. Ствалы падзелены на дзве часткі: у пярэдняй змяшчаецца рэльефная выява галавы пачвары, а задняя мае гранёны выгляд. Г.зв. “каўнер” на пачатку ствалоў мае выгляд васьміграннікa, які ў “Саламандры” дадаткова ўпрыгожаны раслінным арнаментам. За каўнерам змешчаны арнамент у выглядзе масверка, альбо гатычнага дэкору, які мае архітэктурныя вытокі і характарызуецца цыркулярнай пабудовай усіх элементаў. За ім ідзе пояс з арак, якія завяршаюцца лісткамі канюшыны. Абодва арнаментальныя матывы з’яўляюцца характэрным паказчыкам познегатычнага стылю аздаблення. Рэльефныя выявы галоў пачвар, за якімі цягнуцца языкі полымя, з’яўляюцца галоўным дэкаратыўным акцэнтам пярэдняй часткі гармат. У сярэдзіне ствалоў змешчаны арнаментальны пояс з арак з лісткамі канюшыны і ланцуг, якія дзеляць пярэднюю і заднюю часткі гармат. За гэтым арнаментам на “Саламандры” меўся дадаткова пояс з лістоў аканту. Рознае ў мастацкім плане, аднак прынцыпова аднолькавае вырашэнне маюць г.зв. “вушы”, якія выкарыстоўваліся для пад’ёму ствалоў. У базэльскай гармаце яны вырашаны ў форме галоў цмока, у гармаце на малюнку — у форме тулаваў людзей, па ўсёй верагоднасці, пушкароў. Завяршаюцца гарматы чопам у казённай частцы, у якім мелася кальцо. У базэльскай гармаце ён мае выгляд цмока. З шырокага арнаментальнага пояса, які знаходзіцца ў казённай частцы абедзвюх гармат, у базэльскай гармаце выходзяць языкі полымя, а ў “Саламандры” — галінкі, якія дапоўнены ўнізе арнаментам з лістоў аканту. Дэкаратыўнае вырашэнне абедзвюх гармат, такім чынам, амаль ідэнтычнае. Пры гэтым дэкор базэльскай гарматы выразна познегатычнага тыпу, у той час як у аздабленні “Саламандры” прысутнічаюць рэнесансныя матывы ў выглядзе разнастайных раслінных элементаў. Гэта дазваляе сцвярджаць, што “Саламандра” была выраблена на ўзор базэльскага “Цмока” альбо падобнай гарматы, пры гэтым яе дэкор зазнаў значны ўплыў рэнесанснага мастацтва.

Базэльскі “Цмок” з’яўляецца адной з нешматлікіх захаваных да нашага часу гармат, якія прадстаўляюць артылерыю Максімі-



*3.9. Базіліск “Цмок”, дэкор ствала.*



*3.10. Базіліск “Кракадзіл”, пач. XVI ст.*

ліяна I, хаця ўласна “Цмок” не належаў да імператарскіх арсеналаў, а быў выраблены для горада Базэля. Даўжыня ствала гарматы складае 4,93 м, калібр — 125 мм, што адпавядае вагамеру 12 фунтаў. Такім чынам, пры даўжыні ствала ў 39 калібраў “Цмок” уяўляе сабою тып базіліскаў, ці экстрадоўгіх цяжкіх гармат максіміліянаўскага часу. Цікава, што базіліскі звычайна атрымлівалі дэкор у выглядзе альбо міфалагічных істот адмоўнага характару, альбо пачвар, якія неслі смерць і разбурэнне на галовы праціўніка[31].

Апрача гарматы з малюнка радзівілаўскага архіва масток да артылерыі Максіміліяна I можна перакінуць з дапамогай нясвіжскай паўкартауны “Кракадзіл”, якая, як згадвалася вышэй, была параю для “Саламандры”. Справа ў тым, што сярод максіміліянаўскіх гармат меўся базіліск пад аналагічнай назвай — “Кракадзіл” (мал. 3.10)[32]. З гэтага можа вынікаць, што пара нясвіжскіх паўкартаунаў “Саламандра” і “Кракадзіл” маглі быць выраблены на ўзор максіміліянаўскіх базіліскаў канца XV — пачатку XVI ст.



*3.11. Гармата “Гідра”. Г. Мольцфельт, 1599 г. Фота пач. XX ст.*

Арыентацыя фундатара Нясвіжскага замка М.К. Радзівіла на артылерыю Максіміліяна I была невыпадковай. Для Сіроткі, які быў адданым каталіком, імператар Святой Рымскай імперыі, як і сама дынастыя Габсбургаў, лічыўся апорай каталіцкага веравызнання ў Еўропе. Падчас трох бескаралеўяў 1572–1573 гг., 1574–1575 гг. і 1586–1587 гг. Сіротка падтрымліваў менавіта прадстаўнікоў Габсбургаў у якасці прэтэндэнтаў на трон Рэчы Паспалітай[33]. Магчыма, магнату быў даспадобы сам вобраз Максіміліяна I, які, акрамя дасягненняў у ваеннай справе і дзяржаўным кіраванні, быў вядомым мецэнатам навукі і мастацтва.

Пераймане максіміліянаўскіх узораў можа растлумачыць пільную ўвагу М.К. Радзівіла да аздаблення сваёй артылерыі. Гэта выдатна бачна па гарматах Г. Мольцфельта, да аналізу якіх звернемся крыху пазней. Пры Максіміліяне I дэкаратыўнае афармленне ствалоў гармат дасягнула найвышэйшага ўздыму і стала эфектыўным сродкам візуалізацыі яго ідэйна-палітычнай праграмы. Для стварэння багатага пластычнага дэкору гармат Максіміліян I наймаў мастакоў, якія рыхтавалі накіды ствалоў, а таксама скульптараў, якія рабілі формы па зацверджаных імперата-







*3.12–3.14. Дэкор ствала "Гідры": каўнер у выглядзе капітэлі, выява гідры, надпіс з імем фундатара.*





*3.15–3.16. Гармата "Цэрбер". Г. Мольцфельт, 1599 г. Агульны выгляд, герб М.К. Радзівіла.*

рам праектах[34]. Гэтаксама і М.К. Радзівіл меў магчымасць і імкнуўся ўплываць на канчатковы выгляд гармат, якія ён замаўляў для нясвіжскага замка. Верагодна, таму ў Нясвіж і быў запрошаны людвісар Г. Мольцфельт. Як і для Максіміліяна I, формы для гармат Сіроткі рыхтаваў скульптар, а канчатковую апрацоўку рабіў злотнік.

Верагодна, было б паспешлівым залічыць да нясвіжскага варштату Г. Мольцфельта ўсе выробленыя для Сіроткі на мяжы XVI–XVII стст. гарматы, у тым ліку цяжкія — "Саламандру", "Кракадзіла", "Георгія" і "Аляксандра"[35]. Няма сумнення, што ў Нясвіжы былі адліты восем лёгкіх гармат, якія захаваліся да нашага часу. Аднак для вырабу цяжкай артылерыі была патрэбная большая печ, будаўніцтва і ўтрыманне якой магло быць нявыгадным. Прасцей і танней было замовіць цяжкія гарматы ў адным з вялікіх людвісарскіх цэнтраў Рэчы Паспалітай (Вільня, Рыга, Гданьск)

*3.17–3.18. Дэкор ствала "Цэрбера": задні чоп у выглядзе цэрбера, надпіс з імем фундатара.*









*3.19–3.20. Дэкор ствала “Вінаграда”: каўнер, герб М.К. Радзівіла.*

альбо ў Германіі і Галандыі, а затым водным шляхам перавезці іх у Нясвіж. Прыкладам, Я.К. Хадкевіч замаўляў гарматы для Ляхавіч у Рызе. Гэтаксама і М.К. Радзівіл мог замовіць “Саламандру” і “Кракадзіла” ў адным з нямецкіх гарадоў, дзе з часоў Максіміліяна І існавалі вялікія ліцейныя майстэрні. Найбольш уплывовым цэнтрам доўгі час з’яўляўся Інсбрук, дзе выраблялася большасць гармат для імператара, аднак у другой палове XVI ст. ён ужо страціў сваё значэнне. Вядомым цэнтрам ліцейнай справы быў таксама Страсбург, дзе, у прыватнасці, працаваў Ё. фон Гунтхайм, які адліў базэльскага “Цмока”[36]. З аднаго з гэтых людвісарскіх цэнтраў маглі паходзіць людвісар і скульптар, якія вырабілі паўкартауны для Нясвіжскага замка.

Шырока вядома дзейнасць у Нясвіжы нямецкага людвісара Г. Мольцфельта, майстэрня для якога была збудавана на тэрыторыі самога замка. Аднак пытанне, калі пачалося ліццё гармат у Нясвіжы



*3.21. Гармата “Вінаград”. Г. Мольцфельт, 1600 г. Фота пач. XX ст.*






*3.22–3.23. Дэкор ствала “Вінаграда”: надпіс з імем фундатара, задні чоп у выглядзе вінаграда.*



*3.24. Гармата "Цырцэя". Г. Мольцфельт, 1600 г. Фота пач. XX ст.*








*3.25–3.27. Дэкор ствала "Цырцэі": каўнер, сярэдняя частка, герб М.К. Радзівіла.*

і якіх маштабаў яно дасягнула, застаецца да канца не вырашаным. З яго варштатам дакладна можна звязваць восем лёгкіх гармат, вырабленых у 1599–1603 гг., якія зберагліся да нашага часу. Гарматы “Гідра” і “Цэрбер” былі адліты ў 1599 г. (мал. 3.11–3.18), а гарматы “Вінаград”[37], “Цырцэя”, “Папугай” і “Сава”[38] — у 1600 г. (мал. 3.19–3.33). Вагамер пяці з гэтых гармат складае ¾ фунта (калібр ад 47 да 51 мм), адной — 1 фунт (калібр 56 мм). Даўжыня ствалоў гармат вагаецца ў межах 31–33 калібраў[39], што дазваляе аднесці іх да тыпу серпантынаў паводле класіфікацыі XVI ст. альбо да сярэдніх ці малых бастардавых фальканетаў паводле класіфікацыі XVII ст.[40] Апошнімі па замове Сіроткі ў 1602 і 1603 гг. былі адліты адпаведна “Мелюзіна” і “Хімера”[41], якія таксама захаваліся да нашага часу (мал. 3.34–3.39)[42]. Менавіта на іх паяўляецца надпіс з імем людвісара і месцам вытворчасці: “HERMAN MOLTZFELT ZV NIESWISCH” на “Мелюзіне” і „MOLTZFELD ZV NESWISCH” на „Хімеры”[43]. “Мелюзіна” мае вагамер 6 фунтаў (калібр 93 мм) пры даўжыні ствала 37 ка-



*3.28. Гармата „Папугай”. Г. Мольцфельт, 1600 г. Фота 1950-х гг.*

*3.29. Дэкор ствала “Папугая”: каўнер.*








*3.30–3.31. Дэкор ствала “Папугая”: дэльфін у выглядзе папугая, надпіс з імем фундатара.*

лібраў[44], “Хімера” — вагамер 3 фунты (калібр 78 мм) пры даўжыні ствала 33 калібры. Зыходзячы з прыведзенымі параметрамі “Мелюзіну” можна аднесці паводле класіфікацыі XVI ст. да фальконаў альбо паводле тыпалогіі XVII ст. да звычайных чвэрцькулеўрын[45], а “Хімеру” — альбо да фальканетаў XVI ст., альбо да звычайных вялікіх фальканетаў XVII ст.[46]

Восем згаданых гармат дзякуючы свайму дасканаламу маньерыстычнаму дэкору зрабілі артылерыю Нясвіжскага замка сусветна вядомай. Іх ствалы маюць розную форму і аздабленне. Канцэпцыя гармат увасабляецца ў назве і адмысловым дэвізе, а таксама актуалізуецца ў развітым дэкаратыўным аздабленні. Так, на сярэдзіне ствала “Гідры” мы маем вельмі выразныя рэльефныя выявы сямігаловай пачвары, якая замяняе сабою дэльфіны. Гэтаксама ў форме галоў гідры вырашаны вінаград у казённай частцы гарматы. Ля запальнай адтуліны змешчаны наступны дэвіз: “Гідра. Рыхтую самоту, калі чорную хвалю ўздымаю”. Іншы прыклад дэманструюць “Цырцэя” і “Мелюзіна”, у аздабленні якіх была рэалізавана старажытная ідэя мастацкага твора, які беззваротна знішчае час (*rotto*)[47]. У нясвіжскіх гарматах гэтая ідэя ўвасоблена дасканала: ствалы гармат маюць выгляд раструшчаных часам калон, якія нібыта звязаны вяроўкамі, каб пазбегнуць канчатковага разбурэння. Складаны і да драбязы распрацаваны дэкор гармат сведчыць пра значную семантычную нагрузку. Інтэрпрэтацыя аздаблення, ці, калі быць больш дакладным, расшыфроўка “кода” і ідэйнага зместу, які ўкладвалі ў іх фундатар і стваральнікі гармат, патрабуе глыбокіх інтэрдысцыплінарных даследаванняў у вобласці гісторыі і мастацтвазнаўства.

На гарматах Сіроткі, адлітых Г. Мольцфельтам, апрача герба і інскрыпцыі ўладальніка змешчаны іерусалімскі крыж. Вялікая пашана магната да гэтага сімвала вынікала з яго глыбокай рэлігійнасці і адданасці каталіцкаму касцёлу. У 1582–1584 гг. М.К. Радзівіл ажыццявіў паломніцтва ў Святую зямлю, што ўлас-



*3.32. Дэкор ствала “Савы”: каўнер.*

на і дало яму права ўжываць іерусалімскі крыж. Значэнне гэтай рэліквіі для Сіроткі бачна з яго тастамента. Магнат загадваў, “каб цела ніякім адзеннем не было ўбрана, апрача адзення пілігрымскага, (...) а што да ўкладання ў труну, заўжды пры сабе маю для апошняй гадзіны маёй крыжык іерусалімскі меншы, а хоць і медны, каб на шыю маю быў ускладзены, і, калі хто знойдзе потым мае косці, ведацьме, што пілігрым да Святой труны там ляжыць...”[48].

Імкненне стварыць для сябе вельмі выразныя ў мастацкім плане гарматы, на маю думку, схіліла Мікалая Крыштафа Радзівіла запрасіць у Нясвіж спецыяліста-людвісара, якім і стаў Г. Мольцфельт. У такіх умовах Сіротка мог цалкам кантраляваць працэс вытворчасці гармат. Пры гэтым, як піша Т. Бернатовіч, выраб




*3.33. Гармата “Сава”. Г. Мольцфельт, 1600 г. Мал. 1867 г.*



*3.34. Гармата "Мелюзіна". Г. Мольцфельт, 1602 г. Мал. Ф.Я. Тэлота, XVIII ст. АМ, 5379.*

гармат высокага мастацкага ўзроўню ў нясвіжскай людвісарні варта лічыць заслугай групы майстроў, бо поруч з людвісарам над гарматамі працавалі скульптар Філіп, які рыхтаваў форму гарматы, і злотнік Стэфан, які праводзіў канчатковую апрацоўку ствалоў. Арыентуючыся на той факт, што паводле кнігі выдаткаў Сіроткі за 1600 г. скульптар і злотнік атрымлівалі большыя заробкі, чым Г. Мольцфельт, Т. Бернатовіч перакананы, што апошні мала ўплываў на кшталт і ўзровень выканання дэкору[49]. Аднак гэта не зусім так, бо аплата працы людвісара, па ўсёй верагоднасці, фіксавалася асобным кантрактам, выплата па якім ішла пасля выканання ўсёй замовы. Цалкам верагодна, што аплата асноўнай працы Г. Мольцфельта магла не трапіць у згаданую кнігу выдаткаў.

Т. Бернатовіч прыпісвае людвісарні Г. Мольцфельта ўсе гарматы, адлітыя з 1597 г. па 1603 г. Пры гэтым ён выказвае меркаванне, што пазней немец не працаваў у Нясвіжы, бо ў кнігах выдаткаў 1604 і 1609 гг. праца гэтага людвісара ўжо не згадваецца[50]. На карысць гэтай думкі сведчыць і істотны спад вытворчасці нясвіжскай людвісарні ў 1602–1603 гг. (былі адліты толькі дзве гарматы), а таксама адсутнасць звестак пра ліццё гармат у Нясвіжы ў пазнейшы час.

Цікавую гіпотэзу выказаў нямецкі даследчык Б. Томас, які дапусціў, што Г. Мольцфельт адліў для Сіроткі серыю з дванаццаці гармат, якія адрозніваліся высокім мастацкім узроўнем у стылі позняга маньерызму. Да сённяшняга часу іх захавалася восем[51]. Да астатніх гармат з гэтай серыі даследчык, відавочна, адносіў чатыры цяжкія гарматы — "Саламандру", "Кракадзіла", "Георгія" і "Аляксандра". Апрача гармат да нясвіжскага варштату Г. Мольцфельта даследчыкі таксама адносяць тры вытанчаныя цымбалы, ці званы для гадзіннікаў, якія меліся ў Нясвіжскім замку і касцёле ў Міры, але не захаваліся да нашага часу[52].

Відавочна, выбітнае мастацкае афармленне гармат Сіроткі можна вытлумачыць патрэбамі рэпрэзентацыі яго асобы. Вядома, што арсенал Нясвіжскага замка забяспечваў артылерыяй войско-




*3.35. Надпіс з імем людвісара і месцам вырабу гарматы на "Мелюзіне".*

выя аддзелы магната. Артылерыя разам з уласным войскам прадстаўляла М.К. Радзівіла ў ваенных выправах і рознага кшталту сходах, куды магнат выпраўляў свае войска для забеспячэння падтрымкі ўласных інтарэсаў. У якасці прыкладу можна згадаць з'езд пад Стэнжыцамі ў 1575 г., дзе пасля ўцёкаў Генрыха Валуа ў Францыю абмяркоўваліся кандыдатуры на трон Рэчы Паспалітай. Сюды магнаты і шляхта з ВКЛ, сярод якіх быў і Сіротка, прыйшлі з вялікім войскам і гарматамі, і, як згадвалі відавочцы, "літвіны былі больш гатовыя да бою, чым да пасяджэнняў"[53].

Вядома яшчэ некалькі гармат, якія можна звязваць з нясвіжскай людвісарняй. Марціра з інскрыпцыямі (надпісамі) Сіроткі згадваецца ў апісаннях нясвіжскага арсенала 1741 і 1749 гг.[54] У 1819 г. у лёхах Нясвіжскага замка знайшлі больш за 30 закапаных гармат, сярод якіх фігуруе гармата "князя Мікалая Сіроткі" вагамерам 1 фунт і вагою 443 літоўскіх фунты (166 кг), датаваная 1501 г.[55] Відавочна, дата была прачытана памылкова, а на гармаце, верагодна, стаяў 1601 г.[56] Параметры ўказваюць на тое, што гэта была невялікая гармата. Пра яе не згадвае ніводзін нясвіжскі інвентар, таму, найверагодней, яна належала да арсенала іншай фартэцыі.

Такім чынам, каля паловы гармат, сканцэнтраваных М.К. Радзівілам у новазбудаваным Нясвіжскім замку, паходзіла з іншых фартэцый. Значную частку артылерыйскага парка складалі даўгаствольныя фальканеты, адлітыя С. Борнікелем у 1576–1577 гг., а астатнія адносіліся да рознага кшталту гармат састарэлых тыпаў. Нягледзячы на вялікую колькасць прывазнога ўзбраення, асновай нясвіжскай артылерыі сталі гарматы, створаныя непас-



*3.36. Гармата "Хімера". Г. Мольцфельт, 1603 г. Фота пач. XX ст.*



*3.37. Дэкор ствала "Хімеры": каўнер у выглядзе капітэлі.*



*3.38–3.39. Дэкор ствала "Хімеры": задні чоп у выглядзе хімеры, герб М.К.Радзівіла.*

рэдна для новай фартэцыі. Значная іх частка была выраблена ў самім Нясвіжы спецыяльна запрошаным для гэтага майстрам Г. Мольцфельтам.

1. Metel'skij A.A. Fortyfikacje zamku w Nieświeżu z końca XVI – początku XVIII wieku // Archaeologia Historica Polona. T. 20. Toruń, 2012. S. 161–162.
2. Контрэскарп — схіл рова фартэцыі са знешняга боку. У Нясвіжскім замку контрэскарп быў умацаваны мураванай сценкай.
3. Adlerfeld G. The military history of Charles XII. King of Sweden. Vol. II. London, 1740. S. 230.
4. Regestr spisanie rzeczy J.M.ci skarbowych. 03.08.1626 // Bernatowicz T. Monumenta variis Radivillorum. S. 35–37; AGAD, AR, dz. XXVI, nr 52. Рэестр срэбра, абіцця, сёдлаў і гармат, якія знаходзяцца ў Нясвіжскім замку. 04.08.1636. Відавочна, копіяй апошняга інвентару з'яўляецца недатаваны спіс гармат з архіва Радзівілаў у Мінску: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей — НГАБ), ф. 694, воп. 1, спр. 55, арк. 373. Спіс гармат.
5. Цягам 1656–1658 гг. нясвіжскі арсенал быў апісаны прынамсі пяць разоў. Першы інвентар быў складзены на пачатку 1656 г. пасля захопу замка жаўнерамі Багуслава Радзівіла: AGAD, AR, dz. XI, nr 48, s. 73–75. Рэестр цэйхгаўза Нясвіжскага замка. 02.02.1656. Два інвентары датаваны 1657 г.: AGAD, AR, dz. XXVI, nr 80. Рэестр узбраення і амуніцыі ў фартэцыі і цэйхгаўзе Нясвіжскага замка. 06.03.1657; AGAD, AR, dz. XXVI, nr 81. Рэестр узбраення і амуніцыі ў фартэцыі і цэйхгаўзе Нясвіжскага замка. 16.04.1657. Трэці інвентар за подпісамі Самуэля Аскеркі і Яна Радзіміновіча паўстаў, верагодна, крыху пазней: AGAD, AR, dz. XXVI, nr 768. Рэестр узбраення і амуніцыі у фартэцыі і цэйхгаўзе Нясвіжскага замка. Б. д. Рэестр гармат таксама быў уключаны ў інвентарнае апісанне Нясвіжскага замка 1658 г.: Inwentarz zamku Je(go) Xzcey Msci Nieswieskiego. 29.03.1658 // Bernatorwicz T. Monumenta variis Radivillorum. S. 43–60.
6. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 103. Інвентар цэйхгаўза Нясвіжскага замка. 22.12.1681; AGAD, AR, dz. XXVI, nr 112. Інвентар цэйхгаўза Нясвіжскага замка. 07.01.1693; AGAD, AR, dz. XXVI, nr 113. Рэестр гармат у Нясвіжскай

фартэцыі. 01.02.1695.

7. 1 локаць складаў 0,6496 м: Скурат К.У. Даўнія беларускія меры. Мінск, 1974. С. 9.

8. Inwentarz obronnego zamku w Lachowiczach sporządzony 26 Lutego 1658 roku // Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединённых с нею владений (1387–1710 гг.). Ч. 1. Вильно, 1858. С. 117.

9. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 126, s. 5–11. Інвентар гармат, узбраення і іншага рыштунку ў Слуцкай фартэцыі. 18.12.1669.

10. Inwentarz obronnego zamku w Lachowiczach sporządzony 26 Lutego 1658 roku // Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы… С. 117.

11. BCzart., rkps 3237, s. 13–15. С. Кайша да Я. Хадкевіча. Вільня, 01.1577.

12. Больш падрабязна: Волкаў М. Фартыфікацыя і ўзбраенне Мірскага замка // Беларускі гістарычны часопіс. 2012. № 1. С. 20.

13. AGAD, AR, dz. XXV, nr 169. Рэестр гармат Нясвіжскага замка, якія забраны шведамі ў 1706 г. і закапаны ў Лахве, а ў 1717 г. выцягнуты з вады і прывезены ў Нясвіж. 1717.

14. Да сярэдніх адносіліся фальканеты вагамерам 1—1½ фунта, да вялікіх — 2½–3½ фунта. Бастардавымі называлі ўкарочаныя фальканеты даўжынёй 30–31 калібр: Stefańska Z. Op. cit. S. 190–195.

15. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 126. Спіс гармат. Б.д.

16. Агульная вага чатырох "Элементаў" складала 3578 гданьскіх фунтаў (1553 кг). Пад увагу браўся гданьскі фунт, які складаў 0,434 г. Арыентацыя на гэтую сістэму вымярэнняў тлумачыцца дзвюма прычынамі: па-першае, пры вызначэнні вагі, акрамя фунтаў, у самім дакуменце выкарыстоўваўся цэнтнер, які складаў 120 фунтаў, што адпавядае гданьскай сістэме вымярэнняў, па-другое, значная частка матэрыялаў для вырабу гармат была закуплена менавіта ў Гданьску.

17. Шчыльнасць граніту, з якога найчасцей выраблялі кулі для гармат, складае ад 2350 да 2750 кг/м$^3$: Strzyż P. Średniowieczna broń palna w Polsce. Łódź, 2011. S. 59. Адпаведна дыяметр ядра вагаўся ад 141 да 149 мм, а калібр гарматы павінен быў складаць каля 145–155 мм.

18. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 126, s. 5–11. Інвентар гармат, узбраення і іншага рыштунку ў Слуцкай фартэцыі. 18.12.1669.

19. Іх сумарная вага складала 3100 гданьскіх фунтаў (1345 кг).

20. Паводле Д. Уфана картауна вагамерам 48 фунтаў і даўжынёй ствала 18 калібраў важыла 72 іспанскіх цэнтнеры (3319 кг): Uffan D. Archelia, to jest nauka i informacja o strzelbie i o rzeczach do niej należących. Leszno, 1643. S. 19. Іспанскі цэнтнер складаў 100 фунтаў, а іспанскі фунт важыў 0,461 г: Piaskowski J. Technologia dawnych odlewów artystycznych. Kraków, 1981. S. 31. У 1637 г. Даніэлем Цімам у Варшаве былі адліты дзве картауны вагою 7772 і 7672 фунты (3373 кг і 3330 кг). Найверагодней, Даніэль Цім карыстаўся гданьскім фунтам, бо лічыў цэнтнеры па 120 фунтаў. Пры гэтым, як піша Т. Новак, вага гармат Ціма была на 10% большая за вагу, прапанаваную галандскім тэарэтыкам артылерыі пачатку XVII ст. Генрыкам Гондзіюсам (Henricus Hondius). Гл.: Nowak T. Z dziejów techniki wojennej w dawnej Polsce. Warszawa, 1965. S. 138.

21. У XVII ст. кулеўрынамі ў шырокім значэнні называліся даўгаствольныя гарматы, а ў вузкім да іх (у адрозненне, напрыклад, ад падвойных кулеўрын ці чвэрцькулеўрын) залічвалі цяжкія гарматы даўжынёй ствала ад 27 да 40 калібраў і вагамерам ад 12 да 25 фунтаў: Stefańska Z. Op. cit. S. 184–186. Паводле Д. Уфана кулеўрына вагамерам 20 фунтаў і даўжынёй ствала 32 калібры важыла 70 іспанскіх цэнтнераў (3227 кг): Uffan D. Op. cit. S. 10.

22. Bernatorwicz T. Monumenta variis Radivillorum. S. 75.

23. У некаторых інвентарах дзве апошнія гарматы таксама называліся "Св. Аляксандр" і "Св. Юрый".

24. Паўкартауна — сярэднествольная гармата вагамерам 20–24 фунты: Stefańska Z. Op. cit. S. 213-214.

25. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 29.08.1711; AGAD, AR, dz. XXVI, nr 166. Рэестр сапсаваных гармат, якія знаходзяцца ў Нясвіжскім замку. 12.11.1715. У дадзеным выпадку, напэўна, выкарыстоўваўся літоўскі фунт, вага якога паводле сістэмы мер 1764 г. складала 0,3748 г.

26. Праўда, паводле паўторнага ўзважвання 1715 г. розніца паміж сумарнай вагою двух меншых кавалкаў і самага вялікага склала ўсяго 3%. Да гэтага часу частка матэрыялу ад іх магла быць проста адбіта.

27. AGAD, AR, dz. VII, nr 715, s. 1.

28. Stefańska Z. Op. cit. S. 213–214.

29. Inwentarz obronnego zamku w Lachowiczach sporządzony 26 Lutego 1658 roku // Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы... С. 116–118.

30. Schmidtchen V. Op. cit. S. 86.

31. Geßler E. Beitrage zur altschweizerische Geschützwesen. Die großen Geschütze aus dem Zeughausbestand der Stadt Basel // Zeitschrift für historische Waffenkunde. 1912–1914. Bd. 6, H. 2. S. 56–61; Egg E. Op. cit. S. 60; Müller H. Deutsche Bronzegeschützrohre: 1400–1750. Berlin, 1968. S. 92–94; Wiesflecker H. Kaiser Maximilian I.: das Reich, Österreich und Europa an der Wende zur Neuzeit. Bd. 5. Der Kaiser und seine Umwelt: Hof, Staat, Wirtschaft, Gesellschaft und Kultur. München, 1986. S. 557–558; Schmidtchen V. Maximilian und das Kriegswesen // Kaiser Maximilian I.: Bewahrer und Reformer. Ramstein, 2002. S. 119–120

32. Geßler E. Op. cit. S. 55; Thomas B. Die Artillerie im Triumphzug Kaiser Maximilians I // Zeitschrift für historische Waffen und Kostümkunde. 1937–1939. Bd. 6. H. 11. S. 234

33. Kempa T. Mikołaj Krzysztof Radziwiłł Sierotka (1549–1616) — wojewoda wileński. Warszawa, 2000. S. 72–81, 94–102, 263–271.

34. Egg E. Op. cit. S. 6, 60, 68–69.

35. Bernatowicz T. Monumenta variis Radivillorum. S. 26. Такога меркавання прытрымліваўся і я ў сваёй ранейшай публікацыі: Волкаў М. Артылерыя Нясвіжскага замка ў канцы XVI — пачатку XVIII ст. // ARCHE-Пачатак. 2012. № 6. С. 61.

36. Egg E. Op. cit. S. 9, 61, 69.

37. У крыніцах і літаратуры "Вінаград" згадваецца таксама пад назвамі "Грона", "Вінагрона", "Бахус", "з Бахусам", "Кубак".

38. Сёння "Вінаград" і "Цэрбер" захоўваюцца ў Ваенна-гістарычным музеі артылерыі, інжынерных войскаў і войскаў сувязі ў Санкт-Пецярбургу (Расія), а "Гідра", "Папугай", "Сава" і "Цырцэя" — у Музеі Польскага войска ў Варшаве (Польшча).

39. Памеры гармат "Цэрбер" і "Вінаград" падаюцца паводле нашых уласных вымярэнняў.

40. Да малых адносіліся фальканеты вагамерам ½ фунта (8 унцый) — ¾ фунта (12 унцый). 1 фунт складае 16 унцый: Stefańska Z. Op. cit. S. 195–197.

41. Падчас Другой сусветнай вайны надпіс з годам вырабу быў пашкоджаны: ад "M·D·C·III" (1603) захавалася "M·D·C" (1600).

42. Сёння "Хімера" захоўваецца ў Музеі Польскага войска ў Варшаве (Польшча); "Мелюзіна" — у Музеі Арміі ў Стакгольме (Швецыя).

43. Як і ў выпадку з датай, на "Хімеры" амаль цалкам знікла імя людвісара. Паводле нямецкага даследчыка М. Эрэнталя, на ёй было напісана "Герман Мольцэр" (Hermann Molzer). Гэтак жа ён прачытваў імя людвісара на "Мелюзіне". Аднак гэтая форма з'яўляецца вынікам памылковага прачытання прозвішча людвісара О. фон Куйленшцірнам, які першы апублікаваў інфармацыю аб "Мелюзіне". Імя майстра на гармаце, якая захавалася ў музеі ў Стакгольме, вядома дакладна — Герман Мольцфельт (Herman Molzfelt). М. Брэнштэйн і пазней Б. Томас звярнулі ўвагу на памылковасць падобнага прачытання прозвішча людвісара, які стварыў "Мелюзіну": Sprawozdania Komisyi do Badania Historii Sztuki w Polsce. T. VII. 1902. S. CCIX, CCXIII; Brensztejn M. Op. cit. S. 37; Thomas B.

Des Fürsten Nikolaus Christoph Radziwill Geschützrohre aus Nieswiez // Svenska Vapenhistoriska Sällskapets Skrifter. Nya serien VI. Stockholm, 1959. S. 5–6.

44. Даўжыня, калібр і вагамер „Мелюзіны" падаюцца паводле інфармацыі на сайце Музея Арміі ў Стакгольме: http://www.digitaltmuseum.se/things/6-p-eldrr/S-AM/AM.010107. Паводле падлікаў Т. Новака, калібр 93 мм, улічваючы розніцу дыяметра ядра і калібру ствала, павінен быў адпавядаць ядру вагою 5 нюрнбергскіх фунтаў: Nowak T. Z dziejów techniki wojskowej w dawnej Polsce. S. 251.

45. Да звычайных, ці ардынарных, чвэрцькулеўрын (фальконаў, ці сокалаў) адносіліся гарматы даўжынёй 31–34 калібры вагамерам 4–7 фунтаў: Stefańska Z. Op. cit. S. 188–190.

46. Звычайныя, ці ардынарныя, вялікія фальканеты мелі 33–37 калібраў у даўжыню: Stefańska Z. Op. cit. S. 190–192.

47. Petrus J.T. Nieświeska kolekcja luf armatnich w świetle inwentarza z roku 1857 // Studia Waweliana. 1999. T. VIII. S. 115.

48. Tauroginski B. Z dziejów Nieświeża. Warszawa, 1937. S. 39.

49. Ibid. S. 26–27.

50. Bernatorwicz T. Monumenta variis Radivillorum. S. 26.

51. Thomas B. Des Fürsten Nikolaus Christoph Radziwill Geschützrohre aus Nieswiez. S. 14.

52. Brensztajn M. Op. cit. S. 31–32.

53. Kempa T. Mikołaj Krzysztof Radziwiłł Sierotka (1549–1616) — wojewoda wileński. S. 97.

54. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 312. Інвентар гармат, амуніцыі і іншай зброі ў Нясвіжскім замку. 07.08.1741 AGAD, AR, dz. XXVI, nr 376. Інвентар арсенала Нясвіжскага замка. 18.09.1749.

55. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 943. Рэестр гармат, знойдзеных у зямлі. 09.09.1819.

56. "M·D·I" (1501) замест "M·D·C·I" (1601).



# ЗАМКАВАЯ АРТЫЛЕРЫЯ Ў XVII СТ.

Артылерыйскі парк Нясвіжскага замка, сфарміраваны М.К. Радзівілам Сіроткам на мяжы XVI–XVII стст., не зазнаў істотных змен ажно да пачатку XVIII ст., калі фартэцыя была захоплена і разрабавана шведамі. Таму нясвіжскі арсенал з'яўляецца выдатным прыкладам забеспячэння бастыённай фартэцыі высакаякасным узбраеннем у XVII ст.

У першым вядомым інвентары Нясвіжскага замка за 1626 г. згадваюцца 27 баявых гармат. Усе яны былі выраблены для замка альбо трапілі ў яго арсенал, найверагодней, яшчэ пры Сіротку, які памёр у 1616 г. Апрача іх у арсенале меліся 2 састарэлыя жалезныя гарматы, 1 марціра "для вогненных ядраў" і 4 маленькія гарматы. Апошнія знаходзіліся ў княжацкім пакоі і, напэўна, не мелі баявога прызначэння, а выкарыстоўваліся для аддавання рознага кшталту сігналаў і салютаў. Да гэтага часу з замкавага арсенала ўжо зніклі дзве цяжкія гарматы "Св. Мікалай" і "Св. Крыштаф". Летам 1617 г. сыны Сіроткі на чале з Янам Юрыем Радзівілам (1588–1625 гг.), другім нясвіжскім ардынатам, прымалі ў Нясвіжы каралевіча Уладзіслава Вазу. Падчас урачыстасцей Ян Юрый падараваў каралевічу "дзве найвялікшыя гарматы"[1], якімі былі "Св. Мікалай" і "Св. Крыштаф". З гэтымі гарматамі Уладзіслаў рушыў у выправу на Маскву, спадзеючыся атрымаць царскую карону. Вядома, што ў жніўні 1618 г. гарматы прывезлі пад Мажайск для аблогі гэтай крэпасці[2]. Куды яны

падзеліся пазней, на жаль, застаецца невядомым. Акрамя таго, неўзабаве пасля смерці Сіроткі з Нясвіжскага замка былі вывезены яшчэ дзве гарматы. Так, у інвентары арсенала Біржанскага замка 1619 г. згадваюцца мольцфельтаўскія "Гідра" і "Мелюзіна". Да 1626 г. "Гідра" ўжо была вернута ў Нясвіж, а "Мелюзіна" пасля захопу Біржанскай фартэцыі шведамі ў 1625 г. была вывезена ў Стакгольм, дзе захоўваецца і сёння[3].

Цікавым з'яўляецца пытанне, чаму Ян Юрый так шчодра раздаваў гарматы з Нясвіжскага замка. Магчыма, аўтарытэт бацькі, які пакінуў велізарны след у памяці сучаснікаў, быў для яго занадта гнятлівай спадчынай. Таму ён з лёгкасцю пазбавіўся ад цяжкіх гармат "Св. Мікалай" і "Св. Крыштаф", якія нагадвалі пра Сіротку.

Паводле інвентара, складзенага ў 1636 г., у нясвіжскім арсенале ў параўнанні з 1626 г. паболела на адзін борнікелеўскі фальканет, а адна са старых жалезных гармат пайшла на матэрыял для рамонту лафетаў. У наступным інвентары, які быў складзены, хутчэй за ўсё, у 1650 г., згадваюцца 28 баявых гармат. Такім чынам, да сярэдзіны XVII ст. артылерыйскі парк Нясвіжскага замка моцна не змяніўся.

Істотна паўплывала на артылерыю Нясвіжскай фартэцыі вайна паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй 1654–1667 гг. Артылерыйскі парк, з аднаго боку, папоўніўся новымі гарматамі, звезенымі з больш слабых умацаваных пунктаў ці перададзеных войскам, а, з іншага боку, пацярпеў пэўныя страты. Вядома, што ў ліпені 1655 г. пасля адступлення з-пад Магілёва войска ВКЛ пакінула ў Нясвіжы частку сваёй артылерыі[4]. У інвентары 1656 г. падаецца дакладны пералік гэтых гармат: чатыры 6-фунтовыя, адна 5-фунтовая, тры 1-фунтовыя, адна ½-фунтовая гармата і тры марціры. Там жа пададзены рэестр снарадаў і амуніцыі. Дзякуючы інвентарам 1657–1658 гг. можна больш дакладна атрыбутаваць гэтыя гарматы. У прыватнасці, у замку з'явіліся дзве гарматы з гербам "Вуж, што паглынае дзіця", які належаў Сфорцам, "астыкоўская гармата" 1552 г. ліцця, "Камета" 1557 г., "Страла", адлітая ў Рызе ў 1583 г., а таксама дзве вялікія марціры. Апошнія, відавочна, належалі войску ВКЛ і выкарыстоўваліся пры аблозе Магілёва зімою 1654–1655 гг. Адна з гэтых марцір з гербам Жыгімонта II Аўгуста на ствале заставалася ў замку ажно да сярэдзіны XVIII ст.

Як і марціры, да артылерыі ВКЛ, як можна меркаваць па фундатарах, належалі таксама гарматы з гербам Сфорцаў вытворчасці 1537 і 1538 гг.[5] Пасля вайны 1654–1667 гг. абедзве гарматы зніклі з нясвіжскага арсенала, аднак недзе ў другой палове XVIII ст. у Нясвіж зноў трапіла гармата з гербам Сфорцаў вытворчасці 1537 г., пра якую згадвалася вышэй. Акрамя гармат, якія належалі да дзяржаўнай артылерыі, у Нясвіжскі замак у 1655 г. былі перавезены яшчэ тры аднафунтовыя гарматы з Клецка. Верагодна, іх

трэба атаясамліваць з трыма гарматамі, якія паводле інвентароў 1657–1658 гг. належалі жонцы тагачаснага ўладальніка Нясвіжа Міхала Казіміра Радзівіла (1635–1680 гг.) Кацярыне з Сабескіх (1634–1694 гг.). У тым жа 1655 г. нясвіжскі арсенал папоўніўся чатырма гарматамі з серыі "Евангелісты", якія былі выраблены для Сіроткі. Яны, аднак, не згадваюцца на працягу другой чвэрці XVII ст. у інвентарах замка і, верагодна, прызначаліся непасрэдна для гарадскіх умацаванняў Нясвіжа.

У 1655 г. маскоўскае войска разрабавала горад і не стала штурмаваць моцны бастыённы замак. Аднак ён стаў ахвярай амбіцый Багуслава Радзівіла (1620–1669 гг.) — прадстаўніка біржанскай галіны магнацкага роду. У канцы 1655 г. пад лозунгам абароны ад маскоўскага войска жаўнеры са слуцкага гарнізона Б. Радзівіла без згоды тагачаснага ўладальніка Нясвіжа занялі замак. Справа ў тым, што падчас глыбокага крызісу ўлады ў Рэчы Паспалітай, выкліканага паразамі ў вайне з Расіяй і Швецыяй, Багуслаў вырашыў утварыць уласную дзяржаву на тэрыторыі Наваградскага і Падляшскага ваяводстваў пад пратэктаратам шведскага караля. Ваеннай апорай гэтага ўтварэння павінны былі стаць магутныя фартэцыі ў Слуцку, Нясвіжы і Ляхавічах. Аднак планам амбітнага магната не было наканавана ажыццявіцца, а Нясвіжскі замак ужо на пачатку 1656 г. быў вернуты яго законнаму ўладальніку.

На гэты час у фартэцыі была сканцэнтравана найбольшая за ўсё XVII ст. колькасць гармат — ажно 47 (толькі адна з іх была няспраўнай) і 3 марціры. Такі артылерыйскі парк быў завялікі для гэтага тыпу фартэцыі, а канцэнтрацыя значнай колькасці гармат у Нясвіжы тлумачыцца імкненнем зберагчы іх ад захопу маскоўскімі войскамі ці казакамі. Частка з гармат падчас валодання замкам Б. Радзівілам была перавезена ў Мір і Слуцк. У прыватнасці, у Мірскі замак былі адпраўлены чатыры 1½-фунтовыя кругераўскія палкавыя гарматы, адна 6-фунтовая, адна 1-фунтовая, шротаўніца "Цмок", а таксама адна жалезная гармата. У сваю чаргу, у Слуцк, дзе не хапала шротаўніц, былі вывезены чатыры "Элементы". Акрамя таго, тры малыя гарматы і марціра з гербам Сіроткі былі перададзены ў вайсковы аддзел нейкага лейтэнанта Аргінса.

Пасля вяртання Нясвіжскага замка пад уладу Міхала Казіміра Радзівіла ў 1656 г. частка "трафейных" гармат была перададзена войску ВКЛ. У 1656–1657 гг. з састарэлай гарматы "Месяц", якая разарвалася падчас абароны замка ў 1655–1656 гг., былі адліты чатыры новыя гарматы ў гонар "вялікіх пракокаў"[6]. На ствалах апошніх быў змешчаны герб і інскрыпцыі М.К. Радзівіла. Гэтыя гарматы маглі быць адліты ў старой людвісарні, у якой працаваў яшчэ Г. Мольцфельт, бо паводле апісання Нясвіжскага замка 1658 г. яна ўсё яшчэ стаяла на замкавым дзядзінцы. Такім чынам,

у 1657–1658 гг. у арсенале Нясвіжскага замка мелася 32 гарматы і 2 вялікія марціры. Цікавыя звесткі аб тагачаснай нясвіжскай артылерыі знаходзім у лісце слуцкіх адміністратараў Казіміра Клакоцкага і Уладзіслава Гурына да Б. Радзівіла ад 28 мая 1659 г. Апісваючы слабасць гарнізона замка і адсутнасць запасаў правіянту, слуцкія адміністратары наракалі, што ў выпадку непрыяцельскага нападу можа быць страчана "такая добрая фартэцыя і такая значная артылерыя"[7].

Найбольш сур'ёзная небяспека над Нясвіжскім замкам навісла ў 1660 г., калі ён быў узяты ў аблогу маскоўскім войскам на чале з Сямёнам Змеевым. Аднак гераічная абарона суседняй Ляхавіцкай фартэцыі, якая затрымала асноўныя маскоўскія сілы на чале з Іванам Хаванскім, а неўзабаве і разгром непрыяцельскіх войскаў пад Палонкай 28 чэрвеня 1660 г. выратавалі Нясвіжскі замак. У выніку гэтых падзей артылерыйскі парк Нясвіжа папоўніўся на адну трафейную маскоўскую гармату, якая была адбіта пад Мірам падчас пагоні за праціўнікам. У кастрычніку 1660 г. з нясвіжскага арсенала былі выдадзены 2 гарматы і 1 марціра з неабходнай амуніцыяй для аблогі замка ў Наваградку, у якім працягваў абараняцца маскоўскі гарнізон. Пасля паспяховага завяршэння аблогі пазычаная артылерыя павінна была вярнуцца ў Нясвіж, а выдаткі на яе выкарыстанне кампенсаваны[8].

Пасля заканчэння вайны 1654–1667 гг. большасць прывазных гармат, акрамя марцір, па ўсёй верагоднасці, была вернута сваім уладальнікам. Прынамсі, у інвентарах арсенала Нясвіжскага замка апошняй чвэрці XVII ст. яны не згадваюцца. Са Слуцка вярнуліся чатыры нясвіжскія "Элементы". Такім чынам, усяго ў гэты час у фартэцыі знаходзілася 29 гармат: 4 цяжкія, 7 мольцфельтаўскіх і 6 борнікелеўскіх фальканетаў, 4 "Евангелісты", 4 "Элементы", 2 шасціфунтовыя — "Рафал" і "Міхал", 1 жалезная і 1 трафейная маскоўская гарматы. Акрамя таго, меліся яшчэ 2 марціры, з якіх адна да 1695 г. ужо знікла з нясвіжскага арсенала.

Адкуль паходзілі гарматы "Св. Міхал" і "Св. Рафал", дакладна невядома. Яны маглі быць выраблены пры М.К. Радзівіле ў нясвіжскай людвісарні альбо належаць войску ВКЛ. У прыватнасці, з інвентару 1656 г. вядома, што ў Нясвіжскім замку знаходзілася чатыры 6-фунтовыя гарматы, якія былі перададзены войскам ВКЛ[9]. Абедзве гарматы, па ўсёй верагоднасці, былі "спалены" шведамі ў 1706 г., а іх рэшткі ў выглядзе двух кавалкаў металу важылі 2950–3950 літоўскіх фунтаў (1100–1400 кг)[10].

Пэўныя змены ў артылерыі Нясвіжскага замка адбыліся напярэдадні Паўночнай вайны. Вядома, што ў 1706 г. у рукі шведаў, якія захапілі фартэцыю, трапіла 17 бронзавых і 5 жалезных гармат[11]. Гэта значыць, паміж 1695 і 1706 гг. з замка было вывезена больш за дзясятак бронзавых гармат, а замест іх паявіліся 4 жалезныя.

Месцам, куды была адпраўлена значная колькасць нясвіжскіх гармат незадоўга да шведскага нашэсця, быў, па ўсёй верагоднасці, Глускі бастыённы замак, узведзены ў другой палове XVII ст. На карысць гэтага дапушчэння сведчыць рэестр гармат, вывезеных з Глуска расійскімі войскамі на чале з генералам Валахонскім у 1707 г.[12] У ім сярод 33 гармат і 2 марцір згадваюцца 3 гарматы ліцця С. Борнікеля, 4 гарматы, на якіх стаяла імя М.К. Радзівіла Сіроткі, а таксама 4 палявыя гарматы з "радзівілаўскімі арламі". Такім чынам, паміж 1695 і 1706 гг. каля дзясятка нясвіжскіх гармат было перададзена ўладальнікам Глуска Дамініку Мікалаю Радзівілу (1643–1697 гг.) ці яго сыну Мікалаю Фаўстыну (1688–1746 гг.). Пры дапамозе гэтай артылерыі, напэўна, меркавалася ўмацаваць Глускую фартэцыю, якая ў 1685 г. перайшла да Радзівілаў клецкай лініі[13].

Прычынай аслаблення артылерыйскага парка Нясвіжскага замка з'яўлялася слабая ўвага да гэтай рэзідэнцыі з боку тагачаснага ўладальніка Караля Станіслава Радзівіла (1669–1719 гг.). Як вынікае з дзённіка магната, яго любімай сядзібай быў замак у Белай, які знаходзіўся бліжэй да тагачаснага палітычнага цэнтра Рэчы Паспалітай — Варшавы. Дарэчы, магчыма, у Белую таксама трапілі некаторыя гарматы з нясвіжскага арсенала. Паказальным у стаўленні магната да сваёй нясвіжскай рэзідэнцыі з'яўляецца той факт, што падчас прыездаў у ВКЛ К.С. Радзівіл часцей спыняўся ў Мірскім замку, чым у Нясвіжскім, хаця апошні і захоўваў статус галоўнай рэзідэнцыі роду[14].

Тым не менш некаторыя высілкі для ўмацавання Нясвіжскага замка і яго артылерыі К.С. Радзівіл усё-такі прыклаў. Пэўнай заменай для той артылерыі, што была вывезена з замка, сталі чатыры новыя жалезныя гарматы. Яны з'явіліся ў нясвіжскім арсенале незадоўга да нашэсця шведаў. Магчыма, адна з гэтых гармат была знойдзена ў 2010 г. у замкавым рове[15]. Яна мае калібр 100 мм, што адпавядае вагамеру 6 фунтаў (мал. 4.1). Але аб дакладнай атрыбуцыі згаданай гарматы пакуль казаць не даводзіцца, бо адна 6-фунтовая жалезная гармата мелася ў нясвіжскім арсенале і ў першай палове XVIII ст. Акрамя жалезных гармат, пры Каралю Станіславе было выраблена некалькі бронзавых марцір. З крыніц вядома аб адной марціры, адлітай у 1695 г.[16] Яшчэ дзве былі адліты паміж 1695 і 1698 гг.[17]

Такім чынам, цягам усяго XVII ст. артылерыйскі парк Нясвіжскага замка заставаўся амаль нязменны. Усяго ў замкавым арсенале знаходзілася каля 30 гармат рознага тыпу, чаго цалкам хапала для падтрымання абароназдольнасці замка. На складзе артылерыйскага парка істотна адбілася толькі вайна 1654–1667 гг., калі частка нясвіжскіх гармат была вывезена, а на замену ім з'явіліся іншыя. У другой палове 1655 г. у замку знаходзілася



*4.1. Жалезная гармата, знойдзеная ў замкавым рове, кан. XVII — пач. XVIII ст.*

ажно 47 гармат, адна з якіх была няспраўнай, і 3 марціры. У хуткім часе, аднак, колькасць гармат істотна зменшылася. Пэўныя змены адбыліся таксама ў канцы XVII — пачатку XVIII ст., калі пры нявысветленых абставінах каля дзясятка гармат былі вывезены з Нясвіжскага замка.

Акрамя ўласна гармат, да артылерыі адносіўся яшчэ шэраг відаў зброі, якія мелі істотнае значэнне для абароны замка ў XVII ст. Спынімся на іх апісанні больш падрабязна. З XV ст. тыповай зброяй для абароны ўмацаванняў сталі гакаўніцы, ці цяжкія стрэльбы з круком (гакам) у пачатку ствала (мал. 4.2–4.3). З-за істотнай вагі ствалоў і моцнай аддачы пры выстрале з іх было магчыма страляць толькі маючы трывалую апору (край бруствера ці байніцы, драўляную трыногу). Эфектыўная далёкасць стральбы з іх складала каля 100 м[18].

Удасканаленне тэхналогіі вытворчасці ствала, а таксама вынаходжанне кнотавага замка ў другой палове XV ст. дало моцны штуршок для далейшага распаўсюджання гакаўніц. У XV–XVI стст. яны фактычна меліся ў кожным замку. Вядома, напрыклад, што ў 1551–1565 гг. з Вільні ў памежныя замкі было разаслана 3100 гакаўніц. Да першай чвэрці XVII ст. яны заставаліся асноўнай зброяй для абароны ўмацаванняў.

Узведзены на мяжы XVI–XVII стст. Нясвіжскі бастыённы замак быў забяспечаны значным арсеналам гакаўніц. Праглядаючы інвентары нясвіжскага арсенала XVII ст., можа скласціся ўражанне, што гакаўніцы былі асноўным відам ручной агняпальнай зброі, бо па колькасці дамінавалі над іншымі відамі стрэльбаў (ручніцамі, мушкетамі і інш.) (табл. 2)[19]. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што

ў інвентарах улічвалася толькі зброя, якая непасрэдна захоўвалася ў замкавым арсенале, а жаўнеры, якіх наймалі для абароны фартэцыі, мелі ўласныя стрэльбы.



4.2. *Гакаўніцы і ручніца, пач. XVI ст.*

Паводле інвентару 1626 г. у замкавым арсенале налічвалася 105 спраўных гакаўніц. Гэта была аптымальная колькасць для такога тыпу фартэцыі. Для параўнання, у суседнім Мірскім замку ў 1636 г. мелася 56 гакаўніц, 20 "меншых" гакаўніц, 8 гакаўнічных і 15 паўгакаўнічных ствалоў, 15 "кабыл", ці старасвецкіх пулгакаў (паўгакаўніц)[20]. Значна павялічылася колькасць гэтай зброі падчас вайны 1654–1667 гг., калі ў Нясвіжскі замак было прывезена шмат стрэльбаў з іншых замкаў. Так, з Клецка ў 1655 г. у Нясвіж было перададзена 50 гакаўніц.

Трэба ўлічваць, што перадача ўзбраення ў Нясвіжскі замак была выклікана не столькі імкненнем да яго ўмацавання, колькі жаданнем захаваць зброю ад непрыяцеля. На той час гакаўніцы ўжо з'яўляліся даволі архаічнай зброяй, а жаўнеры нясвіжскага гарнізона былі ўзброены пераважна мушкетамі. Вядома, што ў другой палове 1655 г. з Нясвіжа ў Мір было выслана 10 гакаўніц разам з 400 кулямі. У Нясвіжскім замку на той час засталося больш за 200 гакаўніц і толькі 600 куль. Адсюль можна зрабіць высновы, што для іх спецыяльна не рабіўся вялікі запас куль, бо, верагодна,



4.3. *Стральба з цяжкай гакаўніцы, пач. XVI ст.*

*4.4. Гакаўніца са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, XVI–XVII стст.*



не меркавалася весці частую стральбу. Хаця гакаўніцы і саступалі па зручнасці мушкетам, іх не спяшаліся спісваць з рахункаў да канца XVII ст. Вядома, што паміж 1681 і 1693 гг. 124 гакаўніцы атрымалі новыя ложы. А ў 1706 г. шведы палічылі патрэбным гэтую зброю паламаць і патапіць у рове, каб пазней яе нельга было выкарыстаць. Фактычна тады быў знішчаны ўвесь арсенал гакаўніц Нясвіжскага замка.

Дзякуючы знаходкам ствалоў гакаўніц альбо іх фрагментаў у рове Нясвіжскага замка цягам апошніх гадоў можна зрабіць пэўныя высновы аб іх асаблівасцях. У прыватнасці, стала вядома, што калібр гакаўніц складаў каля 20 мм (мал. 4.4–4.7). Гэта дазваляе аднесці іх да тыпу звычайных гакаўніц паводле класіфікацыі XV–XVI стст. Аднак у XVII ст. прынцыпы класіфікацыі, відаць, зазналі пэўныя змены, бо немец, які складаў інвентар 1656 г., залічыў іх да г.зв. падвойных гакаўніц (ням. *Dopelhaken*). У XVII ст. толькі нязначная частка гэтых стрэльбаў мела простыя кнотавыя замкі, а большасць, па ўсёй верагоднасці, не мела замкоў увогуле. З гакаўніц без замкоў стралялі, запальваючы зарад проста кнотам з рукі. З інвентара 1693 г. таксама вядома, што новыя драўляныя ложы гакаўніц былі пафарбаваны ў чырвоны альбо белы колер.

Спецыфічным відам артылерыі з'яўляліся арганы (мал. 4.8–4.9). Гэта была шматствольная зброя, залп з якой мог нанесці вялікія страты і пасеяць паніку ў шэрагах нападнікаў. Арганы, якія выкарыстоўваліся ў радзівілаўскіх фартэцыях (Нясвіж, Слуцк, Алыка) у XVII ст., уяўлялі сабою двухколыя вазкі, на якіх мацавалася 3–5 гакаўнічных, а пазней 5–9 мушкетных ствалоў. Іх было выгадна выкарыстоўваць у вузкіх, а таксама найбольш небяспечных месцах, прыкладам, у браме ці на фланках бастыёнаў. Так,




*4.5–4.6. Фрагмент гакаўніцы, знойдзенай у замкавым рове. Прыцэльныя планкі, месца злому ствала.*

у 1698 г. у Алыцкім замку на двух бастыёнах стаялі ўсе наяўныя шэсць адзінак[21]. У 1626 г. у Нясвіжскім замку знаходзіўся ўсяго адзін арган, які меў 4 ствалы. Ужо ў 1636 г. на арганы, колькасць якіх невядомая, было пастаўлена 15 гакаўнічных ствалоў. У інвентарах 1657–1658 гг. згадваюцца 5 вазкоў для арганаў з акаванымі восямі. У 1681 г. у замкавым цэйхгаўзе мелася 3 вазкі без колаў і 1 — такі ж на "босых", ці неакаваных, колах. На арганах было ўсталявана 36 мушкетных ствалоў. Паводле інвентара 1693 г. іх колькасць зменшылася: вазкоў засталося ўсяго 2, на якіх знаходзілася 11 кароткіх мушкетных ствалоў. Гэты від зброі працягваў ужывацца і ў XVIII ст. У прыватнасці, у Нясвіжскім замку ў 1760-х гг. меўся адзін дзесяціствольны арган.



*4.7. Фрагмент гакаўніцы, знойдзенай у замкавым рове. Панёўка для пораху.*





*4.8–4.9. Арган, 1678 г.*
*Арган, 1809 г.*

У 1655 г. у Нясвіжскі замак разам з іншым узбраеннем войска ВКЛ упершыню трапілі ручныя гранаты ў колькасці 170 штук. Крыху пазней 30 гранат перадалі ў Мірскі замак, а астатнія так і засталіся ў Нясвіжы. Змяншэнне колькасці да 110 штук у 1657 г. сведчыць аб іх выкарыстанні, у прыватнасці, падчас нападу казакоў у той год. Паводле спісу выдаткаў на абарону замка ў 1655–1660 гг. на закупку гранат (сярод якіх, напэўна, былі і ручныя), а таксама іншага ваеннага рыштунку было выдаткавана 700 злотых[22]. Да 1681 г. запас гэтага віду зброі быў істотна папоўнены: да 85 запраўленых порахам гранат дадаліся яшчэ 167 незапраўленых. Істотнае павелічэнне запасаў сведчыць аб узрастанні ролі гранат пры абароне ўмацаванняў у другой палове XVII ст. Асаблівы выгадным было іх выкарыстанне ў актыўнай фазе штурму, калі непрыяцель спрабаваў узлезці на валы (мал. 4.10).

1. Pamiętniki Samuela Maskiewicza, początek swój biorą od roku 1594 w lata po sobie idące. Wilno, 1838. S. 102–103.
2. Sobieski J. Diariusz ekspedycyjej moskiewskiej dwuletniej królewicza Władysława 1617–1618 / Oprac. J. Byliński, W. Kaczorowski. Opole, 2011. S. 66.
3. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 19. Рэестр гармат і іншых рэчаў у біржанскім цэйхгаўзе. 1619; AGAD, AR, dz. XXVI, nr 125. Рэестр гармат біржанскай фартэцыі. Б.д. Гэты інвентар быў складзены да 1626 г., калі “Гідра” ўжо знаходзілася ў Нясвіжскім замку.
4. Wisner H. Janusz Radziwiłł 1612–1655: wojewoda wileński, hetman wielki litewski. Warszawa, 2000. S. 190.
5. У інвентарах 1657 г. пазначана, што адна з гармат з гербам Сфорцаў была адліта ў 1532 г. Аднак у апісанні Нясвіжскага замка 1658 г. тая ж самая гармата датавана 1537 г. Датаванне гарматы 1532 г., на нашу думку, у інвентарах 1657 г. было вынікам памылковага прачытання даты.



*4.10. Выкарыстанне ручных гранат пры абароне ўмацаванняў. Гравюра “Штурм Прагі ў 1648 г.”*

6. Чатыры вялікіх пракокі са Старога запавета: Ісая, Ерамія, Езекііл і Данііл.
7. AGAD, AR, dz. V, nr 6865. К. Клакоцкі і У. Гурын да Б. Радзівіла. Раманава, 28.05.1659.
8. AGAD, AR, dz. II, nr 1427. Рэверс Наваградскага ваяводства, дадзены нясвіжскаму губернатару Лукашу Тыбароўскаму на дзве пазычаныя гарматы і адну марціру. 14.10.1660.
9. Т. Бернатовіч сцвярджае, што яны былі выраблены ў 1599 г., аднак у апісанні замка 1658 г., на якое ён спасылаецца, інфармацыя аб іх адсутнічае. З пазнейшых інвентароў вядома, што гэтыя гарматы знаходзіліся ў замку ў апошняй чвэрці XVII ст.: Bernatowicz T. Monumenta variis Radivillorum. S. 25.
10. Для параўнання, паводле Д. Уфана бастардавая чвэрцькулеўрына вагамерам 6 фунтаў і даўжынёй 29 калібраў важыла 24 іспанскіх цэнтнеры (1106 кг), а актава-картауна такім жа вагамерам і даўжынёй 27 калібраў — 21 іспанскі цэнтнер (968 кг): Uffan D. Op. cit. S. 14, 19.
11. Adlerfeld G. Op. cit. S. 230.
12. AGAD, AR, dz. VII, nr 645. Спецыфікацыя спіжовых гармат, забраных у Глуску генералам Валахонскім у 1707 г. Дакумент падпісаны Мікалаем Фаўстынам Радзівілам, тагачасным уладальнікам Глуска. Захавалася копія гэтага рэестра, магчыма, больш ранняя. У ёй замест Глуска памылкова ўпісаны Слуцк, а таксама прыводзіцца меншая колькасць гармат: AGAD, AR, dz. XXVI, nr 155. Спецыфікацыя спіжовых гармат, забраных у Глуску генералам Валахонскім у 1707 г.
13. Lietuvos mokslų akademijos biblioteka (далей — LMAB), f. 18, nr 145. Транзакцыі паміж Сапегамі і Агінскімі па маёмасці, якая засталася ад Глябовічаў. 1581–1760. С. 59–61.
14. AGAD, AR, dz. VI, nr II-79. Дыярыуш К.С. Радзівіла. 1689–1718.
15. Мяцельскі А.А. Знаходкі агнястрэльнай зброі ў Нясвіжскім замку // Беларускі гістарычны часопіс. 2011. № 2. С. 43–44.

16. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 169. Рэестр гармат Нясвіжскага замка, якія былі забраны шведамі ў 1706 г., закапаны ў Лахве, а ў 1717 г. выцягнуты з вады і прывезены ў Нясвіж. 1717.

17. Дзве марціры, пазначаныя 1659 г., з інскрыпцыямі падканцлера ВКЛ К.С. Радзівіла, згадваюцца ў рэестры гармат, вывезеных з Нясвіжа ў 1771 г.: AGAD, AR, dz. VII, nr 645, s. 8. Канатацыя гармат, забраных з Нясвіжскага замка. 03.04.1771. У дадзеным выпадку, відавочна, памылкова была перапісана дата вырабу гармат.

18. Szymczak J. Op. cit. S. 303.

19. Пры аналізе інвентароў Нясвіжскага замка XVII ст. улічваецца толькі зброя, складзеная ў цэйхгаўзе.

20. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 51. Спісанне рэчаў у мірскім скарбцы. 1636.

21. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 773. Рэестр гармат і амуніцыі, якія знаходзяцца ў Алыцкім замку. 01.01.1698.

22. AGAD, AR, dz. II, nr 1433. Сума выдаткаў на абарону Нясвіжа з 1 лютага да 31 ліпеня 1660 г.

# ЗАБЕСПЯЧЭННЕ АРТЫЛЕРЫІ

Імклівы рост значэння артылерыі і агняпальнай зброі для абароны ўмацаванняў у эпоху ранняга Новага часу выклікаў неабходнасць будаўніцтва на тэрыторыі фартэцый спецыяльных будынкаў — цэйхгаўзаў, ці арсеналаў, якія прызначаліся для захавання зброі, снарадаў і патрэбнага для артылерыі рыштунку. Вакол іх засяроджвалася ўся дзейнасць, звязаная з наглядам і направай зброі.

Ужо на першым этапе будаўніцтва Нясвіжскага замка ў канцы XVI — пачатку XVII ст. на яго дзядзінцы быў узведзены мураваны цэйхгаўз, які добра бачны на вядомым малюнку Т. Макоўскага. Гэта быў выцягнуты ўздоўж паўночна-ўсходняй курціны аднапавярховы будынак. Паводле інвентароў 1658 і 1673 гг.[1], у ім было пяць вокнаў, закрытых кратамі, і двое варот з боку дзядзінца. Унутраная прастора цэйхгаўза, верагодна, не была падзелена і ўтварала адно вялікае памяшканне, у якім захоўвалася артылерыя, рыштунак для яе і рознага кшталту зброя. Падлога была выкладзена дылямі, сцяна з боку вала зашыта тарчыцам, ці дошкамі, а столь перакрыта бэлькамі. На паддашша, якое выкарыстоўвалася для захавання рэчаў неваеннага характару, можна было трапіць па лесвіцы ўнутры арсенала, а таксама па спецыяльным пераходзе з боку вала. Двухсхільны дах цэйхгаўза быў накрыты гонтамі. У 1706 г. разам з іншымі будынкамі арсенал быў спалены, а падчас адбудовы рэзідэнцыі ў першай пало-



*5.1. Паўночны корпус палаца, на першым паверсе якога ў XVII–XVIII стст. размяшчаўся арсенал.*

ве XVIII ст. значна перабудаваны і ў зменены выглядзе захаваўся да сённяшняга часу (мал. 5.1).

У мірны час большасць гармат захоўвалася ў цэйхгаўзе. Яны ставіліся пасярэдзіне памяшкання, у той час як уздоўж сцен складваліся снарады, рыштунак і агняпальная зброя. Гарматныя ядры большага памеру звычайна складваліся ў піраміды, ці грамады, меншыя ядры маглі змяшчацца ў скрыні і бочкі. У інвентары 1636 г. згадваецца пра 23 новыя скрыні з замкамі, у якіх захоўваліся ядры. Пад столь падвешваліся канаты, кноты для зброі, а таксама спецыяльныя вагі для ўзважвання гарматных ствалоў. Акрамя таго, у цэйхгаўзе знаходзілася шмат іншага рыштунку і інструментаў, неабходных для абслугоўвання і направы гармат.

Да другой чвэрці XVIII ст. пушкары, якія абслугоўвалі замкавую артылерыю, вербаваліся падчас ваеннай небяспекі і не належалі да пастаяннага гарнізона (мал. 5.2). Гэта вынікала з агульнай канцэпцыі абароны замка, які зусім не меў сталага падраздзялення жаўнераў. У выпадку ваеннай пагрозы фартэцыю меркавалася абараняць сіламі ваеннаабавязаных зямян, выбранцаў і стральцоў, а таксама найманых атрадаў. Пушкары фактычна былі своеасаблівымі рамеснікамі, якіх наймалі на пэўны тэрмін. Як можна мер-



*5.2. Гарматная батарэя ў абарончым лагеры, узведзеным у Рэчыцы ў 1649 г. Muzeum Wojska Polskiego (далей — MWP), 16613.*

каваць па ўрыўкавых звестках крыніц, у першай чвэрці XVII ст. на сталым утрыманні ў Нясвіжскім замку знаходзіўся толькі адзін замкавы пушкар Давід Бухольц, які выконваў функцыі цэйгварта, ці загадчыка цэйхгаўза. Ужо пад канец XVII ст., з 1690 да 1694 г., у замку служыла ад 1 да 3 пушкароў (Мікалай, Васіль і Іван Раманішка). Мяркуючы па іх нізкіх заробках, а таксама па мясцовым паходжанні, гэта былі спецыялісты нізкай кваліфікацыі, на ўтрыманні якіх уласнік усяляк ашчаджаў[2]. У мірны час Радзівілы маглі ўвогуле адмаўляцца ад утрымання пушкароў. Гэта, відавочна, негатыўна адбівалася на абароназдольнасці фартэцыі, бо, прыкладам, напярэдадні Паўночнай вайны ў 1700 г. у замку не было аніводнага пушкара[3].

Сітуацыя мянялася ў ваенны час, калі камендант замка быў вымушаны вербаваць неабходную колькасць пушкароў для абслугоўвання артылерыі. Падчас вайны 1654–1667 гг. у Нясвіжскім замку служыла 4–5 пушкароў, для якіх на дзядзінцы паблізу заходняга бастыёна быў спецыяльна пастаўлены драўляны будынак. У канцы 1655 г. разам з больш чым 250 жаўнерамі слуцкага гарнізона Б. Радзівіла ў замак увайшлі пяць пушкароў: Рудольф Вебер, Андрэс Хал, Генрых Фельш, Генрых фон Фер і Міхель Гірш[4].

Па прозвішчах пушкароў можна зрабіць выснову, што яны былі завербаваны магнатам недзе на нямецкамоўных землях і высланы ў Слуцк, а з яго — у Нясвіж. Згодна з дакументальнымі матэрыяламі па Слуцку, практыка вярбоўкі прафесійных пушкароў-немцаў дамінавала прынамсі да канца XVII ст. Напэўна, такім жа чынам шукалі пушкароў і для Нясвіжскага замка. Ускосныя звесткі сведчаць, што пушкароў падчас вайны 1654–1667 гг. у замку было не больш за 5 чалавек. Так, у інвентары нясвіжскага скарбца 1658 г. згадваецца аб пяці бандальерах, ці паясах са спецыяльнымі мяшэчкамі для пораху, якія знаходзіліся ў пушкароў[5]. Вядома, што ў найбольш цяжкі для фартэцыі час — з лютага па ліпень 1660 г., у ёй служыла 4 пушкары[6]. Улічваючы, што ў замку на той час мелася 32 гарматы і 2 марціры, на кожнага пушкара прыходзілася па 8–9 гармат. Напэўна, у пушкароў меліся памочнікі, ці хандлагеры, таму колькасць задзейнічаных людзей была большая. Для параўнання, у 1685 г. у Слуцку служыла 7 пушкароў і 3 памочнікі, у веданні якіх знаходзілася 2 марціры, 44 бронзавых і 5 жалезных гармат[7]. Паколькі хуткастрэльнасць тагачаснай артылерыі была абмежаваная, дык адзін пушкар адначасова мог займацца некалькімі гарматамі. Да таго ж трэба ўлічваць, што стральба не вялася адначасова ва ўсіх напрамках. Падчас варожага нападу пушкары, найверагодней, упраўляліся толькі з гарматамі, расстаўленымі на тых напрамках, адкуль здзяйсняўся напад. Так ці інакш, на маю думку, 4–5 пушкароў у ваенны час не былі здольны абслугоўваць усю наяўную ў Нясвіжскім замку артылерыю, а іх недастатковая колькасць шмат у чым вызначалася абмежаванымі фінансавымі магчымасцямі і складанасцямі пры вярбоўцы.

Паводле інвентару 1626 г., замкавы пушкар Д. Бухольц, як ужо згадвалася, таксама выконваў функцыі цэйгварта. Гэтая пасада, верагодна, існавала ад моманту ўзвядзення замка да другой чвэрці XVII ст. Па звестках пазнейшых інвентароў, ключы ад цэйхгаўза захоўваліся ў гараднічага Нясвіжскай фартэцыі, які адказваў за ўсю маёмасць, якая захоўвалася ў замку. Ліквідацыя пасады цэйгварта, як і адмова ад утрымання пушкароў у мірны час, была звязана з эканоміяй сродкаў. Асноўнай задачай цэйгварта было захаванне артылерыі, ручной агняпальнай зброі, амуніцыі і пораху. Пры неабходнасці цэйгварт павінен быў рамантаваць зброю і гарматы альбо даручаць гэтую справу рамеснікам. Як дасведчаны пушкар, ён мусіў вырабляць і запраўляць рознага кшталту "агністыя" снарады і бомбы для гармат. У выпадку недахопу рыштунку ці матэрыялаў для вырабу боепрыпасаў і направы зброі ў абавязкі цэйгварта ўваходзіла своечасовае інфармаванне аб гэтым камендданта альбо ўладальніка замка. Падчас ваеннай небяспекі цэйгварт павінен быў пастаянна знаходзіцца ў замку і пры патрэбе выдаваць абаронцам неабходную амуніцыю[8].

У абслугоўванні артылерыі былі задзейнічаны рамеснікі розных спецыяльнасцей. Іх колькасць залежала ад памераў артылерыйскага парка і заможнасці гаспадара. Так, у 1656 г. у Нясвіжы згадваюцца толькі цясляр і каваль, праца якіх была найбольш запатрабавана, асабліва пры направе гарматных лафетаў[9]. Вядома, што выдатнага каваля, які акоўваў лафеты, меў сярод сваіх замкавых рамеснікаў Сіротка[10]. Выраб пораху і рознага кшталту снарадаў мог даручацца феерверкеру, які з'яўляўся спецыялістам у працы з порахам. Так, у канцы 1655 г. у Нясвіжскі замак са Слуцка разам з пяццю пушкарамі быў накіраваны феерверкер Аляксандр Краўс. Як бачым, рамеснікаў, якія займаліся непасрэдна направай зброі ў Нясвіжскім замку, было няшмат. Выхадам з гэтай сітуацыі была распаўсюджаная практыка, якая заахвочвалася гаспадарамі. Пушкары сумяшчалі сваю службу з якім-небудзь рамесніцкім заняткам, звязаным з наглядам і направай зброі. Іншым варыянтам была перадача заказаў на выраб ці направу зброі і амуніцыі гарадскім рамеснікам. Апошнім, напрыклад, часта накіроўваліся заказы на выраб пораху.

Асноўным відам артылерыйскай амуніцыі былі гарматныя ядры. Большасць гармат страляла літымі жалезнымі (чыгуннымі)[11] ядрамі, якія спецыяльна закупляліся для нясвіжскага арсенала. На выпадак, калі б жалезныя ядры пэўнага памеру скончыліся, меўся запас свінца і прылады для ліцця ядраў. Свінец мае ніжэйшую тэмпературу плаўлення, чым жалеза, што робіць працэс адлівання ядраў з яго прасцейшым. Аднак свінец мае і шэраг істотных мінусаў: па-першае, ён больш мяккі за жалеза, а па-другое, нашмат даражэйшы. У інвентарах 1626 і 1636 гг. згадваецца аб васьмі бронзавых формах для ліцця, а ў інвентарах 1657, 1658 і 1681 гг. фігуруюць шэсць бронзавых форм з жалезнымі рукаяцямі для ліцця "вялікіх і малых" ядраў. Таксама ў інвентарах 1657–1658 гг. згадваецца пра дзве жалезныя лыжкі для адлівання ядраў для лёгкіх гармат. Трэба, аднак, адзначыць, што свінец у асноўным прызначаўся для вырабу куль для стрэльбаў.

Вышэй згадвалася, што аднымі з першых пры Сіротку былі адліты восем гармат, якія стралялі каменнымі ядрамі. Іх істотнай перавагай была даступнасць матэрыялу: ядры можна было вырабляць нават з камянёў, сабраных у бліжэйшым наваколлі. Запас каменных ядраў фігуруе ў інвентарах нясвіжскага арсенала цягам усяго XVII ст. Толькі напрыканцы гэтага стагоддзя ад іх цалкам адмовіліся, і яны знікаюць са старонак інвентароў.

У большасці апісанняў нясвіжскага арсенала можна знайсці спробы класіфікацыі гарматных ядраў, што дае дадатковую магчымасць для характарыстыкі артылерыйскага парка Нясвіжскага замка. Напрыклад, у апісаннях 1626 і 1636 гг. згадваюцца "вялікія і малыя" ядры. Такі, на першы погляд, няпэўны падзел, як пабачым

далей, меў пад сабой падставы. Па інвентарах 1657–1658 гг. усе ядры былі падзелены на тры групы: ядры для цяжкіх гармат, ядры для лёгкіх гармат і гакаўніц і каменныя ядры. Атрымліваецца, што цягам першай паловы XVII ст. ядры для лёгкіх гармат і кулі для гакаўніц вагою ад 0,1 да 6 фунтаў (дыяметрам ад 2 да 9 см), а таксама ядры для цяжкіх гармат вагою ад 18 да 24 фунтаў (дыяметрам ад 131 да 145 мм) захоўваліся разам. Падчас ваеннай небяспекі, калі гарматы расстаўляліся на бастыёнах і валах, да іх пры дапамозе спецыяльных прылад падбіраліся адпаведныя ядры, якія разам з іншым рыштункам складваліся непасрэдна ля гармат. У інвентары 1636 г. згадваецца 25 цыркуляў, з дапамогай якіх вызначалі дакладны памер ядраў. Аб трываласці такога падзелу ў першай палове — сярэдзіне XVII ст. сведчыць аналагічны падзел форм для ліцця ядраў, шуфлёў і шпунтоў для гармат, а таксама банак для шроту на “вялікія і малыя”, альбо “большыя і меншыя”.

Дакладны падзел жалезных ядраў па вазе быў уведзены з сярэдзіны XVII ст. і адлюстраваны ў інвентарах 1656, 1681 і 1693 гг. (табл. 3–5). У апісаннях 1656 і 1693 гг. была зроблена спроба дакладна падзяліць ядры па вазе, прычым у 1693 г. для гэтага выкарыстоўваліся восем спецыяльных тонкіх жалезных форм-узораў. Градацыя ядраў, зробленая ў 1693 г., была выклікана, відавочна, імкненнем адсартаваць усе ядры па пэўным аднастайным прынцыпе. Аднак ён не паказваў фактычную вагу ядраў: напрыклад, 4-фунтовыя ядры, якія згадваюцца ў інвентары 1681 г., у 1693 г. былі занесены ў 6-фунтовыя і г.д. Найбольш дакладна, на нашу думку, фактычную вагу ядраў дэманструе інвентар 1656 г., дзе ўказана дакладная градацыя ядраў малой вагі. Градацыя 1693 г. выглядае нацягнутай і прыстасаванай для патрэб тагачаснай артылерыі. З’яўленне падзелу ядраў на 1, 3, 6, 12 і 24 фунты звязана з імкненнем мадэрнізаваць і адаптаваць артылерыю адпаведна тагачасным тэндэнцыям у ваеннай справе. Так, у Прусіі пераход на падобную сістэму адбыўся ў 1680-я гг.[12] Яна, як пабачым далей, будзе дамінаваць у артылерыі Нясвіжскага замка цягам усяго XVIII ст.

Найлепш узгадняюцца паміж сабой дадзеныя па ядрах для цяжкіх гармат з інвентароў 1656 і 1693 гг. Колькасць ядраў для 24-фунтовых гармат у абодвух выпадках абсалютна аднолькавая — 325 (па 162–163 на гармату). Для дзвюх іншых цяжкіх гармат у 1656 г. мелася па 393 ядры, у 1681 г. — 314, а ў 1693 г. — 385 (157–197 на гармату). Дакладна можна сцвярджаць, што 868 каменных ядраў, пра якія згадвае інвентар 1681 г., прызначаліся для васьмі “каменных” гармат, г.зн. па 108–109 ядраў на кожную. А вось з гарматамі меншых калібраў забяспечанасць ядрамі можна вызначыць даволі ўмоўна. Напрыклад, не зразумела, адкуль у Нясвіжскім замку з’явіўся значны запас 12-фунтовых ядраў

(у 1656 г. — 248, у 1693 г. — 200), бо ў фартэцыі не было блізкіх па вагамеры гармат. Найбольш верагодна, што гэта была частка амуніцыі артылерыі ВКЛ, звезенай у замак у 1655 г. Агульная колькасць ядраў для гармат калібрам ад ½ да 6 фунтаў у 1656 г. складала 5968 адзінак (з улікам ядраў, якія належалі артылерыі ВКЛ), у 1681 г. — 2755, а ў 1693 г. — 3624. Прыведзеныя дадзеныя дазваляюць сцвярджаць, што калі з цяжкіх гармат стралялі мала, то лёгкія выкарыстоўваліся даволі актыўна. Забяспечанасць лёгкіх гармат ядрамі выглядае наступным чынам: у другой палове 1655 — пачатку 1656 г. (з улікам прывезенай артылерыі) на кожную спраўную гармату прыпадала па 138–139 ядраў (усяго 43 гарматы), у 1681 г. — па 110–111 ядраў (усяго 25 гармат), а ў 1693 г. — па 144–145 ядраў (усяго 25 гармат).

Для ацэнкі забяспечанасці нясвіжскай артылерыі ядрамі прывядзём шэраг прыкладаў. Паводле інвентару 1656 г., у Мірскі замак было перададзена 5 палявых гармат вагамерам 1–1½ фунта і 300 ядраў для іх, ці па 60 на кожную. Іншы прыклад таксама сведчыць, што 50–60 ядраў у XVII ст. былі стандартным мінімальным запасам для адной гарматы. У лістападзе 1659 г. для аблогі Боўскай фартэцыі з Біржанскага замка былі выдадзены тры 6-фунтовыя гарматы і 150 ядраў да іх, а ў студзені 1661 г. адтуль жа для аблогі Віленскага замка былі накіраваны дзве паўкартауны са 100 ядрамі[13]. Такім чынам, нясвіжская артылерыя, дзе на адну гармату мелася па 100–150 ядраў, была даволі добра забяспечана. Урэшце пра “дастатак вялікіх і малых ядраў” наўпрост пішацца ў інвентарах 1626 і 1636 гг.

Апрача звычайных ядраў у нясвіжскім арсенале меліся снарады іншага кшталту. У інвентары 1636 г. згадваецца пра два жалезныя “агністыя” ядры, ці бомбы, для стральбы якімі ў першай палове XVII ст. мелася спецыяльная марціра. Верагодна, гэтыя два ядры варта атаясамліваць з дзвюма вялікімі літымі жалезнымі бомбамі, якія фігуруюць у інвентарах 1657–1658 гг. У мірны час гэтыя снарады захоўваліся незапраўленымі. Непасрэдна перад стральбой пушкар насыпаў унутр порах і ўстаўляў кнот. На іх корпусе мелася спецыяльнае вуха, за якое чаплялі вяроўку ці крук для ўкладання бомбы ў марціру. Акрамя дзвюх вялікіх бомб, у нясвіжскі арсенал разам з боезапасам літоўскай артылерыі ў 1655 г. прывезлі 7 бомбаў, якія прызначаліся для марцір, пакінутых войскам ВКЛ у замку.

Іншы тып снарадаў прадстаўляюць смаляныя “агністыя” ядры, якія выкарыстоўваліся для запальвання абарончых умацаванняў ці лагера праціўніка. Гэтыя былі ядры, абмотаныя вяроўкай і аблітыя смалой. Такога кшталту снарады актыўна выкарыстоўваліся ў часы Стэфана Баторыя (1533–1586 гг., кароль Рэчы Паспалітай з 1575 г.) і былі своеасаблівым папярэднікам бомбаў. Цягам усяго XVII ст. у нясвіжскім цэйхгаўзе захоўвалася адно вялікае сма-

ляное ядро, якім, як і дзвюма вялікімі бомбамі, так ніколі і не скарысталіся. У 1657 г. згадваюцца таксама сем меншых смаляных "агністых" ядраў, шэсць з якіх захаваліся да 1693 г. Цяжка сказаць дакладна, стралялі гэтымі снарадамі з цяжкіх гармат ці марцір.

Эфектыўным сродкам знішчэння жывой сілы праціўніка падчас актыўнага штурму фартэцыі былі карцечныя, ці шротавыя, снарады. У XVII ст. ужываліся драўляныя карцечы. Асновай такога снараду была драўляная банка (карцеч), выробленая на такарскім станку. Яна напаўнялася кавалкамі сечанага жалеза (глотам) ці свінцовымі кулямі і накрывалася спецыяльнай накрыўкай. Пасля вылету з гарматы карцечная банка разрывалася, знішчаючы варожых жаўнераў. Карцечныя снарады пачалі выкарыстоўвацца з другой паловы XVII ст. У інвентары 1681 г. згадваецца пра 70 карцечаў рознага калібру, а ў інвентары 1693 г. фігуруюць 94 карцечы, запраўленыя шротам.

Колькасць тых ці іншых снарадаў, відавочна, уплывала на абароназдольнасць фартэцыі, аднак ключавым рэсурсам з'яўляўся порах. Калі пораху было мала, у выніку недагляду ён псаваўся, альбо ворагу ўдавалася з дапамогай дыверсіі ці бамбардзіравання знішчыць усе запасы, абаронцам не заставалася нічога іншага, як капітуляваць. Спадзявацца на вядзенне паспяховай абароны без пораху не выпадала. Таму ў Нясвіжскім замку для захавання пораху была збудавана спецыяльная мураваная парахоўня. Склад з гэтым надзвычай небяспечным рэчывам адмыслова пабудавалі каля брамы, як мага далей ад палацаў і арсенала, каб у выпадку выбуху гэтыя будынкі былі найменш пашкоджаны. Значная частка парахоўні была схавана ў земляным вале, што абараняла яе на выпадак бамбардзіравання. З боку дзядзінца меліся жалезныя дзверы і трое вокнаў для вентыляцыі паветра. Цікава, што ў 1657 г. ва ўмовах ваеннай небяспекі парахоўня была цалкам замуравана.

Большая частка пораху захоўвалася менавіта ў парахоўні — найбольш бяспечным для яго месцы. Порах ссыпалі ў барылы — спецыяльныя невялікія бочкі. Хаця ў інвентары 1656 г. згадваецца, што барылы былі розных памераў, можна вызначыць, што ў XVII ст. у сярэднім у адну барылу змяшчалася 130–150 літоўскіх фунтаў (49–56 кг) пораху[14]. Адносна невялікая вага барылаў рабіла зручным іх перамяшчэнне. Для параўнання, салетру, якая ішла на выраб пораху, захоўвалі ў значна большых бочках, куды змяшчалася па 640–770 літоўскіх фунтаў (240–289 кг)[15].

Для забеспячэння доступу да пораху ў выпадку пільнай неабходнасці некалькі бочак знаходзіліся па-за парахоўняй, у іншых памяшканнях фартэцыі. Прыкладам, у 1657 г. у парахоўні захоўвалася 31 барыла пораху, у той час як у лёхах пад палацам меліся па 2 няпоўныя бочкі і барылы, а ў галерэі ля цэйхгаўза — яшчэ 2 поўныя барылы і 2 няпоўныя бочкі. Такім чынам, нават падчас

вайны па-за межамі парахоўні знаходзілася не больш за 1/5 частку ўсяго пораху, які меўся ў фартэцыі.

Інвентары дазваляюць вызначыць аб'ёмы пораху, які захоўваўся ў парахоўні Нясвіжскага замка цягам XVII ст. (табл. 6). Дастатковым для забеспячэння абароназдольнасці фартэцыі запасам, верагодна, лічылася 20–30 барылаў (каля 1–1,5 тоны). Найбольшая колькасць пораху была назапашана падчас вайны 1654–1667 гг., у прыватнасці, на пачатку 1656 г. у парахоўні мелася 31 барыла вагою 3336 нюрнберскіх фунтаў (1700 кг). Акрамя таго, у замку быў пакінуты порах, які належаў артылерыі ВКЛ, а менавіта 60 барылаў (каля 3150 кг). Для ацэнкі памераў парахавога магазіна Нясвіжскага замка прывядзём шэраг прыкладаў. У Ляхавіцкай фартэцыі ў 1658 г. мелася 5915 літоўскіх фунтаў (2217 кг) пораху[16], у Біржанскім замку ў 1663 г. — 5640 літоўскіх фунтаў (2114 кг)[17]. Пры гэтым параўнанні, аднак, трэба ўлічваць, што і па сістэме фартыфікацый, і па складзе артылерыі фартэцыі ў Ляхавічах і Біржах былі мацнейшыя за Нясвіжскі замак.

Паводле Д. Уфана, на адзін стрэл з 24-фунтовай паўкартауны неабходна было 16 фунтаў "простага" пораху ці 12 фунтаў "найлепшага"[18]. Тут маецца на ўвазе падзел пораху на гарматны і рушнічны, ці мушкетны. Апошні гранулявалі, таму ён быў больш моцны і яго патрабавалася менш. Розніца гарматнага і рушнічнага пораху была такой, што куля з мушкета ад гарматнага пораху вылятала ледзьве на 10 м, а рушнічны порах узрываў гармату. На жаль, невядома, якая колькасць таго ці іншага віду пораху захоўвалася ў Нясвіжскім замку, аднак згадкі пра абодва часта сустракаюцца ў інвентарах.

Практыка радзівілаўскіх пушкароў адрознівалася ад прапанаваных тэарэтыкам лічбаў. У інструкцыях для пушкароў Біржанскага замка 1638 і 1663 гг. фігуруюць наступныя дадзеныя: для набівання 24-фунтовай гарматы было неабходна 9 фунтаў пораху, 12-фунтовай — 4,5 фунты, 6-фунтовай — 3 фунты, 4 фунтовай — 2 фунты[19]. Гэта азначае, што набой для цяжкіх гармат важыў 37,5% ад вагі ядра, а для лёгкіх — 50%. Параўноўваючы з дадзенымі Д. Уфана, можна з пэўнай доляй верагоднасці сцвярджаць, што меўся на ўвазе рушнічны, ці грануляваны, порах. Такім чынам, каб выстраліць 385 ядраў вагою 20 фунтаў, якія знаходзіліся ў нясвіжскім арсенале з 1693 г., было неабходна 3465 фунтаў рушнічнага пораху, а гэта амаль увесь запас, які меўся у замку. У Нясвіжскім замку запасаў пораху не хапіла б, каб выстраляць і палову з наяўных гарматных ядраў.

Порах для Нясвіжскага замка закуплялі ў гатовым выглядзе альбо выраблялі на месцы з неабходных кампанентаў, якія збольшага даводзілася завозіць. Мясцовая вытворчасць пораху, відавочна, была танней, таму гэты варыянт быў больш пажаданы для




*5.3. Рыштунак для абслугоўвання гармат: штэмпель, вышор, шуфель і пальнік.*

ўладальнікаў замка. Аднак у выпадку ваеннай пагрозы, калі ад наяўнасці пораху залежала бяспека фартэцыі, даводзілася купляць яго ў гатовым выглядзе. Прыкладам, у першай палове 1660 г. падчас вострай пагрозы з боку маскоўскіх войскаў для Слуцкай фартэцыі быў закуплены порах, свінец і кноты на суму 5246 злотых[20].

Калі ж часу было дастаткова, перавага аддавалася вытворчасці пораху непасрэдна на месцы. Для гэтага закупляліся неабходныя кампаненты (салетра, сера і вугаль), якія затым перадаваліся салетарніку ці парахоўніку, як называлі рамеснікаў, якія выраблялі порах. У інвентары Нясвіжскага замка 1658 г. згадваецца, што 86 фунтаў серы былі перададзены ляснічаму Габрыэлю для вырабу пораху[21]. Верагодна, яму была таксама перададзена адпаведная колькасць салетры, а вугаль ён павінен быў вырабіць сам. Часта вытворчасць пораху даручалася пушкарам, якія служылі ў замку. Для гэтага ў цэйхгаўзе захоўваліся спецыяльныя прылады: бронзавыя і жалезныя ступы для пераціранння рэчываў, латунныя вагі для ўзважвання і дакладнай вытрымкі прапорцый. Вытворчасць пораху ў вялікіх аб'ёмах адбывалася на г.зв. парахавых млынах. У Нясвіжы яны вядомы з сярэдзіны XVIII ст. Салетру, якая была асноўным складнікам пораху, прывозілі ў Нясвіж у XVII–XVIII стст., як правіла, з Украіны. Так, у 1681 г. у Нясвіжскім замку, акрамя 1962 фунтаў пораху, знаходзілася 1600 фунтаў салетры, прывезенай з Алыкі. З такой колькасці можна было зрабіць больш за 2100 фунтаў пораху[22].

Для абслугоўвання гармат патрабавалася шмат рознага рыштунку (мал. 5.3). Спачатку спынімся на прыладах, з дапамогай якіх зараджаліся гарматы. Для засыпання пораху ў ствол выкарыстоўваўся спецыяльны шуфель, лапатка якога рабілася з медзі, каб пазбегнуць раптоўнага выбівання іскры. У 1681 г. у цэйхгаўзе Нясвіжскага замка меўся 21 медны шуфель, у 1693 г. — ужо 25. Атрымліваецца, што ў ідэале для кожнай гарматы павінен быў быць свой шуфель. Медная лапатка шуфлі мела дыяметр адпаведна калібру гармат і на практыцы служыла мерай пораху. Сам порах прыносілі ў скураных пульверзаках ці бралі з барылаў, якія пры неабходнасці выкатвалі адразу на батарэю. Прыкладам, падчас казацкага нападу, пра які згадвае адзін з інвентароў 1657 г.,

для гармат з парахоўні ўзялі дзве барылы пораху, з якіх адну, не выкарыстаную ў баі, пазней схавалі ў цэйхгаўз.



5.4. Пальнікі.

Пасля засыпання ў ствол гарматы порах утрамбоўваўся штэмплем. Затым пры дапамозе таго ж штэмпля забіваўся драўляны шпунт, які не даваў выходзіць газам. Шпунты рабілі на такарскім станку з мяккага дрэва (цвёрдае павялічвала аддачу) адпаведна калібру гарматы. Штэмплі, як і шуфлі, трэба было рабіць адпаведна калібру гармат, таму іх было шмат: у 1681 г. — 19, у 1693 г. — 25. Пасля забівання шпунта ў ствол закідвалася ядро ці іншы снарад, пушкар насыпаў у запальную адтуліну порах і з дапамогай пальніка, ці цынтрота, як яго называлі ў Нясвіжы, запальваў порах. Пальнік уяўляў сабою драўлянае дрэўка з металічным мацаваннем для кнота наверсе. Часта ён выкарыстоўваўся як зброя і меў выгляд звычайнай дзіды, ці кап'я, якое, акрамя наканечніка, мела два ўхваты для кнота (мал. 5.4). Падчас бою кнот павінен быў быць пастаянна запаленым, а яго доўгі канец абвівалі вакол дрэўка. Даўжыня цынтрота гарантавала бяспеку пушкару падчас стрэлу. У 1681 г. у цэйхгаўзе Нясвіжскага замка захоўвалася 3 абвітых кнотам цынтроты, у 1693 г. іх было 4. Для запальвання цынтротаў кожны пушкар мусіў мець уласнае крэсіва.

Пасля выстралу ствол гарматы чысцілі ад рэштказ пораху і прадуктаў гарэння з дапамогай вышору. Ён уяўляў сабою дрэўка, адзін канец якога быў абкручаны аўчынай. У Нясвіжы аўчыну абкручвалі вакол другога канца штэмпля, у выніку чаго атрымлівалася прылада падвойнага прызначэння. Для больш якаснай ачысткі, ці "рыхтавання", гарматы, выкарыстоўвалі спецыяльныя жалезныя пруты, якіх у 1681 г. у нясвіжскім арсенале мелася 7, а ў 1693 г. — 3. Для выймання снарадаў і шпунтоў з гарматы выкарыстоўвалі крэйцар (прылада кшталту штопара), а таксама нейкую адмысловую прыладу з жалезным наканечнікам, пра якія згадваюць інвентары 1681 і 1693 гг.

Большасць запасаў кнота з цэйхгаўза ішла на мушкеты, якія пераважна мелі кнотавыя замкі. Аднак кнот быў неабходны і для артылерыі. Яго чаплялі на цынтроты, а таксама выкарыстоўвалі для запраўкі гранат. Кноты скручвалі ў вязанкі і завешвалі на жэрдках у цэйхгаўзе. У 1656 г. у замку было 127 вязанак кнота, а ў 1657 г. — 60 вязанак, завезеных з Караляўца (Кёнігсберга), і 100 вязанак, вырабленых на месцы. Відавочна, вырабляць кнот




*5.5. Чарцёж арыгінальнага лафета XVII ст., знойдзенага ў Польшчы.*

на месцы было танней, аднак каралявецкая прадукцыя лічылася больш якаснай. Падчас казацкага нападу 1657 г. са 160 вязанак у справу пайшло 15.

Апрача вышэйзгаданых прылад для абслугоўвання артылерыі, а дакладней — для падрыхтоўкі артылерыйскіх батарэй і пазіцый, выкарыстоўвалі рыдлёўкі і тачкі. Інвентар 1693 г. згадвае пра 32 рыдлёўкі рознага тыпу, 14 жалезных пласцін для іх акоўвання, а таксама пра запасныя часткі для тачак: 48 пар жалезных шыпоў, 10 пар малых жалезных колаў і 11 пар жалезных падковак.

Галоўнай часткаю гарматы, вядома, з'яўляецца ствол. Аднак без спраўнага лафета было немагчыма вядзенне эфектыўнай стральбы і транспарціроўка гармат, таму яго вырабу надавалася істотная ўвага. Звычайны двухсценны лафет складаўся з дзвюх станін, альбо сценак, якія мелі выгляд дошак, пастаўленых на рэбры і змацаваных папярочнымі дошкамі, ці рыглямі, восі і колаў. Усе часткі, як правіла, выраблялiся з дуба і акоўваліся жалезам. Акрамя станін, стараліся акоўваць таксама восі і колы (мал. 5.5).

Як можна меркаваць па інвентарах нясвіжскага арсенала XVII ст., лафеты, якія рабіліся для новых гармат, з самага пачатку акоўваліся цалкам. Так, паводле інвентароў 1657 г. на замкавым дзядзінцы стаялі новаадлітыя гарматы пад тытуламі чатырох прарокаў на новых, цалкам акаваных лафетах. Аднак з часам лафеты зношваліся, рассыхаліся, згнівалі і іх даводзілася напраўляць. Найбольш старанна даглядаліся лафеты для цяжкіх гармат, бо тыя павінны былі вытрымліваць значныя нагрузкі. Цягам XVII ст. усе цяжкія гарматы былі забяспечаны добрымі акаванымі лафетамі. Яны мелі г.зв. "слесарскае акаванне", ці жалезныя накладкі на станінах, якімі ўзмацняліся і адначасова ўпрыгожваліся. За лафетамі лёгкіх гармат дагледалі менш, а іх суцэльная направа не лічылася

абавязковай. Для прыкладу, у 1657 г. з 15 фальканетаў 11 мелі акаваныя станіны, 5 — два акаваныя колы, 3 — адно акаванае кола і толькі 2 — акаваныя восі. Да апошняй чвэрці XVII ст. многія лафеты былі адрамантаваны, хаця, як можна меркаваць па характары змяненняў, гэта былі толькі направы ці замены асобных элементаў. Новыя лафеты рабіліся рэдка. У параўнанні з фальканетамі лепшыя лафеты мелі "Евангелісты" і "Элементы". Паводле інвентароў 1681 і 1693 гг., усе яны мелі акаваныя станіны і сталі на акаваных колах. Вышэй ужо згадвалася, што "каменныя" гарматы — "Евангелісты" і "Элементы" — першапачаткова маглі мець спецыяльныя фартэчныя лафеты. Гарматы на такіх лафетах маглі ставіць у фланкавых батарэях бастыёнаў. Лафеты марцір зусім не мелі колаў, аднак былі цалкам акаваныя жалезам.

Рамонт і направа лафетаў ажыццяўлялася рукамі замкавых рамеснікаў. Неабходныя для працы прылады і матэрыял захоўваліся ў цэйхгаўзе і іншых будынках. Жалеза, як правіла, закупалася ў Караляўцы ў штабах (балванках), з якіх мясцовыя кавалі і слесары выраблялі неабходныя дэталі. Дуб для цесляроў і стэльмахаў браўся з княжацкіх лясоў. Для змазвання колаў і восей лафетаў выкарыстоўвалі смалу. У 1657 г. у замку мелася паўбочкі смалы, у 1681 г. — 5 бочак. Для "варэння" смалы меўся спецыяльны кацёл, пра які згадваюць інвентары 1657 г.

Для пад'ёму і ўстаноўкі ствалоў гармат на лафеты выкарыстоўвалі спецыяльныя пад'ёмнікі. У інвентары 1636 г. згадваюцца два латунных пад'ёмнікі, а ў інвентарах 1657 і 1681 гг. — адзін бронзавы. Прынцып іх работы, на жаль, невядомы. Пад'ём і ўзважванне цяжкіх рэчаў, як, прыкладам, ствалоў гармат ці бочак з порахам, ажыццяўляўся з дапамогай вагаў, якіх у цэйхгаўзе мелася двое. Іх канструкцыя была досыць простай: пасярэдзіне акаванай жалезам дубовай бэлькі мацавалася жалезнае "сэрца" з круком для завешвання, а па абодвух баках — тоўстыя вяроўкі з жалезнымі кольцамі ўверсе і крукамі ўнізе. На круках віселі акаваныя жалезам дубовыя чашы, на якія ўскладвалі прадметы для ўзважванняў і супрацьвагі. Для гэтых вагаў меліся каменныя, свінцовыя, бронзавыя і латунныя супрацьвагі, ці гвіхты. Паводле інвентару1681 г., у цэйхгаўзе захоўваліся два бронзавыя гвіхты вагою 2 і 18 фунтаў і шэсць каменных, з якіх пяць важылі 23, 80, 116, 168 і 240 фунтаў. Цікавы факт згадваецца ў інвентарах 1657 г.: на адным з бронзавых гвіхтоў меліся літары "NCR". Тым самым пацвярджаецца факт, што не толькі вялікая частка артылерыйскага парка Нясвіжскага замка, але і большасць прылад і рыштунку былі выраблены яшчэ пры Мікалаі Крыштафе Радзівіле.

Такім чынам, цягам XVII ст. артылерыя Нясвіжскага замка была цалкам забяспечана неабходнай амуніцыяй і рыштункам, што дазваляла падтрымліваць артылерыйскі парк фартэцыі

ў баяздольным стане. Аднак пушкары не служылі ў замку пастаянна, а наймаліся толькі ў ваенны час, што зніжала абараназдольнасць фартэцыі.

1. Inwentarz zamku Je(go) Xzcey Msci Nieswieskiego. 29.03.1658 // Bernatowicz T. Monumenta variis Radivillorum. S. 43–60; Inwentarz zamku Nieswieskiego. 01.02.1673 // Bernatowicz T. Monumenta variis Radivillorum. S. 60–69.

2. НГАБ, ф. 694, воп. 1, спр. 56. Кніга выдачы заробкаў прыслузе Нясвіжскага замка ў 1690–1694 гг.

3. AGAD, AR, dz. V, nr 9133. С.М. Маляўскі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 12.04.1702, 07.06.1702.

4. AGAD, AR, dz. XI, nr 48, s. 76–83. Спіс жаўнераў, уведзеных у Нясвіжскі замак 5 снежня 1655 г.

5. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 769. Верыфікацыя рэчаў у скарбцы Нясвіжскага замка. 06.01.1658.

6. AGAD, AR, dz. II, nr 1433. Сума выдаткаў на ўтрыманне нясвіжскага гарнізона ад пачатку лютага да канца ліпеня 1660 г. 14.06.1661.

7. AGAD, AR, dz. VII, nr 678. Матэрыялы, што датычацца слуцкай фартэцыі і гарнізона. С. 191–198.

8. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 53. Рэверсал цэйгварта Якуба. 06.08.1637.

9. AGAD, AR, dz. VII, nr 675, s. 1–7. Спіс жаўнераў Нясвіжскага замка. 10.1656.

10. Волкаў М. Будаўніцтва бастыённага замка Яна Караля Хадкевіча ў Ляхавічах // Магнацкі двор і сацыяльнае ўзаемадзеянне (XV–XVIII стст.) / Пад рэд. А.М. Янушкевіча. Мінск, 2014. С. 351.

11. У інвентарах азначэнне “жалезныя” ў адносінах да гарматных ядраў трэба разумець шырока, бо большасць іх, верагодна, была з чыгуну.

12. Müller H. Das Heerwesen in Brandenburg und Preussen 1640–1806. Die Bewaffnung. 2001. S. 190.

13. НГАБ, ф. 694, воп. 1, спр. 300. Лісты Міхала Паца да каменданта Біржанскай фартэцыі маёра Карліка аб высылцы яму гармат і пораху і распіскі аб іх атрыманні. 1657–1661.

14. Паводле інвентару 1656 г. у 31 барыле змяшчалася 3336 нюрнберскіх фунтаў пораху (1700 кг), ці каля 108 нюрнберскіх фунтаў (55 кг) у кожнай, а паводле інвентару 1681 г. у 12 бочках змяшчалася 1563 фунты пораху, ці каля 130 фунтаў (49 кг) у кожнай. Па інвентары 1693 г. у 26 барылах, з якіх адна была няпоўнай, змяшчалася 3836 фунтаў (1438 кг) пораху, ці каля 150 фунтаў у кожнай (56 кг). Літоўскі фунт складаў 0,3748 кг, а нюрнберскі фунт — 0,5099 кг.

15. У 1681 г. у трох бочках, з якіх адна была напоўнена напалову, захоўвалася 1600 фунтаў (600 кг) салетры, ці каля 640 фунтаў (240 кг) у кожнай. У 1693 г. у бочку вагою 91 фунт (34 кг) змясціўся ажно 771 фунт (289 кг) салетры.

16. Inwentarz obronnego zamku w Lachowiczach sporządzony 26 Lutego 1658 roku // Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы С. 117.

17. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 88. Інвентар гармат і амуніцыі, якія знаходзяцца ў Біржанскім замку. 05.03.1663.

18. Uffan D. Op. cit. S. 19.

19. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 56. Спіс рэчаў, што знаходзяцца і якіх бракуе ў арсенале Біржанскага замка. 13.09.1638; AGAD, AR, dz. VI, nr 36 і 37.II-82, s. 372–379. Рэестр гармат Біржанскага замка. 05.03.1663.

20. AGAD, AR, dz. II, nr 1433. Сума выдаткаў на ўтрыманне нясвіжскага гарнізона ад пачатку лютага да канца ліпеня 1660 г. 14.06.1661.

21. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 769. Верыфікацыя рэчаў у скарбцы Нясвіжскага замка. 06.01.1658.

22. У пораху было каля 75% салетры.

# АРТЫЛЕРЫЯ І ФАРТЫФІКАЦЫЯ

Вывучэнне ўзбраення і асабліва артылерыі, якая мелася ў арсенале Нясвіжскага замка ў XVII ст., дапамагае зразумець яго сістэму абароны, бо фартэцыя і яе арсенал фактычна ствараліся ў адзін час. Іншымі словамі, пасля ўзвядзення фартыфікацый Нясвіжскага замка была закуплена ці выраблена тая зброя, якую планавалася выкарыстоўваць менавіта на гэтых умацаваннях. Таму зараз звернемся да апісання фартыфікацый Нясвіжскага замка і практыкі выкарыстання на іх разнастайнага ўзбраення.

На сучасны момант ад першапачатковага фартыфікацыйнага комплексу Нясвіжскага замка, узведзенага на мяжы XVI–XVII стст., з прычыны шматлікіх разбурэнняў і перабудоў захавалася не так шмат (мал. 6.1–6.6). Таму надзвычай каштоўнай для яго вывучэння стала гравюра Т. Макоўскага. Асноўным фартыфікацыйным элементам Нясвіжскага замка з’яўляўся высокі земляны вал, які ўнізе быў дадаткова ўмацаваны г.зв. ніжнім валам, ці фосебрэяй. Высокі вал быў неабходны для прыкрыцця ўнутраных пабудоў замка ад артылерыйскага абстрэлу падчас аблогі. Яго знешні і ўнутраны схілы не мелі мураванай абкладкі. Як можна меркаваць па малюнку Т. Макоўскага, вал першапачаткова не меў бруствера, які ў выпадку небяспекі меркавалася рабіць з плеценых кашоў-габіёнаў, насыпаных зямлёю. На пачатку вайны 1654–1667 гг., калі замак узяліся рыхтаваць да абароны і ўдасканальваць яго фартыфікацыі, на валах і бастыёнах быў насыпаны

*6.1–6.3. Паўночны бастыён і брама. Паўночна-заходні бастыённы фронт. Паўднёва-заходні бастыённы фронт.*













*6.4–6.6. Паўднёвы бастыён. Паўднёва-ўсходні бастыённы фронт. Паўночна-ўсходні бастыённы фронт.*




6.7. *Земляны бруствер з кашамі абарончага лагера, узведзенага ў Рэчыцы ў 1649 г.*

земляны бруствер. Зверху на ім былі пастаўлены малыя кошыкі. Такога кшталту ўмацаваны бруствер, прыкладам, быў выкарыстаны ў абарончым лагеры Януша Радзівіла ў Рэчыцы, які быў узведзены ў 1649 г. (мал. 6.7). У сваю чаргу, для закрыцця гарматных батарэй на бастыёнах выкарыстоўваліся больш моцныя кашы (мал. 6.8).

З інвентароў нясвіжскага арсенала 1657–1658 гг., калі пад пагрозай варожага нападу ўсе гарматы былі расстаўлены на валах, вядомы прынцып размяшчэння артылерыі на ўмацаваннях Нясвіжскага замка. Месцамі канцэнтрацыі артылерыі з'яўляліся бастыёны, на якіх размяшчалася значная частка гармат, у тым ліку ўсе цяжкага тыпу (мал. 6.9). На заходнім бастыёне стаялі дзве паўкартауны "Саламандра" і "Кракадзіл", а таксама два фальканеты. У 1658 г. туды ж была пастаўлена вялікая марціра. На паўночным бастыёне знаходзілася цяжкая гармата "Георгій" і тры фальканеты, на паўднёвым — цяжкая гармата "Аляксандр" і адзін фальканет. Замест усходняга бастыёна, які, верагодна, быў моцна "падрэзаны" ў выніку будаўніцтва стайні ў першай палове XVII ст., была ўзведзена асобная батарэя. На ёй паставілі два фальканеты і лёгкую гармату "Страла". На г.зв. "кватэрах", ці валах паміж бастыёнамі, былі расстаўлены лёгкія фальканеты: адзін — на паўднёва-ўсходняй, тры — на паўднёва-заходняй, два — на паўночна-заходняй. Адзін фальканет і "Астыкоўская" гармата стаялі на паўночна-ўсходняй курціне.

6.8. *Спосабы закрыцця гарматы з дапамогай кашоў.*



Такім чынам, на бастыёнах Нясвіжскай фартэцыі было расстаўлена па 2–4 гарматы, а на кватэрах паміж імі стаяла ад 1 да 3 гармат. Пры гэтым 4 цяжкія гарматы вагамерам 20–24 фунты былі ўсталяваны толькі на бастыёнах, дзе мелася дастаткова месца для іх абслугоўвання. Галоўнай задачай гэтых гармат было вядзенне артылерыйскай дуэлі на далёкай адлегласці, разбурэнне батарэй і ўмацаванняў ворага. У дапамогу ім на бастыёнах і курцінах для знішчэння жывой сілы непрыяцеля былі пастаўлены лёгкія гарматы вагамерам 1–4 фунты: 15 фальканетаў ліцця С. Борнікеля і Г. Мольцфельта і 2 прывазныя лёгкія гарматы.



*6.9. Бастыённае ўмацаванне, узведзенае ў сяр. XVII ст. у Лоеве. MWP, 16607.*

Месцы паміж гарматамі на бастыёнах і курцінах займалі жаўнеры са стрэльбамі. Яны стралялі праз байніцы паміж кошыкамі на брустверы. Для гармат паміж кашамі рабіліся шырокія амбразуры. На бастыёнах, як пісалася вышэй, ставіліся таксама арганы. Там жа складваўся рыштунак, боепрыпасы для гармат і ручныя гранаты, якія ў выпадку штурму раздаваліся жаўнерам.

Ніжні вал з'яўляўся другім узроўнем абароны Нясвіжскага замка. Эскарп ніжняга вала быў цалкам абкладзены цэглай і завяршаўся цагляным брустверам з амбразурамі (мал. 6.10–6.11). З іншага боку даволі глыбокага рова знаходзіўся цагляны контрэскарп (мал. 6.12). Мураваная абкладка эскарпа і контрэскарпа рабіла праблематычным перадоленне рова для непрыяцеля. Пры гэтым іх муры былі схаваны ад вачэй нападнікаў і іх нельга было пашкодзіць артылерыяй. Непрыяцель, такім чынам, не меў магчымасці без працяглых і складаных сапёрных работ перайсці роў і штурмаваць валы замка. Гэта з'яўлялася перадавым рашэннем для свайго часу. Магутнасць мураванага эскарпа ніжняга вала і контрэскарпа рова ацанілі шведы, якія ўвайшлі ў замак у 1706 г.

У 1657–1658 гг. "на доле" (г.зн. на ніжнім вале) стаялі ўсе "каменныя" і шэраг лёгкіх гармат. У 1657 г. усе чатыры "Евангелісты" былі расстаўлены з паўночна-ўсходняга боку. У наступным годзе два з іх былі перанесены на паўднёва-ўсходні бок. З паўднёва-заходняга боку стаяла "Камета", у 1658 г. туды ж перанеслі гармату з гербам Сфорцаў. Другая гармата з гэтым гербам стаяла на паўночна-заходнім баку, куды ў наступным годзе дадаткова быў пе-





*6.10–6.11. Рэшткі арыгінальнай абмуроўкі эскарпа. Валавая дарога на ўзроўні ніжняга вала.*

ранесены фальканет з паўночна-заходняй кватэры. Такім чынам, у 1658 г. на кожным з чатырох бакоў замка на ўзроўні ніжняга вала было пастаўлена па дзве гарматы. Іх асноўнай задачай быў абстрэл ворага шротам, каменнымі і жалезнымі ядрамі на блізкай адлегласці, а таксама вядзенне флангавага агню, г.зн. стральба ўздоўж курцін і фасаў бастыёнаў з мэтай знішчэння праціўніка, які спрабаваў пераадолець замкавы роў.

Для стральбы з гармат у мураваным брустверы ніжняга вала меліся спецыяльныя амбразуры (мал. 6.13–6.15). Яны маглі таксама выкарыстоўвацца для стральбы з цяжкіх гакаўніц і арганаў. Перад брустверам, верагодна, меўся банкет, ці стралецкая лава, на якую станавіліся стральцы. На самым пачатку Паўночнай вайны месцы, у якіх мураваны бруствер абваліўся, былі закладзены драўлянымі брусамі, у якіх былі зроблены мушкетныя байніцы. Тады ж у каменданта замка Люберта Полемана ўзнікла ідэя павесіць на эскарп вала бярвенні для скідвання іх на праціўніка ў выпадку штурму[1].

Паміж знешнім схілам галоўнага вала і мураваным брустверам ішла валавая дарога ніжняга вала, якую выкарыстоўвалі для перамяшчэння жывой сілы, а таксама ўстаноўкі артылерыі. Выхад на гэтую дарогу ажыццяўляўся праз двое варот ў мураванай браме, якія вялі ў бок заходняга і паўночнага бастыёнаў. Праз іх на ніжні вал выцягваліся лёгкія гарматы. Выхад жаўнераў на ніжні вал быў магчымы таксама праз мураваныя галерэі ў фланках бастыёнаў. Адна з такіх галерэй захавалася ў заходнім бастыёне. Іх можна ўбачыць на гравюры Т. Ма-

*6.12. Рэшткі абмуроўкі контрэскарпа.*









*6.13–6.15. Заходні бастыён. Паўночны фас заходняга бастыёна. Паўднёвы фас заходняга бастыёна.*



6.16. *Артылерыя і шыльдвах на валах фартэцыі ў Старым Быхаве, др. пал. XVII ст. Staatsbibliothek zu Berlin (далей — SBB), Kart. YS71290.*

коўскага ў абодвух фланках усходняга бастыёна. У інвентары 1658 г. згадваецца пра чатыры лёхі, ці патайнікі, зробленыя на ўзроўні ніжняга вала. Не зразумела, аднак, ці меліся на ўвазе выхады на валавую дарогу, ці выхады да рова.

На шпіцах усіх чатырох бастыёнаў меліся адмысловыя мураваныя вартавыя вежачкі, якія навісалі над мураванымі эскарпамі, што дазваляла жаўнеру, які стаяў на варце, аглядаць роў і ўсе падыходы да бастыёнаў і курцін. Шпіцы бастыёнаў з'яўляліся, такім чынам, месцам размяшчэння г.зв. шыльдваха, ці варты, якая ў ваенны час павінна была пільнаваць падыходы да замка і не дапусціць варожай дыверсіі ці нечаканага штурму (мал. 6.16).

Фланкі бастыёнаў на ўзроўні ніжняга вала прыкрываліся паўкруглымі арылонамі. У саміх фланках размяшчаліся батарэі альбо выцечкі — выхады да рова. Прыкладам, падчас вывучэння заходняга бастыёна Нясвіжскага замка ў яго паўночным фланку была выяўлена батарэя, а ва ўсходнім — выхад да рова (мал. 6.17–6.20). Гарматы ў фланках ставіліся для абстрэлу ворага, які спрабаваў перайсці роў і падысці да эскарпа ніжняга вала. На заходнім бастыёне фланкавая батарэя размяшчалася ніжэй за ўзровень валавай дарогі і прыкрывала падыходы да замкавай брамы, якая была найслабейшым месцам у ланцугу ўмацаванняў.

Верагодна, менавіта для фланкавых батарэй ніжняга вала былі выраблены караткаствольныя "Элементы" і "Евангелісты", якія стралялі шротам і каменнымі ядрамі. Такога кшталту гарматы былі надзвычай эфектыўныя для абстрэлу праціўніка на блізкай адлегласці. Вядома, што 1657 г. у цэйхгаўзе Нясвіжскага замка захоўваліся чатыры лафеты ад "Евангелістаў" на "нізкіх, цалкам акаваных колках". Менавіта гарматы на такіх лафетах маглі змясціцца ў невялікіх фланкавых батарэях. Апошнія, хутчэй за ўсё, прыкрывалі паўночна-заходнюю і паўночна-ўсходнюю курціны, як найбольш прыдатныя для штурму. У 1657–1658 гг., як сведчаць інвентары Нясвіжскага замка, яны ўжо не выкарыстоўваліся для размяшчэння гармат, хаця, прыкладам, у 1658 г. у суседнім Ляхавіцкім замку адна шротавая гармата стаяла ў казематаванай фланкавай батарэі.

Недзе ў першай палове XVII ст. на ўзроўні ніжняга вала ўсходняга бастыёна з паўднёвага боку была ўзведзена мураваная стайня.






*6.17–6.20. Паўночны фланк заходняга бастыёна з арылонам і гарматнай амбразурай. Паўднёвы фланк заходняга бастыёна з арылонам і патаемным выхадам.*

Пры гэтым, верагодна, быў значна “падрэзаны” ўсходні бастыён. Для выхаду да стайні ў паўднёва-ўсходняй курціне быў зроблены шырокі праезд, які быў выяўлены і адноўлены падчас рэстаўрацыі замка. Паслабленне фартыфікацый з усходняга боку было магчымым таму, што тут замак прыкрываўся шырокім ставам і быў найменш прыдатны для штурму. З пачаткам вайны 1654–1667 гг. праезд у курціне, верагодна, быў засыпаны, а на стайні разабралі дах і паставілі артылерыйскую батарэю. У трэцяй чвэрці XVII ст., як сведчыць інвентар 1673 г., мураваная стайня ўжо была разабрана, а ўсходні бастыён і вал каля яго былі адноўлены.

У 1706 г. брама часоў Сіроткі была ўзарвана шведамі. Разбурэнні былі настолькі значныя, што для ўзвядзення новай брамы давялося разбіраць падмуркі старой. Брама, якая захавалася да нашага часу і з’яўляецца помнікам першай чвэрці — сярэдзіны XVIII ст., толькі ўскосна можа сведчыць пра выгляд брамы канца XVI — пачатку XVII ст. (мал. 6.21). Асноўнымі крыніцамі, якія дазваляюць уявіць, як яна выглядала ў той час, з’яўляюцца гравюра Т. Макоўскага і інвентары Нясвіжскага замка.

Праезд замкавай брамы меў даўжыню 28 м, што адпавядала шырыні галоўнага і ніжняга валоў замка. Са знешняга боку брама



*6.21. Замкавая брама.*

зачынялася акаванымі жалезам масіўнымі падвойнымі дубовымі варотамі на шасці завесах. Перад імі меўся акаваны жалезам узвод (пад'ёмны мост) з дубовых дыляў, які падымаўся з дапамогай калаўротаў унутры брамы. У глыбіні брамы меліся яшчэ адны вароты для выхаду на замкавы дзядзінец. У іх мелася фортка для праходу пешых. Па абодва бакі праезду брамы размяшчаліся спецыяльныя падстаўкі для захавання стрэльбаў, на якіх у 1681 г. стаяла 20 мушкетаў, побач была печ для асвятлення. Згадка пра стрэльбы сведчыць, што ў браме стала знаходзіўся шыльдвах, які кантраляваў усіх, хто заходзіў і выходзіў з замка.

Перад брамаю праз роў быў перакінуты драўляны мост з парэнчамі. Са знешняга боку ён меў драўляныя вароты, якія добра бачны на гравюры Т. Макоўскага. У выпадку небяспекі мост мог быць хутка разбураны ці спалены, што ўскладніла б ворагу падыход да брамы. Вядома, што да 1658 г. драўляны мост моцна састарэў і патрабаваў рамонту, а ў 1673 г. ён быў заменены новым, перад якім ужо не было варот.

На пачатку вайны 1654–1667 гг. перад замкавай брамай быў насыпаны трохкутны земляны равелін, які павінен быў закрыць браму ад прамой атакі. Ён быў узведзены па правілах дамінуючай у XVII ст. старагаландскай фартыфікацыйнай школы. Вал

равеліна быў ніжэйшы за галоўны вал замка, аднак, верагодна, закрываў сабою ніжні вал. Зверху бруствер быў застаўлены кошыкамі, як і галоўны вал, а на шпіцы стаяў "шыльдхаўзіг" для варты. На тэрыторыі равеліна знаходзілася драўляная хатка з печчу для жаўнераў. Такім чынам, на равеліне таксама быў размешчаны шыльдвах. Уваход ажыццяўляўся па драўляным мосце з парэнчамі, перакінутым праз роў. У пачатку маста стаялі простыя драўляныя вароты з форткай, а каля самога равеліна меўся драўляны ўзвод. Паводле інвентару 1657–1658 гг. на равеліне гармат не было.

Галоўны замкавы роў напаўняўся вадою з суседняга става, аб чым сведчыць гравюра Т. Макоўскага. Падчас вайны 1654–1667 гг. вада з рова была спушчана, што было звязана, верагодна, з разбурэннем грэбляў на Ушы і паніжэннем узроўню вады ў ставах. Цалкам магчыма, што замкавы роў мэтанакіравана асушылі ўжо ў першай палове XVII ст. Вядома, што цягам другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. роў Нясвіжскага замка заставаўся сухім. Адной з прычын яго асушэння было імкненне захаваць мураваны эскарп і контрэскарп, якія ўтваралі сценкі рова і пры ўзаемадзеянні з вадою хутчэй разбураліся. Пасля гэтага ўнізе рова ў сярэдзіне XVII ст. была выкапана г.зв. фасета, ці невялікі равок, які запаўняўся вадою. Фасета падзялялася грэбелькамі для затрымання вады, а з боку паўднёва-заходняй курціны пераходзіла ў сажалку, у якой разводзілі рыбу. Над сажалкай у сярэдзіне XVII ст. стаяла лазня для жаўнераў, а каля маста — студня. У 1702 г., калі замак інтэнсіўна рыхтавалі да абароны ад шведскага войска, у рове перад эскарпам быў пастаўлены палісад, ці астрог, які ўяўляў сабою дадатковую агароджу з завостраных драўляных бярвенняў, укапаных у зямлю[2].

За ровам ішла прыкрытая дарога з гласісам, якая дазваляла весці актыўную абарону з дапамогай вылазак жаўнераў з фартэцыі для знішчэння аблогавых батарэй і жывой сілы праціўніка. Упершыню гласіс апісваецца ў 1554 г., а быў рэалізаваны ў Італіі ў 1567 г., што ўсяго на 20 гадоў раней за пачатак будаўніцтва Нясвіжскага замка. Выхад з прыкрытай дарогі на перадполле, ці эспланаду, ажыццяўляўся з паўночна-заходняга і паўночна-ўсходняга бакоў па дарогах, якія прастрэльваліся з прыкрытага ходу, а з напольнага боку былі закрыты брустверам. На гэтай дарозе меліся спецыяльныя плацдармы для канцэнтрацыі жаўнераў перад вылазкамі. Цікава, што ў Нясвіжскім замку, як і ў Біржанскім, яны мелі круглую форму. Звонку за гласісам меўся дадатковы водны роў, праз які ў месцах падыходу дарог былі перакінуты драўляныя масткі. Прыкрытая дарога, закрытая гласісам, такім чынам, з'яўлялася трэцяй лініяй абароны замка разам з галоўным і ніжнім валамі. На яе жаўнеры выходзілі альбо праз галоўны мост перад брамай, альбо праз таемныя выцечкі ў бастыёнах і валах замка.




*6.22. План Нясвіжа, пач. XIX ст.*

Адна з такіх выцечак была адкрыта ў паўднёвым фланку заходняга бастыёна. Яна знаходзілася за арылонам фланка бастыёна і была схавана ад вачэй непрыяцеля.

Верагодна, у сярэдзіне — другой палове XVII ст. гласіс і прыкрытая дарога Нясвіжскага замка былі мадэрнізаваны і набылі той выгляд, які яны маюць на расійскіх планах канца XVIII ст. (мал. 6.22). З паўночна-ўсходняга, паўднёва-ўсходняга і паўднёва-заходняга бакоў былі створаны шырокія трохвугольныя плацдармы, рэшткі якіх захаваліся да сённяшняга часу. Гласісам быў абведзены таксама перадбрамны равелін.

Вяртаючыся да пытання расстаноўкі артылерыі на валах Нясвіжскага замка, варта адзначыць наступнае. Найбольшая колькасць гармат была сканцэнтравана на паўночна-заходнім баку фартэцыі. У 1657 г. на заходнім і паўночным бастыёнах стаяла 8 гармат (па 4 на кожным), у тым ліку 3 цяжкія. На курціне паміж гэтымі бастыёнамі былі размешчаны 3, а на ніжнім вале — 1 гарма-

та. У 1658 г. гэтая расстаноўка зазнала нязначныя змены: 1 гармата з курціны была перанесена на ніжні вал, а на заходнім бастыёне была пастаўлена вялікая марціра. Канцэнтрацыя артылерыі на паўночна-заходнім баку фартэцыі тлумачыцца найбольшай прыдатнасцю заходняга напрамку (з боку горада і Бернардзінскай гары) для абстрэлу фартэцыі і падрыхтоўкі штурму. Таму дзве паўкартауны, якія прызначаліся для знішчэння артылерыйскіх батарэй праціўніка, былі ўсталяваны менавіта на заходнім бастыёне. Ім у дапамогу паставілі па адной цяжкай гармаце на паўднёвым і паўночным бастыёнах. Падзеі 1660 г. пацвердзілі слушнасць такой расстаноўкі, бо падчас аблогі маскоўскія войскі паставілі свой лагер якраз на тэрыторыі горада[3]. У сваю чаргу, будаўніцтва каля ўсходняга бастыёна мураванай стайні ў першай палове XVII ст. сведчыць, што ўсходні напрамак лічыўся найбольш бяспечным для фартэцыі.

1. AGAD, AR, dz. V, nr 12044. Л. Полеман да К. Радзівіла. Нясвіж, 23.01.1702; AGAD, AR, dz. V, nr 16645. С. Тышэвіч да К. Радзівіла. Нясвіж, 23.01.1702.
2. AGAD, AR, dz. V, nr 12044. Л. Полеман да К. Радзівіла. Нясвіж, 23.01.1702; AGAD, AR, dz. V, nr 16645. С. Тышэвіч да К. Радзівіла. Нясвіж, 23.01.1702.
3. AGAD, AR, dz. V, nr 6865. К. Клакоцкі і У. Гурын да Б. Радзівіла. Слуцк, 19.06.1660.





*Гармата “Цырцэя”, задні чоп у выглядзе галавы чалавека. Г. Мольцфельт, 1600 г.*

# ФАРТЭЦЫЯ
# Ў ПАЎНОЧНАЙ ВАЙНЕ

Ваенныя кампаніі Швецыі і Расіі на тэрыторыі ВКЛ падчас Вялікай Паўночнай вайны (1700–1721 гг.) сталі фатальнымі для большасці фартэцый на нашых землях, у тым ліку для галоўнай рэзідэнцыі Радзівілаў — Нясвіжскага замка. Разбурэнне ўмацаванняў і знішчэнне арсеналаў было тактычным ходам і шведскай, і расійскай арміі, якія з'яўляліся галоўнымі дзеючымі сіламі ў гэтай вайне. Праціўнікі не хацелі пакідаць у сваіх тылах фартэцыі, якімі мог скарыстацца непрыяцель.

Аднак у знішчэнні Нясвіжскага замка, якое адбылося ў 1706 г., быў і іншы аспект. Ад пачатку вайны тагачасны нясвіжскі ардынат канцлер ВКЛ Караль Станіслаў Радзівіл падтрымаў легітымна абранага караля Рэчы Паспалітай Аўгуста ІІ Моцнага (1670–1733 гг., кароль з 1697 г.), у той час як шведскі кароль Карл XII (1682–1718 гг., кароль з 1697 г.) імкнуўся замяніць яго Станіславам Ляшчынскім (1677–1766 гг.). Тактыка "выпаленай зямлі", якую прымянялі шведы ў радзівілаўскіх маёнтках у 1706 г., мела паказальны характар і павінна была прымусіць К.С. Радзівіла перайсці на бок Карла XII. Для падтрымкі пазіцый Аўгуста ІІ і яго прыхільнікаў на тэрыторыю ВКЛ былі ўведзены расійскія войскі і казакі, якія, аднак, не здолелі ўратаваць радзівілаўскія маёнткі, у прыватнасці Нясвіжскі замак.

Ад самага пачатку вайны ў 1700 г. Нясвіж пачалі рыхтаваць да абароны, хаця рэальная пагроза для яго паўстала толькі

ў 1702 г. Напэўна, у сувязі з гэтым у замку быў прысланы новы камендант, якім стаў капітан Люберт Полеман[1]. Летам 1700 г. у складзе гарнізона знаходзіліся капітан (камендант), харужы, 3 капралы, 2 добашы (барабаншчыкі), файфер (музыка), фурыер (вазніца) і 95 жаўнераў, для якіх шылі строі і напраўлялі амуніцыю[2]. Па звестках шведаў, падчас капітуляцыі ў 1706 г. гарнізон фартэцыі налічваў 200 чалавек, з якіх 90 з'яўляліся жаўнерамі[3]. Ён быў укамплектаваны з улікам ваеннай небяспекі згодна з практыкай ранейшых часоў. Аднак прафесійных жаўнераў, як пісаў губернатар Нясвіжскага княства Станіслаў Міхал Маляўскі, для паспяховай абароны замка ад моцнага непрыяцеля не хапала, а пушкароў не было зусім[4].

Ужо ў 1702 г. вялікае злучэнне шведскіх войскаў прайшло побач з Нясвіжам, аднак гораду і замку на той момант пашанцавала. Фатальным для радзівілаўскай сталіцы стаў паход шведскай арміі на чале з самім каралём Карлам XII праз ВКЛ у 1706 г. У сярэдзіне сакавіка шведскі манарх выслаў адносна невялікі атрад кавалерыі на чале з падпалкоўнікам Ёганам Рэйнгальдам фон Траўтфетэрам, які павінен быў выбіць з радзівілаўскай сталіцы 1,5–2 тысячы казакаў на чале са старадубскім палкоўнікам Міхайлам Міклашэўскім[5]. 23 сакавіка шведы былі ўжо пад Нясвіжам[6]. На наступны дзень яны атакавалі горад, заспеўшы знянацку казацкае войска. Яно было фактычна знішчана, акрамя 500 чалавек, якія зачыніліся ў езуіцкім калегіюме. Не маючы пры сабе цяжкай артылерыі, каб выбіць іх адтуль, Ё. фон Траўтфетэр пакінуў Нясвіж. Пры гэтым ён вывез 4 бронзавыя гарматы, захопленыя ў казакаў[7]. Цікава, што Л. Полеман не пусціў казакаў палка М. Міклашэўскага ў Нясвіжскі замак, што і стала адной з асноўных прычын іх поўнага разгрому. Гэтае рашэнне, відаць, зыходзіла непасрэдна ад К.С. Радзівіла, які не без падстаў баяўся за каштоўнасці, сабраныя ў сваёй рэзідэнцыі.

5 красавіка Карл XII выслаў з Жалудка корпус кавалерыі на чале з палкоўнікам баронам Карлам Густавам Крэйцам, які павінен быў распачаць аблогу Ляхавіцкага замка. Заблакаваўшы Ляхавічы, К.Г. Крэйц распусціў аддзелы валахаў для рабавання ваколіц гэтага горада і Нясвіжа. Як пісаў адміністратар Нясвіжскага княства Ежы Вінцэнты Таўрыловіч, "вораг абкружыў Нясвіж з усіх бакоў". 22 красавіка некалькі дзясяткаў вершнікаў-валахаў увайшлі ў Нясвіж і ў хуткім часе адышлі ў бок вёскі Малева. На наступны дзень яны вярнуліся разам з трыма атрадамі шведаў і спустошылі ўвесь горад з ваколіцамі.

У той час, калі К.Г. Крэйц вёў аблогу Ляхавіч, а яго аддзелы нішчылі ваколіцы Нясвіжа, Карл XII раптоўна рушыў з усім войскам з Жалудка, дзе дагэтуль меў сваю стаўку. 4 мая шведскія войскі здолелі дасягнуць Пінска. Па дарозе была заблакавана фартэцыя Жабер, якая належала Вішнявецкім, з гарнізонам у 800 чала-

век і артылерыяй у 40 гармат[8]. У хуткім часе яна капітулявала і была па загадзе Карла XII знішчана. Тым часам 30 красавіка К.Г. Крэйц здолеў разбіць пад Клецкам расійскае войска на чале з Сямёнам Няплюевым, якое ішло з Менска на дапамогу Ляхавічам. У той жа дзень аб гэтым даведаліся ў Нясвіжы, што ўзмацніла трывогу ў замкавым гарнізоне[9]. Пасля вяртання К.Г. Крэйца пад Ляхавічы і дэманстрацыі захопленых пад Клецкам трафеяў баявы дух абаронцаў тамтэйшай фартэцыі ўпаў і яны здаліся на міласць пераможцаў. У палон трапіў 1361 чалавек, акрамя таго, былі захоплены 9 гармат (па іншых звестках — 7)[10].

Даведаўшыся аб перамозе пад Клецкам, Карл XII рушыў з Пінска да К.Г. Крэйца ў Ляхавічы. Малады амбітны кароль (мал. 7.1) спадзяваўся непасрэдна ўзначаліць аблогу фартэцыі, аднак паспеў падысці да яе тады, калі яна ўжо капітулявала[11]. Там ён прабыў некалькі дзён і, загадаўшы знішчыць замак, з падраздзяленнямі К.Г. Крэйца рушыў на Нясвіж. 20 мая а другой гадзіне дня шведы падышлі да Нясвіжскага замка. Карл XII разам са сваімі афіцэрамі аб’ехаў фартэцыю і праз гадзіну даслаў генерал-ад’ютанта Карла Розеншцірна з патрабаваннем безумоўнай капітуляцыі. У выпадку, калі фартэцыя не капітулюе і будзе здабыта штурмам, Карл XII пагражаў забіць і павесіць усіх абаронцаў, а замак, горад і кляштары ператварыць у попел. На роздум Карл XII даў усяго паўгадзіны[12]. У выніку фартэцыя здалася.



*7.1. Партрэт Карла XII. Д. фон Крафт, 1706 г.*

Галоўнай прычынай хуткай здачы Нясвіжскага замка быў слабы маральны дух абаронцаў, падарваны здачай магутнай Ляхавіцкай фартэцыі і разгромам расійскіх войскаў пад Клецкам. Пэўную ролю адыграла і паяўленне пад мурамі Нясвіжскага замка славутага сваімі перамогамі Карла XII. Нават калі дапусціць, што абаронцы праявілі б выключны гераізм, фартэцыя такога тыпу наўрад ці змагла б доўга пратрымацца, а дапамогі звонку чакаць не прыходзілася.



*7.2. "Спаленне" гарматы.*

Пасля капітуляцыі Нясвіжскага замка Карл XII аддаў загад зраўняць з зямлёй фартыфікацыі і спаліць палац. 22 мая кароль пакінуў горад і рушыў у Слуцк. Пагасцяваўшы там да 23 мая, Карл XII загадаў К.Г. Крэйцу расплавіць слуцкія гарматы калібрам больш за 8 фунтаў і а шостай гадзіне вечара з некалькімі людзьмі накіраваўся ў Пінск. Пасля ад'езду Карла XII па Нясвіжскім княстве былі распушчаны шведскія аддзелы з мэтай дашчэнту разрабаваць і спустошыць радзівілаўскія ўладанні. Адзін з атрадаў быў пакінуты ў Нясвіжы для аховы палонных, якіх выкарыстоўвалі для разбурэння фартэцыі. Увесь порах, што меўся ў замку, пайшоў на міны. 29 мая быў узарваны першы бастыён. Мінамі былі разбураны мураваны эскарп і контрэскарп у рове. Гакаўніцы, якія знаходзіліся ў арсенале, паламалі і пакідалі ў роў, завальваючы іх цэглай і зямлёй з вала. Гарматы вывезлі на карах пад стайні за замак і расплавілі (мал. 7.2). Матэрыял ад іх, а таксама ўсе рэчы і збожжа, якія знайшлі ў замку, — распрадалі. 1 чэрвеня ўсіх людзей выгналі з замка ў стайню і з дапамогай 10 мінаў (кожная вагой па корцы) узарвалі браму. Пасля напхалі дрэва ў палац, вежы, цэйхгаўз і запалілі іх. Была знішчана і рэшта горада з ратушай, а таксама ўся воласць, у якой не пакінулі "ніводнай халупы". Пашанцавала толькі касцёлам і кляштарам у горадзе. Праз выкуп удалося ўратаваць таксама гадзіннік з вежы над замкавай брамай і абраз у капліцы[13]. Скончыўшы рабаванне, 3 чэрвеня а 10-й гадзіне шведы пакінулі Нясвіж, а ўсіх вязняў, у тым ліку разброеных жаўнераў, распусцілі з папярэджаннем, каб больш не ваявалі супраць шведскага караля[14].

Пасля капітуляцыі замка ў 1706 г. па звестках Г. Адлерфельда ў рукі шведаў трапіла 17 бронзавых і 4 жалезныя гарматы. Яны былі імі знішчаны. Аб "спаленні" ўсіх гармат і продажы металу ад іх пісаў адразу пасля зыходу шведаў таксама Е.В. Таўрыловіч. Ён адзначаў, што засталіся толькі пяць вялікіх аплаўленых кавалкаў[15]. Аб лёсе астатніх гармат ён не ведаў. Таму нечаканасцю стала знаходка ў 1717 г. у Лахве 11 гармат, 2 марцір і 12 гакаўніц,

якія паходзілі з Нясвіжа. Пры гэтым Е.В. Таўрыловіч дакладна не ведаў, ці ўсе гарматы ён знайшоў, і працягваў пошукі да 1720 г., аднак адшукаць больш нічога не змог[16].

Знаходка 1717 г. праліла святло на лёс нясвіжскіх гармат у 1706 г. Справа ў тым, што большасць гармат, якія знаходзіліся ў Нясвіжскай фартэцыі на момант капітуляцыі, уяўлялі сабою вялікую каштоўнасць як ваенныя трафеі. Гэта найперш датычылася гармат, адлітых Г. Мольцфельтам. Яны з'яўляліся сапраўднымі шэдэўрамі людвісарскага мастацтва. Фактычна гэта вызначыла іх далейшы лёс. Карл XII, які быў фанатычным калекцыянерам зброі, не мог проста так знішчыць мольцфельтаўскія гарматы і, напэўна, асабіста аддаў загад вывезці іх у Швецыю.

Падзеі развіваліся наступным чынам. Кароль, які знаходзіўся ў Пінску, дачакаўшыся К.Г. Крэйца з асноўнай часткай войска, 2 чэрвеня рушыў на Валынь, а шведскі атрад, які скончваў разбурэнне Нясвіжскага замка, выйшаў адтуль толькі 3 чэрвеня. Верагодна, гэты атрад разам з трафеямі (гарматамі, марцірамі і гакаўніцамі) адышоў у напрамку Лахвы, каб разрабаваць гэта радзівілаўскае мястэчка і яго ваколіцы, а затым, пераправіўшыся праз Прыпяць, злучыцца з каралём. Гэты нязручны, але кароткі шлях на Украіну вельмі часта выкарыстоўвалі самі Радзівілы. Аднак шведы не разлічылі, што не змогуць пераправіць гарматы на іншы бок Прыпяці, і былі вымушаны проста затапіць іх. Такім чынам, гарматы перажылі ваенны час і не былі знішчаны ні шведскімі, ні расійскімі войскамі, якія на працягу ўсёй Паўночнай вайны старанна "чысцілі" арсеналы фартэцый у ВКЛ.

Гарматы і ўзбраенне, якія не ўдалося вывезці з Нясвіжскага замка, былі знішчаны. Тры цяжкія і дзве лягчэйшыя бронзавыя гарматы расплавілі, а жалезныя папросту скінулі ў роў і завалілі зямлёй пры разбурэнні замка. Адна з гэтых гармат, верагодна, была знойдзена ў рове ў 2010 г.

Вяртанне разбуранай рэзідэнцыі да жыцця, як і дашчэнту знішчанага княства, было няпростай задачай. Аднаўленне Нясвіжскага замка заняло больш за дзесяцігоддзе. Тагачасны ўладальнік Нясвіжа К.С. Радзівіл упершыню спыніўся са сваім дваром у адбудаваным замку толькі ў 1717 г.[17] З іншага боку, упартасць, з якой адбудоўваўся замак, нягледзячы на вайну і цяжкае эканамічнае становішча, паказвае на яго выключнае значэнне для роду Радзівілаў.

Аднаўленне абарончага патэнцыялу фартэцыі не ўваходзіла ў лік першачарговых задач. Гармат у замку не было, а стары арсенал, які пачалі аднаўляць у 1716 г., было вырашана перарабіць пад афіцыну — дадатковы жылы будынак. У ёй было зроблена шэсць "ізбаў" з трыма сенямі[18]. Аднаўленне артылерыі Нясвіжскага замка пачалося ў 1717 г., калі ў Лахве знайшлі затопленыя



*7.3. Касцёл Св. Мікалая ў Міры. Гравюра па мал. Ф. Бжазоўскага, 1882 г.*

гарматы. Увосень таго ж года іх вярнулі ў Нясвіжскі замак і забяспечылі новымі лафетамі. На загад К.С. Радзівіла яны былі расстаўлены на бастыёнах. А ў 1719 г. арсеналу, перабудаванаму пад афіцыну, вырашылі часткова вярнуць ранейшае прызначэнне[19].

Цікава склаўся лёс расплаўленых шведамі гармат. У 1706 г. пяць кавалкаў, што засталіся ад іх, былі закапаны ў полі за замкам, бо з-за разбурэнняў іх немагчыма было ўнесці назад у замак. Каб гарматы не скралі, да іх прыставілі варту[20]. У 1711 г. К.С. Радзівіл загадаў адліць з іх вялікі звон. Ён мусіў быць велізарных памераў, бо маса бронзы ад кавалкаў гармат складала каля 9 тон. На мой погляд, па гэтым учынку выразна бачна, што магнат успрымаў падзеі Паўночнай вайны і зруйнаванне яго зямель і рэзідэнцый як “божае пакаранне”. Праз падобнае ахвяраванне ён спадзяваўся заслужыць міласць Усявышняга для сябе і свайго роду.

Ідэя К.С. Радзівіла так і не была рэалізавана да канца, а з гарматнай бронзы вырабілі некалькі званоў, самы вялікі з якіх быў перададзены ў Мірскі касцёл. У далейшым ён атрымаў назву “Караль” па імені свайго фундатара. Той факт, што найвялікшы звон нясвіжскі ардынат ахвяраваў менавіта Мірскаму касцёлу, сведчыць пра значнасць гэтай рэзідэнцыі для магната. Як піша даследчык гісторыі Міра Аляксандр Снежка, гэта быў адзін з найвялікшых і найгучнейшых званоў ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. У ціхія вечары яго было чутно ажно ў Нясвіжы, які знаходзіўся на адлегласці 30 км ад Міра. Хадзіла нават прымаўка: “Калі “Зыгмунт” (самы вялікі звон у Польшчы. — *М.В.*) ударыць на Вавелі (у Кракаве. — *М.В.*), дык “Караль” адгукнецца ў Міры”. Паводле А. Снежкі, звон меў 2 м у дыяметры і важыў 4800 кг, а яго сэрца — 300 кг. Аднак ёсць падставы меркаваць, што гэтыя дадзеныя завышаны, бо ў 1715 г. К.С. Радзівіл з 9 тон наяўнай бронзы загадаў выслаць у Мір для адлівання звона толькі 1,5 тоны[21]. Да 1854 г. “Караль” вісеў у асобнай званіцы, а пазней быў перанесены на вежу самога касцёла (мал. 7.3). У 1915 г., калі расійскія ўлады з наступлен-

нем немцаў падчас Першай сусветнай вайны пачалі рыхтавацца да эвакуацыі, было прынята рашэнне аб вывазе з Міра ўсіх званоў. Нягледзячы на пратэсты мясцовых жыхароў і абяцанне вярнуць званы пасля заканчэння вайны, славуты мірскі звон быў знішчаны. Яго проста скінулі з вежы, у выніку чаго ён раскалоўся на часткі. Пасля яго пабілі на невялікія кавалкі і вывезлі ў Менск[22].

1. Ва Уладзіслава Сыракомлі камендант згадваецца пад прозвішчам Баліман (Boliman), што з'яўляецца вынікам памылковага прачытання: Syrokomla W. Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853. S. 136.
2. AGAD, AR, dz. V, nr 9133. С.М. Маляўскі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 11.04.1700; AGAD, AR, dz. V, nr 16645. С. Тышэвіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 11.04.1700.
3. Adlerfeld G. Op. cit. S. 230; Nordberg J. A. Histoire De Charles XII Roi De Suede. T. 2. 1744. S. 89.
4. AGAD, AR, dz. V, nr 9133. С.М. Маляўскі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 12.04.1702, 07.06.1702.
5. Катлярчук А. Цыт. тв. С. 102.
6. Adlerfeld G. Op. cit. S. 214.
7. Ibid. S. 215; Syrokomla W. Op. cit. S. 136.
8. Adlerfeld G. Op. cit. S. 222.
9. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 30.04.1706.
10. Adlerfeld G. Op. cit. S. 227.
11. Lundblad K. Geschichte Karl des Zwölften König von Schweden. T. 1. Hamburg, 1835. S. 353.
12. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 05.06.1706; AGAD, AR, dz. II, nr 2098. М. Нячай, Е.В. Таўрыловіч і іншыя да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 20.05.1706.
13. AGAD. AR, dz. V, sygn. 16163, Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 05.06.1706.
14. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 05.06.1706.
15. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 05.06.1706.
16. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіл. Нясвіж, 08.08.1717, 07.01.1720.
17. AGAD, AR, dz. VI, nr II–79. С. 130. Дыярыуш К.С. Радзівіла. 1689–1718.
18. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 26.03.1716, 04.04.1716, 04.05.1716, 19.07.1719.
19. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 01.07.1719, 22.07.1719.
20. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 05.06.1706.
21. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 166. Рэестр сапсаваных гармат, якія знаходзяцца ў Нясвіжскім замку. Нясвіж, 12.11.1715.
22. Śnieżko A. Kościół farny w Mirze. Lida, 1937. S. 50–54.



*Герб князя Мікалая Крыштафа Радзівіла на гармаце "Папугай". Г. Мольцфельт, 1600 г.*

# ЧАСЫ МІХАЛА КАЗІМІРА РАДЗІВІЛА РЫБАНЬКІ

З імем Міхала Казіміра Радзівіла, званага Рыбанькам (1702–1762 гг.), звязана вяртанне Нясвіжскаму замку былой велічы і аднаўленне яго артылерыйскага парка (мал. 8.1). Бацькі М.К. Радзівіла жылі пераважна ў Белай і зрэдку наведвалі Нясвіж, хаця фармальна той і заставаўся галоўнай рэзідэнцыяй роду. Рыбанька ж вярнуў гэтаму гораду званне сапраўднай сталіцы славутай фаміліі.

У 1724 г. маці перадала нясвіжскую ардынацыю маладому магнату. 30 чэрвеня М.К. Радзівіл прыбыў у горад, які з вялікай помпай сустрэў новага ардыната, а роўна праз год — 7 чэрвеня 1725 г. — горад урачыста вітаў і новую гаспадыню — маладую жонку Рыбанькі Францішку Уршулю з Вішнявецкіх (1705–1753 гг.)[1]. Атрыманне ў валоданне Нясвіжа і навакольных зямель азначала для магната ўключэнне ў актыўную грамадскую і палітычную дзейнасць. Займаючыся сваёй кар'ерай, М.К. Радзівіл адначасова клапаціўся і аб разбудове Нясвіжскага замка, які павінен быў стаць сімвалам яго магутнасці.

Неабходнасць умацавання сваёй галоўнай рэзідэнцыі Рыбанька, верагодна, найлепш зразумеў падчас г.зв. вайны за польскую спадчыну 1733–1735 гг. Прычынай гэтага міжнароднага канфлікту, які для Рэчы Паспалітай меў характар грамадзянскай вайны, сталі выбары новага караля ў 1733 г. У іх умяшаліся Расія, Аўстрыя і Саксонія, якія выступілі на баку саксонскага курфюр-



*8.1. Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька.*

ста Фрыдрыха Аўгуста (1696–1763 гг., кароль Рэчы Паспалітай з 1733 г.). У сваю чаргу, Францыя падтрымала Станіслава Ляшчынскага (1677–1766 гг.).

М.К. Радзівіл выступіў на баку саксонскага кандыдата, які ўрэшце і заняў трон Рэчы Паспалітай пад імем Аўгуста ІІ. Разумеючы маштабы будучага канфлікту, Рыбанька ўжо ў кастрычніку 1733 г. выслаў Францішку Уршулю з Варшавы, дзе вырашаўся лёс дзяржавы, у Нясвіж, які загадаў забяспечыць на выпадак нападу ворагаў. У 1734 г. ён адправіў жонку з дзецьмі ў Слуцк, які быў больш надзейнай фартэцыяй. Пры гэтым для абароны ўласнага жыцця і захавання ўладанняў магнат выкарыстоўваў расійскія войскі, якія размясціў у Нясвіжы, Слуцку і Слоніме. Небяспека з боку прыхільнікаў С. Ляшчынскага захоўвалася да канца 1735 г., а сам М.К. Радзівіл не наважваўся ездзіць па краіне без вялікага канвою[2]. Падзеі 1733–1735 гг., а таксама атрыманне ў 1735 г. пасады польнага гетмана, а ў 1744 г. — вялікага гетмана, прымушалі М.К. Радзівіла паклапаціцца аб павелічэнні ўласнай артылерыі, у тым ліку ў Нясвіжскім замку.

Першыя гарматы для фартэцыі пры Рыбаньку былі адліты ў 1727 г. Гэта была серыя з чатырох 9-фунтовых гармат пад назвамі "Св. Міхал", "Св. Казімір", "Св. Мікалай" і "Св. Крыштаф", якія важылі ад 72 каменяў 10 фунтаў (1083 кг) да 76 каменяў 30 фунтаў (1151 кг). Яны былі выраблены ў Гданьску альбо Караляўцы[3]. Назвы гармат, як і даты іх вырабу, указваюць на матывы, якімі кіраваўся магнат пры іх замове. 18 мая 1727 г. у яго нарадзіўся першынец, якога назвалі Мікалаем Крыштафам. Нараджэнне сына, відавочна, значна ўзрушыла бацьку. Ён вырашыў замовіць гарматы, прысвяціўшы іх нябесным патронам сябе і свайго дзіцяці. Варта прыгадаць, што і пры Сіротку дзве першыя гарматы, адлітыя для Нясвіжскага замка, атрымалі назвы ў гонар Св. Мікалая і Св. Крыштафа. Увогуле, імя Мікалай было традыцыйным для Радзівілаў, а Св. Мікалай лічыўся апекуном роду. Гэта было добра вядома самому Рыбаньку[4]. У сваю чаргу,

у традыцыі называць першых сыноў імёнамі Мікалай і Крыштаф трэба бачыць вялікую павагу нясвіжскай галіны роду да яе пачынальніка Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Так звалі і старэйшага брата Рыбанькі (першага сына Караля Станіслава), які раптоўна памёр у 20-гадовым узросце. Гэтак назваў свайго першынца, які памёр яшчэ немаўляткам, і Рыбанька.

У 1738 г. у Гданьску для Рыбанькі былі адліты яшчэ шэсць 3-фунтовых гармат, якія неўзабаве трапілі ў Нясвіжскі замак. У інвентарах яны названы "гешвінтшосамі", альбо хуткастрэльнымі. Першы інвентар, які фіксуе стан артылерыйскага парка Нясвіжскага замка пры Рыбаньку, паўстаў у 1741 г. Усяго ў арсенале на той час мелася 2 марціры і 21 гармата, з якіх 10 былі выраблены пры Рыбаньку (чатыры 9-фунтовыя і шэсць 3-фунтовых). Астатнія належалі да спадчыны XVI–XVII стст. Гэта былі тыя самыя гарматы, якія ў 1717 г. знайшлі ў Лахве і вярнулі ў замак[5]. Нічога невядома пра паходжанне 6-фунтовай жалезнай гарматы, якая ў другой палове XVIII ст. захоўвалася ў замкавым арсенале. Магчыма, гэта была адна з тых, што трапілі ў замак пры К.С. Радзівіле напярэдадні Паўночнай вайны.

У 1749 г. у замку было ўжо 6 марцір і 24 гарматы[6]. Да згаданых у 1741 г. дадаліся дзве 10-фунтовыя і дзве 2-фунтовыя марціры, а таксама дзве 12-фунтовыя гарматы ("Арол" і "Базылішак") і 1-фунтовая скураная гармата. Апошнія тры, найверагодней, трапілі ў Нясвіж з арсенала замка ў Жоўкве, які адышоў М.К. Радзівілу ў 1740 г. Гэты замак у свой час знаходзіўся ва ўласнасці караля Яна III Сабескага (1629–1696 гг., кароль Рэчы Паспалітай з 1674 г.). Менавіта яму належалі "Арол" і "Базылішак", адлітыя ў 1692 г. Яны мелі гербы і інскрыпцыі караля на ствалах.

Скураной гарматай, прывезенай з Жоўквы, відавочна, не планавалі карыстацца, бо для яе не рабілі лафет. Зацікавіла ж яна Рыбаньку як своеасаблівы эксперымент у галіне артылерыі (мал. 8.2.). Справа ў тым, што ў XVII ст. шведы пры дапамозе скураных гармат спрабавалі стварыць лёгкую рухомую палявую артылерыю. Аднак у хуткім часе шведская армія адмовілася ад гэтай ідэі. Адна з эксперыментальных шведскіх гармат, па ўсім відаць, трапіла ў Жоўкаўскі замак і пазней была перавезена ў Нясвіж.

Да 1753 г. артылерыйскі парк Нясвіжскага замка ўзрос да 30 гармат і 7 марцір, а ў 1756 г. ён складаўся ўжо з 41 гарматы і 7 марцір[7]. У параўнанні са станам на 1749 г. артылерыя павялічылася за кошт шаснаццаці 1-фунтовых гармат і дзвюх малых марцір.

Рэестр артылерыі 1753 г. ахопліваў усе фартэцыі Рыбанькі, што дае нам магчымасць параўнаць іх абарончы патэнцыял (табл. 7). З чатырох замкаў, забяспечаных артылерыяй, у Нясвіжы было больш за ўсё гармат і марцір — 30 і 7 адпаведна. Найбольш сучасным з'яўляўся арсенал Алыцкага замка, які меў 23 гарматы вага-

мерам 3–6 фунтаў. Па ўсёй верагоднасці, усе яны былі выраблены пры Рыбаньку. З 17 гармат Жоўкаўскага замка большасць былі старымі. Фактычна гэта была спадчына Яна III Сабескага. Таму некаторыя з жоўкаўскіх гармат яшчэ пры Рыбаньку пайшлі на пераплаўку. Так, для вырабу новых гармат М.К. Радзівіл загадаў адправіць у Алыку захопленую каралём пад Хоцінам картауну. Яшчэ менш баяздольным быў артылерыйскі парк Злочаўскага замка, абсалютная большасць гармат у якім не мела лафетаў. Архаічнасць арсеналаў Жоўквы і Злочава падкрэслівала наяўнасць у іх значнай колькасці гакаўніц, якія ў XVIII ст. ужо не ўжываліся. Такім чынам, для М.К. Радзівіла важнейшымі фартэцыямі з'яўляліся Нясвіжскі і Алыцкі замкі, абарончы патэнцыял якіх быў супастаўляльны.

Важным крокам Рыбанькі ў справе адбудовы артылерыйскага парка сваіх фартэцый была арганізацыя вытворчасці гармат у Алыцы ў 1741 г. Гэта было выклікана неабходнасцю забеспячэння артылерыяй мясцовага замка. Частка з выраблены гармат пазней трапіла і ў Нясвіжскі замак. Вядома, у прыватнасці, што некалькі гармат з Алыкі ў Нясвіж Рыбанька адправіў восенню 1749 г.[8]

Для павелічэння артылерыйскага парка Нясвіжскага замка магнат, як правіла, карыстаўся паслугамі людвісараў, якія працавалі ў розных гарадах краіны. Так, да 1756 г. мясцовы арсенал павялічыўся за кошт шаснаццаці 1-фунтовых гармат, чатыры з якіх былі адліты ва Урэччы, а астатнія дванаццаць — у Оршы. У 1760 г. аршанскі людвісар Яна Павел Бараноўскі вырабіў яшчэ шэсць 1-фунтовых гармат, якія на пачатку 1761 г. былі дастаўлены ў Нясвіж. У выніку дзейнасці Рыбанькі артылерыйскі парк Нясвіжскага замка настолькі ўзрос, што старога арсенала не хапала для размяшчэння ўсіх гармат. Таму камендант замка прапаноўваў знайсці дадатковыя памяшканні для зброі і амуніцыі[9].

Як пісалася вышэй, у XVIII ст. пашыраецца практыка выкарыстання жалезных гармат. Першыя з іх паявіліся ў Нясвіжскім замку ўжо ў канцы XVII ст., а ў сярэдзіне XVIII ст. яны ў значнай колькасці адліваліся ва Урэччы, якое належала брату Рыбанькі Гераніму Фларыяну Радзівілу (1715–1760 гг.). Іх распаўсюджанне было звязана з імкненнем паменшыць вытворчыя выдаткі, бо жалеза каштавала танней за бронзу.

Аднак М.К. Радзівіл, як добра відаць па яго артылерыі, непрыхільна ставіўся да жалезных гармат. Гэта сведчыць аб тым, што артылерыйскі парк Нясвіжскага замка, створаны Рыбанькам, не прызначаўся выключна для абароны гэтай фартэцыі. Важнай акалічнасцю з'яўлялася таксама недасканаласць тэхналогіі вытворчасці жалезных гармат, што рабіла іх прымяненне небяспечнай справай. У гэтым Рыбанька меў магчымасць пераканацца асабіста ажно некалькі разоў. У 1725 г. у Алыцы з нагоды яго шлюбу быў дадзены салют, падчас якога разарвалася жалезная гарма-



*8.2. Рэшткі скураной гарматы.*

та, а кавалак ад яе ўпаў пад ногі Францішкі Уршулі. Другі выпадак здарыўся ў Нясвіжы. У 1747 г. падчас салютавання з нагоды прыезду луцкага біскупа пасля разрыву жалезнай гарматы быў пакалечаны пушкар і ледзь не забіты сам Рыбанька[10].

Артылерыя Нясвіжскага замка пры М.К. Радзівіле была забяспечана ўсім неабходным. Гарматы мелі спраўныя лафеты і авантрэны, ці передкі. Акрамя таго, у замку былі ў наяўнасці ўсе неабходныя інструменты для абслугоўвання і направы гармат і лафетаў, а таксама спецыяльныя вазы для перавозкі пораху і снарадаў.

У часы Рыбанькі ўзрастае роля карцечных зарадаў (мал. 8.3–8.7). У сярэдзіне XVIII ст. у арсенале Нясвіжскага замка было каля 1/3 карцечаў і 2/3 ядраў (табл. 8). Гэтыя суадносіны адпавядалі агульным рэкамендацыям, паводле якіх ядраў патрабавалася ў два разы больш, чым карцечаў[11]. Апрача звычайных ядраў меліся г.зв. "фалькі". У чым заключалася іх спецыфіка, сказаць цяжка, вядома толькі, што яны важылі 2 фунты. Як бачна па інвентарах, у Нясвіжскім замку была нязначная колькасць гранат і бомбаў для гармат і марцір, і зусім не было ручных гранат. Адсутнасць апошніх патлумачыць няпроста, бо ў той час яны выкарыстоўваліся даволі шырока. Прыкладам, у налібоцкай шкляной мануфактуры, якая належала Г.Ф. Радзівілу, была наладжана вытворчасць ручных гранат са шкла, а ў Бельскім замку ў 1748 г. іх мелася больш за паўтары тысячы[12].

Забеспячэнне нясвіжскага арсенала порахам, як і раней, ішло пераважна з Украіны. Аб ролі ўкраінскіх маёнткаў Рыбанькі ў гэтай справе сведчыць інвентар 1753 г., паводле якога ў Жоўкаўскім замку было ажно 102 бочкі пораху, 30 бочак салетры, 28 бочак се-



*8.3–8.7. Ядры, карцечы і бомбы. Малюнкі з архіва Радзівілаў, XVIII ст. AGAD, AR, dz.VII, nr 715.*

ры. У суседнім з Нясвіжскай ардынацыяй Слуцкім княстве з ініцыятывы Ганны Кацярыны Радзівіл, маці Рыбанькі, у 1740-я гг. рабіліся спробы арганізаваць вытворчасць салетры, якая была асноўным складнікам пораху. Аднак, відаць, гэтыя спробы былі беспаспяховыя[13]. Выракляць порах на месцы з салетры, серы і вугалю, як і раней, было танней, чым набываць гатовы. З гэтай прычыны ў Нясвіжы функцыянаваў парахавы млын.

У той жа час трэба адзначыць, што пры Рыбаньку Нясвіжскі замак быў даволі кепска забяспечаны порахам. Прыкладам, неўзабаве пасля смерці магната ў 1762 г. выявілася, што пораху бракуе нават для цырымоніі яго пахавання[14]. Адсутнасць запасаў пораху фактычна азначае, што фартэцыя была дрэнна падрыхтавана да абароны, а артылерыя выкарыстоўвалася пераважна для рознага кшталту ўрачыстасцей.

Істотна змянілася пры Рыбаньку сітуацыя з пушкарамі. Магнат забяспечыў Нясвіжскі замак пастаяннымі гарнізонамі, у склад якіх былі ўключаны і кананіры. Іншымі словамі, з гэтага часу пушкары не вербаваліся ў выпадку ваеннай пагрозы, а пастаянна служылі ў фартэцыі. Сфарміраваць уласны гарнізон у Нясвіжскім замку Рыбаньку, верагодна, падштурхнулі падзеі 1733–1735 гг. У далейшым магнат паставіў сталыя атрады жаўнераў ва ўсіх буйных уладаннях.

Варта адзначыць, што з'яўленне пастаянных гарнізонаў у прыватнаўласніцкіх фартэцыях было характэрнай тэндэнцыяй для XVIII ст. У 1761 г., г.зн. напрыканцы жыцця Рыбанькі, калі яго зямельныя ўладанні неверагодна ўзраслі за кошт зямель памерлага брата Гераніма Фларыяна, гарнізоны стаялі ў 14 населеных пунктах, з якіх 6 знаходзілася на беларускіх землях (Слуцк, Нясвіж, Мір, Карэлічы, Лахва, Копысь). Найбольш пушкароў служыла ў Слуцку (1 штыкюнкер, ці харужы, 1 сяржант, 1 капрал, 15 пушкароў). У Нясвіжы і Белай служыла адпаведна 11 і 9 пушкароў. Па 2 пушкары знаходзілася ў гарнізонах Алыкі і Жоўквы[15]. Калі ўлічыць, што фартэцыі ў Слуцку і Белай з іх моцнымі гарнізонамі перайшлі ў валоданне Рыбанькі ў 1760 г. як спадчына па брацe, робіцца зразумелым, што да гэтага часу Нясвіжскі замак быў наймацнейшай фартэцыяй магната.

Пушкары складалі прыкладна чацвёртую частку ад усяго гарнізона Нясвіжскага замка (табл. 9[16]). Іх колькасць вагалася ад 5 да 19 чалавек (звычайна іх было 8). Уласна гарнізон фартэцыі складаўся з 30–40 чалавек. Пушкары атрымалі пры Рыбаньку аднолькавыя мундзіры[17]. На чале кананіраў стаяў альбо афіцэр (паручнік, харужы), альбо падафіцэр (сяржант). Пушкары, як і афіцэры з падафіцэрамі, наймаліся на службу і мелі права з дазволу магната яе пакінуць. Так, у 1755 г. сяржант і некаторыя пушкары вырашылі звольніцца, на што Рыбанька ў лісце да каменданта даў наступную рэзалюцыю: "Цяжка іх гвалтам трымаць, трэба шукаць іншых"[18]. Іншы выпадак здарыўся праз год, калі з замка збег пушкар расійскага паходжання. Яго спрабавалі знайсці, аднак беспаспяхова. Камендант сцвярджаў, што гэта быў непісьменны і слабападрыхтаваны пушкар[19]. Тым не менш ён усё адно быў прыняты на службу, а гэта значыць, што з наймам спецыялістаў для абслугоўвання артылерыі было ўсё не так проста.

Дый сама прафесія была небяспечная. Нават зважаючы на тое, што пры жыцці Рыбанькі нясвіжскі гарнізон не ўдзельнічаў у сур'ёзных баявых дзеяннях, па розных прычынах загінула і пакалечылася некалькі пушкароў. У 1740 г. у Жоўкве загінуў пушкар, неасцярожна набіваючы гармату, у 1747 г. у Нясвіжы кананір пакалечыўся ў выніку разрыву гарматы, а ў 1753 г. з-за неасцярожнасці ў час салюту былі паранены тры пушкары, і загінуў "пушкарскі" сяржант Міхалевіч, якога Рыбанька высока цаніў[20]. Апрача вярбоўкі пушкароў паводле практыкі ранейшых часоў вопытным канаанірам маглі аддаваць здольных да прафесіі хлопцаў на навуку. Да сярэдзіны XVIII ст. пушкарская служба часта спалучалася з рамеснымі заняткамі, што было своеасаблівым перажыткам ранейшых часоў. Часцей за ўсё пушкары займаліся дзейнасцю, звязанай з вырабам пораху альбо направай зброі і амуніцыі. Высока

цаніліся майстры, якія валодалі тэхналогіяй вытворчасці і запуску феерверкаў і ракет.

У XVIII ст. пашырыўся падзел артылерыі на палявую і фартэчную. Апошняя мела выразныя асаблівасці ў канструкцыі лафета і ствала. Адной з прыкмет гэтага падзелу было, як ужо казалася, пашырэнне жалезных гармат. У замках Рыбанькі, у тым ліку ў Нясвіжскім, мы не бачым спецыфічна фартэчных гармат. Тут меўся значны арсенал лёгкіх бронзавых гармат, якія былі забяспечаны добрымі лафетамі і, што больш важна, прыстасаваннямі для транспарціроўкі. У выпадку неабходнасці амаль усе нясвіжскія гарматы можна было вывезці з фартэцыі і перадаць палявому войску. Нават 9- і 12-фунтовыя гарматы, якія былі адліты для Нясвіжскага і Алыцкага замкаў, не з'яўляліся чыста фартэчнымі і маглі выкарыстоўвацца ў палявых бітвах. Такім чынам, арсеналы фартэцый Рыбанькі з'яўляліся важным элементам забеспячэння палявога войска магната. Вядома, што Рыбанька падмацоўваў сваё войска артылерыяй у 1744 г. падчас канфлікту з сандамірскім ваяводам Янам Тарлам, а ў 1756 г. выдаў з нясвіжскага арсенала дзве гарматы вайсковаму аддзелу, які быў накіраваны на Каменшчыну для падаўлення сялянскага паўстання[21].

Галоўнай функцыяй артылерыі Нясвіжскага замка пры М.К. Радзівіле з'яўлялася рэпрэзентацыя яго палітычнага і сацыяльнага становішча ў дзяржаве. З дапамогай артылерыі Рыбанька, які быў далёкі ад мараў аб ваеннай славе, імкнуўся ўсяляк падкрэсліць свой статус галоўнага вайсковага ўрадніка ў ВКЛ. Адпаведныя магчымасці ствараліся дзякуючы align рознага кшталту ўрачыстасцям, якія суправаджаліся салютамі з гармат і стрэльбаў. Трэба адзначыць, што яны былі моцна ўплецены ў барочную культуру XVI–XVIII стст. Як было занатавана ў дыярыушы самога Рыбанькі, салюты былі знакам публічнай весялосці[22]. З іх дапамогай абазначаліся найбольш значныя падзеі ў жыцці магната і яго сям'і. Салюты былі адным з найбольш дзейсных сродкаў уласнай рэпрэзентацыі ў публічнай прасторы і фарміравання вобразу велічы і магутнасці радзівілаўскага роду.

Дзякуючы дыярыушу Рыбанькі можна вызначыць тыя ўрачыстасці, якія суправаджаліся салютамі з гармат. Значная іх частка была звязана з падзеямі ў родзе Радзівілаў. Салютамі адзначаліся нараджэнні і хрышчэнні сыноў, дні нараджэння і імяніны галавы роду, яго сыноў і жонкі, шлюбы і іх гадавіны, а таксама пахаванні. У дні нараджэння гарматы салютавалі, як правіла, непасрэдна ў гадзіну нараджэння і часта білі роўна 100 разоў, што было своеасаблівай формай пажадання імянінніку доўгіх гадоў жыцця. Напрыклад, у гонар дня нараджэння самога Рыбанькі (13 чэрвеня) гарматы салютавалі 100 разоў роўна апоўначы, калі падчас урачыстага банкету ўздымаўся тост за здароўе магната.



*8.8. Выявы гармат і ваенных трафеяў у аздабленні фасада галоўнага корпуса Нясвіжскага замка, сяр. XVIII ст.*

Не менш значнай падзеяй, як можна меркаваць па маштабах урачыстасцей, з'яўляліся імяніны. Апрача абавязковага святкавання імянін членаў сям'і нясвіжскага ардыната, гарматнымі салютамі часта агалошваліся і імяніны блізкіх родных і палітычных саюзнікаў. Прыкладам, у Нясвіжы гучалі гарматныя залпы ў гонар Аўгуста III, цешчы Рыбанькі Тэафіліі Вішнявецкай, бацькі зяця М.К. Радзівіла Вацлава Ржэвускага. Раялісцкая пазіцыя і адданасць нясвіжскага ардыната каралю таксама праяўляліся ў рэгулярным святкаванні дня элекцыі і каранацыі Аўгуста III.

Важнае месца ў жыцці М.К. Радзівіла і яго сям'і займалі рэлігійныя святы. Ударамі з гармат рэгулярна суправаджаліся ўрачыстыя працэсіі на Вялікдзень, які Рыбанька часцей за ўсё сустракаў менавіта ў Нясвіжы. Гарматы салютавалі ў час асвячэння тых ці іншых рэлігійных аб'ектаў. Так, 26 жніўня 1754 г. гучным біццём з гармат суправаджалася асвячэнне першага каменю, закладзенага ў фундамент новай капліцы ў Нясвіжскім замку.

Прыведзены спіс урачыстасцей далёка не поўны. Апрача святаў рэгулярнага характару салютаваннем з гармат віталіся падзеі, якія мелі важнае значэнне для М.К. Радзівіла і яго роду. Салютамі з гармат сустракалі таксама найбольш важных гасцей, якія наведвалі Нясвіж.

Як выглядалі ўрачыстасці і салюты, дае магчымасць уявіць прыезд у Нясвіж Г.Ф. Радзівіла з маладой жонкай у чэрвені 1755 г. Паводле інструкцыі, складзенай самім Рыбанькам, падзеі павінны былі разгортвацца наступным чынам: “Чацвер. Гарматы павінны стаяць на гарадскіх валах, адны ад Слуцкай брамы ажно да манашак [кляштару бенедыктынак. — *М.В.*], другія — ад віленскай брамы да бернардынаў. Горад з цэхамі павінен спаткаць майго брата з маёй братавай на Новым месце, а магістрат з кагалам — сустрэць з прамовай пад Слуцкай брамай. Як стане брат у Новым месце, павінны даць залп з 6 гармат, як у Слуцкую браму заязджаць — другі раз з 6 гармат даць агню, адкуль паедуць у касцёл айцоў езуітаў на *Te Deum Laudamus* [хрысціянскі гімн. — *М.В.*]. Пры пачатым *Te Deum Laudamus* па знаку, дадзеным трубачамі, дадуць агню 36 разоў, а па кожным дванаццатым разе павінны стрымацца, пакуль бунчучныя [бунчучная харугва. — *М.В.*] дадуць агню, і так паслядоўна да 36 разоў мае агонь працягвацца. Па сканчэнні *Te Deum Laudamus* будзем ехаць у замак і як ужо будзем на сярэдзіне грэблі, павінны з равеліна даць агню 6 разоў з гармат. Заехаўшы ў замкавую браму, яшчэ 6 разоў таксама з равеліну дадуць. <…> Пятніца. <…> Пасля абеду хрысціны княжны Веранікі [дачкі Рыбанькі. — *М.В.*]. Па заканчэнні хрысцін з усіх гармат, пачаўшы ад замкавага равеліна, дадуць па разе агню, <…> па вячэры — баль, а самай дванаццатай гадзіне княжна [другая жонка Рыбанькі Ганна Людвіка з Мыцельскіх. — *М.В.*] будзе піць за здароўе князя гетмана [Рыбанькі. — *М.В.*], і дадуць з усіх гармат агню бесперапынна 100 разоў. Субота. Раніцай <…> паедзем у касцёл на *Te Deum Laudamus*. Падчас *Te Deum Laudamus* з гармат дадуць агню 36 разоў, пасля кожнага дванаццатага разу гарматы трохі стрымаюцца, а ўвесь рэгімент пяхоты будзе даваць агню па разе, і так паслядоўна будзе аж да 36 разоў…”[23].

Не будзе перабольшаннем зазначыць, што на салюты і феерверкі ў часы М.К. Радзівіла пайшло ў некалькі разоў больш пораху, чым на ваенныя практыкаванні. Прыкладам, на пахаванні самога Рыбанькі выкарысталі па меншай меры 15 бочак пораху[24]. Гучныя залпы стваралі шмат нязручнасцей як мяшчанам, так і ўладальнікам замкаў. Падчас аднаго з першых вядомых нам салютаў у Нясвіжы ў 1617 г., калі Радзівілы прымалі каралевіча Уладзіслава Вазу, быў дадзены залп з цяжкіх гармат, ад чаго “ледзве вокны цэлыя ў дамах засталіся”[25]. Не дзіўна, што ў 1739 г. М.К. Радзівілу давялося “з-за гармат” адправіць на пэўны час сваю малую дачку ў Гарадзею[26]. Такім чынам, салюты гучалі ў Нясвіжы ў часы Рыбанькі вельмі часта і з’ўляліся звыклай справай для ўладальнікаў Нясвіжскага замка і жыхароў горада.

Аднаўленне нясвіжскай рэзідэнцыі і яе артылерыі было сімвалам узмацнення М.К. Радзівіла на палітычнай арэне Рэчы Паспа-

літай. Аднак гэта была хутчэй бачнасць сілы, імкненне адпавядаць статусу першага военачальніка ў краіне і галавы наймагутнейшага магнацкага роду. Насамрэч ваенны патэнцыял Нясвіжскага замка і яго артылерыйскага парка быў даволі абмежаваны.

1. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 159, 204. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
2. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 599, 600, 658, 661, 670, 692. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
3. AGAD, AR, dz. VII, nr 644, s. 1. Канатацыя вагі гармат у Караляўцы. 04.07.1728.
4. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 1762. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
5. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 312. Інвентар гармат, амуніцыі і іншай зброі ў Нясвіжскім замку. 07.08.1741.
6. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 376. Інвентар арсенала Нясвіжскага замка. 18.09.1749.
7. AGAD, AR, dz. VII, nr 641, s. 13–15. Інвентары арсеналаў Нясвіжскага, Алыцкага, Жоўкаўскага і Злочаўскага замкаў. 01.01.1753; AGAD, AR, dz. VII, nr 641, s. 40–46. Інвентар арсенала Нясвіжскага замка. 08.06.1756.
8. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 1687. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
9. AGAD, AR, dz. V, nr 1092, s. 25–26. К.М. Бойсан да М.К. Радзівіла. Нясвіж, б.д. (1761).
10. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 201–202, 1521. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
11. AGAD, AR, dz. VII, nr 715, s. 12. Спіс снарадаў, неабходных для розных гармат. Б.д.
12. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 820. Спецыфікацыя гранат. 1748.
13. AGAD, AR, dz. V, nr 7127. Кёнігсек да Г.К. Радзівіл. 22.06.1740.
14. AGAD, AR, dz. V, nr 1092. К.М. Бойсан да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 26.05.1762.
15. AGAD, AR, dz. VII, nr 526, s. 1. Спіс гарнізонаў М.К. Радзівіла. 01.10.1761.
16. Табліца падрыхавана на падставе наступных крыніц: AGAD, AR, dz. VII, nr 457–459, 526, 556, 659.
17. AGAD, AR, dz. VII, nr 659. Рапарт аб забеспячэнні нясвіжскага, мірскага і карэліцкага гарнізонаў М.К. Радзівіла. 20.05.1740.
18. AGAD, AR, dz. V, nr 5194. Я. Хіл да М.К. Радзівіла. Нясвіж, 09.11.1755.
19. AGAD, AR, dz. V, nr 3902. Я. Фрычынскі да М.К. Радзівіла. Нясвіж, 27.11.1756.
20. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 1058, 1521. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
21. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 1297, 2040. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
22. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 2173. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
23. AGAD, AR, dz. II, nr 46, s. 969–970. Забавы падчас знаходжання Г.Ф. Радзівіла ў Нясвіжы ў 1755 г.
24. AGAD, AR, dz. VII, nr 642. Спіс рэчаў, выдадзеных са слуцкага арсенала. С. 191.
25. Pamiętniki Samuela Maskiewicza. S. 102.
26. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 988. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.



*Гармата "Цырцэя", задні чоп у выглядзе галавы чалавека. Г. Мольцфельт, 1600 г.*

# ВЫРАБ ГАРМАТ

Асобнай і вельмі цікавай тэмай з'яўляецца ліццё гармат для Нясвіжскага замка. Разгляд гэтага пытання карысны не толькі ў кантэксце забеспячэння артылерыяй асобнай прыватнаўласніцкай фартэцыі, але і для разумення гісторыі ліцейнай справы на беларускіх землях у цэлым.

Першапачаткова ліцейшчыкі, якіх у нас таксама называлі людвісарамі ці гісэрамі, былі вандроўнымі рамеснікамі і не мелі сталых майстэрняў. Званы ліліся побач з касцёламі, для аздаблення якіх яны замаўляліся, а гарматы — перад крэпасцямі, для аблогі якіх яны прызначаліся[1]. Акрамя таго, ліцейшчыкі выконвалі функцыі пушкароў, абслугоўваючы гарматы ўласнай вытворчасці. З другой паловы XV ст. з ускладненнем тэхналогіі вырабу ствалоў пачала пашырацца практыка заснавання пастаянных ліцейных майстэрняў (людвісарняў ці гісэрняў) у найбольш зручных месцах з эканамічнага і ваенна-лагістычнага пункту гледжання. Гэта былі альбо майстэрні асобных гісэраў, якія выконвалі замовы прыватных асоб, альбо вялікія прадпрыемствы, якія паўставалі з ініцыятывы дзяржавы. Такой была віленская людвісарня сярэдзіны XVI ст., арганізаваная на загад Жыгімонта II Аўгуста з мэтай забеспячэння артылерыяй памежных замкаў ВКЛ. Прадпрыемствы такога кшталту ў Еўропе да сярэдзіны XVII ст. мелі часовы характар і са змяншэннем цікавасці з боку дзяржаўных структур да артылерыі занепадалі. З умацаваннем цэнтральнай улады



9.1. Выраб фальшывай мадэлі гарматы, XVI ст.

ў еўрапейскіх краінах у XVII ст. пачалі ствараецца вялікія мануфактуры па вытворчасці зброі, якія працавалі на сталай аснове і выконвалі дзяржаўныя замовы на забеспячэнне ўзбраеннем вялікіх рэгулярных армій. У Рэчы Паспалітай з прычыны адсутнасці абсалютысцкіх тэндэнцый армія заставалася нешматлікай, а справа вытворчасці зброі захоўвалася ў руках асобных рамеснікаў ажно да канца XVIII ст.

У выпадку вялікіх замоваў людвісараў маглі наймаць на працяглы час. Тады яны ставілі свае варштаты ў горадзе, для якога замаўляліся гарматы альбо званы. Добрым прыкладам з'яўляецца Г. Мольцфельт, для якога М.К. Радзівіл загадаў узвесці майстэрню ў самім Нясвіжскім замку. На пастаяннай аснове людвісары служылі ў Радзівілаў і ў XVIII ст., атрымліваючы заробак нароўні з іншымі рамеснікамі.

Аднак у большасці выпадкаў Радзівілы замаўлялі гарматы ў людвісараў, якія мелі свае варштаты ў вялікіх гарадах краіны (Гданьск, Вільня і інш.). Адным з першых ліцейшчыкаў, які прыклаў сваю руку да стварэння артылерыйскага парка Нясвіжскага замка, быў Стэфан Борнікель, майстэрня якога знаходзілася ў Вільні. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка замовіў у яго ў 1576–1577 гг. серыю лёгкіх гармат, якія з узвядзеннем бастыённага замка ў Нясвіжы трапілі ў яго арсенал. У 1596–1597 гг. магнат зрабіў у невядомага нам рамесніка вялікую замову на 10 гармат непасрэдна для новай фартэцыі. На маю думку, гэтым рамеснікам мог быць спецыяліст з аднаго з вялікіх людвісарскіх цэнтраў Рэчы Паспалітай: Вільні, Гданьска, Рыгі ці інш.

Запрашэнне Г. Мольцфельта ў Нясвіж у канцы XVI ст. было новай з'явай у плане вытворчасці гармат для мясцовай фартэцыі. З упэўненасцю можна сцвярджаць, што немец працаваў тут прынамсі з 1599 да 1603 г., калі былі адліты восем гармат. На мой погляд, не столькі памер замовы, колькі высокая ўвага да аздаблення гармат падштурхнула М.К. Радзівіла паставіць людвісарню непасрэдна на тэрыторыі Нясвіжскага замка. Фундатар, напэўна, меў вялікае жаданне асабіста сачыць за працэсам вытворчасці і ўплываць на канчатковы выгляд замоўленай зброі. Гэта было магчыма на стадыі "праектавання", калі ствараўся візуальны вобраз гарматы, а таксама на стадыі вырабу г.зв. "фальшывай" мадэлі ствала. Падрыхтоўка накіда і яго ўвасабленне ў фальшывай мадэлі, як правіла, даручаліся скульптару, які, такім чынам, меў вялікі

ўплыў на канцэпцыю аздаблення зброі. Як мяркуе Т. Бернатовіч, над мадэлямі нясвіжскіх гармат працаваў скульптар Філіп[2]. Трэба дадаць, што найбольш здольныя людвісары абыходзіліся падчас падрыхтоўкі мадэлі без скульптара.

Фальшывая мадэль рабілася на аснове бервяна, абкручанага саломай і абмазанага рошчынай з гліны і тоўчанай цэглы (мал. 9.1). Само бервяно мацавалася так, каб мець магчымасць паварочваць яго па сваёй восі з дапамогай калаўрота. Пры павароце калаўрота мадэль, дзякуючы выкарыстанню спецыяльна падрыхтаванага шаблона, выраўнівалася і падганялася пад патрэбныя прапорцыі. Затым да яе мацаваліся драўляныя чопы, з сумесі пчалінага воску, сала і тоўчанага вугалю рабіліся формы дэльфінаў, а з сумесі воску і шкіпінару — надпісы і арнамент[3]. Апошняе даручалася скульптару. У выпадку гармат Г. Мольцфельта можна казаць аб выкарыстанні спецыяльных скрынак для фармавання элементаў дэкору. Прычым іх выкарыстоўвалі пры вытворчасці некалькіх гармат, што тлумачыць ідэнтычнасць асобных элементаў аздаблення на розных гарматах, у прыватнасці гербаў. З дапамогай такіх скрынак "Гідра", "Цэрбер" і "Сава" атрымалі адзін від герба, а "Вінаград", "Цырцэя" і "Папугай" — другі.

З дапамогай фальшывай мадэлі выраблялася форма для адлівання ствала гарматы. Для гэтага мадэль насычалі тлушчам і абкладвалі слаямі гліны, змяшанай з конскім гноем і каровінай воўнай. Атрыманая такім чынам форма таўшчынёй 10–12 см сушылася над агнём. Для большай трываласці яе ўзмацнялі папярочнымі абручамі і прыціснутымі дротам бляхамі. Затым драўляныя мадэлі чопаў вымаліся, а адтуліны ад іх таксама ўзмацняліся абручамі. Мадэль яшчэ раз пакрывалі тоўстымі слаямі гліны і сушылі. У канцы з формы выцягвалі драўлянае бервяно і разагравалі яе на агні, ад чаго слаі тлушчу, формы дэльфінаў і арнаментаў растапліваліся. У канцы ў гліняную форму ўстаўляўся жалезны стрыжань, які адпавядаў унутранаму каналу будучай гарматы[4].

Наступным этапам было ўласна адліванне ствала гарматы. Гатовую форму пераносілі ў гісэрню, альбо памяшканне з печчу, у якой плавіўся метал, і ставілі ў выкапаны дол. Вядома, прыкладам, што гісэрня Г. Мольцфельта знаходзілася на тэрыторыі самога замка ў Нясвіжы. Пазней ліцейныя майстэрні ставіліся ўжо па-за замкам. Памер печы і долу залежалі ад аб'ёму металу і габарытаў канчатковага вырабу. Так, паводле інструкцыі людвісара ў Нясвіжы для адлівання вялізнага звона з расплаўленых падчас Паўночнай вайны гармат трэба было выкапаць дол шырынёй уздоўж і ўпоперак 4 сажні (каля 8 м) і глыбінёй "аж з два чалавекі" (каля 3–4 м)[5]. Вялізнай мусіла быць і печ, паколькі агульная вага бронзы ад гэтых гармат складала каля 9 тон. Відавочна, менавіта з-за цяжкасцей з узвядзен-

нем печы для пераплаўкі такога вялікага аб'ёму металу амбітныя планы па адліванні звона ўрэшце не былі рэалізаваны.

Для плаўлення металу патрабавалася тэмпература вышэй за 1000°С, таму часта выкарыстоўвалі мяхі для надзьмухвання паветра. Для топкі печы бралі драўляны вугаль, якога патрабавалася ў тры разы больш за вагу металу, што меркавалася плавіць. Для атрымання лепшай па якасці бронзы людвісары часта дадавалі да асноўных металаў г.зв. мадыфікатары. Галоўнымі складнікамі спіжы, ці віду бронзы, які выкарыстоўваўся для ліцця гармат, былі медзь, волава (4–11%), цынк (2–7%) і свінец (2–6%). Пры гэтым ваганні суадносін складнікаў, як і час іх дадавання, былі таямніцаю асобных ліцейшчыкаў[6]. Метал для ліцця паходзіў з Польшчы, Венгрыі, Чэхіі альбо Германіі і экспартаваўся праз вялікія гандлёвыя гарады, найбуйнейшым з якіх быў Гданьск. Вядома, што менавіта там у канцы XVI ст. Сіротка за 1000 злотых закупіў каля 4 тон спіжы, якія прызначаліся, хутчэй за ўсё, для ліцця гармат у Нясвіжы[7]. Справа з металам спрашчалася, калі меліся старыя гарматы альбо званы, якія можна было пусціць на пераплаўку. Менавіта з гэтай прычыны так мала старых гармат дайшло да сённяшняга часу. З іншага боку, захаванне ад пераплаўкі цягам некалькіх стагоддзяў тых васьмі нясвіжскіх гармат ліцця Г. Мольцфельта пераканаўча сведчыць аб тым, што іх мастацкая вартасць для сучаснікаў была куды больш каштоўная за вагу металу, які можна было з іх здабыць.

Расплаўлены метал улівалі ў пастаўленую вертыкальна форму. Дачакаўшыся астывання металу, форму разбівалі і вымалі гатовы выраб. Затым ствол гарматы чысцілі і высвідроўвалі ў ім унутраны канал патрэбнага дыяметра. У познім Сярэднявеччы практыкавалася адліванне гармат з унутраным жалезным стрыжнем, які пасля адліўкі вымаўся. Такім чынам, унутраны канал фармаваўся адразу. Пазней, у XVI ст., дыяметр унутранага стрыжня быў зменшаны, а канал патрэбнага калібру рассвідроўвалі, што дазваляла атрымаць больш якасны ствол (мал. 9.2). Гэтая тэхналогія выкарыстоўвалася і пры вытворчасці нясвіжскіх гармат — пра наяўнасць свідроў для гармат сведчаць інвентары Нясвіжскага замка XVII ст.

Паколькі гарматы, якія адліваў Г. Мольцфельт, мелі складанае дэкаратыўнае аздабленне, важнай пры іх канчатковай апрацоўцы была праца злотніка, які ачышчаў ствалы і дапрацоўваў дэталі. З рахункаў магната за 1600 г. вядома, што нясвіжскія гарматы апрацоўваў злотнік Стэфан. Ён займаўся аздабленнем "Гідры", "Цэрбера", "Цырцэі", "Папугая", "Св. Мікалая", "Св. Крыштафа", а таксама нейкіх іншых гармат, за што ў суме атрымаў 33 злотых[8].

З гатовых гармат рабілі некалькі пробных стрэлаў з зарадам большым за звычайны, што давала магчымасць адразу выявіць усе хібы, якія маглі быць зроблены пры адліўцы ствала. Як правіла,

пробны зарад пораху адпавядаў вазе ядра. У канцы гарматы абавязкова ўзважвалі, каб зрабіць канчатковы разлік з людвісарам. Справа ў тым, што фундатар, які даваў гатовы метал альбо аплачваў яго закупку, павінен быў спраўдзіць аб'ём металу, што пайшоў на выраб гарматы. Пры ўзважванні ўлічвалася, што 10% металу ішло на "ўпал", г.зн. страчвалася ў працэсе ліцця. Пасля выпрабавання гармат і іх узважвання фундатар канчаткова разлічваўся за працу з людвісарам.



*9.2. Свідраванне ствала гарматы, XVI ст.*

З кнігі рахункаў за 1600 г. вядомы некаторыя падрабязнасці, якія характарызуюць працэс вытворчасці гармат у Нясвіжы. Так, у лютым — маі 1600 г. злотнік працаваў над ачысткай і ўпрыгожваннем адлітых у 1599 г. "Гідры" і "Цэрбера", пасля чаго ўзяўся за адлітыя ў 1600 г. "Цырцэю" і "Папугая". Ужо ў маі гэтыя гарматы былі скончаны і прайшлі выпрабаванні. 1 ліпеня Г. Мольцфельт адліў дзве новыя гарматы, якімі з'яўляліся "Сава" і "Вінаград". 7 ліпеня яны былі выпрабаваны. Апрацоўкай гэтых дзвюх гармат злотнік займаўся ў ліпені і жніўні.

Замоўца гарматы і майстар, як правіла, працавалі па кантракце, а аплата работы магла ажыццяўляцца ў якасці авансу альбо пры передачы гатовых гармат. На нашу думку, менавіта паводле такой схемы працаваў і Г. Мольцфельт, пераехаўшы ў Нясвіж. Прычым у згаданай кнізе выдаткаў за 1600 г. не фігуруе асноўная сума, выплачаная майстру. Тыя 2 злотых, выдадзеных людвісару пры ліцці дзвюх гармат і 4 злотых — пры выпрабаванні шасці гармат, былі, найверагодней, своеасаблівай узнагародай за якаснае выкананне працы. Акрамя таго, з улікам пастаяннага пражывання ў Нясвіжы майстар атрымліваў 20 злотых у якасці юргельту (заробку) і 12 злотых у якасці "страўных".

З недатаванага спісу першых гармат, замоўленых Сіроткам для Нясвіжскага замка, вядома, што аплата працы людвісара складала каля 20–25% ад выдаткаў на выраб гарматы. Так, кошт матэрыялу для "Св. Мікалая" складаў 824 злотых 2 грошы і 9 шэлягаў, а людвісару было выплачана 269 злотых і 28 грошаў. Усяго ж на дзесяць гармат было выдаткавана 3272 злотых 13 грошаў і 3¼ шэлягаў, з якіх людвісару пайшлі 762 злотых 23 грошы і 14½ шэлягаў. З гэтых сродкаў людвісар кампенсаваў усе дадатковыя выдаткі, якія паўставалі пры вытворчасці гармат.

Праца Г. Мольцфельта ў Нясвіжы была яскравым эпізодам у гісторыі ліцейнай справы ў радзівілаўскай сталіцы. Гісэрня, у якой ён



Michał Kazimierz Radziwiłł Xiążę na Ołyce Nieświżu Birżach Dubinkach Klecku y S. Państwa Rzymskiego Xrabia na Mirze Szydłowcu Kroszach Kopysi y Białey a na Żółkwi Złoczowie Pomorzanach Pan y Dziedzic Wojewoda Wileński Hetman Wielki W. X. Litt. Człuchowski Kamieniecki Nowotargski Pariszewski Osiecki etc Starosta. Orderow Orła Białego S. Andrzeja y S. Huberta Kawaler.

1760

Czyniemy wiadomo tym naszym Kontraktem danym Pawłowi Baranowskiemu Ludwisarzowi iże z Nim takowe postanowienie uczyniliśmy na odlanie sześciu Armat według modelu dawnieyszego na który dwanaście jest sztuk odlanych z których każda ma wagi po funtow sto sześćdziesiąt y pięć wagi wielkiey, postanowiliśmy tedy za funt dobrey nie fałszowaney materyi po szostaków cztery za robotę od jedney Armaty Tynfow Trzydzieści Trzy za upał jedney Armaty Tynfow Dwadzieście Dwa uczyni Tynfow Dwieście siedmdziesiąt y sześć a tak za sześć Armat Summa wynosi Tynfow Tysiąc Sześć Set Pięćdziesiąt y Sześć Dico Tynf. 1656 które ze Skarbu naszego zapłacić rozkazaliśmy, pomieniony zaś Ludwisarz Paweł Baranowski obligiuie się od Daty niniejszey na Narodzenie Nayświętszey Panny Święta Rzymskiego Dnia 8 7bris w Roku Teraźnieyszym 1760 odlać y przystawić do Kopysi. Ostrzega się to także aby do tey materyi nie mieszał w całe cyny, która zwykle kruszy dodawać y nie bespieczne czynić Działa. Na co dla lepszego waloru ten Kontrakt ręką naszą y zwykłą pieczęcią podpisujemy. Datt w Pałacu moim Nieświżskim dnia 14 Januarii 1760 Ao.

M K Radziwiłł
WWHWWXL

Contrakt na sześć Armat Ludwisarskim

*9.3. Кантракт М.К. Радзівіла з Я.П. Бараноўскім на выраб гармат, 1760 г. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 488.*

працаваў, а таксама некаторае людвісарскае начынне захоўваліся ў замку да сярэдзіны XVII ст., г.зн. гаспадары пакідалі магчымасць у выпадку патрэбы аднавіць вытворчасць. Верагодна, у майстэрні Г. Мольцфельта ў 1656–1657 гг. з састарэлай гарматы “Месяц”, якая разарвалася падчас абароны замка ў 1655–1656 гг., былі адліты чатыры новыя гарматы ў гонар “вялікіх прарокаў”. Вышэй згадвалася, што ў 1690-х гг. у Нясвіжскім замку паявіліся тры новыя марціры з гербамі тагачаснага ўладальніка К.С. Радзівіла. Аднак нам невядома, адліваліся яны ў Нясвіжы ці недзе ў іншым месцы. Цягам XVII ст. людвісары маглі паяўляцца ў Нясвіжы ў сувязі з невялікімі замовамі. Аднак такога ўздыму, як пры Сіротку, ліцейная справа, відавочна, ужо не дасягнула.

Паўночная вайна прывяла рэзідэнцыю Радзівілаў да глыбокага заняпаду. Аднак пасля заканчэння актыўных ваенных дзеянняў на землях ВКЛ ліцейную справу ў Нясвіжы аднавілі ў сувязі з неабходнасцю адраджэння разбуранай рэзідэнцыі. У 1711 г. было прынята рашэнне адліць з пяці кавалкаў, якія засталіся ад гармат, вялікі звон. Справа была даручана людвісару па прозвішчы Патан[9]. Ад гэтай амбітнай ідэі з часам адмовіліся, прыняўшы рашэнне адліць некалькі меншых званоў. Першым стаў вялікі звон для мястэчка Мір, на які К.С. Радзівіл у 1715 г. ахвяраваў 100 камянёў спіжы (1499 кг)[10]. У 1718 г. у Нясвіжы былі адліты яшчэ тры званы, якія неўзабаве перавезлі ў Белую. У 1721 г. туды ж з’ехаў хворы на той час людвісар[11]. Такім чынам, дзейнасць гэтага людвісара ў Нясвіжы была звязана выключна з вырабам званоў з гармат, пашкоджаных у ваенны час.

Першы час пасля атрымання нясвіжскай ардынацыі ў сваё валоданне Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька меў пры двары ў Нясвіжы людвісара. Вядома, што ў лістападзе 1739 г. быў падпісаны кантракт з Тамашам Гапановічам, які абавязваўся пасяліцца ў Нясвіжы і працаваць на магната. Паводле дамовы ён павінен быў атрымліваць па 8 злотых за кожны камень адлітага металу і дадаткова 8 злотых “страўных” у год[12]. Аднак у хуткім часе Рыбанька вырашыў перавесці свайго нясвіжскага людвісара ў Алыку, якую ён лічыў больш прыдатнай для развіцця ліцейнай справы. З гэтым было звязана закладанне ў 1741 г. у Кумані, якая знаходзілася непадалёк ад Алыкі, рудні, дзе выраблялі ядры для гармат. Вядома,



*9.4. Мануфактура Я.Г. Флемінга ў Славенціны, кан. XVII — пач. XVIII ст. НГАБ, ф. 694, воп. 6, спр. 97.*

што ўлетку 1741 г. "нясвіжскі" людвісар, якім, верагодна, і быў той самы Т. Гапановіч, працаваў у Дубішчах ля Алыкі, дзе з трафейнай турэцкай картауны былі адліты тры 3-фунтовыя гарматы. Паводле інвентару алыцкага арсенала 1763 г., у 1741 г. былі выраблены яшчэ чатыры 12-фунтовыя, сем 4-фунтовых і дванаццаць 1-фунтовых гармат. Усе яны мелі гербы і інскрыпцыі М.К. Радзівіла і, найверагодней, былі выраблены ў Алыцы[13].

Арганізацыя вытворчасці гармат у Алыцы пры Рыбаньку была выклікана неабходнасцю забеспячэння мясцовай фартэцыі. Гэтаксама ў свой час Сіротка запрасіў у Нясвіж Г. Мольцфельта менавіта для вырабу гармат для Нясвіжскага замка. У гэтым не трэба бачыць спробы стварэння ўласнай вытворчасці артылерыйскай зброі. Як гэта практыкавалася і раней, Рыбанька працягваў замаўляць гарматы ў прыватных людвісараў. Менавіта такім чынам пры ім быў сфарміраваны артылерыйскі парк Нясвіжскага замка. У 1761 г. у нясвіжскім арсенале знаходзіліся 4 гарматы, выраблены ў 1727 г. у Гданьску альбо Караляўцы, 6 гармат — у 1738 г. у Гданьску, 4 гарматы — у 1753 г. ва Урэччы пад Слуцкам і 18 гармат — у 1755 і 1760 гг. у Оршы.



*9.5. Печы і формы для ліцця гармат, а таксама механізм для вертыкальнага свідравання. Малюнак з архіва Радзівілаў, XVIII ст. AGAD, AR, dz.VII, nr 715.*

Захаваліся кантракты М.К. Радзівіла з аршанскім ліцейшчыкам Янам Паўлам Бараноўскім. З дапамогай іх можна ўявіць практыку ўзаемадзеяння магната з людвісарамі. Вясною 1755 г. Рыбанька замовіў аршанскаму майстру выраб дзвюх гармат. Людвісару перадаваліся мадэль альбо чарцяжы гармат, па якіх яны павінны былі быць адліты. Агаворвалася, што вага кожнай гарматы павінна была складаць 165 фунтаў (62 кг). Усе грошы за работу, ці 552 тынфы[14], майстар узяў у якасці задатку. Крыху пазней згаданы кантракт быў пашыраны і былі выраблены ажно 12 гармат. Для перадачы гаспадару і канчатковага разліку гарматы прывезлі ў Нясвіж. Пасля іх узважвання людвісару была выплачана рэшта[15].

У студзені 1760 г. М.К. Радзівіл падпісаў з Я.П. Бараноўскім яшчэ адзін кантракт, паводле якога майстар павінен быў вырабіць дадаткова 6 гармат паводле ранейшай мадэлі (мал. 9.3). У сакавіку людвісар атрымаў ад пісара Капыскага графства задатак у памеры 2052 тынфы і 2 шастакі[16] і абавязаўся ў верасні прывезці гатовыя гарматы ў Копысь. У сакавіку 1761 г. усе шэсць гармат былі




9.6. *Механізм для гарызантальнага свідравання ствалоў гармат. Малюнак з архіва Радзівілаў, XVIII ст. AGAD, AR, dz.VII, nr 715.*

ўжо ў Нясвіжы, дзе для іх пачалі рабіць лафеты. Тады ж Рыбанька загадаў пісару Капыскага графства выплаціць рэшту грошай у памеры 846 тынфаў 2 шастакі[17].

Асобнай увагі патрабуе тэма вытворчасці гармат ва Урэччы, якое знаходзілася непадалёку ад Слуцка і належала Радзівілам. У 1737 г., неўзабаве пасля пераходу велізарнага Слуцкага княства ў рукі нясвіжскай галіны Радзівілаў, з ініцыятывы Ганны Кацярыны Радзівіл (1676–1746 гг.), жонкі К.С. Радзівіла, ва Урэччы быў закладзены вялікі вытворчы комплекс, альбо мануфактура, асноўным напрамкам дзейнасці якой першапачаткова стаў выраб люстэркаў. Галоўнай прычынай размяшчэння мануфактуры менавіта ў гэтым мястэчку была магчымасць узвядзення грэблі на мясцовай рэчцы і ўтварэння вялікага става, на шлюзах якога меркавалася паставіць вадзяныя млыны для апрацоўкі люстэркаў. Будаўніцтва мануфактуры разгарнулася ў 1738 г., а праз год яна ўжо запрацавала. Як выглядала мануфактура ва Урэччы, дазваляе ўявіць малюнак мануфактуры ў Славенціцы, якая належала Якабу



*9.7. Мадэль паўкартауны. Малюнак з архіва Радзівілаў, XVIII ст. AGAD, AR, dz. VII, nr 715.*

Генрыху Флемінгу, жанатаму з Тэкляю Ружаю Радзівіл — дачкой Г.К. Радзівіл і адпаведна сястрой Міхала Казіміра і Гераніма Фларыяна (мал. 9.4).

Вясной 1743 г. М.К. Радзівіл упершыню наведаў Урэчча, якое адышло яго брату Гераніму Фларыяну (1715–1760 гг.). Вось што пісаў магнат пра гэты візіт у сваім дыярыушы: "Аглядаў з маім братам, жонкай і сынамі люстэркавую мануфактуру, нічога прыгажэйшага і каштоўнейшага ў гэтым краі быць не можа"[18]. Аднак Г.Ф. Радзівіл не задаволіўся выключна вырабам люстэркаў і прыклаў патрэбныя намаганні, каб развіць ва Урэччы і ліцейную справу (мал. 9.5–9.6). Для гэтага быў завербаваны малады людвісар, які на пачатку 1746 г. прыехаў у Слуцк. Адным з першых заданняў, якое выканаў майстар, стала чыстка дзвюх забітых каменнямі гармат, прывезеных з Дзятлава[19]. У хуткім часе былі адліты і дзве першыя гарматы. У маі 1743 г. у іх высвідравалі ўнутраныя каналы і ў чэрвені перавезлі ў Слуцк[20]. Неўзабаве людвісар пачаў выраблядь формы для ліцця жалезных гармат. Для іх вырабу меркавалася ўзяць мясцовую сыравіну з радовішча ля вёскі Пратасевічы. Да кастрычніка гарматы былі адліты і адпраўлены ў Слуцк, дзе іх пачалі свідраваць[21]. У снежні 1746 г. у налібоцкай рудні, якая таксама належала Г.Ф. Радзівілу, замовілі выраб свідра для паўкартауны, г.зн. неўзабаве ва Урэччы павінны былі пачаць ліць і цяжкія гарматы (мал. 9.7)[22].

Паколькі вытворчасць гармат ва Урэччы была ўжо добра арганізавана, М.К. Радзівіл падчас свайго чарговага наведвання Слуцка ў 1753 г. заключыў кантракт з Янам Гешэйтам, тагачасным урэцкім людвісарам. Дамова датычылася вырабу пяці 1-фунтовых



*9.8. Віды снарадаў і формы для іх вырабу. Малюнак з архіва Радзівілаў, XVIII ст. AGAD, AR, dz.VII, nr 715.*

гармат вагой па 125 фунтаў (47 кг). Майстар абавязваўся адліць іх усяго за тры тыдні[23]. Чатыры з гэтых гармат неўзабаве трапілі ў арсенал Нясвіжскага замка.

Пасля смерці Гераніма Фларыяна ў маі 1760 г. урэцкая мануфактура перайшла да яго старэйшага брата Міхала Казіміра, які наведаў Урэчча ўжо ў чэрвені, дэманструючы гэтым вялікую цікавасць да мясцовых спраў[24]. Пры новым гаспадары ўрэцкі людвісар узяўся за выкананне важнай замовы для люстэркавай мануфактуры, а менавіта — бронзавага стала для фармавання люстэркаў. Звесткі аб яго вырабе, якія захаваліся ў крыніцах, характарызуюць некаторыя цікавыя дэталі ліцейнай справы ва Урэччы. У лютым 1761 г. людвісар падрыхтаваў форму для стала. Тады ж былі прывезены дзве сапсаваныя гарматы, матэрыял з якіх павінен быў пайсці на стол. У канцы сакавіка пасля шматлікіх спроб людвісару ўдалося зрабіць форму, якая была закапана ў зямлю і падрыхтавана да залівання металу. На наступны дзень людвісарню наведаў Аляксандр Людвік Шылінг, які кіраваў мануфактурай, і каталіцкі



*9.9. Шкляная куляўка ў форме ствала гарматы, выробленая ва Урэччы.*

пробашч, які, верагодна, павінен быў прачытаць малітву за поспех будучага мерапрыемства. Аднак першае ліццё не ўдалося. Калі метал быў заліты ў форму, тая патрэскалася, успыхнула вялізнае полымя, якое дасягнула страхі будынка. Кроквы і дах людвісарні вокаімгненна ахапіў агонь, і каб не папераджальныя дзеянні А.Л. Шылінга, то будынак хутка б згарэў. Бяды пазбеглі з дапамогай традыцыйнага ў ліцейнай справе спосабу. З усёй мануфактуры былі сабраны людзі, якіх расставілі на гарышчы будынка з вёдрамі, напоўненымі вадой, і ў патрэбны момант яны хутка згасілі агонь. Прычынай няўдачы А.Л. Шылінг лічыў занадта вільготную зямлю, праз уздзеянне якой гліняная форма зрабілася нетрывалай. Неўзабаве людвісар узяўся за выраб новай формы, а наступнае ліццё было вырашана праводзіць у іншай людвісарні, размешчанай далей у лесе, што было бяспечней на выпадак пажару[25].

У часы Гераніма Фларыяна і Міхала Казіміра людвісарня ва Урэччы працавала бесперапынна. Хоць аб дакладнай колькасці гармат, выробленых там, казаць цяжка, гэтая лічба, напэўна, была значнай. Вядома, прыкладам, што апрача 4 гармат, замоўленых Рыбанькам у 1753 г., у Нясвіжскі замак у першай палове 1760-х гг. трапіла яшчэ 10 урэцкіх гармат, дзве з якіх былі адліты ў 1742 г.[26] Сын М.К. Радзівіла і пераемнік усёй яго спадчыны Караль Станіслаў (1734–1790 гг.) у 1763 г. меркаваў перавесці ў Нясвіж людвісара, які працаваў ва Урэччы, каб наладзіць там вытворчасць гармат і снарадаў для іх. Але, па меркаванні нясвіжскага каменданта Караля Бойсана, гэта было няслушнае рашэнне, бо ва Урэччы ўжо мелася ў наяўнасці ўсё неабходнае, каб аператыўна ўзяцца за выраб зброі[27].

У другой палове 1760–1770-х гг. у сувязі з вымушанай эміграцыяй К.С. Радзівіла ліцейная справа ва Урэччы прыйшла ў заняпад, а пасля вяртання магнат перавёў людвісарскую вытворчасць у Нясвіж. У прыватнасці, вядома, што ў 1784 г. у нясвіжскай людвісарні ў прысутнасці караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1732–1795 гг., кароль з 1764 г.) нават была адліта 24-фунтовая паўкартауна[28]. Людвісарская вытворчасць ва Урэччы, у сваю чаргу, канчаткова заняпала. Вядома, што ў 1786 г. там ужо не было людвісараў, а навучаны “ад даўнейшых немцаў да такога куншту” вучань памёр[29].

Нясвіжская людвісарня не праіснавала доўга і неўзабаве пасля смерці К.С. Радзівіла была закінута. У сваю чаргу, ва Урэччы, нягледзячы на заняпад ліцейнай справы, шкляная мануфактура, якая прыйшла на змену люстэркавай, дзейнічала ажно да 1846 г.[30] Цікава, што тэма артылерыі знайшла водгук у яе вырабах (мал. 9.9).

1. Egg E. Op. cit. S. 5.
2. Bernatowicz T. Monumenta variis Radivillorum. S. 27.
3. Szymczak J. Op. cit. S. 89.
4. Ibidem.
5. AGAD, AR, dz. V, nr 16163, s. 132–135. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 12.11.1711.
6. Szymczak J. Op. cit. S. 87; Schmidtchen V. Op. cit. S. 31.
7. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 126. Спіс гармат. Б.д.
8. НГАБ, ф. 694, воп. 2, спр. 4959. Кніга прыходу і выдаткаў грошай М.К. Радзівіла за 1600 г.
9. Паводле А. Снежка, гэта быў Амброжы Ян Пат, які паходзіў з Гданьска: Śnieżko A. Op. cit. S. 52. Упершыню ён згадваецца ў лістах Е.В. Таўрыловіча на пачатку 1711 г. у сувязі з забойствам жонкі, у якім майстра абвінавацілі яе сваякі: AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Альба, 19.02.1711.
10. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 166. Рэестр сапсаваных гармат, якія знаходзяцца ў Нясвіжскім замку. Нясвіж, 12.11.1715; AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 13.11.1715.
11. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да Г.К. Радзівіл. Гародня, 23.08.1718; Нясвіж, 02.12.1718, 31.12.1718, 22.07.1719, 04.02.1719, 10.01.1721, 19.01.1721, 30.01.1721.
12. AGAD, AR, dz. XXI, nr H13. У крыніцах таксама згадваецца імя людвісара Антонія Апановіча, які, па ўсёй верагоднасці, працаваў ці то на М.К. Радзівіла, ці то на яго сына К.С. Радзівіла. Гл.: AGAD, AR, dz. VII, nr 644, s. 15. Напэўна, яны былі сваякамі з Т. Гапановічам, таму можна казаць аб дынастыі людвісараў, якая працавала ў Радзівілаў.
13. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 872. Інвентар арсенала Алыцкага замка. 20.05.1763.
14. У 1708 г. 30 тынфаў раўняліся 40 злотым. AGAD, AR, dz. V, nr 16163. Е.В. Таўрыловіч да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 24.12.1708.
15. AGAD, AR, dz. XXI, nr B34, s. 3.
16. 1 тынф раўняўся 3 шастакам.
17. AGAD, AR, dz. XXI, nr B23, nr B35; AGAD, AR, dz. V, nr 1092, s. 25–26. К.М. Бойсан да М.К. Радзівіла. Нясвіж, б.д. (1761).
18. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 1239. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
19. AGAD, AR, dz. V, nr 7127. Кёнігсек да Г.Ф. Радзівіла. Слуцк, 07.02.1746, 08.03.1746.
20. AGAD, AR, dz. V, nr 3500. Т. Дзердзяеўскі да Г.Ф. Радзівіла. Урэчча, 04.06.1746, 01.07.1746.
21. AGAD, AR, dz. V, nr 7127. Кёнігсек да Г.Ф. Радзівіла. Слуцк, 18.07.1746, 25.10.1746; AGAD, AR, dz. V, nr 3500. Т. Дзердзяеўскі да Г.Ф. Радзівіла. Урэчча, 01.08.1746.
22. AGAD, AR, dz. V, nr 3500. Т. Дзердзяеўскі да Г.Ф. Радзівіла. Урэчча, 01.12.1746.
23. AGAD, AR, dz. XXI, nr G24.
24. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 2267. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.
25. AGAD, AR, dz. V, nr 15984. А.Л. Шылінг да М.К. Радзівіла. 11.01.1761, 07.02.1761, 29.03.1761, 03.04.1761.
26. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 542. Рэестр гармат, высланых з Лахвы ў Нясвіж. 18.05.1765.
27. AGAD, AR, dz. V, nr 1092. К.М. Бойсан да М.К. Радзівіла. Нясвіж, 07.09.1763.
28. Pamiętnik o księciu Karolu Radziwille, pisany podług Archiwum Nieświezkiego. Lwów, 1864. S. 72–73.
29. AGAD, AR, dz. V, nr 12181. А. Папіні да К.С. Радзівіла. Слуцк, 09.09.1786.
30. Яніцкая М. Урэцкая шкляная мануфактура // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6, ч. 1. Мінск, 2001. С. 590.

# РЭФОРМА КАРАЛЯ СТАНІСЛАВА РАДЗІВІЛА ПАНЕ КАХАНКУ

Велізарныя зямельныя ўладанні Міхала Казіміра Радзівіла, у тым ліку Нясвіжская ардынацыя, пасля смерці магната ў 1762 г. адышлі яго трэцяму сыну Каралю Станіславу, вядомаму па мянушцы "Пане Каханку" (мал. 10.1). Яшчэ пры жыцці ён стаў сапраўднай легендай, своеасаблівым сімвалам заканчэння эпохі залатых шляхецкіх вольнасцей і самой Рэчы Паспалітай. Слава Пане Каханку дзякуючы розным гістарычным аповедам і байкам жыве да цяперашяга часу. Гэта паўплывала на фарміраванне гратэскнага вобраза магната, які перашкаджае нам убачыць рэальную гістарычную асобу. Напрыклад, не так шмат вядома пра войска Пане Каханку, якое было адным з асноўных інструментаў рэалізацыі яго амбітных намераў. Невядомай застаецца і дзейнасць магната па ўдасканаленні артылерыі, а яго ўнёсак у гэтую справу быў вельмі значны.

Пасля смерці бацькі 15 мая 1762 г. Караль Станіслаў стаў уладальнікам вялікай спадчыны і адначасова галавой усяго роду. Гэта дало яму магчымасць рэалізаваць свае амбіцыі і пазмагацца за першае месца на палітычнай арэне Рэчы Паспалітай з магутнай партыяй Чартарыйскіх, якую падтрымлівала Расія. Унутрыпалітычная сітуацыя ў краіне асабліва ўскладнілася ўвосень 1763 г., калі пасля смерці караля Аўгуста III паўстала пытанне аб выбары новага манарха. Пагроза ўнутраных канфліктаў і іншаземнай інтэрвенцыі прымусілі К.С. Радзівіла скіраваць усе



*10.1. Караль Станіслаў Радзівіл Пане Каханку, 1767 г.*

магчымыя сілы і сродкі на ўмацаванне сваёй міліцыі.

Пасля смерці бацькі Пане Каханку шчыльна заняўся праблемамі свайго войска. Ужо ў чэрвені 1762 г. ён аддаў загад камендантам гарнізонаў бараніць свае ўладанні ад магчымых нападаў праціўніка. Неўзабаве падраздзяленні магната былі падзелены на два батальёны: валынскі і літоўскі. Пачалося павелічэнне лічбавага складу міліцыі. У студзені 1763 г. яе колькасць дасягала ўжо 1683 чалавек[1]. Нясвіж стаў цэнтрам камплектавання і збору арміі Пане Каханку — з пачатку 1763 г. сюды сцягваліся многія вайсковыя падраздзяленні[2]. Замак павінен быў выконваць ролю галоўнага ваеннага магазіна, ці склада па забеспячэнні жаўнераў усім неабходным.

Апрача вайсковых аддзелаў у Нясвіж пачала сцягвацца і артылерыя. Вядома, што вясною 1763 г. у Слуцк з Валыні было прывезена 58 гармат, якія прызначаліся для ўмацавання нясвіжскай і слуцкай фартэцый, а таксама для забеспячэння палявога войска[3]. Сярод гэтай артылерыі знаходзіліся 18 гармат з Алыцкага замка[4] і мноства старых гармат, якія ў свой час набыў і захоўваў у Белай Г.Ф. Радзівіл. Частка з іх у далейшым трапіла ў Нясвіжскі замак і захоўвалася там ажно да сярэдзіны XX ст.

Коратка згадаем абставіны стварэння калекцыі старых гармат Г.Ф. Радзівіла. У 1748 г. магнат набыў 11 гармат у Станіслава Любамірскага з фартэцыі ў Ланцуце. Вясною таго ж года яны былі перавезены ў Белую, дзе для іх вырабілі лафеты. У 1753 г. Г.Ф. Радзівіл купіў у магістрата Львова яшчэ 37 гармат. Некаторыя з іх захоўваліся ў Нясвіжы да сярэдзіны XX ст.[5] Значная колькасць старых гармат, на маю думку, была патрэбна Г.Ф. Радзівілу хутчэй не для ваенных, а для рэпрэзентатыўных мэтаў. Гэтая зброя павінна была выконваць ролю ваеннага трафея і сімвалізаваць славу роду Радзівілаў. Пане Каханку меркаваў частку з гэтых гармат пусціць на пераплаўку для стварэння сучаснага артылерыйскага парка. Аднак рэалізаваць свае намеры К.С. Радзівіл так і не здолеў.

Апрача саміх гармат у Нясвіж пераводзіўся і абслуговы персанал. У канцы красавіка 1763 г. у нясвіжскім гарнізоне служыла ўжо 27 кананіраў, з якіх 9 прыбылі са Слуцка, 3 — з Белай, 2 — з Жоўквы[6] (табл. 10[7]). Праводзілася праца па назапашванні амуніцыі і ваенных матэрыялаў для артылерыі. Не забываліся і пра рамонт і ўдасканаленне ўмацаванняў Нясвіжскага замка. Камендант К.М. Бойсан рапартаваў у ліпені 1763 г., што каля зам-

ка пачалі насыпаць новы равелін, і прасіў К.С. Радзівіла даслаць у Нясвіж дасведчанага інжынера. Пэўныя працы праводзіліся вакол гарадскіх умацаванняў[8]. У гэты час, ці крыху пазней — у 1767–1768 гг., з паўднёвага боку ад Нясвіжа былі ўзведзены палявыя ўмацаванні бастыённага тыпу, што закрылі г.зв. Бернардынскую горку, якая дамінавала над горадам. На тэрыторыі новага ўмацавання, па ўсёй верагоднасці, быў размешчаны лагер міліцыі К.С. Радзівіла.

У маі 1764 г. у Варшаве павінен быў распачацца лёсавызначальны для Рэчы Паспалітай канвакацыйны сойм. З гэтай нагоды Пане Каханку ў красавіку загадаў свайму войску, узмоцненаму артылерыяй і жаўнерамі слуцкага гарнізона, рушыць у напрамку Варшавы[9]. Адначасова Нясвіжскі замак быў падрыхтаваны на выпадак аблогі, а частка гармат расстаўлена на гарадскіх валах[10]. 11 мая войска Пане Каханку спынілася ў Белай[11]. Тым часам на пачатку чэрвеня расійскі корпус на чале з Міхаілам Дашковым падышоў да Нясвіжа. Пасля кароткага штурму горад быў узяты. Непрыяцель прыступіў да аблогі замка. Даведаўшыся аб пагрозе для сваёй фартэцыі, К.С. Радзівіл з усім войскам рушыў ёй на дапамогу, але дайсці да Нясвіжа так не змог, бо 26 чэрвеня пад Слонімам яго міліцыя была разбіта расійскім войскам.

Нягледзячы на паразу, расіян уразіла трапнасць і эфектыўнасць палявой артылерыі Пане Каханку, склад якой дазваляе ўявіць спіс амуніцыі і гармат, складзены ў Белай 11 чэрвеня, г.зн. напярэдадні бітвы. У ім згадваецца 12 гармат: шэсць 3-фунтовых з Нясвіжа і шэсць 2-фунтовых з Белай, якія мелі добрыя акаваныя лафеты і авантрэны. Амуніцыя была складзена на 9 чатырох- і двухколых вазах, ці пульверкарах. Два з іх былі прывезены з Валыні, астатнія — з Нясвіжа, прычым апошнія былі пранумараваны. Акрамя таго, меўся адзін амуніцыйны воз. Усе яны былі акаваны жалезам і накрыты зверху скурамі, каб захаваць порах і амуніцыю ад дажджу і вільгаці. Для артылерыі мелася 360 ядраў, 200 карцечаў, 308 парахавых зарадаў у папяровых скрутках і 5 пульверзакаў з порахам. Акрамя таго, 20 ядраў, 50 карцечаў і 157½ фунтаў пораху было ўзята ў арсенале Бельскага замка. Абслугоўвалі гэтую артылерыю 18 пушкароў: па 6 з Нясвіжа, Валыні і Белай. Ведаючы колькасць гармат з Нясвіжа і Белай, можна сцвярджаць, што кожную з іх суправаджаў адзін пушкар. Ім у дапамогу былі дададзены таксама валынскія кананіры. З Нясвіжа для суправаджэння артылерыі прыбылі 3 слесары, 4 цесляры і 2 стэльмахі, да якіх у дапамогу былі далучаны 12 бельскіх цесляроў[12].

У выніку паразы ў баі ўся артылерыя трапіла ў рукі расіян, а сам Пане Каханку быў вымушаны падацца ў эміграцыю. Пройгрыш магната і яго аднадумцаў вызваліў дарогу на трон Рэчы Паспалітай прадстаўніку партыі Чартарыйскіх Станіславу Панятоўскаму, яко-

га асабіста падтрымлівала расійская імператрыца Кацярына II. Яшчэ раней за бітву пад Слонімам капітуляваў Нясвіжскі замак. Па сведчаннях самога К.С. Радзівіла, замак быў добра забяспечаны і мог абараняцца да шасці месяцаў, а паддаўся з-за здрады каменданта[13]. Да гонару абаронцаў, замак не адразу здаўся і спрабаваў даваць адпор. За сцены фартэцыі збегліся некаторыя мяшчане і слугі К.С. Радзівіла, якім былі раздадзены стрэльбы з асабістай калекцыі магната. Расійскае войска паставіла насупраць замка артылерыйскія батарэі і пачало яго абстрэльваць, у выніку чаго быў значна пашкоджаны дах палаца[14]. Аднак абарона фартэцыі не была працяглай па часе і гарнізон капітуляваў. Усё ўзбраенне і ваенныя запасы трапілі ў рукі расійскага войска, якое перадало іх у распараджэнне ўтворанай прыхільнікамі Чартарыйскіх канфедэрацыі ВКЛ.

Вярнуцца на радзіму Караль Станіслаў змог толькі ў 1767 г. Гэта сталася магчымым дзякуючы змене расійскай палітыкі ў Рэчы Паспалітай. Расія вырашыла выкарыстаць асобу вядомага сярод шляхты Пане Каханку для паслаблення ўплыву групоўкі Чартарыйскіх, якія імкнуліся да рэфармавання і ўзмацнення Рэчы Паспалітай. Магнат быў вымушаны дэклараваць сваю вернасць расійскай імператрыцы, пасля чаго яму былі вернуты былыя пасады і маёмасць. Роля марыянеткі ў палітыцы Расіі, аднак, не магла задаволіць славалюбнага К.С. Радзівіла, які выдатна разумеў згубнасць далейшага пашырэння самаўладства чужой дзяржавы ў роднай краіне. Таму ў хуткім часе ён пачаў узаемадзейнічаць з прыхільнікамі незалежнасці Рэчы Паспалітай, якія ў лютым 1768 г. аб’ядналіся ў Барскую канфедэрацыю і адкрыта выступілі супраць Расіі.

Перспектыва разгортвання ўзброенага супрацьстаяння прымусіла Пане Каханку па прыездзе ў Нясвіж узяцца за аднаўленне міліцыі і артылерыі. Яшчэ ў чэрвені, калі Нясвіжскі замак быў толькі вернуты гаспадару, у гарнізоне знаходзілася не больш за 30 чалавек. На працягу ліпеня завербавалі яшчэ 122 чалавекі, якіх штодня вучылі і муштравалі[15]. Разам з жаўнерамі набіраліся і пушкары. Падчас панавання канфедэратаў яны былі распушчаны па дамах і не атрымлівалі заробку. У ліпені ў Нясвіжы і Слуцку было завербавана 60 пушкароў і паўстала пытанне аб вырабе мундзіраў і набыцці неабходнай экіпіроўкі і карабінаў[16]. На пачатку верасня ў Нясвіжскім замку служыла 18 пушкароў. Камендант Юзэф Сабескі атрымаў загад завербаваць яшчэ 24 кананіраў, якіх меркавалася набраць у Нясвіжскім і Слуцкім княствах з маладых хлопцаў ва ўзросце 18–19 гадоў. У верасні асабовы склад нясвіжскай артылерыйскай каманды істотна павялічыўся за кошт 40 пушкароў і 2 падафіцэраў, дасланых з Алыкі. Разам з імі адтуль было выслана сукно жоўтага і чорнага колераў на мундзіры для 100 кананіраў[17].

Праглядаючы інвентары 1767 г., калі фартэцыя была вернута К.С. Радзівілу, кідаецца ў вочы поўная занядбанасць, да якой быў даведзены арсенал пры канфедэратах. Аднак матэрыяльная частка артылерыі не панесла значных страт, аб чым сведчыць, прыкладам, наяўнасць у замку значнага запасу пораху — ажно 29½ бочак[18]. Значыць, канфедэраты не мелі намеру спустошыць фартэцыю К.С. Радзівіла.

Вядома, што на пачатку 1765 г. у Нясвіжскім замку захоўваліся 2 марціры, 1 арган і 33 гарматы, з якіх 19 былі адлітыя ў часы Рыбанькі і мелі вагамер 2–3 фунты. У гэтым жа годзе з Лахвы ў Нясвіж былі прывезены яшчэ 38 гармат і 3 марціры[19]. Сярод іх таксама былі лёгкія гарматы часоў Рыбанькі, аднак большасць, па ўсёй верагоднасці, паходзіла з калекцыі старых гармат Гераніма Фларыяна Радзівіла. Што яны рабілі ў Лахве — сказаць цяжка. Падчас перадачы Нясвіжскага замка ў рукі К.С. Радзівіла ў 1767 г. у яго арсенале мелася 68 гармат, з якіх прыдатнымі для выкарыстання з'яўляліся толькі 10 (збольшага 1-фунтовыя), 35 патрабавалі направы, а 23 былі зусім непрыдатныя і прызначаліся для пераплаўкі. Асноўнай праблемай была няспраўнасць лафетаў. 40 гармат, прывезеных з Лахвы, увогуле іх не мелі, а ў астатніх яны былі наўмысна сапсаваны[20].

Адразу пасля атрымання камандавання ў фартэцыі Ю. Сабескі пачаў прыкладаць намаганні для аднаўлення і разбудовы матэрыяльнай часткі артылерыі (мал. 10.2). Пашкоджаныя гарматы былі вычышчаны, а старыя лафеты і амуніцыйныя вазы, якіх у Нясвіжскім замку засталося чатыры, — адрамантаваны. У ліпені 1767 г. магнат аддаў загад зрабіць для артылерыі новыя цяжкія пульверкары, кожны з якіх павінны былі цягнуць 6 коней. Абрыс, паводле якога мусілі рабіцца вазы, быў дасланы на пачатку верасня і адразу перанакіраваны ў Слуцк. На пачатку лістапада 27 пульверкараў ужо былі цалкам гатовы, г.зн. акаваны і памаляваны, і яшчэ 5 з-за недахопу фарбы стаялі непафарбаваныя. Порах і ядры, як і ў ранейшы час, прывозілі з Украіны. У прыватнасці, на пачатку лістапада ў Нясвіж завезлі 69 камянёў 18 фунтаў (1041 кг) пораху і 598 ядраў вагою 12 фунтаў[21].

Вынікі праведзенага цягам другой паловы 1767 г. і 1768 г. рэфармавання матэрыяльнай часткі артылерыі можна ўбачыць па складзеным у лістападзе 1768 г. рэестры нясвіжскай артылерыі (табл. 11)[22]. Хаця на той час Нясвіж зноў перайшоў пад кантроль расійскага войска, дадзены інвентар добра характарызуе той вялікі аб'ём прац, праведзеных у згаданы перыяд. Такім чынам, у лістападзе 1768 г. новыя лафеты мелі 47 гармат, а стары — толькі адна. Зусім не мелі лафетаў 13 гармат, сярод якіх 12 былі вагамерам ½ фунта. Гэта былі гарматы XVI–XVII стст., якімі нават не планавалася карыстацца. Па колькасці пераважалі 1- і 3-фун-



*10.2. Спосабы транспарціроўкі гармат. Малюнак з архіва Радзівілаў, XVIII ст. AGAD, AR, dz. VII, nr 715.*

товыя гарматы, менш было 6-фунтовых. Толькі 2 з 9 марцір, якія мелі найбольшы калібр, атрымалі новыя лафеты. Тут важна адзначыць, што К.С. Радзівіл не меў часу замаўляць новыя гарматы, таму ў пераважнай большасці гэта была зброя яго бацькі.

У справе забеспячэння боепрыпасамі пры К.С. Радзівіле таксама адбыліся істотныя змены. Яшчэ пры Рыбаньку для спрашчэння зарадкі гармат пачалі выкарыстоўваць папяровыя скруткі з порахам. У 1767–1768 гг. гэтая тэхніка была ўдасканалена шляхам выкарыстання патронаў, якія складаліся з парахавога зараду і ўласна снарада (ядра ці карцечы). Усяго на 50 баяздольных гармат у кастрычніку 1768 г. мелася 1899 патронаў з ядрамі і 1090 патронаў з карцеччу. Найлепшым чынам боепрыпасамі былі забяспечаны 3- і 6-фунтовыя гарматы, а найгоршым — 1-фунтовыя.

Кульмінацыяй рэформ К.С. Радзівіла стала арганізацыя асобнага корпуса артылерыі ў снежні 1767 г. Паводле першапачатковага праекта ў яго склад павінны былі ўваходзіць 48 падафіцэраў і 200 каканіраў. Каб уявіць сабе маштаб дадзенага праекта Пане

Каханку, прыгадаем, што да сярэдзіны XVIII ст. уся артылерыя Рэчы Паспалітай была аб'яднана ў два корпусы — польскі і літоўскі. Асабовы склад корпуса артылерыі Польскага каралеўства ў 1754–1763 гг. вагаўся ад 129 да 146 чалавек. У сваю чаргу, корпус артылерыі ВКЛ у 1717–1768 гг. налічваў ад 116 да 146 чалавек[23]. Апрача стварэння асобнага корпуса К.С. Радзівіл заснаваў таксама спецыяльную школу па падрыхтоўцы кананіраў — артылерыйскую акадэмію. Увесь яе асабовы склад у выглядзе г.зв. кадэцкага корпуса з'яўляўся часткай корпуса артылерыі.

Перавесці сваю артылерыю на новы ўзровень для К.С. Радзівіла стала магчымым дзякуючы падрыхтоўчай працы, праведзенай у другой палове 1767 г. Праект стварэння корпуса артылерыі, напэўна, паўстаў ужо восенню, калі ў Нясвіж была пераведзена значная колькасць пушкароў з Алыкі. Непасрэдна за рэалізацыю праекта ўзяўся оберстлейтэнант Франц Фроліх, які ў канцы восені — пачатку зімы прыехаў у Нясвіж. У сярэдзіне снежня са Слуцка ў Нясвіж былі пераведзены 1 афіцэр, 4 падафіцэры, 6 рамеснікаў і 67 кананіраў. У самім Нясвіжы на гэты час было 4 падафіцэры і 67 кананіраў, да якіх з 7 па 22 снежня дабралі 1 барабаншчыка і яшчэ 30 кананіраў. Вербавалі найперш маладых людзей узростам 12–20 гадоў, якіх меркавалася навучыць артылерыйскай справе[24]. Усяго да канца года ўдалося сабраць 10 падафіцэраў і 170 кананіраў, якіх уключылі ў склад новастворанага корпуса (табл. 12[25]).

Найбольшая праблема існавала з вярбоўкай падафіцэраў. Ю. Сабескі для яе вырашэння нават прапаноўваў дабраць падафіцэраў са старых дасведчаных жаўнераў. У канцы снежня К.С. Радзівіл загадаў вылучыць са складу корпуса 10 лепшых кананіраў, якія павінны былі заўжды заставацца ў замку[26]. У сваю чаргу, у Слуцку пасля пераводу значнай часткі пушкароў у корпус засталося 2 афіцэры, 4 падафіцэры, 13 рамеснікаў, 24 кананіры, а таксама 15 чалавек, якія пільнавалі коней у Івані. Такім чынам, пушкары фартэцый у Нясвіжы і Слуцку былі адасоблены ад корпуса артылерыі.

На пачатку 1768 г. корпус артылерыі быў цалкам сфарміраваны. Яго структура не зазнала істотных змен да кастрычніка гэтага ж года, калі расійскае войска чарговы раз узяло пад кантроль Нясвіж. Корпус узначальваў оберстлейтэнант, які з двума афіцэрамі складаў штаб. У яго падначаленні знаходзілася 6–12 афіцэраў (капітаны, паручнікі і харужыя, ці штык-юнкеры) і 30–35 падафіцэраў (фельдфеберы, феерверкеры, падхаружыя, фельчары, фурыеры, капралы і інш.). Колькасць пушкароў вагалася нязначна і складала 187–200 чалавек. Сярод абслуговага персаналу, колькасць якога да кастрычніка ўзрасла да 88 чалавек, большасць складалі рамеснікі і фурманы. Для ўсіх афіцэраў, падафіцэраў,



*10.3. Марціры Багуслава Радзівіла з Біржанскага замка, сяр. XVII ст. Мал. XVIII ст. АМ, 5378.*

жаўнераў і абслугі на загад К.С. Радзівіла былі выраблены мундзіры. У кананіраў, як і ва ўсёй міліцыі, яны былі чорнага колеру[27].

Менавіта са стварэннем корпуса артылерыі былі звязаны шырокамаштабныя працы па направе гармат і забеспячэнні іх амуніцыяй. Як згадвалася вышэй, на пачатку лістапада 1768 г. у Нясвіжы было 50 баяздольных гармат. У другой палове 1767 — 1768 г. у Нясвіжскі замак была перавезена значная частка ўзбраення і амуніцыі з арсенала Слуцкай фартэцыі: у красавіку 1768 г. — 26 гармат, а ў маі — 2 марціры з гербамі Б. Радзівіла (мал. 10.3), 3384 ядры і 81 бомба[28]. Гэта пераканаўча сведчыць аб тым, што Нясвіж быў асноўным месцам канцэнтрацыі корпуса артылерыі К.С. Радзівіла, а мясцовы замак — яго галоўным вайсковым магазінам.

Разам з арганізацыяй корпуса К.С. Радзівіл заснаваў артылерыйскую акадэмію, якая павінна была рыхтаваць адпаведныя кадры. Ваенная школа, або г.зв. рыцарская акадэмія, існавала ў Нясвіжы і раней пры Рыбаньку, аднак закладзеная яго сынам установа якасна адрознівалася ад папярэдніцы. На гэтым варта спыніцца падрабязней, таму што, на маю думку, дадзенае пытанне прадстаўлена ў літаратуры недастаткова дакладна[29].

Асноўнай задачай акадэміі, закладзенай у Нясвіжы М.К. Радзівілам, было выхаванне і навучанне рыцарскай справе ўласных сыноў — Януша Тадэвуша і Караля Станіслава, аб чым сам магнат неаднаразова згадваў у сваім дзённіку. Прыкладам, у чэрвені 1742 г. ён пісаў: “Ночыў у новай камяніцы [у Нясвіжы. — *М.В.*], якую для школы сынам маім выставіў”. У далейшым у гэтым будынку размясцілася рыцарская акадэмія. Разам з маладымі Радзівіламі ў ёй вучыліся дзеці заможнай шляхты, якая была звязана з Рыбанькам і імкнулася забяспечыць будучыню для сваіх сыноў пры баку магната і яго дзяцей. Пасля заканчэння навучання Януша Тадэвуша і Караля Станіслава акадэмія паступова спыніла сваю дзейнасць, а палац у горадзе Рыбанька з другой паловы 1750-х гг. пачаў выкарыстоўвацца пад уласнае жыллё[30].

Стварэнне артылерыйскай акадэміі распачаў Ф. Фроліх у снежні 1767 г. Увесь яе асабовы склад у выглядзе кадэцкага корпуса быў уключаны ў склад корпуса артылерыі, паколькі менавіта задавальненне яго патрэб з’яўлялася асноўнай функцыяй акадэміі. Паводле загада К.С. Радзівіла, у кадэты павінны былі набірацца гарадскія дзеці, якія “ўжо хадзілі ў школу і мелі добрыя пачаткі”. Кадэты таксама атрымалі мундзіры[31]. Усяго ў 1768 г. у акадэміі вучылася 27–33 кадэты, якія былі падзелены на 4–5 брыгад. Брыгадзіры

прызначаліся з ліку старэйшых кадэтаў. На чале акадэміі, ці корпусу кадэтаў, стаяў сяржант. Апрача таго ў склад акадэміі ўваходзілі рамеснікі (слесар, цясляр, токар) і г.зв. "акадэмічны слуга".

Крыху больш чым праз год пасля стварэння корпус артылерыі і ўся міліцыя К.С. Радзівіла атрымалі першае баявое хрышчэнне. У кастрычніку да Нясвіжа падышоў вялікі расійскі вайсковы корпус, які меў на мэце змагацца з барскімі канфедэратамі. Яму насустрач выступіла радзівілаўская міліцыя, якая здолела перамагчы адно з расійскіх злучэнняў у бітве, што адбылася ля вёскі Лань непадалёк ад Нясвіжа 10 кастрычніка 1768 г. Аднак падыход астатняга расійскага войска, якое па колькасным складзе і падрыхтоўцы мела перавагу над новастворанай міліцыяй К.С. Радзівіла, прымусіла Пане Каханку адмовіцца ад далейшага супраціву. У выніку непрыяцель увайшоў у горад, а пасля таго як магнат пакінуў Нясвіж і ў чарговы раз падаўся ў эміграцыю, расійскае войска заняло і замак. Гэта паставіла крыж на ўсіх высілках і намаганнях К.С. Радзівіла па стварэнні міліцыі і арганізацыі корпуса артылерыі.

У сярэдзіне лістапада 1768 г., неўзабаве пасля ад'езду К.С. Радзівіла, Нясвіжскі замак наведаў расійскі генерал-маёр Ізмайлаў, які разам са сваімі афіцэрамі агледзеў узбраенне і амуніцыю, а пасля загадаў запячатаць арсенал, для аховы якога быў пастаўлены падафіцэр з трыма жаўнерамі. У хуткім часе замак быў цалкам узяты пад кантроль расійскіх войскаў, якія заставаліся ў ім ажно да 1776 г. На загад Ізмайлава ў фартэцыю быў уведзены расійскі гарнізон у складзе аднаго афіцэра, двух падафіцэраў, 38 жаўнераў, 1 барабаншчыка і 1 файфера. Радзівілаўскаму каменданту Антонію Папіні было загадана вывесці ўсіх сваіх людзей з замка, акрамя аднаго падафіцэра і 12 жаўнераў. Нязначная частка радзівілаўскіх жаўнераў была размешчана ў горадзе, астатніх загадвалася распусціць па дамах[32]. Да 1771 г. усё ўзбраенне і маёмасць, што знаходзіліся ў замку, фармальна прызнаваліся недатыкальнай уласнасцю Пане Каханку. Таму на вароты арсенала былі накладзены пячаткі каменданта А. Папіні і камандзіра расійскага атрада, які стацыянаваў у замку.

Цікава, што расійскія афіцэры, якія разам са сваімі часткамі праходзілі праз Нясвіж, мелі звычку аглядаць узбраенне і амуніцыю, сабраную ў Нясвіжскім арсенале. На маю думку, ужо тады інтарэс да мясцовых гармат быў выкліканы не толькі ваеннай неабходнасцю.

Камандуючыя расійскім гарнізонам у Нясвіжы мяняліся часта, і спачатку было не зразумела, чым і калі скончыцца расійскае панаванне. Як пісаў Ю. Сабескі ў снежні 1768 г., "што ні гадзіна, то ў іх навіна"[33]. У лютым 1769 г. у расійскім гарнізоне ўзмацнілася трывога. Да Нясвіжа дайшлі чуткі аб сутычках расійскіх аддзелаў

з канфедэратамі непадалёк ад Слуцка. На той час у горадзе знаходзілася каля 150 расійскіх жаўнераў. У сярэдзіне лютага расійскі камендант загадаў узяць з арсенала дзве 2-фунтовыя гарматы для абароны замка. Яны былі пастаўлены на дзядзінцы, зараджаны і скіраваны ў бок брамы. Відавочна, камендант баяўся здрады радзівілаўскіх жаўнераў і быў гатовы бараніцца нават пры ўварванні канфедэратаў у замак. На пачатку сакавіка з арсенала былі ўзяты яшчэ дзве 12-фунтовыя гарматы. Тады ж з'явіліся чуткі, што аддзелы канфедэратаў знаходзяцца недзе паблізу ад Нясвіжа. З гэтай прычыны расійскі камендант загадаў паставіць на вале і падрыхтаваць да бою выцягнутыя з арсенала гарматы[34].

З вясны 1769 г. расійскае войска пачало актыўна карыстацца ваеннымі запасамі Нясвіжскага замка, які стаў для яго важнай базай. Яшчэ ў студзені 1769 г. маёр Бутурлін узяў дзве 3-фунтовыя гарматы і адзін пульверкар для гаўптвахты ў горадзе. У маі 1769 г. з замкавага арсенала былі выдадзены дзве 3-фунтовыя гарматы і два пульверкары з усімі неабходнымі рэчамі, у лютым і маі 1770 г. — яшчэ па дзве 3-фунтовыя гарматы з двума пульверкарамі. Урэшце ў лістападзе былі ўзяты яшчэ дзве 10-фунтовыя і дзве 6-фунтовыя гарматы. Пры гэтым арсенал кожны раз запячатвалі, а на ўзятыя гарматы і амуніцыю выдаваліся распіскі — фармальна зброю павінны былі вярнуць у замак.

Сітуацыя карэнным чынам змянілася на пачатку 1771 г., калі расійскае камандаванне вырашыла знішчыць альбо вывезці ўзбраенне і амуніцыю з Нясвіжа і Слуцка. Калі раней да рэквізіцыі зброі К.С. Радзівіла падыходзілі асцярожна, то цяпер ставілася прамая задача "ачысціць" арсеналы фартэцый. Гэта было выклікана, па ўсёй верагоднасці, бескампраміснай пазіцыяй К.С. Радзівіла, які не хацеў ісці на супрацоўніцтва з Расійскай імперыяй. У студзені 1771 г. са Слуцка ў Нясвіж былі дастаўлены 52 гарматы, 3 марціры і 145 гакаўніц. Неўзабаве 41 слуцкая гармата разам з 26 нясвіжскімі былі вывезены з замка і знішчаны. На пачатку красавіка 1771 г. астатнія 11 слуцкіх і 10 нясвіжскіх гармат адправілі ў Свержань, дзе іх пабілі на кавалкі і потым прадалі ў Каралявец[35].

"Чыстка" нясвіжскага арсенала працягвалася да 1775 г. Як пісаў Ю. Сабескі, "Масква забірае ўсё, што толькі можна вывезці, пакідаюць толькі сцены". Летам 1773 г. у Нясвіж са Слуцка былі прывезены 1 бронзавая і 14 жалезных гармат, а таксама 3 жалезныя марціры. На той час у самім замку знаходзілася 6 бронзавых гармат і 2 марціры. Іх меркавалася неўзабаве вывезці ў Вільню. Аднак 13 жалезных гармат і 3 марціры са Слуцка так і засталіся ў Нясвіжы, бо жалеза было менш каштоўным матэрыялам у параўнанні з бронзай. Усе спраўныя лафеты і пульверкары былі перафарбаваны паводле расійскіх узораў і забраны, а з тых, што засталіся, было паабдзірана жалеза, а дрэва папалена. У ліпені



*10.4. Рыштунак і прылады для абслугоўвання гармат. Малюнак з архіва Радзівілаў, XVIII ст. AGAD, AR, dz. VII, nr 715.*

1775 г. Ю. Сабескі пісаў: “У арсенале нічога больш няма, апрача зброі старой, дзідаў, патранташаў і гарматы скуранай, і тое не ведаю, як доўга ўтрымаецца, пакольки [расіяне. — *М.В.*] ніякай варты ад нас мець не хочуць і не дазваляюць”.

Дакладна не вядома, колькі гармат з Нясвіжскага арсенала было знішчана і вывезена цягам 1768–1775 гг. Як адзначалася вышэй, пасля зыходу расійскіх жаўнераў у замку зусім не засталося артылерыі, апрача хіба скуранай гарматы. Аднак не ўсе нясвіжскія гарматы былі знішчаны. Прыгадаем тыя 7 мольцфельтаўскіх фальканетаў, што перажылі гэты бурлівы перыяд і захаваліся да нашага часу. Дзе яны былі схаваны, можна толькі здагадвацца. Ёсць падставы меркаваць, што іх закапалі недзе ў самім замку. Практыка хавання скарбаў у падзямеллях і лёхах, па ўсім відаць, часта практыкавалася ўладальнікамі Нясвіжскага замка, калі фартэцыі пагражала небяспека захопу.

Аб тым, што Пане Каханку нешта прыхаваў, расійскаму камандаванню было вядома. Таму вясною 1771 г., калі пачалося мэтанакіраванае і паслядоўнае рабаванне Нясвіжскага замка,

расійскія жаўнеры ў пошуках скарбаў сталі старанна вывучаць і капаць скляпы, лёхі і равы замка. Аднак ім не ўдалося нічога знайсці. Надзея адшукаць скарбы Пане Каханку адрадзілася ў маі 1773 г., калі нейкі Штамберк, што служыў падафіцэрам у корпусе артылерыі К.С. Радзівіла, знаходзячыся пад вартай у Горадні, прызнаўся, што ведае, дзе схаваны гарматы. Па яго арыенціроўцы спачатку капалі ля капліцы, а пасля перад тыльнай брамай, якая вяла да грэблі. Нарэшце з Горадні быў прыведзены сам Штамберк, які зноў капаў ля капліцы. У хуткім часе безвыніковыя пошукі спынілі, а ямы пазакопвалі[36]. Пасля вяртання Нясвіжскага замка К.С. Радзівілу ў 1777 г. схаваныя гарматы разам з іншымі скарбамі, верагодней за ўсё, былі выцягнуты са сховішча. Інвентары 1777–1778 гг., у прыватнасці, адзначаюць, што ў замку мелася 8 шмыгаўніц, а менавіта так называліся архаічныя для XVIII ст. даўгаствольныя гарматы XVI–XVII стст.[37]

Вярнуўшыся ў Нясвіж пасля доўгай эміграцыі, К.С. Радзівіл быў вымушаны суцішыць свае амбіцыі. Яго маёнткі былі цалкам спустошаны, а ваенны патэнцыял фартэцый фактычна знішчаны. Тым не менш, Пане Каханку пакрыху пачаў аднаўляць свае ўзброеныя сілы, у тым ліку артылерыю. У 1777–1778 гг. у замкавым арсенале, апрача згаданых вышэй 8 шмыгаўніц, меліся 10 бронзавых гармат малога калібру, 1 скураная гармата і 6 марцір, а на вале знаходзіліся 12 жалезных гармат вагамерам 3 і 6 фунтаў. Апошнія былі тымі самымі слуцкімі гарматамі, якія расіяне кінулі ў Нясвіжы ў 1773 г. 10 бронзавых гармат, а таксама 9 пульверкараў, што таксама згадваюцца ў інвентарах, маглі паходзіць з нейкай іншай фартэцыі К.С. Радзівіла. Такім чынам, у 1777–1778 гг. у замку мелася 31 гармата і 6 марцір. Гэта былі гарматы разнастайных тыпаў, большая палова з якіх не мела лафетаў. Таму пра баяздольную артылерыю ўвогуле не выпадае гаварыць.

У 1783 г. К.С. Радзівіл вырашыў, як і дваццаццю гадамі раней, павялічыць артылерыйскі парк Нясвіжа за кошт гармат, адлітых яго бацькам для Алыцкага замка. На гэты раз адтуль была вывезена практычна ўся баяздольная артылерыя: 7 гармат вагамерам 4 фунты, 19 — вагамерам 1 фунт і 2 — вагамерам ½ фунта[38]. Павелічэнне колькасці гармат у Нясвіжскім замку было дарэчным, бо ў верасні наступнага года Пане Каханку прымаў у сваёй рэзідэнцыі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, якому замкавая артылерыя шматкроць салютавала. Вядома таксама, што ў прысутнасці караля ў нясвіжскай людвісарні была адліта 24-фунтовая гармата[39].

Вынікі дзейнасці К.С. Радзівіла па фарміраванні новага артылерыйскага парка для сваёй фартэцыі ў апошні перыяд яго жыцця бачны па рэестрах гармат Нясвіжскага замка, зробленых ужо пасля смерці магната: у чэрвені 1792 г. былі складзены два спісы — меншы (21 гармата) і большы (65 гармат)[40]. Параўнанне

пазіцый абодвух спісаў паказвае, што меншы не быў часткай большага, а мы маем справу з дзвюма групамі гармат, якія залічваліся да артылерыі Нясвіжскага замка.

Сэнс гэтага падзелу не да канца зразумелы. Калі верыць подпісу на адваротным баку аркуша са спісам з 21 гарматы, то апошнія знаходзіліся на валах замка. Астанія 65 гармат, у сваю чаргу, маглі належаць корпусу артылерыі. З 21 гарматы меншага спісу было ажно 16 няспраўных, а з 65 большага спісу — усяго толькі 2. Такім чынам, агулам у чэрвені 1792 г. да артылерыі Нясвіжскага замка залічвалася 86 гармат, з якіх 70 былі спраўныя. Сярод іх толькі 3 гарматы былі цяжкімі: 2 мелі вагамер 24 фунты, 1 — 18 фунтаў. Астатнія адносіліся да лёгкай артылерыі вагамерам 1–6 фунтаў. Архаічных шмыгаўніц было 17 адзінак, пры гэтым большасць з іх, у тым ліку 7 мольцфельтаўскіх фальканетаў, працягвалі выкарыстоўвацца і мелі лафеты. Такім чынам, напрыканцы свайго жыцця Пане Каханку здолеў цалкам аднавіць і нават павялічыць артылерыйскі парк сваёй галоўнай рэзідэнцыі.

Не менш важным, чым адбудова матэрыяльнай часткі нясвіжскай артылерыі, для К.С. Радзівіла было аднаўленне дзейнасці корпуса артылерыі, які якраз і мог абслугоўваць такую значную колькасць гармат. Пачынаючы са студзеня 1772 г. ажно да пачатку 1776 г. па рашэнні расійскага вайсковага камандавання жаўнерам Радзівіла, якія яшчэ заставаліся на службе, перасталі выплачваць заробак[41]. Гэта прывяло да поўнай дэзарганізацыі міліцыі К.С. Радзівіла. Жаўнеры фактычна разышліся па дамах. Тое ж самае сталася і з корпусам кадэтаў. Вярнуўшыся ў Нясвіж, Пане Каханку быў вымушаны брацца за стварэнне свайго войска і корпуса артылерыі з самага пачатку.

Непасрэдна за арганізацыю корпуса К.С. Радзівіл узяўся вясною 1784 г. Асновай для яго павінен быў стаць кадэцкі корпус, дзейнасць якога была адноўлена крыху раней. Ужо ў кастрычніку 1783 г. асабовы склад кадэцкага корпуса складаў 71 чалавек (табл. 13[42]).

Падставай для аднаўлення корпуса артылерыі, на маю думку, стаў планаваны ўвосень 1784 г. прыезд Станіслава Аўгуста ў Нясвіж. Візіт караля вымагаў ад гаспадара, які прагнуў паказаць сваю веліч, значнай падрыхтоўкі, а корпус артылерыі быў вельмі дарэчным пры арганізацыі розных урачыстасцей, нязменным атрыбутам якіх былі салюты. Аб арганізацыі корпуса менавіта вясною 1784 г. сведчаць некалькі фактаў. Па-першае, у сакавіку 1784 г. са 115 кананіраў больш за палову (61 чалавек) складалі дзеці ўзростам 8–18 гадоў, пры гэтым пушкароў узростам да 12 гадоў было ажно 41[43]. Па-другое, на пачатковую стадыю фарміравання артылерыйскага корпуса ўказвае мізэрная колькасць афіцэраў (1) і падафіцэраў (3–4) у сакавіку — ліпені 1784 г. Непасрэдна перад прыездам караля ў склад корпуса былі ўключаны таксама




*10.5. План Нясвіжа і ваколіц, пач. XIX ст. (i — школа землямераў, r — месца размяшчэння артылерыі, и — артылерыйскае стрэльбішча). SBB, Kart. QS18147.*

хандлагеры, якія прызначаліся ў памочнікі пушкарам. Іх набіралі з г.зв. выбранцаў з вёсак з-пад Слуцка, якія былі абавязаны несці службу за атрыманыя імі зямельныя надзелы[44]. Гэта, зразумела, не былі прафесіяналы ў артылерыйскай справе, але іх утрыманне нічога не каштавала для магната.

У другой палове 1785 — 1788 г. структура артылерыйскага корпуса заставалася стабільнай. На яго чале стаялі 6–9 афіцэраў з 7–19 падафіцэрамі. З пачатку 1785 г. з кананіраў быў зноў вылучаны корпус кадэтаў, у якім служылі 41–49 чалавек. Кананіраў і хандлагераў у згаданы перыяд налічвалася адпаведна 56–121 і 46–50 чалавек. Акрамя таго, у корпусе служылі 3 барабаншчыкі і 3 файферы. Усяго ў артылерыйскім корпусе неслі службу 170–250 чалавек.

На жаль, нам не ўдалося знайсці інфармацыю пра практычную падрыхтоўку кадэтаў і кананіраў. Аднак паводле плана Нясвіжа і ваколіц пачатку XIX ст., на паўднёвы захад ад горада ў бок выезду да Альбы знаходзілася стрэльбішча для артылерыі, якое пасля заняпаду Рэчы Паспалітай выкарыстоўвалі расійскія войскі. Першапачаткова гэта было, па ўсім відаць, месца практыкаванняў радзівілаўскай артылерыі (мал. 10.5).

Як вышэй згадвалася, асобна ад корпуса артылерыі функцыянавала замкавая артылерыя. Вядома, што ў 1771–1778 гг. у Няс-

віжскім замку служыла 12–15 кананіраў, на чале якіх стаяў афіцэр (харужы) і падафіцэры (падхаружы, капралы). Захаваць пастаянную колькасць пушкароў нават падчас эміграцыі гаспадара дапамагла тая акалічнасць, што амаль усе яны мелі зямельныя надзелы ў самім Нясвіжы, якія за службу ў замку трымалі бясплатна. Да замкавай артылерыі ў розны час таксама адносіліся барабаншчык, файфер, трубач, габаіст, фельчар і рамеснікі (слесар, каваль)[45]. Асобна варта згадаць пра цэйгварт, які фармальна не залічваўся да артылерыйскай каманды замка, аднак быў з ёй моцна звязаны. Ён трымаў ключы ад цэйхгаўза і адказваў за захаванне зброі і амуніцыі.

Нешта пэўнае сказаць пра ўзровень баяздольнасці корпуса артылерыі ў гэты час даволі цяжка, бо ён фактычна не прымаў удзелу ў ваенных дзеяннях. Вядома, што вясною 1789 г. нясвіжскі гарнізон і яго артылерыя былі прыведзены ў баявую гатоўнасць, а на пачатку наступнага года ў Нясвіж перавялі большую частку слуцкага гарнізона[46]. Гэта было выклікана неспакойнай сітуацыяй у краіне, што было звязана з правядзеннем рэформ Чатырохгадовага сойма (1788–1792 гг.), якія мелі на мэце карэнную мадэрнізацыю і ўзмацненне Рэчы Паспалітай.

Неўзабаве пасля смерці К.С. Радзівіла ў лістападзе 1790 г. яго міліцыя была значна скарочана, а корпус артылерыі фактычна ліквідаваны. Спадчыннікі Пане Каханку не хацелі, а, напэўна, і не мелі магчымасці ўтрымліваць вялікую прыватную армію, улічваючы велізарныя запазычанасці, якія пакінуў магнат пасля сваёй смерці. Ужо ў снежні 1790 г. ад былога корпуса артылерыі засталося толькі 4 падафіцэры, 8 кадэтаў і 16 кананіраў. У кастрычніку 1791 г. падафіцэраў і кадэтаў перавялі ў геаметры, іншымі словамі, па прагматычных меркаваннях іх накіравалі на цывільную службу. Асноўнай іх задачай быў абмер і падрыхтоўка планаў зямельных надзелаў. Прынамсі да красавіка 1792 г. колькасць геаметраў заставалася стабільнай — 8–10 чалавек. Пазней на аснове гэтых кадравых рэсурсаў была адкрыта школа землямераў, якая знаходзілася ў мураваным будынку на паўднёва-заходнім баку рынкавай плошчы. Цалкам магчыма, што яна функцыянавала яшчэ на пачатку XIX ст.

Апошнім акордам ваеннай гісторыі Нясвіжскага замка стала аблога фартэцыі ў 1792 г., калі ў Рэч Паспалітую былі ўведзены расійскія войскі для ліквідацыі рэформ, праведзеных Чатырохгадовым соймам, і адмены Канстытуцыі, прынятай 3 мая 1791 г. 15 чэрвеня 1792 г. фартэцыя была заблакавана рагачоўскім корпусам, які налічваў больш за 8 тысяч жаўнераў. Для абароны замка была склікана радзівілаўская міліцыя ў складзе 867 чалавек, сярод якіх быў 191 артылерыст. Фактычна быў сабраны амаль увесь асабовы склад колішняга корпуса артылерыі. На чале абаронцаў быў пастаўлены палкоўнік Дамінік Дзядзерка. Апошні, па сведчан-

*10.6. Воз для перавозкі амуніцыі. Малюнак з архіва Радзівілаў, XVIII ст. AGAD, AR, dz. VII, nr 715.*




нях сучаснікаў, не вызначаўся асаблівымі здольнасцямі ў ваеннай справе. Аднак не мела высокага баявога духу і жадання ваяваць таксама і радзівілаўская міліцыя. Таму камендант даволі хутка пайшоў на перамовы з расіянамі, у выніку чаго фартэцыя капітулявала. Жаўнеры, скліканыя з розных радзівілаўскіх маёнткаў, былі раззброены і распушчаны па дамах, а ўся зброя і амуніцыя дасталіся пераможцам[47].

Апраўдваючы неабходнасць здачы Нясвіжскага замка, Д. Дзядзерка, між іншым, адзначаў, што за чатыры тыдні да пачатку аблогі камісар Мацея Радзівіла (1749–1800 гг.) Казаноўскі загадаў пабіць лафеты і пахаваць значную колькасць гармат. Частка з іх была выцягнута за шэсць дзён да пачатку аблогі, аднак яны не мелі лафетаў, а значыць не маглі быць выкарыстаны для абароны. Д. Дзядзерка сцвярджаў, што перад здачай замка загадаў схаваць 66 гармат з зарадамі[48]. Вядома, што расіяне захапілі ў Нясвіжы 47 гармат, з якіх 26 былі бронзавыя, а 21 — жалезная[49]. Калі прыгадаць, што паводле спісаў, складзеных 4 чэрвеня 1792 г., г.зн. літаральна за паўтара тыдні да пачатку маскоўскай аблогі, у замку было ажно 86 гармат, становіцца зразумелым, што ці то Казаноўскі, ці то Д. Дзядзерка, а можа і абодва разам насамрэч здолелі схаваць ад расіян значную колькасць гармат.

1. Ракуціс В. Міліцыя Радзівілаў у XVIII ст. // ARCHE-Пачатак. 2012. № 6. С. 123, 124, 169; AGAD, AR, dz. V, nr 3902. Я. Фрычынскі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 16.06.1762.
2. AGAD, AR, dz. VII, nr 263, s. 37–39. Загады К.С. Радзівіла Я. Фрычынскаму і Ю. Сабескаму. 1763.
3. AGAD, AR, dz. VII, nr 263, s. 37–39. К.М. Бойсан да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 16.03.1763.
4. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 872. Інвентар арсенала Альцкага замка. 20.05.1763.
5. Petrus J.T. Nieświeska kolekcja luf armatnich w świetle inwentarza z roku 1857. S. 112–115; AGAD, AR, dz. V, nr 7127. Кёнігсек да Г.Ф. Радзівіла. Слуцк,

03.03.1748.

6. AGAD, AR, dz. VII, nr 353, s. 5. Асабовы склад артылерыі К.С. Радзівіла ў Нясвіжы. 30.04.1763.

7. Табліца падрыхтавана на падставе наступных крыніц: AGAD, AR, dz. VII, nr 342, 344–345, 352–353, 460–463, 466.

8. AGAD, AR, dz. V, nr 1092. К.М. Бойсан да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 10.07.1763, 06.02.1764.

9. AGAD, AR, dz. V, nr 1092. К.М. Бойсан да К.С. Радзівіла. 25.04.1764.

10. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 12.05.1764.

11. AGAD, AR, dz. V, nr 1092. К.М. Бойсан да К.С. Радзівіла. Белая, 11.05.1764.

12. AGAD, AR, dz. VII, nr 653, s. 54–55. Спецыфікацыя гармат і амуніцыі з Нясвіжа і Валыні. Белая, 11.06.1764.

13. Listy księcia Karola Stanisława Radziwiłła "Panie Kochanku" (1751–1790). Warszawa, 1906. S. 23.

14. Lietuvos valstybės istorijos archyvas (далей — LVIA), f. 1280, a. 1, b. 2102, s. 71, 77 v. Шкоды, нанесеныя Нясвіжскаму замку за час панавання канфедэрацыі. 1767.

15. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 19.07.1767.

16. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 23.07.1767, 19.08.1767.

17. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 07.09.1767, 12.09.1767.

18. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 11.07.1767.

19. AGAD, AR, dz. XXV, nr 2696/1. Інвентар Нясвіжскага замка. 12.1764—01.1765; AGAD, AR, dz. XXVI, nr 542. Рэестр гармат, высланых з Лахвы ў Нясвіж. 18.05.1765.

20. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 558. Рэестр узбраення, амуніцыі і абмундзіравання, якія знаходзяцца ў Нясвіжскім замку. 22.06.1767; AGAD, AR, dz. XXVI, nr 559. Рэестравая кніга нясвіжскага арсенала. 22.06.1767—21.04.1768; AGAD, AR, dz. VII, nr 392, s. 2. Спіс гармат, якія знаходзяцца ў Нясвіжскім замку. 25.12.1767. Копія інвентару: AGAD, AR, dz. VII, nr 642, s. 185.

21. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 11.07.1767, 08.08.1767, 16.08.1767, 07.09.1767, 05.11.1767; AGAD, AR, dz. V, nr 3902. Я. Фрычынскі да К.С. Радзівіла. Алыка, 29.09.1767, 11.10.1767; AGAD, AR, dz. V, nr 11872. Э. Плінцэр да К.С. Радзівіла. Слуцк, 04.11.1767.

22. AGAD, AR, dz. VII, nr 642, s. 170–173. Рэестр гармат, стрэльбаў і амуніцыі ў нясвіжскім арсенале. 04.11.1768.

23. Ciesielski T. Armia koronna w czasach Augusta III. Warszawa, 2009. S. 360; Ciesielski T. Armia Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 1717–1775. Komput, budżet i struktury organizacyjne oddziałów // Studia z dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego ( XIV–XVIII wiek). Warszawa, 2014. S. 92.

24. AGAD, AR, dz. VII, nr 562, s. 4–6. Спіс жаўнераў кампаніі артылерыі К.С. Радзівіла. 12.12.1767.

25. Табліца падрыхтавана на падставе наступных крыніц: AGAD, AR, dz. VII, nr 392, 557, 559–560.

26. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 27.01.1767.

27. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 27.01.1767.

28. AGAD, AR, dz. VII, nr 642, s. 189–208. Рэестр рэчаў, выдадзеных са слуцкага арсенала. 30.04.1758—16.07.1774.

29. Bączkowski M. J. Akademia rycerska w Nieswieżu i Radziwiłłowskie korpusy kadetów w XVIII wieku // Wiek Oświecenia. T. 10. Warszawa, 1994. S. 17–49; Ракуціс В. Цыт. тв. С. 92–137.

30. AGAD, AR, dz. VI, nr II-80a, s. 877, 984, 1192, 1247, 1497, 1531, 1642, 2113, 2151, 2182, 2248. Дыярыуш М.К. Радзівіла. 1702–1761.

31. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 27.01.1767; nr 14720/3, s. 175. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, б.д.

32. AGAD, AR, dz. V, nr 12181. А. Папіні да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 30.11.1768; AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 30.11.1768.

33. AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 28.12.1768.

34. AGAD, AR, dz. VII, nr 642, s. 170–174. Рэестр гармат, узбраення і амуніцыі, якія ўвайшлі ў нясвіжскі арсенал. 04.11.1768; AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 07.01.1769, 22.01.1769, 23.01.1769, 04.02.1769, 13.02.1769, 19.02.1769, 08.03.1769, 21.03.1769, 24.04.1769; AGAD, AR, dz. V, nr 12181. А. Папіні да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 02.04.1769, 28.04.1769; AGAD, AR, dz. XXVI, nr 563a. Рэестр гармат, узятых з нясвіжскага арсенала маёрам Арнімам. 02.03.1769.

35. AGAD, AR, dz. VII, nr 642, s. 200–207. AGAD, AR, dz. VII, nr 642, s. 189–208. Рэестр рэчаў, выдадзеных са слуцкага арсенала. 30.04.1758—16.07.1774; AGAD, AR, dz. V, nr 12181. А. Папіні да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 18.02.1771; Taurogiński B. Op. cit. S. 140–142.

36. AGAD, AR, dz. V, nr 3902. Я. Фрычынскі да К.С. Радзівіла. Себеж, 27.03.1771; AGAD, AR, dz. V, nr 14720. Ю. Сабескі да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 12.05.1773; AGAD, AR, dz. V, nr 12181. А. Папіні да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 29.06.1773.

37. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 630. Рэестр арсенала Нясвіжскага замка. 27.09.1777; копія верыфікавана 02.06.1778: AGAD, AR, dz. XXVI, nr 946, s. 201–206.

38. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 648. Рэестр спіжовых гармат, прывезеных у Нясвіжскі замак з Алыкі. 10.07.1783.

39. Pamiętnik o księciu Karolu Radziwille… S. 72–73.

40. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 693. Спісы гармат, якія знаходзяцца ў Нясвіжскай фартэцыі. 04.07.1792.

41. AGAD, AR, dz. V, nr 12181. А. Папіні да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 20.02.1773, 06.01.1776.

42. Табліца падрыхтавана на падставе наступных крыніц: AGAD, AR, dz. VII, nr 391, 393, 559, 561–562.

43. AGAD, AR, dz. VII, nr 391, s. 1–4. Рэестр тыднёвых выплат корпусу артылерыі. 14.03.1784.

44. AGAD, AR, dz. V, nr 12181. А. Папіні да К.С. Радзівіла. Нясвіж, 30.05.1779.

45. Гл.: AGAD, AR, dz. VII, nr 345, 352, 466.

46. AGAD, AR, dz. V, nr 16877. К. дэ Віле да К.С. Радзівіла, Нясвіж, 26.04.1789; AGAD, AR, dz. VII, nr 263, s. 92. К. дэ Віле да К.С. Радзівіла, Нясвіж, 25.02.1790.

47. Soplica T. Wojna polsko-rosyjska 1792 r. T. 2: Kampanja litewska. Poznań, 1922. S. 187–192.

48. Ibid. S. 192.

49. Кречетников М. Дневные записки о движении и действиях войск русских в Великом княжестве Литовском и Польше в 1792 году. М., 1863. С. 63.

# ЛЁС НЯСВІЖСКІХ ГАРМАТ У XIX–XX СТСТ.

Пасля захопу Нясвіжскага замка ў 1792 г. расійскія войскі больш яго не пакідалі. У выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. рэзідэнцыя Радзівілаў на некаторы час стала памежнай крэпасцю Расійскай імперыі. У 1794 г., калі разгарэлася паўстанне за аднаўленне Рэчы Паспалітай на чале з Тадэвушам Касцюшкам, расіяне выкарысталі Нясвіж у якасці апорнай базы ў барацьбе з паўстанцамі. У той час там знаходзілася 26 гармат з мясцовага арсенала. Гэта азначае, што расійскае ваеннае камандаванне, у адрозненне ад 1770-х гг., разглядала Нясвіжскі замак ужо як сваю фартэцыю. У дадатак да наяўнай артылерыі ў 1794 г. расіяне прывезлі сюды яшчэ 10 палявых гармат. Вядома таксама, што ў гэты час дзве нясвіжскія гарматы знаходзіліся ў Слуцку[1].

З 1805 г. у ваколіцах Нясвіжа быў адкрыты артылерыйскі вучэбны лагер[2]. На плане горада пачатку XIX ст. бачна, што артылерыя была размешчана адразу за прадмесцем Міхалішкі паабапал дарогі на Альбу. Побач меўся парахавы склад, а далей на захад, каля Альбянскага звярынца — артылерыйскае стрэльбішча. Запасны артылерыйскі магазін і яшчэ адзін парахавы склад размяшчаліся ля касцёла Св. Міхала, які знаходзіўся з паўднёвага ўсходу ад горада ля дарогі на Слуцк. На паўночны захад ад замка мелася земляная батарэя, якая, напэўна, таксама выкарыстоўвалася для артылерыйскіх практыкаванняў. Пасля вайны 1812 г. у Нясвіжы было вырашана размясціць артыле-

рыйскі полк[3]. Вядома, што артылерыйская брыгада стаяла тут і ў 1867 г.[4] У рашэнні дыслацыраваць у Нясвіжы артылерыю расійскае камандаванне, відавочна, зыходзіла з уласнага бачання ваенна-стратэгічнай сітуацыі на заходняй мяжы імперыі. Напэўна, будзе марным шукаць тут нейкія сувязі з корпусам артылерыі Пане Каханку. Аднак, нягледзячы на заняпад фартэцыі і яе артылерыі, з волі расійскіх уладаў артылерыйская справа атрымала ў Нясвіжы далейшае развіццё.

Цёмнай старонкай у гісторыі Нясвіжа і яго гармат застаюцца падзеі 1812 г. Тагачасны ўладальнік замка Дамінік Радзівіл (1876–1813 гг.) у вайне Францыі з Расіяй выступіў на баку Напалеона, а пасля паразы апошняга быў вымушаны адступіць разам з французамі, пакінуўшы Нясвіжскі замак з усімі скарбамі на рабаванне расійскаму войску. Праўда, перад гэтым, як і ў папярэднія часы, гарматы разам з іншымі каштоўнасцямі маглі быць схаваны. На жаль, ніякіх канкрэтных звестак на гэты конт мы не маем. Не ведалі аб гэтым і сучаснікі тых падзей. Таму нечаканасцю стала знаходка ў адным з падзямелляў замка ў 1819 г. закапаных гармат. Усяго з зямлі было выцягнута 32 гарматы, сярод які пераважалі 1-фунтовыя[5]. Цяжка сказаць, калі гэтыя гарматы былі прыхаваны — гэта магло адбыцца і ў 1792 г., і ў 1812 г.

Паводле інвентару 1834 г., дадаткова верыфікаванага ў 1841 г., у Нясвіжы знаходзіліся 42 гарматы. Большасць з іх, верагодна, былі знойдзены ў 1819 г. Фактычна гэта былі ствалы гармат, якія ляжалі без лафетаў і пакорліва чакалі свайго далейшага лёсу. Да 1834 г. яны былі падзелены на дзве групы: 21 знаходзілася ў Нясвіжскім замку, і яшчэ 21 ляжала ля касцёла Св. Міхала, дзе размяшчаўся запасны артылерыйскі магазін. Туды гарматы былі перавезены як уласнасць “манаршага скарбу”, а да 1841 г. яны ўжо былі вывезены і, найверагодней, адразу пушчаны на пераплаўку[6]. Іншымі словамі, у першай палове XIX ст. на нясвіжскія гарматы глядзелі альбо як на сыравіну, альбо як на артэфакты старажытнасці. Аб тым, што ўжо на пачатку XIX ст. яны выклікалі цікавасць як гісторыка-культурныя каштоўнасці, сведчыць той факт, што 10 гармат у 1830–1840-я гг. былі выкладзены на дзядзінцы і дэманстраваліся ўсім цікаўным. Менавіта гэта ўратавала іх ад адпраўкі ў плавільныя печы.

Перш чым перайсці да расповеду пра далейшы лёс тых гармат, якія пакінулі ў замку, хацелася б спыніцца на двух важных момантах. Па-першае, нам невядома, якім чынам перажылі падзеі 1792 і 1812 гг. знакамітыя мольцфельтаўскія фальканеты, якія, відавочна, былі сярод гармат, згаданых у інвентары 1834 г. Трэба меркаваць, што ў 1812 г. іх таксама схавалі, бо наўрад ці расійскія войскі, якія дашчэнту абрабавалі замак Дамініка Радзівіла, пакінулі б такія каштоўныя прадметы ў Нясвіжы. Неўзабаве пасля за-

канчэння вайны гарматы маглі выцягнуць са сховішча.

Аднак тады паўстае інтрыгуючае пытанне: а ці ўсе гарматы, схаваныя ў 1792 і 1812 гг., былі знойдзены? Прыкладам, са слоў Д. Дзядзеркі, у 1792 г. у замку былі закапаны тры цяжкія гарматы вагамерам 18 і 24 фунты. Аднак у крыніцах няма звестак, ці былі яны знойдзены. Хочацца спадзявацца, што далейшыя пошукі ў архівах альбо ў нясвіжскай зямлі дадуць магчымасць разабрацца з гэтым заблытаным і надзвычай цікавым пытаннем.




*11.1. Гармата Жыгімонта І. Мал. Г.У. Гумінскага, 1867 г.*

Другі момант, на які варта звярнуць увагу, датычыцца крытэрыяў, па якіх гарматы адбіраліся для захоўвання. Вядома, што 19 гармат, знойдзеных у 1819 г., былі адліты ў 1731–1754 гг., але ніводная з іх не была пакінута ў замку. Гэта паказвае, што гарматы XVIII ст. не ўспрымаліся як каштоўнасць і іх са спакойным сумленнем адпраўлялі на пераплаўку. Таму да сённяшняга часу зусім не захавалася гармат, адлітых Міхалам Казімірам, Геранімам Фларыянам ці Каралем Станіславам Радзівілам. Прынамсі, пакуль што мне не ўдалося знайсці ніводнай.

Гарматы, пакінутыя ў замку на пачатку XIX ст. у якасці гістарычных каштоўнасцей, спакойна перажылі ўсё XIX ст. Ніводная з іх не пакінула замак ажно да пачатку Першай сусветнай вайны. Аб гэтым сведчаць апісанні замка і яго маёмасці, якія складаліся ў XIX — пачатку XX ст. Польскі даследчык Ежы Петрус, які апрацаваў інвентар гармат 1857 г., здолеў дакладна атрыбутаваць і звязаць 15 з іх з гарматамі, якія сёння захоўваюцца ў музеях Польшчы, Расіі і Украіны[7]. Такім чынам, большая частка "мемарыяльнага" артылерыйскага парка Нясвіжскага замка XIX — пачатку XX ст. ператрывала і ваенныя катаклізмы навейшага часу.

Тым часам слава аб нясвіжскіх гарматах пачала пашырацца па краі. Адным з першых, хто напісаў пра іх для шырокай публікі, быў Уладзіслаў Сыракомля. У сваёй кнізе "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах", выдадзенай у 1853 г., ён змясціў апісанне гармат, якія пабачыў на ўласныя вочы ў адным са скляпоў замка. Паэт з сумам адзначыў: "Вельмі шкада, што не ўдалося аздобіць кнігу малюнкамі гэтых цікавых гармат, якія смела можна аднесці да выдатных мастацкіх кампазіцый. Варта, каб яны дачакаліся, калі іх намалююць, пакуль не знішчыць іх вільгаць, пакуль хто не скіне на іх цяжар, сціраючы надпісы і барэльефы"[8]. Заклік У. Сыракомлі быў у хуткім часе пачуты. Вядома, што гарматы замалёўваў знакаміты ўраджэнец краю мастак Напалеон Орда, які пасля вяр-




*11.2. Праект разбудовы ганка паўднёвага корпуса, 1874 г. LVIA, f. 1280, a. 2, nr 300.*

тання на радзіму ў 1856 г. ахвяраваў доўгія гады жыцця на падарожжы і замалёўкі знакамітых мясцін колішніх Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай[9].

Неўзабаве на нясвіжскія гарматы звярнула ўвагу і расійская ўлада, якая, як правіла, абыякава ставілася да гістарычных каштоўнасцей "польскага" паходжання. У лютым 1867 г. камандзіру аблегчанай артылерыйскай брыгады, якая стацыянавала ў Нясвіжы, падпалкоўніку Заблоцкаму з Віленскага Акружнога Артылерыйскага Упраўлення прыйшоў ліст з наступным зместам: "В управлении имеются сведения, что в Несвижском замке князей Радзивиллов хранятся 18 бронзовых пушек, которых наружная отделка замечательна по чеканной работе. Имея в виду, что орудия эти как исторические памятники могут иметь значение в археологическом отношении, Виленское Окружное Артиллерийское Управление покорнейше просит Ваше Высокоблагородие теперь же сообщить, кому эти орудия принадлежат, в каком числе, где хранятся и в чьём ведении, а также подробно описать каждое орудие и если возможно, то приложить чертежи". Заблоцкі адразу перанакіраваў дадзеную просьбу ва ўпраўленне Нясвіжскай ардынацыі, але яму адмовілі, спаслаўшыся на неабходнасць атрымання згоды гаспадароў, якіх у Нясвіжы на той час не было. Пры гэтым было папраўлена, што ў Нясвіжскім замку захоўваецца 21 гармата[10]. Зварот увагі з боку грамадскасці і ўладаў падзейнічаў, і ў 1867 г. мастаком Геліядорам Уладзіславам Гумінскім былі выкананы першыя вядомыя на сёння замалёўкі гармат (мал. 11.1).




*11.3. Праект разбудовы ганка паўднёвага корпуса, др. пал. XIX ст. НГАБ, ф. 694, воп. 2, спр. 8721.*

Нельга сказаць, што самі гаспадары не ведалі аб каштоўнасці калекцыі гармат, сабранай у Нясвіжы. Жонка Антонія Вільгельма Радзівіла (1833–1904 гг.) Марыя Дарота дэ Кастэлян (1840–1915 гг.), якая ўпершыню наведала замак у 1865 г., згадвала: "Замкавая капліца была майстэрняй цесляроў. Яны працавалі сярод разбітых алтароў і *слынных* (курсіў мой. — *М.В.*) гармат, занадта цяжкіх, каб іх мог хто-небудзь прыўлашчыць"[11]. У далейшым, верагодна, з ініцыятывы маладой гаспадыні, якая прыклала шмат намаганняў для аднаўлення былой велічы замка, паўстала першая ідэя экспанавання гармат. Захаваліся два праекты разбудовы ганка паўднёвага корпуса палаца, у якіх у розных варыянтах абыгрывалася тэма ўключэння 10–12 ствалоў гармат у архітэктурную кампазіцыю пабудовы (мал. 11.2–11.3). На маю думку, пошук найбольш эфектнага спосабу экспанавання ствалоў гармат быў адной з галоўных задач, пастаўленых перад архітэктарам. Адзін з гэтых праектаў дакладна датаваны 1874 г. З невядомых прычын, аднак, ніводзін з варыянтаў не быў рэалізаваны.

У лютым 1886 г. Нясвіжскі замак прымаў нямецкага кронпрынца Вільгельма (1859–1941 гг.), які па запрашэнні Антонія Вільгельма спецыяльна прыехаў у Нясвіж для ўдзелу ў паляванні



*11.4. Кронпрынц Вільгельм на паляванні на мядзведзя ў ваколіцах Нясвіжа, 1886 г.*

на мядзведзяў (мал. 11.4). У сваіх успамінах госць пакінуў аб'ёмістую і цікавую згадку пра гарматы, якія яму прадэманстравалі: "У памяшканні на зямлі ляжаў шэраг бронзавых ствалоў гармат з часу Яна Сабескага. Іх фігуры былі найлепшымі з тых, што мне даводзілася калі-небудзь бачыць. Большасць былі адліты ў форме карынфскіх ці іанічных калон, якім не бракавала нават капітэляў, іншыя мелі форму ствалоў дрэваў, якім абсеклі галіны. Я сказаў князю, што гэтыя ствалы маюць не толькі вялікую каштоўнасць як вырабы з бронзы, але дэманструюць высокі ўзровень ліцейнага мастацтва, і ў такой колькасці наўрад ці прадстаўлены ў якім-небудзь музеі артылерыі, і гэта выглядае недарэчна, што яны схаваны ад вачэй у склепе. Калі князь мне заўважыў, што не ведае, што зрабіць з гэтымі ствaламі, я прапанаваў паставіць іх вертыкальна вылетам угару як слупы для даху альтанкі, якую можна размясціць на вялікім, пазбаўленым аздаблення дзядзінцы замка. Пазней князь пры выпадку распавядаў мне, што ён выканаў гэтую прапанову, а дзядзінец ад гэтага істотна выйграў"[12].

Калі верыць кронпрынцу, вынікае, што Антонія Вільгельма насамрэч мала цікавілі нясвіжскія гарматы. Ён мог і не ведаць аб праекце разбудовы ганка паўднёвага корпуса палаца з выкарыстаннем ствалоў гармат. Сама гэтая ідэя, такім чынам, належала выключна яго клапатлівай жонцы. Тут варта адзначыць, што практыка вертыкальнага экспанавання ствалоў гармат, г.зн. у выглядзе калон, была шырока распаўсюджанай з'явай. На жаль, невядома, ці ідэя, прапанаваная кронпрынцам, сапраўды была рэалізавана. Цяжка ўявіць, каб Антоній Вільгельм мог падманваць чалавека, які з 1888 г. пад імем Вільгельма II заняў трон Германскай імперыі. Магчыма, гаспадар Нясвіжскага замка прыслухаўся да парады толькі часткова і зрабіў гарматы даступнымі для наведвальнікаў замка, выклаўшы іх каля ганка паўднёвага корпуса (мал. 11.5).

Цікавасць да нясвіжскай калекцыі гармат на мяжы XIX–XX стст. пераходзіць у прафесійнае поле. Імі пачынаюць займацца гісторыкі мастацтва і ўзбраення. У 1900 г. А.В. Радзівіл запрасіў у Нясвіж дырэктара гістарычнага музея ў Дрэздэне Макса фон Эрэнталя. Той прыехаў з адным з лепшых спецыялістаў свайго музея і асабіста кіраваў чысткай зброі, а таксама даваў парады наконт яе далейшай рэстаўрацыі[13]. Была зроблена першая спроба



11.5. *Гарматы побач з ганкам паўднёвага корпуса, кан. XIX — пач. XX ст.*

навуковай апрацоўкі нясвіжскай калекцыі ўзбраення. Неўзабаве М. фон Эрэнталь падрыхтаваў артыкул, прысвечаны гарматам Г. Мольцфельта[14]. У ім былі змешчаны іх першыя вядомыя фотаздымкі аўтарства Багдана Пульяноўскага.

Адначасова з працай М. фон Эрэнталя гарматамі з Нясвіжскага замка зацікавіліся і польскія гісторыкі. На аснове апісанняў, зробленых Аляксандрам Ельскім і Эмерыкам Чапскім, а таксама заўваг Б. Пуляноўскага быў падрыхтаваны шэраг допісаў у часопіс “Sprawozdania komisyi do badania historyi sztuki w Polsce”, які выдаваўся ў Кракаве[15]. Неўзабаве, у 1904 г., Маціяс Берсан выдаў невялікую кнігу, прысвечаную калекцыі зброі Радзівілаў, дзе значная ўвага была нададзена менавіта гарматам[16]. На пачатку XX ст. была выяўлена і апісана нясвіжская “Мелюзіна”, якая з XVII ст. захоўвалася ў Стакгольме[17]. Такі чынам, дзякуючы высокім мастацкім якасцям нясвіжскія гарматы і найперш творы Г. Мольфцельта былі ўведзены ў навуковы зварот і сталі вядомы шырокай грамадскасці.



11.6. *Малюнак гарматы “Цэрбер”, выкананы ў Варшаве, 1920-я гг.*

Пераломным момантам у гісторыі нясвіжскай калекцыі гармат стала Першая сусветная вайна. Магутнае нямецкае наступленне ў 1915 г. вымусіла расійскую армію адыходзіць на ўсход, што суправаджалася шырокай эвакуцыяй каштоўнасцей. Да ліку прадметаў, што падлягалі абвязковаму вывазу ў Расію, адносіліся вырабы з бронзы, якая з’яўлялася важнай сыравінай для ваеннай вытворчасці. Раней ужо згадвалася пра сумны лёс мірскага звона “Караль”, які на вачах жыхароў мястэчка быў разбіты на кавалкі і вывезены ў Расію. Гэтак жа ў 1915 г. з Нясвіжскага замка былі забраны і ўсе гарматы. Аднак ім больш пашчасціла — яны перажылі вайну і не пайшлі на пераплаўку. Вядома, што 4 гарматы былі адпраўлены з чыгуначнай станцыі Замір’е 7 верасня, а 3 кастрычніка яны прыбылі ў Маскву, дзе, верагодна, і праляжалі ўсю вайну[18].

Магчымасць вяртання гармат назад у Нясвіж паявілася толькі пасля заканчэння польска-савецкай вайны 1919–1920 гг. Паводле мірнай дамовы, заключанай 18 сакавіка 1921 г. у Рызе, савецкая Расія абавязвалася перадаць Польшчы ўсе каштоўнасці, якія захоўваліся ў расійскіх музеях і мелі “польскае” паходжанне ў шырокім сэнсе гэтага слова. Вяртанню падлягалі і ўсе скарбы, так ці





*11.7–11.8. Гарматы "Хімера" і "Вінаград" на дзядзінцы Нясвіжскага замка, 1920–1930-я гг.*

*11.9–11.11. Нясвіжскія гарматы "Хімера", "Цэрбер" і "Вінаград" ля будынку Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Менску. Фота Б. Томаса, 1942 г.*

інакш звязаныя з былой Рэччу Паспалітай, пераемнікам якой лічыла сябе адроджаная Польская дзяржава. Сам Нясвіж апынуўся ў межах новай Польшчы. Яго ўладальнікі, якія прынялі польскае грамадзянства, мелі законныя падставы патрабаваць вяртання сваёй уласнасці. У выніку ў 1922 г. Польшчы былі перададзены 24 гарматы, якія належалі Радзівілам. Цяжка сказаць, ці былі вернуты ўсе ствалы, вывезеныя ў 1915 г., аднак добра відаць, што падчас працы ў Расіі польскія спецыялісты здолелі выявіць яшчэ шэраг радзівілаўскіх гармат. З-за неспакойнай міжнароднай абстаноўкі і вялікай верагоднасці аднаўлення вайны з СССР артэфакты вырашылі адразу не перадаваць у памежны Нясвіж, а змясціць на дзядзінцы каралеўскага замка ў Варшаве. Там іх, у прыватнасці, мог аглядаць Міхал Брэнштэйн, які ў рамках выдадзенай ім у 1924 г. кнігі, прысвечанай развіццю ліцейнай справы на землях ВКЛ, зрабіў якаснае даследаванне дзейнасці Г. Мольцфельта ў Нясвіжы[19]. У гэты ж час былі выкананы дакладныя абмеры і чарцяжы гармат (мал. 11.6)[20].









4. Juni

752/43.

An
Chef der Heeresmuseen
Berlin W 35,
Blumeshof 17.

Aus der Waffensammlung Radziwill – Nieswiez in Minsk sind im Zeughaus folgende Stücke eingegangen:

1.) 16 Geschützrohre,
2.) 1 Geschützrohr mit Lafette (Holz),
3.) 1 Kiste mit historischen Bildern.

Die Rohre sind besonders schön und zum Teil im Zeughaus bereits zur Aufstellung gelangt.

*11.12. Акт прыёмкі нясвіжскіх гармат на захаванне ў Берлінскі цэйхгаўз, 1943 г. Deutsches Historisches Museum, Archiv, Rep. 7/605.*

Калі дакладна гарматы былі перавезены ў Нясвіж, невядома. Тагачасны нясвіжскі ардынат Альбрэхт Радзівіл (1885–1935 гг.) па ўмовах вяртання каштоўнасцей з Расіі павінен быў выплаціць дзяржаўнаму скарбу 15% ад іх кошту, які паводле ацэнкі спецыяльнай камісіі складаў 225 190 залатых рублёў. Крыху пазней А. Радзівілу была зроблена зніжка і яго абавязалі выплаціць 7,5%, або 16 889 залатых рублёў[21]. Аднак і гэтая сума была завялікай для ўладальніка Нясвіжскага замка, таму замест грошай ён перадаў дзяржаве чатыры гарматы: дзве з гербамі Любамірскіх 1645–1646 гг. і дзве з гербамі Львова сярэдзіны XVI ст. Дзве першыя трапілі ў музей Каралеўскага замка на Вавелі ў Кракаве, а дзве астатнія — у Гістарычны музей Львова[22]. Іншыя 20 гармат былі адпраўлены ў Нясвіжскі замак[23]. Значная частка іх адразу была выстаўлена на замкавым дзядзінцы. Для “Хімеры” зрабілі двухсценны лафет на колах, а іншыя мольцфельтаўскія гарматы паставілі на даволі простыя драўляныя станіны (мал. 11.7–11.8). Яшчэ дзве вялікія гарматы былі пакладзены перад цэнтральным уваходам у палац.

У Нясвіжы гарматы прабылі нядоўга. У выніку чарговага ваеннага катаклізму яны назаўжды пакінулі замак. У верасні 1939 г. разам з іншымі заходнебеларускімі землямі Нясвіж быў далучаны да савецкай Беларусі. Радзівілы былі вымушаны пакінуць сваю рэзідэнцыю, а новыя гаспадары пачалі дзяліць іх скарбы. У 1940 г. было вырашана перадаць усе гарматы Дзяржаўнаму гістарычнаму музею ў Менску. На тых жа нясвіжскіх лафетах яны былі выстаўлены каля музея і забяспечаны шыльдай прыкладна наступнага зместу: “З гэтых гармат феадалы стралялі па прыгнечаных сялянах”.

У такім стане пабачыў і сфатаграфаваў нясвіжскія гарматы выдатны гісторык узбраення Бруна Томас, які ў 1942 г. наведаў акупаваную немцамі беларускую сталіцу (мал. 11.9–11.11). Ён адзначаў, што нямец-



*11.13. Унутраныя памяшканні разбуранага Берлінскага цэйхгаўза, др. пал. 1940-х гг.*

*11.14. Пашкоджанні ствала “Хімеры”, атрыманыя падчас бамбардавання Берлінскага цэйхгаўза.*



кія ваенныя ўлады ўжо два разы збіраліся адправіць іх на пераплаўку. Адзінай магчымасцю ўратаваць зброю, па словах Б. Томаса, быў яе вываз у Нямеччыну. Цікава, што нямецкае цывільнае кіраўніцтва выступіла супраць гэтай ідэі. Генеральны камісарыят “Беларусь” жадаў пакінуць гарматы ў Менску ў якасці сведчання нямецкага культурнага ўплыву на ўсходзе[24]. Тым не менш яны былі вывезены з Беларусі і ў чэрвені 1943 г. перададзены берлінскаму цэйхгаўзу, у якім знаходзіўся музей узбраення. У акце прыёмкі значылася, што з Менска былі прывезены 17 гармат, адна з якіх была на лафеце. У прыпісцы адзначалася: “Ствалы гармат вельмі прыгожыя і ўжо часткова змешчаны ў экспазіцыі” (мал. 11.12)[25]. Такім чынам, не ўсе нясвіжскія гарматы даехалі да Берліна, але дакладна невядома, калі некаторыя з іх былі згублены — ці па дарозе ў Германію, ці яшчэ пры іх перадачы з Нясвіжа ў Менск.

*11.15–11.16. Нясвіжскія гарматы перад Берлінскім цэйхгаўзам, 1945–1948 гг.*







*11.17. Гармата “Гідра” перад Музеем Польскага войска, 1950-я гг.*

У нямецкай сталіцы нясвіжскія гарматы праляжалі зусім нядоўга, і вельмі хутка іх чакалі новыя выпрабаванні. Падчас адной з апошніх бамбардзіровак Берліна музей узбраення спазнаў значныя разбурэнні, а многія яго экспанаты, у тым ліку і нясвіжскія гарматы, былі пашкоджаны (мал. 11.13–11.14). Менавіта тады была моцна пабіта казённая частка “Хімеры”, на якой размяшчаўся надпіс з імем знакамітага людвісара.

Пасля ўзяцця Берліна савецкімі войскамі і ўсталявання новай улады нясвіжскія гарматы не засталіся па-за ўвагай савецкіх спецыялістаў, якіх прыслалі для пошуку каштоўнасцей, вывезеных з тэрыторыі СССР. Гарматы былі выцягнуты з развалаў і адпраўлены ў артылерыйскі музей Ленінграда (мал. 11.15–11.16). Варта адзначыць, што нясвіжскай калекцыі зноў пашанцавала, бо многія іншыя гарматы берлінскага цэйхгаўза пайшлі на пераплаўку.

Аднак і ў Ленінградзе гарматы доўга не затрымаліся. У 1948 г. савецкі ўрад перадаў большасць з іх Польшчы. У паўночнай сталіцы Расіі пакінулі толькі дзве, прытым выбралі тыя, якія былі найменш пашкоджаны падчас вайны. Усе астатнія гарматы былі перададзены Музею Польскага войска (мал. 11.17). Пошук новага прытулку не быў лёгкім. Аздабленне некаторых гармат значна пацярпела падчас перавозкі ў Ленінград, а затым у Варшаву. У прыватнасці, “Цырцэя” згубіла абодвух вытанчаных дэльфінаў.

Такім чынам, на цяперашні час гарматы з Нясвіжскага замка раскіданы па музеях Польшчы, Расіі, Украіны і Швецыі. Знакамітыя мольцфельтаўскія гарматы можна пабачыць у Музеі Польскага войска ў Варшаве (“Гідра”, “Цырцэя”, “Сава”, “Хімера”, “Папугай”), Ваенна-гістарычным музеі артылерыі ў Санкт-Пецярбургу (“Вінаград”, “Цэрбер”) і Музеі Арміі ў Стакгольме (“Мелюзіна”). Зусім нядаўна арыгінальная жалезная гармата з’явілася і ў самім замку Радзівілаў у Нясвіжы. Яе знайшлі ў 2007 г. падчас правядзення рэстаўрацыйных работ у замкавым рове. Цяпер яна — у пастаяннай экспазіцыі мясцовага музея. А не так даўно для яго былі выраблены копіі мольцфельтаўскіх “Вінаграда” і “Цэрбера”.

1. Анищенко Е. Восстание и война 1794 года в литовской провинции: (по документам архивов Москвы и Минска). Минск, 2001. С. 40, 109–110.
2. Веремейчик А. «Нужно иметь в особом внимании город Несвиж, яко место укрепленное» // Военно-исторический журнал. 2007. № 11. С. 44.

3. Там жа. С. 46.
4. НГАБ, ф. 694, воп. 3, спр. 2698, арк. 238–239. Ліст падпалкоўніка Заблоцкага ва ўпраўленне Нясвіжскай ардынацыі (копія). Нясвіж, 23.02.1767.
5. AGAD, AR, dz. XXVI, nr 943. Рэестр гармат, знойдзеных у зямлі.0 4.11.1819. Копія спіса: AGAD, AR, dz. XV, t. 19, pl. 1, s. 4–5.
6. НГАБ, ф. 694, воп. 3, спр. 2642. Інвентарнае апісанне рэчаў у Нясвіжскім замку. 01.02.1834 (заўвагі 27.06.1841).
7. Petrus J.T. Nieświeska kolekcja luf armatnich w świetle inwentarza z roku 1857. S. 115. Е. Петрус атрыбутаваў 16 гармат з інвентару 1857 г. Ён лічыў, што падчас Другой сусветнай вайны тры з іх загінула, у тым ліку “Цэрбер” і “Вінаград”, лёс якіх яму быў невядомы.
8. Syrokomla W. Wędrówki po moich niedyś okolicach. Wilno, 1853. S. 86.
9. Sprawozdania komisyi do badania historyi sztuki w Polsce. T. VII, z. I–II. 1902. S. CCIII.
10. НГАБ, ф. 694, воп. 3, спр. 2698, арк. 238-239. Ліст падпалкоўніка Заблоцкага ва ўпраўленне Нясвіжскай ардынацыі (копія). Нясвіж, 23.02.1767.
11. Tauroginski B. Z dziejów Nieświeża. Warszawa, 1937. S. 164.
12. Kaiser Wilhelm II. Aus meinem Leben 1859–1888. Berlin, 1927. S. 307.
13. Sprawozdania komisyi do badania historyi sztuki w Polsce. T. VII, z. I–II. 1902. S. CCIII–CCIV; Petrus J.T. Nieświeska kolekcja luf armatnich w świetle inwentarza z roku 1857. S. 113.
14. Ehrenthal M. Die fürstlische Radziwillische Rüstkammer zu Nieśwież // Zeitschrift für historische Waffenkunde. 1902. T. II, z. 6. S. 221–223.
15. Sprawozdania komisyi do badania historyi sztuki w Polsce. 1898. T. 6, z. 2–3, s. XLII; 1902. T. 7, z. 1–2, s. CXCVI–CCIII, CCXI–CCXV.
16. Bersohn M. Dawna zbrojownia książąt Radziwiłłów w Nieświeżu. Warszawa, 1904. S. 22.
17. Czołowski A. Działa polskie, znajdujący się w Muzeum Artylerii w Sztokholmie // Sprawozdania Komisyi do Badania Historii Sztuki w Polsce. 1903. T. 8. S. LX–LXI; Kuylenstierna O. Die schwedische Staatssammlung eroberter Bronzekanonen // Zeitschrift für historische Waffenkunde. 1915–1917. B. 7. S. 66–68.
18. AGAD, AR, dz. XI, nr 315, s. 54-56. Пратакол аб страце ці пашкоджанні груза. 05.08.1915.
19. Brensztajn M. Op. cit. S. 32.
20. Petrus J.T. Nieświeska kolekcja luf armatnich w świetle inwentarza z roku 1857. S. 113.
21. AGAD, AR, dz. XI, nr 315, s. 42–45. Перапіска прадстаўніка Нясвіжскай ардынацыі А. Іваноўскага з Дырэкцыяй дзяржаўных збораў у Варшаве. 1924.
22. Petrus J.T. Nieświeska kolekcja luf armatnich w świetle inwentarza z roku 1857. S. 114.
23. Tauroginski B. Op. cit. S. 214.
24. Thomas B. Des Fürsten Nikolaus Christoph Radziwiłł Geschützrohre aus Nieśwież // Svenska Vapenhistoriska Sällskapets Skrifter. 1959. B. 6. S.28.
25. Deutsches Historisches Museum, Archiv, Rep. 7/605.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Артылерыя Нясвіжскага замка — гэта ўнікальная з'ява ў беларускай гісторыі. Гарматы знаходзіліся ў нясвіжскім арсенале каля 350 гадоў: з канца XVI ст. ажно да 1940 г. Ніводная іншая фартэцыя на землях Вялікага княства Літоўскага так доўга не захоўвала свой артылерыйскі парк. Гэта было звязана з вялікім значэннем Нясвіжа для Радзівілаў. Нягледзячы на тое, што замак і яго артылерыя шматкроць цярпелі падчас ваенных канфліктаў у XVIII–XIX стст., Радзівілы мэтанакіравана аднаўлялі сваё родавае гняздо і клапаціліся пра яго артылерыю. Толькі з ад'ездам гаспадароў з Нясвіжа на пачатку Другой сусветнай вайны замак пакінула і яго артылерыя. Да нашага часу захавалася шмат гармат з калекцыі Нясвіжскага замка, але ўсе яны раскіданы па музейных фондах Польшчы, Расіі, Украіны і Швецыі. У музеі, што не так даўно адкрыўся ў адрэстаўраваным замку ў Нясвіжы, захоўваецца толькі адна жалезная гармата і ствалы гакаўніц, якія ў апошнія гады знайшлі ў замкавым рове.

Дзякуючы добрай захаванасці архіва Радзівілаў, нам шмат вядома пра артылерыйскі парк Нясвіжскага замка і многія яго гарматы, што не дайшлі да нашага часу. Дзясяткі інветароў замкавага арсенала, а таксама той факт, што амаль усе нясвіжскія гарматы мелі ўласныя назвы і асаблівы дэкор, даюць магчымасць прасачыць развіццё мясцовай артылерыі і вызначыць яе характэрныя рысы. Найважнейшую ролю ў фарміраванні нясвіжскага арсена-

ла адыграў Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, які збудаваў замак і запрасіў у Нясвіж людвісара Г. Мольцфельта. Створаны намаганнямі Сіроткі артылерыйскі парк не зазнаў істотных змен цягам усяго XVII ст. Каля 30 гармат, сярод якіх 4 былі цяжкімі, гарантавалі надзейную абарону ў выпадку аблогі. Фатальнай для Нясвіжскага замка і яго артылерыі стала Паўночная вайна. У 1706 г. шведы зруйнавалі фартэцыю, а яе гарматы былі альбо знішчаны, альбо вывезены.

У другой чвэрці — сярэдзіне XVIII ст. намаганнямі Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі рэзідэнцыя была адбудавана, а яе артылерыйскі парк значна ўзрос. Праўда, разбудова нясвіжскай артылерыі шмат у чым вынікала з імкнення да самарэпрэзентацыі гаспадара замка і яго жадання задаволіць свае славалюбныя амбіцыі. З гармат даваліся шматлікія салюты падчас урачыстасцей, прымяненне ж гэтай зброі ў баявых дзеяннях было мінімальным. Сітуацыя змянілася ў эпоху Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку, які напоўніцу выкарыстоўваў уласнае войска і артылерыю для рэалізацыі амбіцый на палітычнай арэне. Пры ім нясвіжская артылерыя перайшла на новы ўзровень арганізацыі праз стварэнне асобнага корпуса артылерыі і артылерыйскай акадэміі. Вымушаны змагацца з дасведчаным расійскім войскам, Пане Каханку не здолеў ажыццявіць свае далёкасяжныя планы, а Нясвіжскі замак двойчы здаваўся расіянам, якія ў 1771 г. знішчылі ўвесь яго арсенал. Тым не менш пасля вяртання ў Нясвіж магнат змог цалкам аднавіць артылерыйскі парк фартэцыі.

У XIX — першай палове XX ст. Нясвіжскі замак канчаткова згубіў сваё абарончае прызначэнне, а яго артылерыя набыла для Радзівілаў мемарыяльную каштоўнасць. Узрастанне значэння старых гармат як родавых рэліквій пачалося яшчэ ў другой палове XVIII ст. Менавіта таму самыя лепшыя з іх хавалі разам з іншымі скарбамі падчас небяспекі. На пачатку XIX ст. з больш чым 40 гармат расійскія ўлады пакінулі гаспадарам толькі 21, а астатнія адправілі на пераплаўку. Амаль усе гарматы, якія тады засталіся ў Нясвіжы, захаваліся да нашага часу. З канца XIX ст. калекцыя ўзбраення Нясвіжскага замка прыцягнула ўвагу навукоўцаў, а гарматы Г. Мольцфельта знайшлі прызнанне як выбітнае дасягненне ў еўрапейскім ліцейным мастацтве. На жаль, у выніку ваенных і палітычных катаклізмаў сярэдзіны XX ст. нясвіжскія гарматы назаўжды пакінулі свой дом.

Не можа не ўражваць, што на працягу XVIII–XX стст. гарматам Нясвіжскага замка шматкроць пагражала адпраўка на пераплаўку, але ім неверагодна шчасціла. Артылерыя, якая была гонарам Радзівілаў, і ў захопнікаў выклікала вялікую павагу. Атачаная німбам трафеяў, яна з'яўлялася для іх жаданым здабыткам, сімвалізуючы перамогу і сілу ўласнай зброі. Менавіта высокая ма-

стацкая і гістарычная каштоўнасць нясвіжскіх гармат дала магчымасць многім з іх перажыць ўсе выпрабаванні і захавацца на нашага часу. І сёння яны, змешчаныя ў экспазіцыях замежных музеяў, пераканаўча сведчаць аб велічы славутай рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы. Мінуўшчына нясвіжскай артылерыі з'яўляецца найцікавейшай старонкай гісторыі ваеннай справы на беларускіх землях у часы Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.



ТАБЛІЦА 1.
Вага кавалкаў ад нясвіжскіх гармат, расплаўленых у 1706 г. паводле ўзважванняў 1711 і 1717 гг. (у літоўскіх фунтах)

| № | 1711 г. | 1717 г. |
|---|---|---|
| 1 | 5996 (=2247 кг) | 6191 (=2320 кг) |
| 2 | 5491 (=2058 кг) | 6070 (=2275 кг) |
| 3 | 5431 (=2036 кг) | 5873 (=2201 кг) |
| 4 | 3837 (=1438 кг) | 3437 (=1288 кг) |
| 5 | 3078 (=1154 кг) | 2951 (=1106 кг) |

ТАБЛІЦА 2.
Забеспячэнне Нясвіжскага замка ручной агняпальнай зброяй, арганамі і ручнымі гранатамі ў XVII ст.

| Узбраенне | | 1626 г. | 1636 г. | 1656 г. | 1657 г. | 1658 г. | 1681 г. | 1693 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гакаўніцы | спраўныя | 105 | 86 | 217 | 185 | 184 | 183 | 124 |
| | няспраўныя | 3 | 3 | 25 | 30 | 15 | – | 56 |
| Пулгакі | спраўныя | 26 | 27 | 60 | 54 | 42 | 14 | 14 |
| | няспраўныя | – | 2 | – | – | – | – | – |
| Ручніцы | | 21 | 21 | – | – | – | – | – |
| Мушкеты | спраўныя | 31 | 33 | 33 | – | – | 138 | 60 |
| | няспраўныя | – | – | 149 | – | – | – | 36 |
| Штурмакі | | 23 | 23 | 24 | 24 | 23 | 26 | 26 |
| Старыя самапалы | спраўныя | – | – | – | 80 | 50 | – | – |
| | няспраўныя | – | – | – | 15 | 3 | – | – |
| Аркебузы | | – | – | – | 3 | 3 | – | – |
| Янычаркі | | 1 | 1 | – | – | – | – | – |
| Пісталеты | | – | – | 4 | – | – | – | – |
| Агулам стрэльбаў (з іх спраўныя) | | 210 (207) | 196 (191) | 512 (338) | 391 (346) | 320 (302) | 361 (361) | 316 (224) |
| Арганы | к–ць ствалоў | 4 | 15 | – | – | – | 36 | 11 |
| | к–ць вазкоў | 1 | – | – | 5 | 5 | 4 | 2 |
| Ручныя гранаты | | – | – | 140 | 110 | 108 | 252 | 251 |

ТАБЛІЦА 3.
Колькасць гарматных ядраў у арсенале Нясвіжскага замка ў 1656 г.

| **Вага (у фунтах)** | **Колькасць** |
|---|---|
| 24 | 325 |
| 18 | 393 |
| 12 | 248 |
| 2 ½ | 488 |
| 1 ½ | 1246 |
| 1 ¼ | 1715 |
| 1 | 1350 |
| ½ | 157 |
| **Агулам** | **5922** |

ТАБЛІЦА 4.
Колькасць гарматных ядраў у арсенале Нясвіжскага замка ў 1681 г.

| **Вага (у фунтах)** | **Колькасць** |
|---|---|
| 20 | 314 |
| < 20 | 595 |
| < 20, жалезныя | 300 |
| 4 | 171 |
| 2–3 | 1020 |
| ½–2 | 1564 |
| каменныя | 868 |
| **Агулам** | **4832** |

ТАБЛІЦА 5.
Колькасць гарматных ядраў у арсенале Нясвіжскага замка ў 1693 г.

| Вага (у фунтах) | Колькасць |
|---|---|
| 24 | 325 |
| 20 | 385 |
| 12 | 200 |
| 6 | 327 |
| 3 | 350 |
| 2 | 672 |
| 1 | 610 |
| ½ | 1665 |
| **Агулам** | **4534** |

ТАБЛІЦА 6.
Запасы пораху, якія захоўваліся ў парахоўні Нясвіжскага замка ў XVII ст.

| Дата | У барылах і бочках | У фунтах |
|---|---|---|
| 1626 г. | 27 барылаў | каля 3780 (=1420 кг) |
| 1636 г. | 22 барылы, 2 бочкі | каля 3360 (=1260 кг) |
| 1650 г. | 9 і ½ барылы, 1 і ¾ бочкі | каля 1510 (=570 кг) |
| 1657 г. | 31 барыла | каля 4340 (=1630 кг) |
| 1681 г. | 12 бочак, 400 фунтаў | 1963 (=736 кг) |
| 1693 г. | 25 і ¾ барылы | 3836 (=1438 кг) |

ТАБЛІЦА 7.
Забеспячэнне ўзбраеннем і амуніцыяй фартэцый М.К. Радзівіла ў 1753 г.

| **Фартэцыя** | **Гар-маты** | **Мар–ціры** | **Гакаў-ніцы** | **Бомбы** | **Ядры** | **Кар-цечы** | **Гра-наты** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Нясвіж | 30 | 7 | – | 3 | 533 | 204 | – |
| Алыка | 23 | – | – | – | 370 | – | – |
| Жоўква | 17 | 2 | 47 | 206 | 572 | 34 | – |
| Злочаў | 22 | 2 | 85 | – | 675 | – | 101 |
| **Агулам** | **92** | **11** | **132** | **209** | **2150** | **238** | **101** |

ТАБЛІЦА 8.
Забеспячэнне артылерыі Нясвіжскага замка снарадамі пры М.К. Радзівіле

<table>
<tr><th>Вага / вагамер</th><th>Матэ-рыял</th><th>1741 г.</th><th>1749 г.</th><th>1753 г.</th><th>1756 г.</th></tr>
<tr><td colspan="6">Ядры</td></tr>
<tr><td>8 фунтаў</td><td>жалеза</td><td>–</td><td>–</td><td>–</td><td>1</td></tr>
<tr><td>6 фунтаў</td><td>жалеза</td><td>–</td><td>–</td><td>–</td><td>3</td></tr>
<tr><td>3 фунты</td><td>жалеза</td><td>316</td><td>306</td><td>270</td><td>285</td></tr>
<tr><td>2 фунты</td><td>жалеза</td><td>–</td><td>–</td><td>–</td><td>84</td></tr>
<tr><td>2 фунты («фалькі»)</td><td>жалеза</td><td>196</td><td>179</td><td>179</td><td>174</td></tr>
<tr><td>¾ –1 фунтаў</td><td>жалеза</td><td>86</td><td>84</td><td>84</td><td>79</td></tr>
<tr><td>Агулам</td><td></td><td>598</td><td>569</td><td>533</td><td>626</td></tr>
<tr><td colspan="6">Карцечы</td></tr>
<tr><td>6 фунтаў</td><td>бляха</td><td>35</td><td>36</td><td rowspan="6">204</td><td>32</td></tr>
<tr><td>6 фунтаў</td><td>дрэва</td><td>85</td><td>60</td><td>60</td></tr>
<tr><td>3 фунтаў</td><td>бляха</td><td>15</td><td>18</td><td>21</td></tr>
<tr><td>3 фунты</td><td>дрэва</td><td>–</td><td>–</td><td>70</td></tr>
<tr><td>1 фунт</td><td>бляха</td><td>12</td><td>–</td><td>–</td></tr>
<tr><td>1 фунт</td><td>дрэва</td><td>116</td><td>120</td><td>124</td></tr>
<tr><td>Агулам</td><td></td><td>263</td><td>234</td><td>204</td><td>307</td></tr>
<tr><td colspan="6">Бомбы</td></tr>
<tr><td>15 фунтаў</td><td>жалеза</td><td>2</td><td>2</td><td>2</td><td rowspan="2">4</td></tr>
<tr><td>10 фунтаў</td><td>бляха</td><td>–</td><td>1</td><td>1</td></tr>
<tr><td>Агулам</td><td></td><td>2</td><td>3</td><td>3</td><td>4</td></tr>
<tr><td colspan="6">Гранаты</td></tr>
<tr><td>–</td><td>жалеза</td><td>6</td><td>6</td><td>–</td><td>6</td></tr>
</table>

ТАБЛІЦА 9.
Склад артылерыйскай каманды Нясвіжскага замка пры М.К. Радзівіле

| **Дата** | | **Кананіры** | **Афіцэры і падафіцэры** | **Гарнізон агулам** |
|---|---|---|---|---|
| **год** | **месяц** | | | |
| 1740 | V | 11 | – | – |
| 1742 | II | 8 | – | – |
| 1743 | III | 9 | – | 37 |
| 1744 | VIII | 8 | – | 37 |
| 1745 | II–III | 8 | – | 37 |
| 1746 | VIII | 5 | – | – |
| 1749 | XII | 8 | 1 штыкюнкер, 1 сяржант | 30 |
| 1753 | IV | – | 1 сяржант | – |
| 1755 | VII | 8 | – | – |
| | XI | – | 1 сяржант | – |
| 1758 | I | 8 | – | – |
| 1759 | XI | 7 | – | 28 |
| 1760 | IX | 8 | – | 19 |
| | XII | 19 | 1 харужы, 1 сяржант | – |
| 1761 | I | 19 | 1 паручнік, 1 харужы, 1 сяржант | – |
| | II | 11 | 1 паручнік, 1 сяржант | – |
| | III–VI | 11 | – | – |
| | VIII–XII | 11 | – | 41–42 |
| 1762 | I–IV | 11 | – | 41–42 |

ТАБЛІЦА 10.
Склад артылерыйскай каманды Нясвіжскага замка пры К.С. Радзівіле

| Дата | | Афіцэры і падафіцэры | Кананіры | Іншы персанал | Гарнізон агулам |
|---|---|---|---|---|---|
| год | месяц | | | | |
| 1763 | IV | 7 | 30 | 2 | – |
| | V | 2 | 27–29 | – | – |
| | XI | 1 | 18 | – | – |
| | XII | 1 | 18–20 | – | 139 |
| 1764 | II | 1 | 17 | – | 135 |
| | III | 1 | 15 | – | 167 |
| | IV | 1 | 19 | 1 | 169 |
| | XI | 1 | 17 | – | – |
| 1765 | III | 1 | 3 | – | 76 |
| 1767 | VI | – | – | – | 30 |
| | VII | – | 5–6 | – | 115–120 |
| | VIII | – | 18 | 8 | 256 |
| | IX | 1–2 | 18–23 | 14 | 301 |
| | X | 2–4 | 21–61 | 11 | 302 |
| | XI | 4–8 | 64–69 | 9 | 351 |
| | X | 3–5 | 67 | 8 | 458 |
| | XII | 4–5 | 67 | – | – |
| 1770 | II | 1 | 15 | 1–4 | – |
| | V | – | 15 | – | – |
| 1771 | VIII | 2 | 13 | 2 | – |
| | XII | 2 | 14 | 2 | – |
| 1776 | I | 3 | 12 | – | 151 |
| 1778 | V | 2 | 15 | – | – |
| 1782 | IV | – | 7–16 | 9 | – |

ТАБЛІЦА 11.
Зябеспячэнне амуніцыяй нясвіжскай артылерыі ў 1768 г.

| **Вагамер гармат (у фунтах)** | **Спраў-насць** | **Коль-касць** | **Патроны з ядрамі** | | **Патроны з карцеччу** | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **усяго** | **на гармату** | **усяго** | **на гармату** |
| 12 | спр. | 3 | 124 | 41 | 51 | 17 |
| 8 | спр. | 4 | 55 | 13 | 44 | 11 |
| 6 | спр. | 8 | 367 | 45 | 206 | 25 |
| 3 | спр. | 18 | 1310 | 72 | 661 | 36 |
| 1 | спр. | 15 | 43 | 2–3 | 128 | 8 |
| | няспр. | 1 | – | – | – | – |
| ½ | няспр. | 12 | – | – | – | – |
| Марціры | спр. | 2 | – | – | – | – |
| | няспр. | 7 | – | – | – | – |
| **Агулам (з іх спраўныя)** | | **70 (50)** | **1899** | **37** | **1090** | **21** |

ТАБЛІЦА 12.
Корпус артылерыі ў 1767–1768 гг.

| **Дата** | | **Афіцэры** | **Пад-афіцэры** | **Корпус кадэтаў** | **Кананіры** | **Іншыя** | **Агулам** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **год** | **месяц** | | | | | | |
| 25.XII.1767 (праект) | | – | 10 (48) | – | 170 (200) | 1 (6) | 181 (254) |
| 1768 | III | 7 | 30 | – | 200 | 43 | 280 |
| | IV | 6 | 31 | – | 200 | 41 | 278 |
| | V | 6 | 32 | 27 | 200 | 41 | 306 |
| | VI | 7 | 32 | 31 | 188–194 | 84–85 | 343–348 |
| | VII | 7 | 32–33 | 31 | 187–190 | 85–86 | 343–346 |
| | VIII | 7 | 33–35 | 30–32 | 188–191 | 86 | 345–351 |
| | X | 12 | 35 | 33 | 189 | 88 | 357 |

ТАБЛІЦА 13.
Корпус артылерыі ў 1783–1792 гг.

| Дата | | Афіцэры | Падафіцэры | Корпус кадэтаў | Кананіры | Хандлагеры | Іншыя | Корпус артылерыі агулам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| год | месяц | | | | | | | |
| 1783 | X | – | – | 71 | – | – | – | – |
| | XII | – | – | 72 | – | – | – | – |
| 1784 | I | – | – | 70 | – | – | – | – |
| | 1.III | – | – | 84 | – | – | – | – |
| | III | 1 | 3–4 | – | 116 | – | – | 120–121 |
| | IV | 1 | 4 | – | 116–118 | – | 6 | 127–129 |
| | V | 1 | 4 | – | 111 | – | 6 | 122 |
| | VII | 1 | 4 | – | 114 | – | 6 | 125 |
| | VIII | 3 | 7 | – | 121 | – | 6 | 137 |
| | IX | 3 | 6 | – | 122 | 47 | 4 | 182 |
| | X | 5 | 5 | – | 122 | 45 | 6 | 183 |
| | XI | 4 | 6 | – | 116 | 46 | 6 | 178 |
| 1785 | I | 6 | 7 | 49 | 56 | 46 | 6 | 170 |
| | III | 6 | 7 | 45 | 62 | 46 | 6 | 172 |
| | VI | 6 | 8 | 46 | 63 | 46 | 6 | 175 |
| | VII | 6 | 10 | 46 | 62 | 46 | 6 | 176 |
| | IX | 6 | 12 | 44 | 64 | 46 | 6 | 178 |
| | X | 6 | 12 | 44 | 66 | 47 | 6 | 181 |
| | XI | 6 | 11 | 44 | 62 | 46 | 6 | 175 |
| 1786 | IV | 6 | 17 | 43 | 117 | 50 | 6 | 239 |
| | VII | 6 | 16 | 41 | 112 | 50 | 6 | 231 |
| | IX | 6 | 15 | 42 | 109 | 50 | 6 | 228 |
| | X | 6 | 14 | 42 | 120 | 50 | 6 | 238 |
| 1787 | I | 6 | 13 | 44 | 120 | 50 | 6 | 239 |
| | IV | 6 | 15 | 42 | 117 | 50 | 6 | 236 |
| | V | 6 | 16 | 44 | 117 | 50 | 6 | 239 |
| | VI | 6 | 16 | 45 | 112 | 50 | 6 | 235 |
| | VII | 6 | 16 | 45 | 118 | 49 | 6 | 240 |
| | IX | 6 | 15 | 44 | 115 | 50 | 6 | 236 |
| | X | 6–9 | 14–16 | 43–44 | 111–121 | 50 | 6 | 232–244 |

| Дата | | Афі-цэры | Падафі-цэры | Корпус кадэтаў | Кана-ніры | Ханд-лагеры | Іншыя | Корпус артылерыі агулам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| год | месяц | | | | | | | |
| | XI | 9 | 12 | 44 | 117 | 50 | 6 | 238 |
| | XII | 9 | 19 | 45 | 121 | 50 | 6 | 250 |
| 1788 | II | 9 | 18 | 45 | 121 | 50 | 6 | 249 |
| | IV | 9 | 19 | 45 | 116–120 | 50 | 6 | 245–249 |
| | V | 9 | 19 | 45 | 116 | 50 | 6 | 245 |
| | VI | 9 | 18 | 43 | 109 | 50 | 6 | 235 |
| | VII | 9 | 18 | 43 | 106 | 50 | 6 | 232 |
| | VIII | 9 | 18 | 43 | 104 | 50 | 6 | 230 |
| | IX | 9 | 18 | 43–45 | 99–100 | 50 | 6 | 225–228 |
| 1790 | I | – | 12 | 32 | 33 | – | – | – |
| | II | – | 10–17 | 30–47 | 82–181 | – | 6 | – |
| | III | – | 9 | 29 | 63 | – | – | – |
| | IV | – | 9 | 29 | 59 | – | – | – |
| | V | – | 10 | 24 | 58 | – | – | – |
| | VI | – | 9 | 22 | 57 | – | – | – |
| | VII | – | 10 | 22 | 54 | – | – | – |
| | VIII | – | 10 | 21 | 57 | – | – | – |
| | IX | – | 10 | 21 | 52 | – | – | – |
| | X | – | 9 | 18 | 56 | – | – | – |
| | XI | – | 9 | 18–19 | 55–56 | – | – | – |
| | XII | – | 4–9 | 8–18 | 16–56 | – | – | – |
| 1791 | VII | 8 | 5 | 10 | 16 | 50 | 1 | 90 |
| | VIII | – | 6 | 10 | 15–16 | – | – | – |
| | IX | – | 5–6 | 10 | 15 | – | – | – |
| | X | 8 | 3–4 | 6–10 | 12–15 | – | – | – |
| | | | Геаметры (ад 16.X) | | | | | |
| | X | – | 9–10 | | 11–12 | – | – | – |
| | XI | – | 9 | | 11 | – | – | – |
| 1792 | III | – | 8–9 | | 12 | – | – | – |
| | IV | – | 9 | | 11–12 | – | – | – |

АВАНТРЭН — гл. перадок.

АМБРАЗУРА — байніца для гарматы ў брустверы ці сцяне.

АРГАН — тып хуткастрэльнай зброі распаўсюджаны ў Сярэднявеччы і ў ранні Новы час. Меў выгляд двух- ці чатырохколага лафета, на які ўскладвалася адразу некалькі ствалоў ад малых гармат, гакаўніц ці мушкетаў.

АРКЕБУЗА — тып даўгаствольных стрэльбаў калібрам каля 10 мм, якія мелі распаўсюджанне ў XVI–XVII стст.

АРЫЛОН — прамавугольны ці акруглы выступ у фланку бастыёна, які закрываў ад абстрэлу фланкавую батарэю.

БАЗІЛІСК — тып экстрадоўгіх цяжкіх гармат, якія стралялі жалезнымі ядрамі і мелі надзвычайную трапнасць і сілу прабіцця. Выраблялiся на пачатку XVI ст.

БАЙНІЦА — вузкая адтуліна ў сцяне ці брустверы для стральбы.

БАМБАРДА — тып познесярэднявечных цяжкіх гармат, якія стралялі каменнымі ядрамі і мелі калібр ад 12 да 80 см.

БАРЫЛА — невялікая бочка, у якой захоўвалі порах.

БАСТЫЁН — выступаючая частка вала абарончага збудавання паліганальнай формы.

БАСТЫЁННЫ ФРОНТ — участак абарончага ўмацавання, які складаўся са звернутых адзін да аднаго фасаў і фланкаў двух сумежных бастыёнаў і курціны паміж імі.

БОНДАР — рамеснік, які вырабляў бочкі.

БРУСТВЕР — земляны насып ці мураваная сценка, якая закрывала стральцоў ад абстрэлу.

ВАГАМЕР — спосаб вызначэння калібру гарматы праз вагу ядра да яе.

ВАЛАВАЯ ДАРОГА — верхняя частка вала закрытая бруствeрам, якая прызначалася для перамяшчэння жаўнераў і артылерыі.

ВІНАГРАД — чоп, ці выступ у задняй частцы гарматы, які часта меў выгляд вінаграда.

ВЫБРАНЦЫ — сяляне, якія за трыманне зямельных надзелаў неслі ваенную службу.

ВЫЦЕЧКА — патаемны выхад з умацавання.

ВЫШОР — прылада ў выглядзе дрэўка з прычэпленай у канцы аўчынай, якая прызначался для чысткі ўнутранага канала ў ствале гарматы.

ДОБАШ — барабаншчык.

ДОЎГАЕ ПОЛЕ — пярэдняя частка ствала гарматы паміж каўнерам з пераду і ўзмацняльнымі паясамі па сярэдзіне.

ДЫЛЯ — распілаванае на палову бервяно.

ДЭЛЬФІНЫ — спецыяльныя скобы пасярэдзіне ствала гарматы, якія часта мелі выгляд дэльфінаў. За іх прывязваліся вяроўкі для пад'ёму ствала.

ГАБІЁН — гл. кош.

ГАКАЎНІЦА — тып цяжкіх агняпальных стрэльбаў з гакам у пярэдняй частцы, якія мелі калібр каля 20 мм і выкарыстоўваліся ў XV–XVII стст.

ГАЎБІЦА — тып сярэднествольных гармат для навеснай стральбы.

ГВІХТ — прадмет дакладна акрэсленай масы, які служыў для ўзважвання рэчаў.

ГЛАСІС — ахоўны земляны насып перад ровам умацавання.

ГУФНІЦА — тып познесярэднявечных гармат, якія стралялі каменнымі ядрамі невялікага дыяметру і выкарыстоўваліся у палявых бітвах альбо пры абароне ўмацаванняў.

ІНСКРЫПЦЫІ — надпісы на ствале гарматы.

КАЗНА — задняя ўзмоцненая частка ствала гарматы.

КАНАНІР — гл. пушкар.

КАРОТКАЕ ПОЛЕ — задняя частка ствала гарматы паміж узмацняльнымі паясамі пасярэдзіне і казной.

КАРТАУНА — у шырокім значэнні, сярэднествольная гармат XVI–XVIII стст., якая страляла жалезнымі ядрамі; у вузкім значэнні, тып цяжкіх гармат вагамерам ад 35 да 50 фунтаў са ствалом даўжынёй ад 11 да 18 калібраў.

КАМОРА — задняя частка канала ў ствале гарматы, прызначаная для загрузкі пораха.

КАЎНЕР — узмацненне дула гарматы.

КВАТЭРА — гл. курціна.

КНОТ — ніткападобная плеценая стужка, якая выкарыстоўвалася для запальвання зарадаў у гарматах і стрэльбах.

КОНТРЭСКАРП — схіл рова фартэцыі са знешняга боку.

КОШ — плецены з галля каркас у выглядзе цыліндра, які запаўняўся зямлёю і ставіўся на пярэдні край вала для закрыцця жаўнераў ад абстрэлу.

КУЛЕЎРЫНА — у шырокім значэнні, даўгаствольная гармата XVI–XVIII стст., якая страляла жалезнымі ядрамі; у вузкім значэнні, тып цяжкіх гармат вагамерам ад 12 да 25 фунтаў са ствалом даўжынёй ад 27 да 40 калібраў.

КУРЦІНА — абарончы вал умацавання паміж двума бастыёнамі.

ЛАФЕТ — рухомы альбо нерухомы станок, на якім мацаваўся ствол гарматы.

ЛОКАЦЬ — мера даўжыні. У сярэдзіне XVIII ст. локаць складаў 0,6496 м.

ЛЮДВІСАР (ГІСЭР) — ліцэйшчык, альбо рамеснік, які спецыялізаваўся на ліцці з бронзы ці жалеза.

ЛЮДВІСАРНЯ (ГІСЭРНЯ) — ліцейная майстэрня.

МАГАЗІН — сховішча ваеннага рыштунку, амуніцыі ці харчовых запасаў.

МАРЦІРА — тып караткаствольных гармат для навеснай стральбы.

МАШТАЛЕР — слуга, які даглядаў за коньмі.

МУРАЛОМ — цяжкая гармата, прызначаная для разбурэння ўмацаванняў.

НІЖНІ ВАЛ — абарончая лінія перад галоўным валам, прыкрытая асобным бруствeрам.

ПАЛЬНІК — прылада ў выглядзе дрэўка з мацаваннем для кнота ў канцы, якая прызначалася для запальвання пораха ў запальнай адтуліне ствала гарматы.

ПАЎКАРТАУНА — тып сярэднествольных гармат вагамерам 24 фунты.

ПЕРАДОК — двухколы воз, за які чапляўся лафет з гарматай для яе далейшай транспарціроўкі.

ПРОЦВАГЕН — гл. перадок.

ПРЫКРЫТАЯ ДАРОГА —дарога, якая праходзіла паміж ровам і гласісам, служыла для размяшчэння стральцоў для вядзення агня паверх гласіса.

ПУЛЬВЕРКАР — воз прызначаны для перавозкі пораху.

ПУШКА — агульная назва камнекідальных бамбардаў у ВКЛ XIV–XV стст.

ПУШКАР — чалавек, які абслугоўваў гармату і страляў з яе.

ПІШЧАЛЬ — агульная назва гармат, якія стралялі металічнымі ядрамі, у ВКЛ XIV–XV стст.

РАВЕЛІН — дадатковае умацаванне ў форме трохкутніка перад галоўнымі ўмацаваннямі фартэцыі.

САЛЕТРАНІК — рамеснік, які вырабляў порах ці салетру.

СЕРПАНТЫНА — даўгаствольная гармата, з якой стралялі свінцовымі ці жалезнымі ядрамі.

СПІЖ — сплаў медзі з волавам, цынкам і свінцом, які залічваюць да бронзы. У XVI–XVII стст. спіж была асноўным матэрыялам для вырабу гармат і званоў.

СТЭЛЬМАХ — рамеснік, які вырабляў колы.

ТАРАСНІЦА — тып познесярэднявечных гармат, якія стралялі металічнымі ядрамі.

ФАЛЬКАНЕТ — тып лёгкіх даўгаствольных гармат вагамерам ад ½ да 3 фунтаў і ствалом даўжынёй 33–37 калібраў.

ФАЙФЕР — музыка.

ФАС БАСТЫЁНА — бок бастыёна, звернуты ў бок непрыяцеля.

ФАСЭТА (КЮВЕТ) — невялікі равок, які запаўняўся вадой, у сухім рове.

ФЛАНК БАСТЫЁНА — бок бастыёна перпендыкулярны да сумежнай курціны, адкуль вёўся абстрэл сумежнай курціны і суседняга бастыёна.

ФОГЛЕР — тып познесярэднявечных гармат, якія стралялі металічнымі ядрамі і мелі зменныя каромы-парахаўніцы, што мацаваліся ззаду.

ФОРТКА — невялікая брамка ў варотах для праходу пешых.

ФОСЕБРЭЯ — гл. ніжні вал.

ФУНТ — адзінка вымярэння вагі. У ВКЛ XVI–XVII стст. для вызначэння вагі гарматных ядраў карысталіся нюрнбергскім фунтам, які складаў 0,5099 г, у той час як вага іншых рэчываў вымяралася у літоўскіх фунтах. У сярэдзіне XVIII ст. літоўскі фунт складаў 0,3748 кг.

ФУРЫЕР — вазніца, пазней падафіцэр роты ці эскадрона іншаземнага набору, адказны за размяшчэнне і ўлік.

ХАНДЛАГЕР — памочнік пушкара.

ЦЭНТНЕР — мера вагі. У ВКЛ ужываўся цэнтнер, які складаўся са 120 літоўскіх фунтаў.

ЦЫНТРОТ — гл. пальнік.

ШЛАНГА — агульная назва даўгаствольных гармат у XVI ст.

ШПІЦ БАСТЫЁНА — знешні вугал бастыёна.

ШРОТ — невялікія свінцовыя кулі ці кавалкі сечанага жалеза

ШРОТАЎНІЦА — гармата для стральбы шротам з блізкай адлегласці для знішчэння жывой сілы ворага.

ШТАБА — каваны жалезны брусок-загатоўка, з якога кавалі бралі жалеза для працы.

ШТУРМАК — стрэльба з кароткім пашыраны наперадзе ствалом.

ШЫЛЬДВАХ — варта альбо месца размяшчэння варты.

ЭСКАРП — знешні схіл абарончага вала.

